# ЗМЕСТ Крыніца

Я

# Васіль ЦЯПІНСКІ



*...кнігу*
*у свет выпускаю*
*з патрэбы пільнай --*
*бо мудрасць сярод людзей*
*нібы знемаглася цяпер,*
*нібы згінула*
*ці заснула.*





## *Пра Мяне*

Лёс — усёмагутны
і ўсеўладны,
калі не перамагае яго
незвычайная мужнасць.

Н.МАКІЯВЕЛІ

*Чалавек сярэднявечча — загадка. Большасць нашых ведаў аб ім — адно ўяўленні. Неверагодна цяжка ўзнавіць тое, што завецца гістарычным тлом, але яшчэ цяжэй убачыць на ім рэальную асобу, пазбаўленую залішняга манументалізму, існуючую па-за межамі звыклых схемаў. Асабліва калі гэта такая асоба, як Васіль Цяпінскі. Сярод шматлікіх постацяў беларускага сярэднявечча яго, можа, найбольш таямнічая. Жыццё і дзейнасць Цяпінскага надзвычай скупа асветленыя ў апавядальных і актавых крыніцах. Дасюль невядомы ані пэўныя даты яго народзін і смерці, ані месца і год выдання друкаванага Евангелля, ані дакладнае месца жыхарства. Застаецца нявысветленым, бадай што, і найважнейшае — крыніца той адчайнай мужнасці, якая дазволіла яму ў сваёй дзейнасці пайсці насуперак свайму часу і свайму асяроддзю.*

*Полацкі шляхціц Васіль Цяпінскі (Амельяновіч) нарадзіўся ў сям'і дробных гаспадарскіх баяраў Мікалая Іванавіча і Матроны Мікалаевай недзе ў 30-я гады XVI ст. Родавы маёнтак сям'і меў назоў Цяпіна (суч. Чашніцкі р-н Віцебскай вобл.), адкуль, пэўна, і пайшло славутае прозвішча. Меў жонку Сафію з заняпалага княскага роду Жыжэмскіх, трох сыноў — Абрама,*

# З МАЁМАСЦІ ЎБОГАЙ СВАЁЙ СЛУГУЮ СВАЙМУ НАРОДУ

**Рады,**
**я пакажу**
**сёння ўсім веру сваю,**
**якою**
**жыву і жыўлюся,**
**прынамсі,**
**рускаму свайму люду.**
**Яна**
**слаўная даўнім векам,**
**і людзі,**
**што спадкаемнічаюць**
**ад продкаў**
**іхні здабытак жыццёвы,**
**надзею маю,**
**згодзяцца з тым,**
**што я тут выкладаю**
**і вызнаю.**
**Калі ж**
**я ў чым памыляюся**
**і ў заблуджэнне**
**уводжу сябе,**

# ЗАЦНАСЦЬ І СЛАВА ВАСІЛЯ ЦЯПІНСКАГА

**Васіль Цяпінскі — выдатны дзеяч рэфармацыйнага руху ў Беларусі другой паловы XVI стагоддзя. Ён быў тут актыўным правадніком ідэяў сацыніянства. Асветніцтва і гуманізм Цяпінскага, такім чынам, сілкаваліся перш за ўсё з агульнай рэфармацыйнай плашчызны і шмат у чым менавіта за кошт яе сама дэмакратычных, сама народнасна-патрыятычных ідэяў. З іх першасную ролю ва ўзвышэнні Цяпінскага —друкара, перакладчыка, беларускага пісьменніка — займела ідэя пастуліравання мовы кожнага народа свету як мовы размовы з Богам. Успомнім, што для праваслаўя ў Беларусі таго часу сакральнай была мова цар-**

*Табіяша і Канстанціна. Захаваліся звесткі пра ўдзел Цяпінскага ў ваенных паходах на Масковію пад харугвамі аршанскага старосты Філона Кміты і падканцлера Астафея Валовіча. Калі прыгадаць яшчэ бясконцыя маёмасныя судовыя спрэчкі з сваякамі-суседзямі ды ўбогі стан ягонай уласнай «маетности», дык паўстане тыповы вобраз тагачаснага дробнага шляхціца, прозвішча і жыццё якога не мела вялікага значэння ані ў дзяржаве, ані ў сваім павеце. Шляхціца без грунтоўнай адукацыі, без асаблівых грашовых сродкаў. Сярод нешматлікай спадчыны, што засталася дзецям у сям'і Цяпінскіх ад маці, у тэстаменце апроч іншага запісана: «ложка серебряная сыну моему Василию...»*

*Але, перадусім, Цяпінскі — чалавек ужо Новага часу, і ён напаўняе традыцыйнае жыццё шараговага шляхціца новым зместам. Ён прысвячае сябе справе асветніка, перакладчыка і выдаўцы Евангелля на старабеларускую мову, з адзінай мэтай «зъ зычливости ку моеи отчизне». Васіль Цяпінскі — цэласная натура, але не ў сярэднявечным сэнсе, калі цэласнасць азначала пэўную адпаведнасць асобы сацыяльнаму статусу, унутраную і вонкавую згоду з ім, а ў рэфарматарскім, калі цэласнасць мела на мэце асабістыя перакананні, супадзенне жыцця і думкі. Тое, што Цяпінскі ў сваёй дзейнасці высоўвае на першы план, сёння можна было б назваць нацыянальнай ідэяй. У рукапіснай «Прадмове» да свайго перакладу Цяпінскі называе сябе «русиномъ». Прыгадвае аб «давнихъ часах», каб нагадаць, які «то был зацный, славный, острый, довстипный народ». Абураецца непавазе, якой пачала карыстацца мова ягонага народа, бачыць адступніцтва ад яе сярод вярхоў тагачаснага грамадства, рэлігійную неразвітасць простага народа, абыякавасць афіцыйнага духавенства і як*

**хай яны паправяць.**

**Хоць, зрэшты,**
**ні чым другім,**
**апроч самога Евангелля,**
**я кіравацца не кіраваўся,**
**ну а яно**
**дадзена нам ад Бога**
**праз нашага Пана Ісуса Хрыста**
**і ягоных апосталаў**
**і ўяўляе**
**суму законаў Божых.**
**Дужа мне рупіла,**
**каб яно**
**было перакладзена**
**з мовы славянскай**
**на нашу мову**
**і выйшла з друку.**

**Маючы Пана Хрыста**
**у помач,**
**не бессэнсоўным і красамоўным**
**высновам,**
**не словам,**
**што лесцяць**
**і дагаджаюць слыху,**
**але, у зычлівасці да айчыны,**
**айчыннік просты,**
**праўдзіва і шчыра**
**з маёмасці ўбогай сваёй**
**слугую**
**свайму народу.**
**Бо тыя,**
**каму, уласна,**
**належала рупіцца —**
**ні ўладыкі,**
**ні мітрапаліты,**
**ні знаўцы-вучоныя, —**
**гэта зрабіць за ўвесь**

**коўна-славянская, для католікаў — лаціна. Ва ўмовах паслялюблінскага часу, калі на прыярытэтнасць у касцёле і царкве прэтэндавалі гэтыя традыцыйныя мовы, а розныя веравызнанні падтрымліваліся рознымі, вельмі часта магутнымі палітычнымі сіламі, вываёўваць права на канфесійнае ўпраўленне народнай мовы было задачай сапраўды няпростай. А якраз гэтаму вываёўванню і аддаў усе свае духоўныя сілы Васіль Цяпінскі, не сышоўшы з аднойчы абранага шляху, як гэта зрабіў яго паплечнік Сымон Будны. Васіль Цяпінскі, застаючыся да канца жыцця свайго паслядоўным у адстойванні сваіх перакананняў, цераз гэта і стаў выдатнай асобай не толькі рэфармацыйнага руху Беларусі XVI стагоддзя, але і ў гісторыі беларускай літаратуры.**

**Жыццёвы шлях Васіля Цяпінскага быў з нялёгкіх. І сведчыць пра гэта ўжо хоць бы тое, што сваю прадмову да «Евангелля» ён пры жыцці не надрукаваў. Чалавек цвёрдага характару, незалежнай паставы, шырокіх поглядаў, Цяпінскі ўжо ў сувязі з гэтым не мог мець лёгкай жыццёвай дарогі. А збяднеласць, хоць скоўвала дзейснасць Цяпінскага, аднак не яго няўрымслівасць.**

**Што ж датычыцца прадмовы Васіля Цяпінскага, то, так як яна ў свой час свету не ўбачыла, дзейсным літаратурным помнікам свайго часу не стала. Пагэтаму на яе сёння трэба глядзець перш за ўсё як на помнік грамадскай думкі свайго часу. Ды, аднак, не толькі як на помнік гэтай думкі, бо і ўласна**





**доўгі мінулы час**
**не схацелі.**

**Хай наш нажытак і невялікі,**
**каб выдрукоўваць кнігі,**
**я намагаўся**
**яшчэ ў нядаўніх гадах**
**прыкласці**
**дарогу для друку**
**і ўскласці**
**на плечы сабе**
**неабходны клопат —**
**хоць ён і цяжкі,**
**і надта стратны,**
**і асабліва, калі здабываеш**
**у розных,**
**не блізкіх прытым,**
**мясцінах**
**старыя кнігі.**

**Зроднены з абавязкам,**
**які зрабіўся**
**прычынай маіх вымогаў,**
**я сёння**
**рады не за сябе,**
**а за справу,**
**якую, урэшце,**
**падняў не хто-небудзь —**
**не ўлох,**
**не немец,**
**не пасвячэнец папоўскі, —**
**а с в о й чалавек.**

**Але з чаго б гэта**
**раптам людзі**
**сталі хваліць**
**свайго чалавека**
**і радавацца з ім разам,**
**што з іхняга асяродку**

*вынік гэтага — духоўнае жабрацтва сваёй радзімы. Вера, па словах Цяпінскага, «яко устала, яко загинула», і гэта ў краі, дзе раней мудрасць у слове Божым была ў народзе «право яко врожоная». Таму Цяпінскі пры перакладзе Евангелля імкнуўся ўзвысіць старабеларускую мову, вярнуць яе былую славу, зрабіць Святое Пісьмо агульнадаступным не толькі дзеля паляпшэння веры, але адначасова і для падняцця праз адукацыю нацыянальнай самасвядомасці сваіх суайчыннікаў.*

*Задуманая справа далася Цяпінскаму з немалымі цяжкасцямі. Ён не быў упэўнены ў беззаганнасці свайго перакладу і таму прасіў «побожного» чытача не прыпісваць ягоных абмылак «нашои злости, але люцкои кревкости а неумеетности». Яшчэ больш намаганняў давялося ўкласці Цяпінскаму, каб выдрукаваць Евангелле. Відавочна, ён мусіў пазычаць сродкі, ездзіць у далёкія мясціны, шукаючы кнігі «старые давные» і розныя друкарскія прылады. Дарэчы, шрыфты Евангелля Цяпінскага падобны да шрыфтоў Скарынаўскіх выданняў. Літары ў рамках перайшлі непасрэдна з Віленскай друкарні Скарыны ў друкарню Цяпінскага, дробны шрыфт з Нясвіжскай друкарні, некаторыя ўпрыгожванні — з Кракава. Дастаткова нязвыклым было і паралельнае друкаванне царкоўна-славянскага і беларускага тэкстаў. Даследчыкі датуюць пераклад Евангелляў паводле Мацвея і Марка прыблізна 70—80 гг. XVI ст.*

*Даўно прызнаныя належнасць Цяпінскага да сацыніянства, шчыльныя стасункі з Сымонам Будным, выказванні наконт удзелу хрысціяніна ў вайне, валодання нерухомай маёмасцю. Але, магчыма, ягонае сацыніянства перабольшана. Цяпінскі сапраўды меў рэфармацыйную свядо-*

**фактарам развіцця нацыянальнай літаратуры прадмова Васіля Цяпінскага стала, толькі што не ў XVI, а ў нашым, XX стагоддзі. І спрычыніліся да таго першым чынам навукоўцы-філолагі, а затым першыя гісторыкі беларускай літаратуры. З навукоўцаў найбольшыя ў тым заслугі маюць М.В.Доўнар-Запольскі і О. Лявіцкі, першы як аўтар артыкула «В.М.Цяпінскі, перакладчык Евангелля на беларускі дыялект»[1], другі — як аўтар даследавання «Пра Васіля Цяпінскага, які пераклаў Евангелле на простую мову»[2]. З гісторыкаў беларускай літаратуры ўгрунтаванню ў яе прозвішча Васіля Цяпінскага заслужыліся на пачатку стагоддзя Максім Гарэцкі, Я. Ф. Карскі, Н. А. Янчук, Вацлаў Ластоўскі, а ў 50—70 гадах — А. Ф. Коршунаў, Г. Я. Галенчанка. Менавіта толькі ў XX стагоддзі з публікацыяй цяпінскай прадмовы і сталася магчымым узняцце з забыцця яго прывабнай постаці.**

**З пачаткам XX стагоддзя стаў вядомым і партрэт Васіля Цяпінскага, знойдзены ў 1915 годзе ў мястэчку Крашын каля Баранавіч у бібліятэцы К.Святаполк-Завадскага слынным тадышнім бібліяфілам Рамуальдам Зямкевічам. Партрэт гэты —рэалістычны, і ён вельмі дасканала данёс у нашае стагоддзе і рысы твару і характэрную для таго часу вопратку беларускага шляхціца. Твар — даволі прыгожы; вочы — засяроджаны ў одумным позірку кудысьці ўдаль, углыб; бародка — пад прыспушчанымі вусамі — шыкоўна падстрыжаная, толькі што расчасаная — відаць, акуратна**

*масць, але на глебе старабеларускай праваслаўнай культуры. Ягонае сектанцтва, магчыма, прадвеснік спецыфічнай з'явы — праваслаўнай рэфармацыі ў Вялікім княстве.*

*Прыняўшы на сябе адказнасць у справе асветніцтва (бо не бачыў тых, хто мог бы гэта зрабіць лепш за яго), Цяпінскі апынуўся практычна адзін у коле ворагаў і нядобразычліўцаў. Напрыканцы сваёй палымянай прадмовы ён з роспачу піша, што пры жыцці чалавека «в дарехъ» (здольнага) «люди скромне и без образы зносить не могут». Цяпінскі не хавае таго, што ён меў шмат непрыемнасцяў ад розных асобаў (верагодна, і духавенства), калі задумаў пераклад. Замест таго, каб «з выкриканиемъ» хваліць і радавацца, што сярод іх з'явіўся русін, які за мэту бярэ чын на карысць Русі сваёй, шмат хто аказаўся зусім няўдзячным, а некаторыя, нават, замест дапамогі «або дяки и зазростью платити хотели». З другога боку, ён моцна адчуваў за спіной досвед сваіх «зацных» продкаў, на якіх заўжды спасылаўся і якімі ганарыўся.*

*Надрукаваўшы ў сваёй «убогой друкарни» «писане святого Матфея и святого Марка и початок Лоуки», Цяпінскі меркаваў, не чакаючы сканчэння ўсяго перакладу, выдаць у свет ужо надрукаваную ім частку. Ён пісаў, што чытачы пачуюць слова Божае «ест ли не зараз, вжды з своим часомь оузнають, имъ впередъ падаю». Але ці здзейсніў Цяпінскі сваю задуму — невядома.*

*Найбольш верагодна, што творчая дзейнасць Цяпінскага, нягледзячы на патрыятычны пафас, мела невялікі поспех. Гэта быў хутчэй фрагмент, а не заканамерная з'ява тагачаснага рэлігійна-культурнага жыцця. Ягоныя творы захаваліся дзякуючы таму, што былі ўключаны ў хуткім часе пасля іх выдання архідыяканам Яўстафіем у склад рукапіснага зборніка ў Супраслі, што быў на той час адным з галоўных сховішчаў на ўсходзе Еўропы.*

*Апошнія архіўныя знаходкі дазваляюць дадаць новы трагічны факт да жыццяпісу Васіля Цяпінскага. У 1599 ці 1600 г. ён быў забіты сваімі сваякамі (пляменнікамі) ужо ў досыць сталым узросце. Тыповая гвалтоўная смерць для традыцыйнага шляхецкага лёсу ў XVI ст., звесткі аб якіх часта-густа сустракаюцца на старонках судовых актавых кніг: «... ночным а злодейским обычаем», «на дороге звыклой а добровольной...»*

*Адзіны вядомы нам партрэт Цяпінскага быў знойдзены біблёграфам Рамуальдам Зямкевічам у 1915 г. у бібліятэцы кн. Канстанціна Святаполк-Завадскага ў Крашыне сярод падраных аркушаў Брэсцкай кальвінскай бібліі. Арыгінал дрэварыта быў датаваны 1576 г. Бібліятэка была знішчана ў гады І сусветнай вайны. Копія з партрэта згарэла разам з матэрыяламі Зямкевіча ў Варшаве ў 1944 г.*

*Адзіны экземпляр друкаванага Евангелля з рукапіснай «Прадмовай» захоўваецца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына ў С.-Пецярбурзе, у зборы Пагодзіна.*

**Вольга БАБКОВА**

узяўся русін,
якому
Русі сваёй закарцела
карысць прынесці?!
Як тое
зазвычай бывае,
не помаччу і падзякай,
а зайздрасцю і пагардай
і іншай няўдзячнасцю
не адзін раз
браліся мне
аддаваць адплату.
Можа, і крыўдна было б
мне за гэткі вынік,
можа, і прыкра было б
за такую ўвагу,
калі б я не ведаў,
што не адно толькі людзям,
але і Богу
працай сваёй слугую.
Дык з Божае ласкі,
для славы Божай,
дбаючы аб збавенні
людскім
і памкненне
сэрца свайго выяўляючы,
працу
сваю канчаю.

Мушу зазначыць,
што на старонках
кнігі сваёй,
хоць гэта
нам каштавала нямала,
мы адначасна
змясцілі
евангельскае пісьмо
тоесамае
на дзвюх мовах —
на мове славянскай,
а побач з ёю на рускай:
слова за словам,
радок за радком, —
як прынята ўсюды
і як чытаецца ў цэрквах.

Надрукавалі
ва ўбогай друкарні сваёй
мы пісанні
святога Мацвея,
святога Марка,
а гэтаксама
пачатак Лукі
не адно для таго,
каб людзі,
чытаючы іх,
паляпшаліся ў веры
(бо мы нічога
новага тут не прыводзім,
а толькі нагадваем тое,
што ўжо вядома),
але для таго,
каб лепш
чытанае разумелі
і навучацца маглі
вучонай мове славянскай.

А для таго,
каб і самі людзі,
і іхнія дзеткі
свой розум святлілі,
вастрылі
і ў веры практыкавалі,
ім падаю тым часам
найперш катэхізіс,
які, спадзяюся,
яны прызнаюць,
пераканаўшыся самі ў гэтым,

дагледжаная, што сведчыць аб пэўных звычках, уласцівых звычайна людзям ваеннай службы. Камзол з прыўзнятым вакол шыі каўняром і буферызаванымі плечукамі таксама пацвярджае прыналежнасць вопраткі сярэднявечнаму беларускаму ваяру, як і магерка, уквечаная чатырма раскрыленымі нібы матылямі.

Невядомы партрэтыст перш за ўсё засяродзіў сваю ўвагу мастака на пільным позірку вачэй Васіля Цяпінскага. Бародка ў яе замерласці, як і знерухамелыя вусы, як і сама абмежавальна-прастакутная паўперсевасць партрэта, будучы пазбаўленыя дынамізму, гэтым менавіта і дынамізуюць вочы, пагляд, тое, што за імі стоена, за імі змяшчаецца. З-пад вусаў праглядвае ніжняя — быццам бы паўрасчыненых вуснаў — таўставатая губа: так і здаецца, што вусны вось-вось азвуцца, мовяць, загавораць, раскрыюць тое ўнутранае жыццё, што было пад гэтым элеганцкім камзолам гэтага нават фацэтна-вытанчанага шляхціца, раскрыюць тое, што ён бачыць, асэнсоўвае, разумее, гатовы вось-вось мовіць аб тым усім і кожнаму.

Пад партрэтам — подпіс славянскімі пісьмёнамі: «Васи́ль Тя́пинский» са спецыяльна вылучанымі знакамі націску на другім складзе ў імені і на першым — у прозвішчы. І ў тым ёсць свая сэнсоўнасць. Падкрэсліваючы, што націск у імені «Васіль» трэба рабіць на другім складзе, Цяпінскі відавочна звяртаў увагу гэтым на сваю тутэйшасць, не хочучы, каб яго імя чыталася згодна з законамі польскай граматыкі (Ва́сыль, Ба́зыль). Вылучэннем жа ў сваім трохскладовым прозвішчы першага складу як націскнога Цяпінскі падкрэсліваў павязанасць свайго прозвішча менавіта з тым, як гучала спаконвеку назва ягонага родавага гнязда — Цяпіна. І ў гэтым зноў жа была выява патрыятызму Цяпінскага, скрупулёзнасць у пашане спадчыннага, айчыннага. Зроблены буквіцамі ў скарынаўскай традыцыі, по̀дпіс увогуле сапраўды і сціпла і грацыёзна завяршаў згарманізаванасць партрэтнага адбітку друкара і пісьменніка.

Але ёсць у нас і іншыя штрыхі, якія больш канкрэтна раскрываюць і тое, што ў партрэце Васіля Цяпінскага стоена маўчыць, і тое, што было самім Цяпінскім моўлена ў яго стаўшай славутай сёння прадмове да «Евангелля».

ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА

Бацьку Васіля Цяпінскага звалі Мікалаем Амельяновічам. Ён быў патомным палачанінам, і ў полацкіх «росписях дворов», якія захаваліся да нашага часу, радавае прозвішча Амельяновічаў стаяла ў адной шарэнзе з прозвішчамі як Скарынаў, так і Пятроўскіх[3] — продкаў таксама славутага палачаніна, але ўжо XVII стагоддзя — Сімяона Полацкага.

Маці Васіля Цяпінскага звалася Матронай, і яна была баярыняй гаспадарскай полацкай; жонка — Соф'яй, і яна была дачкою Данілы Жыжэмскага. Вядома і імя брата Васіля Цяпінскага — Мацея, сынамі якога (Іванам і Васілём) на пачатку 1600 года ці ў 1599 годзе Васіль Цяпінскі быў забіты[4]. Па бацьку Васіль Цяпінскі

за рэч
карысную дужа.
Вось жа,
абудзіць у іх наш Пан
словам сваім ахвоту
да ведаў спраўнейшых,
узмоцніць імкненне
у іх да навукі паўнейшай
і да развагі паважнай
ды мудрасці кемнай
схіліць.

Я гэта кажу
нездарма
і кнігу
у свет выпускаю
з патрэбы пільнай —
бо мудрасць сярод людзей
нібы знемаглася цяпер,
нібы згінула
ці заснула.
Дзіўлюся на скрушныя справы,
што чыняцца ў свеце,—
і словы самохаць
бягуць да вуснаў.

Хто з людцаў,
што вераць у Бога
і маюць розум,
застаўся б, як рэч,
абыякавым і безуважным,
гледзячы на такую
Божую кару?!
Хто з дабрадзеяў,
што зычаць дабра айчыне,
не мусіў бы плакаць,
бачачы многіх князёў вялікіх,
многіх паноў знакамітых,
многіх мужчынаў дужых,
гожых жанчынаў
ды беспавінных дзетак,
што ўпалі
у яму няпамяці;
бачачы здатны,
яшчэ нядаўна вучоны,
яшчэ нядаўна свядомы
народ свой рускі,
што адцураецца ад сваёй,
слаўнай спрадвеку,
мовы?!.

Хіба не кара Божая —
лад,
што ўсталяваўся
у нас у доме?!
А тое, што мудрасць,
якая свяцілася ў Божым слове
і ясным для разумення
рабіла слова
і, як прыроджаная, была
уласціва людзям,
ад іх адступілася,
а прыйшла
на месца яе галеча,—
хіба не кара?!
І тое,
што ўжо некаторыя
грэбуюць граматаю сваёю
і пагарджаюць пісьмом сваім,
быццам яно
Божага слова не варта,—
не кара?!.

А, зрэшты,
што можа паганейшым быць,
што — горшым,
калі і тыя,
што называюцца вучыцялямі,

ўнаследаваў ўладанні не толькі на Лепельшчыне, але і ў Віленскім, Мінскім, Лідскім паветах, з жончыным пасагам займеў маёнтак Свіраны на Віленшчыне і памесце Вярсоцкае ў Лідскім павеце. Але асноўным родавым гняздом сыну Мікалая і Матроны Амельяновічаў стала Цяпіна: у Цяпіне ён друкарскі варштат абсталяваў і прымаў удзельнікаў аднаго з прадстаўнічых збораў дзеячаў беларускай рэфармацыі, з-за гэтага ж маёнтка потым і судовую цяжбу мелі сыны самаго Васіля Цяпінскага — Табіяш і Абрам. Але — галоўнае— і само другое прозвішча, якое займеў у жыцці сын Мікалая Амельяновіча Васіль, пайшло ад гэтай да таго зусім нічым не славутай мясціны,— пайшло, не толькі што зацямняючы сыну прозвішча бацькі, а ўвогуле, як гэта сталася ў XX стагоддзі, яго рэдуцыруючы.

Праўда, у стагоддзі Васіля Цяпінскага — у XVI стагоддзі — справа мелася інакш. Верхам гонару тады лічылася мець падвойнае прозвішча. І асабліва ўзрасталі прэтэнзіі шляхты на гучныя, доўгія, падвойныя прозвішчы тады, калі меншалі яе дастаткі. Ды — адразу падкрэслім — будучы друкар, хоць і быў са збяднелай шляхты, тым не менш сваёй зубожаласці не саромеўся, а — наадварот, — як убачым тое з прадмовы да «Евангелля», Цяпінскі проста дэманстратыўна ўвесь час падкрэсліваў свой незаможны матэрыяльны стан. І тое было, канешне, глыбока ўсвядомленым, ішло ад светлага розуму, ад разумення таго, што чаго





што наймяноўваюцца святарамі,
меней за ўсё
у ім разумеюць,
меней за ўсё ў ім умеюць,
і самі
не практыкуюцца ў ім,
і школы,
дзе навучалі б яму,
не маюць.
Затое да польскага
ці да якога
другога пісьма,
з прычыны
гэткай галечы,
усцяж
наварочваюцца бессаромна
і наварочваюць,
ад свайго адварочваючы,
дзяцей.

Узяў бы
я з радасцю сёння
з вялікага мноства
славянаў знаных
сабе ў абаронцы
і справе ў сведкі,
не клічучы многіх,
калі б жывыя былі цяпер,
адно — Іаана
альбо Грыгора,
якія не толькі ў сваёй,
але ў розных мовах,
дзякуючы вялікай
сваёй навуцы
і адмысловаму красамоўству,
займелі найменне
залатавустаў.

Былі б яны —
мусілі б, сапраўды,
уразіцца і сумецца,
бачачы,
як змарнела
і занятала ў патомках
праўда,
якая была красой
і аздобай народа,
і як патомкі,
забыўшы,
што трэба
дбаць аб ратунку,
губяць,
што прашчуры шанавалі,
і з гэтым
губяцца самі.
А паглядзелі б,
які гэта быў сумленны,
годны,
разумны,
здатны,
спрыязнены з мудрасцю,
кемлівы ў справе,
знаходлівы ў словах
народ.
За гэта
колькі разоў хвалілі
яго вучоныя людзі
другіх народаў,
колькі разоў пераймалі
яго здабыткі
і мусілі самі
ў яго вучыцца.

Хоць бы пісьмо сваё —
а менавіта
чатыры евангеллі
і «Апостала»,
што былі

вартае. Рахунак ішоў па шкале духоўнасці, а не пукатасці торбы з харчам ці сака з дукатамі. Саромецца не было чаго, і ніякай засцянковай ганарлівасці пры тым не было ў Васіля Цяпінскага, бо ён наперад ведаў: кнігадрукаванне робіць яму, чалавеку «ўбогае маетнасці», гонар найбольшы, бо найбагатшыя казною аказаліся найубожшыя духам, святлом душы, цнатлівасцю, клопатам пра найпершае ў жыцці —клопатам пра айчыну, асвету, адукацыю, клопатам пра памяць продкаў, іх геraічныя подзвігі, іх пісьмовыя, культурныя здабыткі, іх, нарэшце, «прыродную», спадчынную мову.

Упершыню ў дакументах XVI стагоддзя імя Васіля Цяпінскага ўспамінаецца ў 1563 годзе — у тэстаменце яго маці. Другое ўпамінанне 1564 года — у матэрыялах судовага працэсу Цяпінскіх з Юрыем Осцікавічам, які зрабіў наезд на іхні маёнтак Свіраны. Трэцяе ўпамінанне — 1567 года — аб удзеле Васіля Цяпінскага ў Лівонскай вайне — у вопісе коннай роты, зробленым у Чашніках 1 чэрвеня таго ж года аршанскім старастам Філонам Кмітам-Чарнабыльскім. Вось тэкст гэтага вопісу, знойдзенага гісторыкам Георгіем Галенчанкам: «...товарыш (малодшы афіцэр,— тлумачэнне ў цытаце тут і далей Г.Галенчанкі) Василей Тяпин на шесть кони, на нем панцер, шишак, шабля, гаркабуз (пішчаль), кончер (палаш), секирка, под ним дрыкгант (жарабец) сив»[5].

Патрабаванне цераз суд адшкадавання стратаў у Юрыя Осціка можа быць нам сёння

выкладзены па-славянску,
можа,
за тысячу год дагэтуль
і ўсюды
чытаюцца ў цэрквах:
у сербскіх,
маскоўскіх,
валоскіх,
балгарскіх,
харвацкіх
ды некаторых іншых,—
у нас шанавалі.

Папраўдзе,
хто ўмеў бы
і хто захацеў бы
той выклад
сваімі вачамі
убачыць,
сваімі
вуснамі прачытаць,
напэўна,
пазнаў бы адразу,
што пішацца там,
і, пазнаўшы,
прыняў як сваё
і свайго трымаўся б.

Той муж,
славянін наш мілы,
як іншыя — на лаціну,
ператлумачыў на мову
славянскую нашу
з грэцкай
апостальскія пісьмёны,
ды так удала,
быццам сваё напісаў,
і няпроста
таму, хто чытае,
даўмецца,
якою —
славянскай ці грэцкаю мовай —
ён лепей валодаў.

Калі б нават больш ніякіх
знакаў не засталося
з тых чынных,
мінулых даўно, часін,
усё роўна
і гэтага дастаткова,
каб утрываліцца ў думцы,
што люд славянскі,
з якім так спрыроднена
нашая Русь,
і кемлівы быў,
і дасціпны:
і простасць
яго не спрашчала,
і сціпласць
яго не звужала,
і шчырасць
не паніжала.
І пісьмы свае, прынамсі,
тады папярэднікі нашы
чытаць умелі,
і словы напісаныя вымаўлялі
з розумам,
а не бяздумна.

Пра кемлівасць іхнюю
і дасціпнасць
пішацца ў згадках помных —
і я гэта паўтараю:
як мелі яны
з папам рымскім
і з іншымі,
вартымі ўшаны,
дастойнікамі,

ўскосным сведчаннем, што ўжо з маладых гадоў Васіль Цяпінскі, калі і не быў заложным праўдашукальнікам, то ў кожным разе актыўнай, праўдалюбнай асобай быў. Ды гэты ж факт адначасова не выключае і іншага меркавання, бо заездамі шляхта-суседзі зазвычай і абменьваліся, і калі мене аднаго якога-небудзь шляхцюка сплюндроўвалася, рабавалася якім-небудзь з яго суседзяў, то гэта не значыла, што на сёння сплюндраваны сусед не мог учора ці назаўтра быць у падобных гасцях у каго-небудзь са сваіх блізкіх ці далёкіх суседзяў. Іншымі словамі кажучы, будучы сынам свайго шляхоцкага асяроддзя з яго норавамі і звычкамі, Васіль Цяпінскі і сам мог быць не толькі ў ахвярах наезду, але і ў героях наезду. Ды апошнія знаходкі ў архівах якраз і паказалі, што Васіль Цяпінскі скончыў жыццё іх ахвярай. Менавіта аб тым сведчыць скарга, паданая ў 1600 годзе ў гродскі суд месца менскага сынамі Васіля Цяпінскага Канстанцінам і Абрамам на Івана і Васіля Мацвеевічаў Цяпінскіх «о забите через них отцу нашого пана Василя Цяпинского...» Матывы гэтага злачынства невядомыя, але даследчыкі мяркуюць, што «карані яго, магчыма, бяруць пачатак яшчэ з даўняй варожасці Васіля Цяпінскага і брата Мацея»[6]. Тым больш тое верагодна, бо адпаведныя пацверджанні маюцца ў «Літоўскай метрыцы»[7]. Постаць Васіля Цяпінскага, такім чынам, узнікае перад намі ў зацятай сканфліктаванасці не толькі з іншадумцамі, але і з родзічамі. Ды думаецца, тое ўсё было, ад-





сіноды;
як многіх людзей у веру
выводзілі з блуду;
як зналіся добра
у розных мовах;
як пільнаваліся і вялі
святое жыццё;
і як няўстойлівых ды ілжывых
у веры братоў
між сабой ушчувалі,
лячылі,
скіроўвалі
ды выпраўлялі;
як аддзялілі
вучыцялёў сваіх
шлюбам святым,
паводле навукі
Божага слова,
ад іншых
і гэтым аздобленых,
свецячых,
нібы свечкі,
шлюбнаю чысцінёю,
для ўзору
народам і верам усім
паказалі,—
пра ўсё гэта,
што цяпер
напісалася мною,
можна было б, насамсправе,
пісаць шырока,
можна было б, насамсправе,
казаць багата.

Але адзін красамоўны,
выяўны,
значны
і ведамы ўсім —
без таго каб пісаць пра яго,
ды варты,
каб пра яго заўсёды
памятаць,—
прыклад
я ўсё ж яшчэ прывяду.
Дзякуючы праведнасці,
нашы вучыцялі
былі ўзнагароджаны
нашым Панам
дарункам шчодрым,
якім
былі ўзнагароджаны гэтаксама
хіба што сам папа рымскі
ды найвыдатнейшыя асобы
часоў тых —
у Лівіі,
Антыохіі,
Пяціполлі,
Сіцыліі,
Месапатаміі,
Палесціне,
Фініцыі
і ў некаторых
іншых мясцінах.

І ў недалёкіх ад нас
народаў:
немцаў,
улохаў,
палякаў,
французаў,
ангельцаў,
гішпанцаў,—
а карацей,
ва ўсіх хрысціянскіх
народаў на свеце
можна той прыклад
угледзець вокам.
Самі сабе і ўсім

нак жа, не ад якойсьці ліхасці характару, не ад сацыяльных заганаў і прымхаў старабеларускай шляхты, але менавіта ад той ідэальнай, у чымсьці напэўна і донкіхотаўскай паставы Васіля Цяпінскага — рыцара, праўдалюбцы, патрыёта, высакароднага чалавека. Аб ім як такім вельмі спрыяльна сведчаць факты яго ўзаемаадносінаў з Філонам Кмітам-Чарнабыльскім і Сымонам Будным.

Асабліва красамоўны і шматзначны для нас сёння запіс аршанскага старасты пра Васіля Цяпінскага. Філон Кміта-Чарнабыльскі быў на дзесяць гадоў старэй за Цяпінскага, але, відаць, немалая прыязнасць паміж імі ўзнікла, калі праз немалыя гады, бо аж на пачатку 70-х гадоў, Кміта-Чарнабыльскі запрасіў свайго былога падначаленага — воя Цяпіна на сваю радзіму Украіну, дзе на Валыні і ля Кіева былі ў яго родавыя маёнткі. І тут правамерна ўзнікае пытанне, што, як не агульныя літаратурныя ўпадабанні, магло зблізіць аршанскага старасту і падначаленага яму падафіцэра? Зближаныя ваенным лёсам, яны аказаліся ў выніку поруч і ў гісторыі старабеларускай літаратуры, уваходзячы сёння ў адзін і той жа яе раздзел.

Воінскі вопыт быў, аднак, не адзіным, што папярэднічаў друкарскай і літаратурнай дзейнасці Васіля Цяпінскага. Бо быў у яго, напэўна, значны вопыт цывільнай працы на службе ў падканцлера літоўскага Астафея Валовіча. Апошні быў адным з пратэктараў рэфармацыйнага руху ў Беларусі, і якраз прарэфармісцкія сімпатыі і перако-

яны паказалі,
што ў слове Божым
відушчымі сталі
і, як апосталы запавядалі,
мовай сваёю
выклалі,
захавалі
і перадалі
наступнікам Божае слова.
На іх
іншыя ўсе народы
гледзячы як на прыклад,
прыйшлі
яшчэ ў тыя вякі
да намеру —
хоць гэта
і выклікала ўзбурэнне,
і прывяло
да пярэчання немалога —
Божае слова
з лацінскіх ды іншых пісьмаў
на мову сваю перакласці,
каб людзі самі
яго чытаць пачалі.

Дай Бог,
каб і вы,
паны-дабрадзеі,
стаўшы
нібыта бацькамі справы,
што засталася
ад папярэднікаў знакамітых,
і нібы ўзышоўшы
на іхняе месца,
рабілі так, як яны,—
бо не ў тым жа грэх,
што ахвоча
людзям, чым можаш,
дапамагаеш,
а ў тым,
што, маючы можнасць
дапамагчы,
дапамагчы не хочаш.
Вось жа,
з любасці да айчыны
убачце
і паспалітага чалавека:
ён выглядам просты,
маёмасцю — ўбогі,
ды вочы яго заўсёды
скіроўваюцца да вас
і ўслед,
куды вы ідзяце,
неадступна
за вамі ідуць.

З усіх
вартасцяў чалавечых
няма багавернаму чалавеку
нічога важней
за літасць.
Той, хто яе
выяўляе ў сабе,
выяўляе з гэтым
глыбокае падабенства
з Божаю дабрынёю
і здабывае
сабе ад Бога
вечную ўзнагароду.
Дык у часіну,
калі галеча
начуе ў айчыне вашай,
а вашы браты,
не зазнаўшы
навукі праўдзівай,
нямеюць
у прастаце сярмяжнай,
скіруйце і вы,

нанні Васіля Цяпінскага і запэўнілі яму службовы пасад у магната Валовіча.

Такім чынам, перш чым узяцца за пяро перакладчыка і ручку друкарскага прэса, Васіль Цяпінскі натрымаўся ў руках і паводдзяў асядланага каня, і рукаяці мяча, і канцылярскага сціла. Ды і самай шырокай была адысея дарог гэтага чалавека — спадкаемцы, хай і невялічных, але даволі многіх маёнтачкаў на Полаччыне, Лідчыне, Віленшчыне, Ашмяншчыне, Міншчыне, як і воінская адысея яго ж на Аршаншчыне, пілігрымная — на Валыні і Кіеўшчыне. Вочы бачылі, вушы чулі,— набіралася розуму, азарту, гатоўнасці. І не ў рыцарскім панцыры, што прыкрываў ягоныя грудзі ў паходах Лівонскай вайны, не ўва ўквечаным стракатым пяром шышаку, насунутым на лоб аж да брывоў, у выніку прыйшоў ён сваім партрэтам у будучае, як і не за канцылярскай канторкай, быццам бы Скарына, седзячы. Ды калі ён ставіўся перакладчыкам «Евангелля», калі пісаў да яго сваю прадмову, калі пазіраваў дзеля свайго партрэта, у ім сапраўды было ўжо засяроджана столькі жыццёвага, лёсавага, перадуманага, перабалелага ўжо, а яшчэ больш неперабалелага, што задуманае ім ужо не магло не здзейсніцца, перахваляваўшае і хваляваўшае яго ўжо не магло не легчы тым выдатным пафасным творам старабеларускай літаратуры, якім стала ягоная прадмова да «Евангелля».

Мы, аднак, яшчэ не гаварылі аб самым глыбокім успалымняючым першасным для





калі вас
яшчэ не пакінула
братняя міласць,
на свой заняпалы і збедаваны
народ
сваё вока.

Няхай,
чуючы вашы просьбы,
мітрапаліт,
уладыкі й вучыцялі,
што дужа
ад вашага слова залежаць,
гэтак сябе павядуць,
пакіруюцца гэтак,
каб не было між імі
ні подкупу,
ні падману,
каб спрытам і хабарам,
напярэймы
адно аднаму,
прыбытковых месцаў
і стольных пасадаў
не дамагаліся,
а руплівa
вучыліся Божаму слову
і іншых вучылі,
бо тою маёмасцю,
тымі маёнткамі,
што перайшлі
вам, спадкаемцам,
ад продкаў вашых,
вы надзяляеце, мусібыць,
не абы-каго,
а каго надзяляеце,
дык жа не для таго,
каб, займеўшы,
іх марнавалі
сабе на аздобы,
на ўборы
альбо на пацеху цела,
а — каб дасканаліліся
у навуцы
і падавалі
астатнім прыклад.

Гэта б
ды для навукі!..
Але не для гэтакай,
што цяпер,
на вечны свой сорам,
маюць,—
калі прачытаць,
і то ледзьве-ледзь,
на мове сваёй
два-тры словы
умеюць.
Не — каб жа школы
імкнуліся адчыняць
і навуку
Божага слова,
што безліч гадоў
заставалася занядбанай,
рупіліся данесці
сваім братам.

Усім вам,
а не аднаму каму-небудзь,
спадзеючыся
на вашу разумнасць,
богаадданую дбайнасць
ды клапатлівасць,
у пільнай патрэбе
айчыны вашай
я даручаю і пакідаю
справу айчыны
і ў Пана Бога прашу,
каб я

Цяпінскага — аб яго непасрэдных повязях з Рэфармацыяй, аб ягоным актыўным удзеле ў ёй. Самыя красамоўныя рэаліі дзеля раскрыцця гэтага маюцца ў Сымона Буднага — у двух яго трактатах: «Аб свецкай уладзе», «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры». У першым з іх Будны называе Цяпінскага «мілым братам», тут якраз згадваючы, што брацкі сацыніянскі збор 1574 года адбываўся ў гасподзе самога Васіля Цяпінскага. Другую сваю сустрэчу з Цяпінскім Будны датуе 1578 годам — часам з'езду сацыніянаў у Лоску. Будны ўспамінае выступленне Цяпінскага на апошнім зборы, аднатоўвае, што Цяпінскі кранаўся пытанняў прыватнай уласнасці на зямлю, вайны і ўжывання меча.

Сведчанні Сымона Буднага, такім чынам, даюць нам, папершае, уяву аб шырыні кругагляду і інтарэсаў Васіля Цяпінскага, якія не замыкаліся толькі ў коле ўзнятых ім у ягонай прадмове. Мелі б мы на сёння стэнаграму лоскай прамовы Васіля Цяпінскага, тады б рэальна і бачылі б, што гэта за мысліцельная глыба ў рэфармацыйным і літаратурным свеце свайго часу быў Васіль Цяпінскі! Тым не менш і не маючы ніякай яе стэнаграмы, мы ўпэўнена можам меркаваць пра Цяпінскага як блізкага па думках да Буднага дзеяча — менавіта ў пытаннях маёмасці, вайны і міру. Бо, пэўна, што якраз буднаўскае іх рашэнне ў сваёй прамове ў Лоску падтрымоўваў Цяпінскі і таму ягонае выступленне і ўхваляў Будны ў сваім трактаце аб лоскім зборы, пішучы пра яго

з ёю —
калі яна згіне —
згінуў,
калі акрыяе —
з ёй акрыяў.

Ужо да канца
набліжаю сваю гаворку,
але перад тым,
як закончыцца ёй,
зазначаю
з глыбокім смуткам:
калі б не было
міласэрнасці Божай
на нашу няўдзячнасць,
гадзіна кары
не аддалілася б,
а цяпер
настала б ужо.

Наўкол пагляндзі —
і ўбачыш,
што ўсюды ўсе справы
наўмыснымі змысламі
так папсаваны,
што анічога
добрага нельга зрабіць,
каб яно не было
тут жа спачварана злым
і на злое
зыначана.

Ну, а тыя,
што неяк забагацелі,
на добрую справу
і шэлега не адшкадуюць,
калі толькі ў гэтым
не ўбачаць мажлівасці,
каб пажывіцца
ці змахляваць.
Зазвычай
яшчэ ў нас бывае,
што здольнага чалавека,
і асабліва калі ён свой
ці знаёмы,
людзі
не могуць зносіць,
каб не ўчыніць
яму нейкай шкоды
альбо абразай зняважыць.

Таму, каб застацца
ў гаворцы сваёй
праўдзівым
і каб ухіліцца
аж нагавораў прыкрых,
нікога пайменна
не называю,
бо не хачу
ні просьбай,
ні грозьбай,
ні меркаваннем,
ні нараканнем
нікога ў тым пераконваць,
у чым самі
пераканацца не хочуць,
але, наколькі
змогі маёй хапала,
настолькі
споўніўшы свой абавязак,
мушу да Божага трону
звярнуцца,
бо перад ім
усе мусім стаць
для адказу.
Не сумняваемся мы, аднак,
што Суддзя справядлівы
нашую справу ўхваліць,

праз колькі гадоў пасля.

Па-другое, пэўным чынам паказчыкавыя ў буднаўскім тэксце і даты 1574 і 1578 гадоў. Так, яны, напрыклад, найперш абазначаюць працягласць дружбы Буднага з маладым Цяпінскім — дваццацічатырох— і дваццацівасьмігадовым. А так як успамін Буднага пра 1578 год падаваўся ў ягонай кнізе «Аб свецкай уладзе» 1583 года, то гэта ўжо дае падставу меркаваць, што да дзесятка гадоў доўжыліся ўзаемаадносіны Буднага з Цяпінскім. Трываласць, працягласць сяброўства — гэта таксама немалаважная падрабязнасць дзеля раскрыцця ўзаемаадносінаў сяброў, і тым больш яны важныя, што іх можна прыплюсоўваць да доказаў у істотнасці версіяў тых медыявістаў (А.Ф.Коршунава, у прыватнасці), паводле якіх сваю друкарскую справу Цяпінскі пачаў не без дапамогі Буднага, ці то пераняўшы, ці то набыўшы абсталяванне і шрыфт з ягонай Нясвіжскай друкарні.

Але ёсць меркаванні асобных даследчыкаў (у прыватнасці, Г.Галенчанкі), што Нясвіжская друкарня была ўласнасцю самога Цяпінскага, і тут ён яе перавозіў з Нясвіжа ў Цяпіна. Так што нібы і вандроўнай была гэтая друкарня.

Трэцяе, што праглядваецца за фактураю звестак С.Буднага,— гэта тое, што Васіль Цяпінскі сапраўды быў актыўным, мабільным, у грамадскіх справах удзельнічаў усёй душой, цалкам падпарадкоўваючы ім сябе і нават свой дамашні ачаг.

Ёсць у Буднага, па-чацвёртае, і эпітэт які адкрывае нам сёння





хоць непрыхільнікі
грэбуюць ёй,
хоць непрыязнікі
ёй пагарджаюць.

Але ў набожнага чытача,
дзеля Хрыста міласэрнага,
просім,
каб ён,
калі напаткае
у нашым пісьме дзе-небудзь
заўзятыя выпады
ці ў бок навукі,
ці ў бок
галечы айчыннай,
дык не прыпісваў
гэтага нашай злосці,
адно — чалавечай гарачлівасці,
і дзеля Хрыста
дараваў.
Калі ж нашы хібы
ці недахопы,
якія заўважацца ім,
будуць важыць багата,
няхай
не сарамаціць нас,
а нагадае
аб гэтым па-хрысціянску,
бо мы гатовы,
як Іаан Хрысціцель,
змяншацца,
каб рос Хрыстос.

І, урэшце,
усіх набожных
просім дзеля Хрыста,
каб да тых,
што нас даймаюць
шчыпаннем і дапяканнем,
не мелі ніякай варожасці,
бо хіба
мы не жадаем
з Іакавам ды Іаанам —
і ў цэлым
з усёй навукай Хрыстовай,—
каб з неба
спусціўся агонь
і займела
слова Гасподняе ў іх
сваё месца,
сваю гасподу.

Няхай
ім зычаць дабра
нязменна
і з намі заўсёды
няхай Пана Бога просяць
за іх —
каб апамяталіся
і былі
збаўлены Богам,
і каб у сабе
не адпрэчылі
і не стлумілі
ласкі вялікай Божай,
што, пачынаючы дзейнічаць
у чалавеку,
у ім выяўляецца
як яго
годнасць уласная
і сумленнасць.
Амін.

*Са старабеларускай мовы ўзнавіў*
*Алесь РАЗАНАЎ*

яшчэ і сам эмацыянальны характар адносінаў Буднага і Цяпінскага. Што братам называў Будны Цяпінскага, то ў тым нічога незвычайнага не было, бо брацкімі ўвогуле называлі свае зборы ўсе рэфармацыйныя плыні, а братамі ў Хрысце лічылі сябе ўсе іх удзельнікі. Але эпітэтам «мільы» карыстацца ўсё ж у паўсядзённасці завядзёнкі не было, і гэты эпітэт у Буднага сведчыў менавіта не проста аб братэрска-сацыніянскіх сувязях двух братоў, але і пра іх узаемныя сімпатыі.

А цяпер яшчэ аб адной, таксама сімпатычнай, хоць больш мудраснай рысе Васіля Цяпінскага-друкара, мысліцеля, асобы, якую цяжка не запрыкмеціць, маючы ўжо на ўвазе практыку Цяпінскага — друкара «Евангелля» з яго паралельнай падачай у кнізе тэксту на простай мове народа з тэкстам царкоўна-славянскага арыгінала. Успомнім, што ні ў друкарскай практыцы Скарыны, ні С.Буднага такога не было. Тут можа здзівіць і тое, чаму Цяпінскі — дзеяч рэфармацыі — нібы праяўляе сімпатыі да сакральнай мовы праваслаўя. Здавалася б, яму, дзеячу рэфармацыі, паборніку народнай мовы, было не да лаціны ці царкоўна-славяншчыны. І ўсё ж Цяпінскі пайшоў на двухмоўе, і гэтым сваім учынкам, падобна Скарыне, па сутнасці, узняўся па-над канфесіямі, як бы падаючы прыклад прымірэння старога і новага, кансерватыўнага і прагрэсіўна-дэмакратычнага, супрацьлеглага і, як ён сваім двухтэкставым друкам паказаў, зусім не супрацьлеглага, бо сваёй

хрысціянскай сутнасцю адзінага. Гэта быў, такім чынам, метад прыраўнання і ўраўнення дзвюх моваў — мовы, законнай для кансерватыўна-праваслаўнай царквы, і мовы, паводле яе традыцыйна-кансерватыўнага разумення, незаконнай дзеля боскага набажэнства.

Некаторыя даследчыкі Цяпінскага лічаць, што другім, царкоўна-славянскім, тэкстам друкар. перастрахоўваўся ці застрахоўваў сябе ад нападкаў дзеячаў праваслаўнай царквы. Ды, як гэта можна ўбачыць нават з прадмовы Цяпінскага да ягонага «Евангелля», у ёй ён таксама ж выступаў не толькі як абаронца і веснік правоў на боскасць простай мовы кожнага народа, у тым ліку і беларусаў, але як заклапочаны ўвогуле тым, што сучаснае яму паспалітае грамадства моваў наогул не шануе, не ведае —ні сваёй роднай, ні чужых моваў. І самы, можа, найбольшы акцэнт пакладаўся Цяпінскім на тое, што ў занядбанні адмірае кніжная, славенская, гэта значыць, царкоўна-славянская мова.

Але паслухаем тут самога Васіля Цяпінскага. Ужо на пачатку прадмовы ён адзначае: «...хотя ж то не без большае трудности пришло, ижь двема езыки за раз, и словенским (царкоўна-славянскім.— *А. Л.*) и при нем тут жо руским (старабеларускім.— *А. Л.*), а то наболший словенским, а злаща слово от слова, так яко они вси везде во всих своих церквах чтут и мают; не одно для лепшое их вери, же се не новое што, але их же властное им подаеть, але те ж и для лепшого им розсудку, над то и для их самих цвичения, в том не леда учоном езыку словенском евангелия... от мене им выдруковано».

Для «цвичения» — гэта значыла дзеля практыкавання. Так што ўжо з гэтага відаць, што перш за ўсё з асветніцкіх інтарэсаў зыходзіў Цяпінскі, калі паралельна з перакладам «Евангелля» на беларускую мову друкаваў царкоўна-славянскі арыгінал.

«Ова бы ку науце!»— вось лозунг Васіля Цяпінскага, які ён агалошвае ўслед за навучаннем, абы «слова Божего сами се учили и других», крытыкуючы сваіх сучаснікаў, што «ледво в своем езыки не болшь учатсе».

Асуджаючы невуцтва, здраду продкам, даўніне, Васіль Цяпінскі горача і шырока падтрымліваў старабеларушчыну як філалагічную культурную базу свайго краю. Але пры высокай ухвале гістарычнай культурна-нацыянальнай аснове Цяпінскі тут жа з вялікім запалам аддаваўся патрыятычнаму ўзнясенню сучаснай яму мовы роднага народа.

Не ў перастрахоўцы, такім чынам, была аснова, а ва ўстаноўцы на агульнакультурныя народнасныя задачы. Зрэшты, і Францішак Скарына кнігі свае друкаваў і на простай мове народа, і на царкоўна-славяншчыне, і друк апошніх меў як свае палітычныя, так і камерцыйныя мэты. Мог і з-за камерцыйных разлікаў на двухтэкставы варыянт «Евангелля» пайсці Цяпінскі, але ў гэта цяжка паверыць, бо быў бы Цяпінскі срэбнікам, такую бедную спадчыну, якую ён пакінуў сынам сваім, ён бы не пакінуў. Усё, што Васіль Цяпінскі рабіў, ён рабіў менавіта дзеля ўвасаблення сваіх высокіх памкненняў. Што гэта быў чалавек шырокага розуму, вялікага хвалявання, вялікай улюблёнасці ў свой край, мову, вялікай пашанотнасці да продкаў сваіх і няменшага клопату пра будучыню роднага краю — пра ўсё гэта выдатна сведчыць і стаўшая на сёння славутай прадмова Васіля Цяпінскага да ягонага «Евангелля».

## ПРАДМОВА

Ёю аказаліся выказаныя думкі і настроі вельмі значнай часткі паспольства Беларусі паслялюблінскага часу. Сваім увяльбеннем беларускай мовы яна змыкалася з яе ўзвышэннем у прадмове да Статута 1588 года Льва Сапегі. У пракламацыі мовы простага народа як сакральнай яна была маніфесцкай, а сваім крытыцызмам — безаглядным, смелым — яна станавілася ўпоравень з сатырычнай прамовай Мялешкі 1589 года.

Прадмова Цяпінскага — гэта наперш развіццё прадмоўніцкай традыцыі Ф.Скарыны. Але гэта разам з тым і пэўнае адмаўленне яе, пераістотненне. Бо калі ў прадмове да Статута 1588 года Льва Сапегі яшчэ відавочна застаецца яе сузалежнасць са зместам выдання,— у сэнсе яго атэстацыі, агульнай характарыстыкі, што было блізкім да скарынаўскага кароткага пераказу зместу чарговай друкаванай ім кнігі, то ў Цяпінскага, па сутнасці, залежнасці ад зместу «Евангелля» няма, а ёсць толькі адзінкавая канстатацыя таго, што кніга ўключае «писания святого Матфея и святого Марка и початок Луки». Затое ёсць у прадмове Цяпінскага спачатку і да канца вылучаны голас, тэмперамент, хваляванне асобы аўтара.

У Ф.Скарыны, як правіла, кожнае пасляслоўе канчалася скарынаўскім «я», і толькі ў асобных прадмовах было: «прото ж я, Францишек...» Прадмова ж Цяпінскага — гэта суцэльны маналог ад «я», ад асобы, якая поўная рэальнага хвалявання, рэальна сябе раскрывае ад першага да апошняга радка: «Рад покажу мою веру...», «Тут бых я им...», «...которих я не одному которому, аже всим...». І скланенне гэтага «я», як і займеннікаў «мая», «свая» ("...з зычливости ку моей отчизне"; «...з оубогое своее маетности народу моему»; «А тут вжо конець речи моей чиню»), як і ўжыванне «мы»— множнага ліку ад займенніка «я» ў сэнсе ад першай асобы ("ми теж ижем то не влох..."),— усё гэта сапраўды выдатна факусіруе ўвагу на прамоўцы як рэальнай асобе.

І яшчэ аўтар вылучае сябе ў прамове Цяпінскага тым, як адмяжоўвае сябе ад іншых — адлучае на самым пачатку ("поневажь которым бы то властней учинити пристоело...") і асабліва супрацьпастаўляе сябе іншым інвектывамі з велічальнымі «вы», «вашое» ("...иж бы вы, каждый от себе, о зацные панове"; «... тому народу вашому, неумеетностью заведенному и утрапеному, ... митрополита вашого, владык и учителей ваших до того прозбами вашими вели, же бы не подкупов, не посулов...»; «... з нею згинуть, або, если через вашь ретунок будет выдвигнена, з вами и з нею выбринуть»). У выніку ўсім гэтым Цяпінскі рабіў сваю прадмову наватарскай, з аб'ектыўна-тлумачальнай ператворваў у суб'ектыўна-аратарскую, з апісальнай рабіў эмацыянальнай, у цэлым набліжаючы старабеларускае прыгожае пісьменства да вобразна-выяўленчых прынцыпаў і сродкаў літаратуры новага часу, у цэлым засноўваючы ў ёй першатрадыцыі нацыянальнай публіцыстыкі.

Наватарская форма прадмовы Цяпінскага абумовіла і надзвычайнасць, як для свайго часу, яе змястоўнасці. І тут ужо трэба падкрэсліваць той момант, што самае вялікае значэнне прадмовы Цяпінскага ў тым, як Васіль Цяпінскі кусціў патрыятызм, пішучы аб «зычливости ку моей отчизне», аб тым, што кіруецца «потребою отчизны», «в тую потребу отчизны народу моему услугою», «своей Руси услугуючий». Пра тое, што людзі да сваёй радзімы ласку маюць, Ф.Скарына, як памятаем, сказаў аднойчы: адзінкава гучала ў яго асанна і мове, з якою яго ў свет Бог выправіў. І яшчэ, як мы памятаем, таксама аднойчы ў С.Буднага прагучала звернутае да княжацкіх міласцяў Радзівілаў пажаданне любіць і шанаваць родную мову. Васіль жа Цяпінскі вар'іруе сваю апалагетызацыю роднай мовы менавіта па прынцыпу вычарпання тэмы, і ён не запрашальна-пажадальны, не ўмоўна-пажадальны стан дзеяслова выкарыстоўвае, як Сымон Будны, а па тону, па інтанацыях, па ўжытых формах дзеясловаў Васіль Цяпінскі скрозь напорыста-загадны, наступальны, неадступны, бескампрамісны.

Мова — «окраса і оздоба народу»,— вось першы з афарызмаў у прадмове Васіля Цяпінскага, а першынство з ім аспрэчвае хіба толькі яго выслоўе пра суайчыннікаў — «зацный, славный, острий, довстипный народ». Пад лагічным націскам скрозь у прадмове словы «народу», «отчизны», «своей Русі», на «власным», «прирожоном», «своем езыку»,— усе гэтыя словы паўтараюцца неаднойчы.

А ў цэлым кампазіцыя прадмовы — на збалансаванні хвалы і хулы: хвалы радзіме, роднай мове, навуцы, цнатлівасці, хулы —адшчапенцам, невукам.

Ужо на самым пачатку прамовы крытычныя стрэлы пускаюцца Цяпінскім у адрас тых, хто не шануе і не песціць справы, за якую вымушаны брацца ён. Пайменна ніхто Цяпінскім не называецца, але сучасны яму чытач мог бы разумець, каго асабіста меў на ўвазе друкар і перакладчык у пераліку: «Митрополитове, владыка и нихто з учоных», што «через так многий час не хотели" даць працяг таму, што пачаў Ф.Скарына, што прадоўжыў С.Будны.

Такім чынам, вычарпальнасць у развіцці тых ці іншых узнятых тэмаў і востры крытыцызм — гэта асноўныя ў іх спалучальнасці прыёмы завастрэння асноўнай — патрыятычнай — ідэі прамовы Васіля Цяпінскага.

Але, будучы патрыётам, Васіль Цяпінскі роўна шырока выступае і як асветнік, і як мараліст. Ягонымі ж словамі можна сказаць пра яго, што ён чалавек «великое светобливости», «милости братерское», «люцкой кревкости», багабойны, пабожны. Ён жа перш за ўсё і чалавек абачлівы, сціплы. І — што тут цікава — у Скарыны ў агульнай прадмове да Біблії матыў «а в чем бых ся омылих — разумнейшие поправте», ён — у канцы гэтай прадмовы. А ў Цяпінскага аналагічныя словы «а если есть в чом блудна, оны то поправят», яны стаяць на самым пачатку прадмовы — другім сказам. І, такім чынам, можна сказаць, што дзе канчаўся Скарына, там пачынаўся Цяпінскі. Але ўсё ж самае галоўнае ў гэтай аналогіі — гэта тое, што паказвае на падваліны маралістыкі Цяпінскага — самакрытычнасць, сціпласць.

Затым для Цяпінскага-мараліста самае дарагое —высакародства. Вось чаму ён першым эпітэтам у сваім акрэсліванні лепшых рысаў свайго народа ставіў эпітэт «зацный», увогуле аж чатыры разы ўжыўшы яго ў прадмове ("а на остаток учьстивое и зацное", «в таком зацном руском», «зацные панове»). Поруч жа з эпітэтам «зацны» Цяпінскі звычайна ставіў прыметнік «слаўны». Зацнасць і слава — гэта паняцці несумненна з рыцарскага арсеналу, бо не было ж у сярэднявечча іншай меркі для рыцарскасці, чым зацнасць і слава. Такім чынам, гэтыя крытэрыі ў Цяпінскага — відавочны працяг беларускарыцарскіх традыцый, самога рыцарства Цяпінскага як удзельніка Лівонскай вайны.

Ды зацверджанне Васілём Цяпінскім патрыятычнай ідэі не было б такім магутным і ўражвальным, калі б не ішло ў пары з двума фактарамі — з крытыцызмам і з тым, што сам Цяпінскі назваў «упреимость серца моего», што можна яшчэ назваць і звеставаннем сэрца ягонага, душы, навукі дабра і чалавечнасці. Зрэшты, крытычны пафас і сардэчнасць у прадмове Васіля Цяпінскага настолькі ў

адным вузле, што як паасобныя ніты ці нітачкі іх з гэтага адзінага вузла вельмі цяжка вышморгваць. Тым не менш вылучым і некаторыя характаралагічныя рысы і крытыцызму Цяпінскага і яго сардэчнасці.

Крытыцызм Цяпінскага — траякі: палітычны, асветніцкі, гуманістычны. Палітычны — супраць дэнацыяналізацыі, за беларускапатрыятычную ідэю; асветніцкі — супраць бездухоўнасці ўвогуле і заняпаду вучонасці ў грамадстве, у царкве, у вышэйшых і нізавых эшалонах духавенства; гуманістычны — супраць амаральнасці падзення нораваў, распусты ў паспольстве яго часу, супраць усіх заганных рысаў у чалавечых характарах — няўдзячнасці, пагарды, зайздрасці, злосці, плётак, бессаромлівасці.

Ужо гаварылася, што крытыка ў Цяпінскага не канкрэтна адрасная, але што першымі пад яе ў яго падпадаюць «митрополитове, владыки», гэта адназначна. Другімі — вучоныя ("нихто з вучоных через так многий час не хотели...") і нізавое духавенства ("або не доктор, а ни який поставленный межи попы"). Дарэчы, успамінанне ў Цяпінскага тытула доктара навук як бы з намёкам на самога Францішка Скарыну, прычым, як відно з кантэксту, гэта зусім не піетэтная рэмінісцэнцыя, а больш у значэнні «мы — ніякія не дактары, ды самі з вусамі!..»

Ды на крытыцы духавенства і вучоных Цяпінскі не спыняецца,— сацыяльны дыяпазон яго крытыкі сапраўды шырокі, бо ён рамкі яе рассоўвае, «видечи так великих княжат, таких панов значных, так много деток невинных, мужов з жонами...» І, трэба падкрэсліць, што самая ўзвышаная філіпіка ў прадмове звернута ў шасці яе заключных абзацах менавіта да ўладнай эліты —асабліва ў тых абзацах, што пачынаюцца словамі: «Але дал бы то пан...», «В тую потребу отчизны вашое...». «О зацныя панове!—ускліквае Васіль Цяпінскі,— ...есте той речи (мовы.— *А. Л.*) якобы отцами по таких фалебных предках...» Былою славаю продкаў і заклінае Цяпінскі зусім не зацных, а зняслаўленых ганьбаю адступніцтва паноў «прикладом своим милосерным, если есть што милости братерское у вас...» «тому народу вашому» «яко улитоване» даць кнігу на яго мове, і каб паны па ёй «слова божего сами се учили и других...»

Дбаючы для свае айчыннае шляхты і магнацтва пра «неякое подобенство добротливости Божее», Васіль Цяпінскі як маралізатар і звястун гуманістычнага маральнага кодэкса скразным у сваёй прадмове зрабіў тэму асуджэння няўдзячнасці, пагарджання кагосьці ці чагосьці ("взгарды"), зайздрасці, нядобразычлівасці, няўчцівасці, абыякавасці ва ўзаемадапамозе і да дапамогі ў пільнай патрэбе «неумеетности», бессарамяжлівасці, бяспамяцтва, праследавання «щипанем, ожиганием». Няўдзячнасць, нядобразычлівасць, абыякавасць, «щипание»,— такое перадусім страчаў у сваёй выдавецкай і перакладчыцкай дзейнасці сам Цяпінскі, а за бяспамяцтва, бессаромнасць, «неумеетность», абыякавасць, пагардлівыя адносіны да роднай мовы і навукі ён асуджаў, вядома, іншых, асуджаў «на вечный встыд», і жахаючыся, што «такая оплаканая неумеетность пришла», і здзіўляючыся, як «на такую казнь божию гледечи, хто бы не мусил плакати». А наастатак скажам, як і Васіль Цяпінскі ў прадмове: «А наостаток, што может быти жалоснейшая, што шкарадша, иж и тые, што се межи ними зовуть духовными и учители, смели мовлю, намней его не вмеют, намней его вырозуменя не знают, а ни се в нем цвичат, але и ани школы ку науце его нигде не мают...» Усім гэтым менавіта і вянчалася барацьба Васіля Цяпінскага за ўпраўленне «языка своего славного», за развіццё духоўнасці, вучонасці, школьніцтва, адукацыі. І ўсё гэта сапраўды было і «смела моўлена», і эмацыянальна, і натхнёна.

І ў цэлым прадмову Цяпінскага ўвянчалі нібы золатам выпісаныя, рэквіемныя, звеставальныя словы аўтара прадмовы пра вернасць яго роднай мове, пра гатоўнасць яго ісці за яе ў бой не на жыццё, а на смерць. Вось сапраўды дынамічныя фармуліроўкі выдатнага публіцыста: «Абых был готов!», «Если она (беларуская мова.— *А. Л.*) до конца згинет, з нею згинуть», «Если через вашь ретунок будет выдвигнена, з вами и з нею выбринуть». Будучы гатовы аддаць за родную мову жыццё, Васіль Цяпінскі тым не менш ніяк не пакідаў веры ў яе выратаванне з таго драматычнага стану, у якім яна апынулася ўжо напрыканцы XVI стагоддзя. Гатоўнасць на гераічнае самаахвяраванне за родную мову перакладчыка, друкара, літаратара Васіля Цяпінскага, вядома ж, была ў працяг гатоўнасці да гераічнага чыну Цяпінскага — рыцара-падафіцэра, як і чалавека вялікага сваім патрыятызмам, хрысціянска-рэфармісцкай духоўнасцю.

**Алег ЛОЙКА**

---

1 Довнар-Запольский М.В. В.Н.Тяпинский, переводчик евангелия на белорусское наречие.— Спб., 1899. С. 245—255.
2 «Записки украіньского наукового товариства в Киіві», кн.XII, Киів, 1913. С.13—21.
3 В.Былинник, Л.Звонарева «Поэзия Симеона Полоцкого». У кн.. Симеон Полоцкий. Вирши. Минск, «Мастацкая літаратура», 1990, С. 6.
4 Гл.: Вольга Бабкова. Васіль Цяпінскі. Новыя дакументы. «Спадчына». 1991, № 3. С. 15.
5 Цытавана па кн.: «450 год беларускага кнігадрукавання». Мн. «Навука і тэхніка», 1968, С. 172.
6 Вольга Бабкова. Васіль Цяпінскі. Новыя дакументы. «Спадчына», № 3, 1991. С. 15.
7 «Беларускі архіў», 1928, т. 11.



# Уладзімір АРЛОЎ

## МЫ



*Фаўна сноў – 2*

## Рэцэпт неўміручасці

Манускрыпт называецца
«Кнігаю сноў».
Куфічная вязь
на пергаміне са шкуры газелі
дае падрабязныя інструкцыі,
як абвесці вакол пальца
смерць,
хітрамудра падмяніўшы яе сном,
і
прачнуцца ў іншым часе
не крыклівым немаўлёнкам,
а самім сабою.
Кнігу не ўпільнавалі
манахі Сінайскага манастыра,
дзе хапала цікаўных пілігрымаў,
што хацелі падстрахавацца

яшчэ і зямной неўміручасцю.
Радасць выкрадальнікаў
была кароткая, як песенька сініцы:
рукапіс не меў
апошняе старонкі,
зашыфраванага рэцэпту
вяртання ў свой час —
да зябкай дзяцеліны
з халоднымі ад расы антонаўкамі,
да вожыка,
што зімуе пад старым клёнам,
саграваючы сад
сваім кволым цяплом,
да лабірынтаў чарнавікоў,
спярэшчаных вусатымі выявамі
круглашчокіх кацiных пысак.
Як проста зрабіцца неўміручым,
калі не трэба вяртацца
да тонкіх промнікаў
вакол даверлівых вачэй
колеру прыдзвінскага лёну —
цёплых павучынак,
якія аднойчы
пругка спынілі тваё матыльковае лётанне.

Гэтую гісторыю я пачуў,
чакаючы астатні цягнік
на канцавой станцыі метро
ад старога габрая з сумнымі вачыма,
які застаўся стаяць
на пустым пероне.

## Ян Баршчэўскі

Мы сустрэнемся
на пецярбургскім гасцінцы
недзе каля Клясціцкай царквы,
а найверагодней — карчмы,
пад Янаў дзень,
бо ты ўжо павінен прайсці
большую частку шляху
З Санкт-Пецярбурга ў Полацк
(гэты шлях, між іншым,
карацейшы, чым наадварот,
што няраз даказвала муза гісторыі),
адпачываючы ад прыватных урокаў
лаціны і грэцкай,
згадваючы ўхвальныя словы
самога Міцкевіча
(зрэшты, без вялікага піетэту),
які два-тры разы пагартаў
твае вершы.
Ёселевы прусакі
не здолеюць атруціць
смаку журавінавай палёнкі
(хоць у полацкіх айцоў-езуітаў





яна, безумоўна, мацнейшая).
Кабета Інсекта з Белай Сарокай
пакінуць нас у спакоі,
праўда,
мільгануцца перад агменем
велізарныя цені Стаўраў і Гаўраў.
Урэшце
у доме павятовага маршалка
сцвярджаюць, што і ты
частку дарогі са сталіцы
адольваеш наўпрост
у *абліччы розных нязвыклых істотаў*.
(Чаго не наплятуць жаночыя языкі,
тонка ўсміхаешся ты,
унікаючы адказу.)
Кашэчы кароль Варгін
і мышыны Пандор
угамуюць сваіх шматлікіх падданых,
дамовіўшыся пра нешта з Будзімірам,
каралём усіх пеўняў.
Полацкія чарнакніжнікі
нарэшце спахопяцца,
паветра ў карчме загусцее
да кансістэнцыі палёнкі,
час скорыцца чарам, і
не будзе ніякай гарантыі,
што мы не выйдзем з карчмы,
цвёрда трымаючыся на нагах,
у пухкую завею
з далёкай свечкаю
на падвоканні шляхціча Завальні.

## Каханка

Ты — мая каханка,
і зараз,
каб сёй-той не пакутаваў ад здагадак,
я адкрыю тваё імя.
Праўда, сакрэт ужо вядомы
бяссоннаму, як Борхес, праспекту,
нашай раўнівай саўдзельніцы —
бабулінай саматканцы,
фатаграфіям і срэбнай рыбіне,
што прыплыла з іншых часоў,
*дзе цябе і мяне звалі іншымі імёнамі*,
дзе ты, магчыма, была лесбіянкай,
а я падабаўся мужчынам,
хоць не адказваў ім узаемнасцю.
Апрача таго
твой адрас вядомы
палівальнай машыне,
якая падбірала мяне ля пад'езда,
калі я рызыкаваў спазніцца
на ранішні канцэрт жабаў
пасля нашага ўлюбёнага кактэйлю —
шампанскае са світаннем,

часам з дажджом
або з кубікам лёду,
што мы дапівалі
кароткімі асцярожнымі глыткамі,
падобнымі да тваіх пацалункаў
з лёгкімі прыкусамі.
(Напэўна, так кусаюцца
срэбныя паўночныя стракозы.)
Ты — мая каханка,
і я хачу, каб усе ведалі:
тваё імя — Ноч.

## Мой табар

Колы,
стамлёныя яшчэ ў мінулым стагоддзі,
наракаюць на лёс
срэбнай ад пылу кібітцы
з трыма нажавымі ранамі.
Вецер
прыносіць з зялёных яроў
насцярожаныя пахі чужога жыцця,
узброеныя адпаліраванымі кіпцюрамі.
Агонь
згаладала смажыць мяса,
узятае ў бестэрміновы крэдыт
у вечаровай вёсцы
з ненадзейнай аховаю з сініх мальваў.
Віно
хвалюецца ў біклазе,
альтруістычна дакляруючы цёплую ноч.
Жанчыны
бязважка заміраюць
у карункавай пярыне папараці,
што памятае іх салодкі стогн
да першых прымаразкаў.
Матылькі-аднадзёнкі
лянуюцца падымацца з красак,
якія я збіраю
сваім аднадзёнкам-абранніцам.
Мужчыны
сноўдаюць па ўзлеску са стрэльбамі,
упэўненыя, што мае жанчыны
належаць ім.

Няхай у гэтым табары застаўся
я адзін.
Ластаўкі
яшчэ садзяцца мне на плечы.

## Бібліятэка імя Скарыны ў Лондане

Вечар, які бавіш
удваіх з «Sarmatiae Europeae descriptio...»,
MDLXXXI *
віцебскага каменданта Аляксандра Гваньіні
не вяшчуе нічога,
апрача ленаватай чародкі думак
пра ўвішнага італійца,
што з маўклівага дазволу Кліо
беспардонна спісваў
у свайго падначаленага Мацея Стрыйкоўскага.
(Абвінавачанне ў плагіяце
здымаецца з прычыны даўнасці.)
Зялёны авал святла
на велічным стале,
вартым штаба маршала Нея,
дзе шарыкавая асадка
на месцы цяжэзнага каламара
з пазлачонымі музамі і гусіным пяром
выглядае, як міні-спадніца
на шчодралюбных клубах
каралевы Боны.
Легкамысныя дыялогі
з героямі гравюраў
на ломкіх аркушах in folio
колеру леташняй аўсянае саломы.
Вялікаму князю Альгерду
можна выказаць шчырае спачуванне
(калі летапісцы, як зазвычай,
не ўводзяць нас у зман),
што ён не ведаў смаку
перабрадзілага вінаграднага соку.
У Віценя
ніхто не замінае запытацца
пра эпікурэйскія вусы
карчомнага заўсёдніка,
а яго мосць Скіргайла
няхай узгадае, як полацкія месцічы
прывязалі яго задам наперад
да старое кабылы.
Habent sua fata libelli** —
аздобленае пацінаю выслоўе
таксама гучыць легкаважна.
І раптам
трывожны ветрык
вее ад паліцы,
наладаванай гатычнымі шрыфтамі.
Тамы ў цісненых пераплётах
спакваля поўняцца непрыхільнасцю.
Альгерд
на тытульным аркушы
пагардліва падцінае вусны.
Свідрыгайла
выцягвае з тула стралу.
Нічога добрага не абяцае
насуплены пагляд
Вітаўта.

---

* «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі...», 1581 (*лац.*).
** Кнігі маюць свой лёс (*лац.*)

Цяжкія шторы
набываюць знячэўку
скульптурную рэльефнасць —
іх хочацца падняць, каб пераканацца,
што там сапраўды пуста,
але лепей пакінуць
гэтыя падазроныя складкі ў спакоі.
Стары лонданскі дом
абуджаецца якраз у тую хвіліну,
калі ты неабачліва аказаўся
ягоным заложнікам.
Дом,
які працюжана ўздыхае,
які здымае ўнізе нечай рукою
тэлефонную трубку,
прымушаючы ўявіць стол бастыёнам
і пасунуць бліжэй
сціплы томік in quarto
пад даўжэзнай барокавай назваю
«Собрание припадков краткое...» etc.,
адзіную кнігу,
выдрукаваную па-беларуску
за ўсё доўгае XVIII стагоддзе.
(Факт, безумоўна, з гаркавым прысмакам,
хоць стагоддзе усё ж прамінула не марна.)
Нешта дзеецца з часам:
стагоддзі набываюць
розную працяглаcць і шчыльнасць і,
што самае небяспечнае,
пачынаюць дыфузіраваць,
у выніку чаго
твой 1994-ты можа апынуцца дзе-небудзь
паміж Вялікай французскай рэвалюцыяй
і Луі Філіпам...

Каб упэўніцца, што змены
яшчэ не зрабіліся незваротнымі,
ты асцярожна сустракаешся вачыма
з люстрам кніжнае вітрыны.
Павагаўшыся, люстра пацвярджае:
гэты чалавек — пакуль што ты.

## Берлінская фантазія

Сёння на досвітку,
перамяшаўшыся з крывёю
і рэшткамі ўчарашняга віна,
пацёк па маіх жылах
час мінулае восені,
які пахне
гарачымі булачкамі з карыцай
з пікантным дамешкам
танчэйшага за французскія духі
водару жаночага поту,
час, які гаворыць
ламанай англельскай моваю





па́нка з ваяўнічым індыгавым грэбнем
на люстрана выгаленай галаве —
акурат яйка,
што ў часы канквістадораў
знесла з пярэпалаху
ацтэкская пачвара
Далемскага музея,
паблізу якога вас
(каб вам пашчасціла прыйсці на свет
заходнеберлінскім сабакам)
пахавалі б на шыкоўных могілках,
паставіўшы мармуровы помнік
з фатаграфіяй або бюстам
(кажуць, там ёсць і пара магілаў
з крыжамі —
напэўна, іх уладальнікі
паспелі прыняць перад сконам
хрысціянства),
а паміж выбітымі на помніку
датамі бесклапотнага жыцця
сабачыя псіхолагі за прыстойную плату
(запіс да канца года звычайна закончаны)
апавядалі б вашым гаспадарам,
што вы пра іх думаеце —
на самоце і ў цеснай кампаніі
ўкормленых дыпламантаў і ардэнаносцаў, —
і, вяртаючыся дахаты,
вашы гаспадары
кідалі б няўважлівае вока
на вокладку порначасопіса
(коітус на парашуце),
або на рэкламу суперкамфортнага ложка,
забяспечанага на ўсялякі выпадак
утульным пеналам для каханка,
або чыталі б узор нямецкага гумару —
«15 дзяцей — дастаткова!»,
транспарант над засмечанай вуліцай
у турэцкім раёне Кройцберг,
дзе турыстычныя даведнікі
не раяць бадзяцца з надыходам цемры,
каб не папоўніць сваімі імёнамі
газетныя калонкі крымінальнае хронікі,
у раёне Кройцберг,
дзе мы з'явіліся,
(прагнучы не толькі кавы па-турэцку),
якраз той парою,
калі вечар
нядбайным рухам падпітага швейцара
разнасцежвае дзверы ночы,
а тутэйшых сутэнёраў
лёгка зблытаць з муэдзінамі
(няхай доўжыць Алах вашы цені!),
дзе нашы незалежныя маршруты,
навarожаныя мне
цыганкаю з Камароўкі,
прадказаныя табе
цыганкаю з гановерскага дзяцінства,

перасякаюцца за столікам
турэцкага рэстаранчыка,
у якім Еўропу,
што засталася за Басфорам і Дарданеламі,
прадстаўляем толькі мы
і з якога нават з гэтае прычыны
трэба хутчэй выбірацца,
пагатоў паліцэйская сірэна,
далёкая, як поўня над мінарэтам,
уносіць поўную яснасць:
па адным мы не вырвемся, бо
адлік ідзе ўжо на секунды,
а таму часу на прывыканне рук
не засталося,
а таму галоўнае — не азірацца:
ні ідучы да дзвярэй,
ні спыняючы таксоўку,
ні на ранішняй Alt Moabit,
ні на праспекце Ракасоўскага ў Менску,
дзе сёння лёг першы снег,
дзе сарокі пабіліся з галкамі
за пустое гняздо,
дзе я спалю ў попельніцы
тваё дзіцячае фота
з дарослым надпісам па-нямецку,
які мне пераклалі толькі тут:
«Целам не трэба перакладчыкі».

## Архіварыус Война

Прыкладна раз на год,
звычайна перад Калядамі
паводле грыгарыянскага календара,
мне сніцца
полацкі архіварыус Аўгустын Война,
маладжавы манах-базыльянін
з залатым зубам,
таемны геданіст
і, магчыма,
мой продак,
які не першы год
судзіцца з полацкімі езуітамі,
складаючы каліграфічным почыркам
дваццаць сёмую скаргу
каралеўскім камісарам.
Война замінае спаць гадзіннік
на касцёле святога Стэфана.
Война лічыць шарлатанствам
механічную галаву з калегіума,
што гаворыць на ўсіх вядомых мовах,
і наогул
мае да Таварыства Ісуса
спадчынную нялюбасць,
за выняткам айца Папэ́, якому
(зусім дарэмна)
давераны вінны склеп





(ён таксама мне сніцца,
аднак трохі часцей),
айца Папэ́,
які можа нацадзіць з дубовае бочкі,
равесніцы Літавора Храптовіча,
кухаль старога мёду і —
бывай, любая прастуда.
Война здымае з паліцы
мае кнігі з аўтографамі,
спярэшчаныя іранічнымі маргіналіямі,
за якімі сарамяжліва хаваецца
чараватая пляшка,
і — у залежнасці ад настрою —
звоніць па тэлефоне
спачатку айцу Папэ́
або адразу мне самому —
тут я прачынаюся
ад начнога міжгародняга званка.
Хтосьці маўчыць у трубку,
плывуць па правадах
удары гадзінніка святога Стэфана,
пяюць на Дзвіне цыбатыя асначы,
хіхікае па-змоўніцку айцец Папэ́,
шэпча ўва мне ўпэўнены голас:
ты таксама
прыснішся камусьці на Каляды,
набраўшы тэлефонны нумар,
які можна адшукаць
адно ў паперах у каралеўскага камісара,
якому падае каліграфічную скаргу
полацкі архіварыус Аўгустын Война,
маладжавы манах-базыльянін,
таемны геданіст
і, магчыма,
мой продак.

## Парыжанка з Кноса

Парыжанка з Кноса*,
ты едзеш у менскім трамваі N 6
з крыжыкам на язычніцкай шыі,
у суправаджэнні сіняга пеўніка,
які не паспеў зрабіцца мужчынам.
Каб прыдумаць табе біяграфію
(у грамадскім транспарце
я баўлюся такімі бяскрыўднымі гульнямі),
дастаткова трох дрогкіх прыпынкаў.
Ты чамусьці працуеш архітэктарам,
начальнік называе цябе
танканогай карыятыдаю,
маючы наконт ножак з цёплага мармуру
далёкасяжныя планы.
Ты скардзішся каханку,

* Пад такой назваю вядома фрэскавая выява маладой жанчыны (XVI ст да н.э.) з Кноскага палаца на Крыце.

якія, у адрозненне ад начальніка,
ад самае вясны не дарыў табе кветак
і не прыдумаў нічога лепшага,
як зваць цябе марцоваю коткай.
(Мужу на начальніка не скардзяцца.
Мужу гатуюць на вячэру сіняга пеўніка.)
Усё гэта да позеху трывіяльна,
але
ў тваіх антрацытавых вачах
люструецца іншы жыццяпіс,
дзе кожны сюжэт
слухае ўтрапёных цыкадаў,
душна пахнучы лавандаю.
Цар Мінас
не прапускае ніводнага хітона
(твой — не выключэнне).
Царыца Пасіфая
(O tempora, o mores!)
закахалася ў белага быка.
Дэдал
заняў пасаду
прыдворнага мастака і дойліда.
Гэта ён
пакінуў твой птушыны профіль
колеру лесавога мёду
на сонечных скавышах
заблытаных палацавых пераходаў, якія —
шэпчуцца прыдворныя —
могуць завесці неабачлівага чалавека
ў той час, дзе ён яшчэ не нарадзіўся,
або ў той, дзе яго ўжо няма.
Гэта ён
збудаваў Лабірынт, але спярша
зрабіў сваёй гаспадыні
драўляную карову, дзе,
трапяткая ад страсці, яна чакала
пасланага Пасейдонам рагатага каханка.
(Іхняга знакамітага сынулю
на экзамене па гісторыі Старажытнай Грэцыі
мой аднакурснік называе Дзіказаўрам;
старэнькі прафесар
дзівам пазбегне інфаркту.)
Ты таксама ведаеш, што такое чаканне —
ад карэньчыкаў валасоў
да вільготнае наквеці, якую
бессаромныя Дэдалавы вусны
ператваралі ў кветку шыпшыны
з нашых гіпербарэйскіх раздарожжаў
з разбуранымі капліцамі
ў сціплым аздабленні піжмы і крываўніку.
Шчасце доўжылася
цэлых пяць начэй —
пяць цяжкіх амфараў палевага віна,
пяць зорных пылінак Касіяпеі,
пяць усмешак той,
што нарадзілася з марской пены —
пакуль Дэдал





не даў парады Арыядне,
якую няўдзячны Тэсей
пакіне на гарачых камянях выспы Наксас,
дзе пасля любоўных гульняў
грэюцца нерэіды.
Цар Мінас
кінуў твайго каханка ў вязніцу
(ганарар за драўляную карову
плюс ідэя з клубком нітак),
куды ты пакрыёма носіш яму
(ці не пазбавілі яго багі розуму?)
шарыкі воску і птушынае пер'е.
Яшчэ наперадзе
Траянская вайна,
бітва на Нямізе,
вынаходства трамвая і
трагічная смерць сіняга пеўніка,
якога з'есць на вячэру твой муж,
а потым
ты асуджана прымеш порцыю
звыклых, як краявід за акном, ласак,
а цела будзе ціха спяваць пра таго,
каму ты носіш васковыя шарыкі
з пер'ем крыцкіх лебедзяў.

Я выйду на тваім прыпынку,
паднясу табе торбачку з пеўнікам
у жалобным вянку з салатавых лісцяў,
прыцішана прамоўлю на адвітанне:
Бывай, парыжанка з Кноса,
і атрымаю ў адказ
спалоханы позірк,
якім не глядзяць на вар'ятаў.

## Бэзавы адвячорак на краі стагоддзя

Бэзавае сутонне з кавай
пасля цэлага тыдня несустрэчаў
на паважанай канапе,
якой зноў трэба прывыкаць да нас,
настройвае на метафізічны лад.
На той тэрыторыі
цела —
нешта большае, чым цела,
якое складаецца з клетак
і ўсяго астатняга,
паведамляю я.
(Дыялог прысвячаецца снам.)
На той тэрыторыі
яно непадлегае смерці,
а значыць,
у ім увасоблена вечнасць.
Ты ўсміхаешся
з адценнем самазадаволенасці.
Ты не сумняваешся, што прысніцца мне

магла выключна ты,
і я адчуваю
мурашыны ўкус сумлення:
сёння ў сне
я любіў не цябе, а тваю сяброўку,
якая ніколі не стане маёй
на гэтай выспе.
Ты ўступаеш у размову
ў іншай танальнасці,
называючы сон
прадмесцем смерці,
анклавам краіны,
надзейна абароненай ад нас
дзённым ratio,
калегіумам, дзе мы вучымся
вялікаму дасканаламу сну,
нечытэльнымі чарнавікамі
загадкавага тэксту,
да якога мы рухаемся
павілястымі сцежкамі кашмараў
і бяссонных начэй.
З табою не бывае сноў-чарнавікоў
(гэта — я, і гэта — праўда),
сноў-эскізаў,
сноў-навелаў,
дзе ў фінале засталося
колькі нявыкрасленых фразаў.
Праўда і тое, што
такія сны здараюцца ў мяне
не толькі з табою,
бо
падараваць адчуванне вечнасці
можа кожная жанчына.
(Пра гэта лепей памаўчаць,
хоць маецца на ўвазе,
безумоўна, тэрыторыя сноў.)
Так я гутару з табою,
адважна здымаючы двукоссі
з цытатаў лацінаамерыканскіх раманістаў,
якіх мы звычайна чытаем па чарзе,
пакідаючы на палях
лёгкія рыскі
алоўкам ці фарбаваным пазногцікам,
зусім выпадкова
сустракаючыся пад коўдраю
з тваімі ўсходнім і заходнім
паўшар'ямі
(полюс холаду
знаходзіцца ў раёне экватара),
пакуль стройная логіка думак
не зведае разбойнага ўварвання
твайго алагічнага цела,
якое
адзінае
здольнае падараваць мне вечнасць
тут,
на гэтай выспе,





сярод хваляў бэзавага сутоння,
за пяць гадоў да новага тысячагоддзя,
якое таксама будзе пахнуць ментолам
на вуліцы забытага праваднра,
якая з гэтага адвячорка
будзе насіць
тваё імя.

## Upupa epops

Кожны раз,
як еду ў Полацк на цягніку,
у прынарачанскіх лясах
паміж Вілейкай і Будславам
на тэлеграфным дроце мяне чакае
стракатая птушка з вохрыстым чубком
і смешным лацінскім імем
Upupa epops,
а ў перакладзе — проста ўдод.
Калі разгарнуць энцыклапедыю,
можна даведацца, што Upupa epops
манагам,
селіцца на ўзлессях,
у старых садах і парках,
ладзіць гнёзды ў крушнях,
жаролах і пнях,
а часам у пустых вуллях etc.
Толькі энцыклапедыя
не адказвае на галоўныя пытанні:
пра тое, як ён даведваецца,
што я ўзяў раніцою білет,
чаму я памятаю, што самачка
выседжвае птушанятаў 17 дзён,
чаму ўзгадваю дуплісты дуб
над полацкім возерам
з сутонлівай назваю Люхава?
Вось зараз цягнік паверне
і мы на імгненне
сустрэнемся з ім
вачыма.

## Парцалянавы домік

На сорак першы дзень нараджэння
ты падаравала мне
спічасты парцалянавы домік,
падобны да віленскіх мураванак
з вуліцы Арклю,
дзе не разгубіліся б
ні Януш Радзівіл, ні Сымон Будны.
У доміка здымаецца дах,
і там можна запаліць свечку.
Тады ў неба маёй кватэры
падымаецца з коміна
бэзавае воблачка,

вокны ператвараюцца
ў кавалачкі бурштыну,
а блакітна-белыя сцены
робяцца цёплыя,
як кафля
бабулінай грубкі,
і аб іх хораша грэць
азяблыя на марозе рукі.
Калі ўмела прымружыць вочы,
у акне можна шмат чаго ўбачыць:
партрэт фанабэрлівага продка на сцяне,
бутэльку светлага віна,
срэбную цукерніцу з «марскімі каменьчыкамі»,
нас з табою за сталом,
драўляную лесвіцу на мансарду.
Потым прачынаюцца гукі:
чыркаюць запалкі,
скардзяцца рыплівыя прыступкі,
па якіх мы падымаемся ў спальню,
просіць не спяшацца
твой голас.
Мне падабаецца гульня ў чараўніка,
які адначасова
грэе дзіцячыя рукі аб кафлю
і цалуе цябе ўсюды,
куды могуць дацягнуцца
на хрусткай прасціне
вусны мужчыны.

Ты не ведаеш, што
паводле майго тэстаманту
гэтая парцалянавая маёмасць
ужо належыць табе.
Я абяцаю і там
прыходзіць раней за цябе
і ставіць на парэчкавую сурвэту
два высокія келіхі,
падобныя да буслінае пары
на скошаным поплаве,
а калі прыпазнюся —
чакай мяне на падвоканні
або ў кутку канапы,
скруціўшыся ў цёплы клубок
з ціхамірным дыханнем,
што пахне маладым целам
і старым горадам —
як у той дажджлівы вечар,
калі мы вярталіся з Вільні.

Памятаеш,
на сорак першы дзень нараджэння
ты падаравала мне
парцалянавы домік?
Тут мы будзем жыць,
легкадумна прамовіла ты,
не падазраваючы, што сказала
зусім блізкую праўду.





# Заставайся безыменнаю

Тут,
на хмурным ранішнім прыпынку,
мае веды пра цябе
абмяжоўваюцца тым, што
ты жывеш у суседнім доме,
у цябе точаныя ножкі
і ўзімку ты носіш футэрка з апосуму.
Мне — досыць.
Заставайся безыменнаю.
Я памятаю,
як цябе звалі
за залацістымі шторамі сну
ў душным азоне
нашай паўночнай сіесты,
памятаю,
як звалі кнігу на часопісным століку
і венгерскае віно,
што змывала апошнія бар'еры,
як звалі
твайго ласкавага пушыстага звярка,
што нясмела хацеў,
каб яго прыручылі.
Заставайся безыменнаю.
Што можна дадаць
у тыя зялёныя келіхі
*пасля*,
калі,
заплюшчыўшы вочы,
мы былі маладымі аленямі, якія,
не ведаючы мінулага і прышласці —
гарачы, потны філіял вечнасці
ў зялёным лабірынце лесу, —
асмягла збіраюць аксамітавымі вуснамі
белабокія журавіны
з прысмакам неўміручасці.
Заставайся безыменнаю.

# Эпітафія маёй котцы

Цябе звалі Бася,
а цалкам — Басота
(1992—1995),
і я магу прызнацца,
што любіў цябе значна больш,
чым абсалютную большасць
вядомых мне двухногіх істотаў.
(Тлумачэнні прагучаць пераканаўча,
але банальна.)
Я складаў табе
пацверджаныя сумнеўнымі пячаткамі
радаводы —
ад стрыечнай сястры
коткі бельгійскае каралевы
і ад бабулі ўлюбёнага ката

далай-ламы.
Я выдумляў табе
экзатычныя пароды —
ад тыбецкай барсістай
да радзівілаўскай белагрудкі,
якою ты афіцыйна лічылася
апошнім часам,
хоць была ўсяго толькі
дачкою вясковае рыскі,
якая падгуляла з тутэйшым
сібірскім эмігрантам.
Ты цёрлася аб ногі маіх таямніцаў
і даверліва ўскоквала ім на калені.
Нажлукціўшыся віна,
я чытаў табе свае вершы,
абзываючы пры гэтым знаёмых творцаў
графаманамі і ананістамі,
а ты,
круцячы вавёрчыным хвастом,
глядзела на мяне дакорліва,
як жонка.
Рыжы дваровы кот
залазіў на таполю
да вышыні чацвёртага паверха,
ты выходзіла на гаўбец
і ўскоквала на парэнчы,
і вы маглі гадзінамі
неадрыўна глядзець адно на аднаго
лімонавымі вачыма.
Гэта быў твой першы раман.
Ты любіла сядзець паміж кніжак
на маім пісьмовым стале,
беспамылкова займаючы сваю нішу
ў паставе вусатага сфінкса,
пільна ўглядаючыся
ў мае сінія іерогліфы і
старанна прыціскаючы
трохкалёрнаю лапкай
кожны новы спісаны аркуш.
Ты памерла
на пыльным гарышчы
сярод польскіх падручнікаў
і заходнебеларускіх календароў.
(Маючы ахвоту,
у тваім сконе няцяжка знайсці
нешта сімвалічнае.)
Магчыма, у астатняе імгненне
ты ўспомніла
пра мяне.

## Прага

У гэтым горадзе
я маю некалькі знаёмых мужчын
і, прынамсі, адну жанчыну.
Цягнік прыходзіць раніцой, і





ў той самы дзень
можна сустрэцца з усімі.
(Месцы даўно вызначаныя.)
Магістра Гераніма Пражскага,
прагуляўшыся па Карлавым мосце,
што нагадвае вясёлую дарогу
ў чысцец,
буду чакаць
з бляшанкай пльзенскага піва
ля каменнага вогнішча
святога Віта,
дзе я выцягну дыктафон,
каб запісаць адну з казаняў,
прачытаных магістрам
праз тры гады пасля Грунвальда
ў царкве Іаана Багаслова ў Віцебску,
дзе ён не галіў танзуры і,
смешна памыляючыся,
утрапёна прамаўляў перад вернікамі
па-беларусінску,
у выніку чаго
пяць тысяч маіх продкаў
выправіліся на падмогу гусітам.
З Францам Кафкам
убачымся
на старых габрэйскіх могілках,
дзе надмагілляў хапіла б на замак
або на брукаванку да Ерусаліма,
а пісьмёнаў — на Стары Запавет.
Лекамі ад збянтэжанасці
будзе няведанне мовы,
што надасць майму маўчанню
незаслужаную шматзначнасць.
(Урэшце, мне даўно вядома:
з пісьменнікамі
лепей абменьвацца
нё словамі, а позіркамі.)
Я прынцыповы вораг
аднастайнасці,
аднак
месцам сустрэчы
з Ларысай Геніюш
зноў будуць могілкі,
дзе пахаваныя
два прэзідэнты БНР і
закаханы ў маю візаві тэнар.
Магчыма, сярод помнікаў
і я нарэшце прызнаюся ёй
у каханні,
бо паміж намі
ўжо на пятнаццаць гадоў менш,
чым у тыя часы,
калі мы звалі яе Бабуляй.
Прафесар Карлавага універсітэта
Вацлаў Жыдліцкі
прызначыць сустрэчу
ў яго на Бенедыкцінскай,

над піцэрыяй
і над крыўдамі,
якія добра запіваць бехераўкай,
што афарбуе вечар
зялёнай гамаю,
чамусьці прынёсшы згадкі
пра паручніка Лукаша,
што лічыў усіх чэхаў,
якія гавораць па-чэшску,
нечым накшталт карбанарыяў.
Набярэжная Влтавы
будзе філіялам
гэтага таемнага таварыства,
прапанаваўшы багатыя магчымасці
параўнання пражскіх ножак
з тваімі,
якія захочацца разбудзіць
у ранішнім нумары
цёплага восеньскага гатэля,
над кавярняй
са свойскаю назвай «Чартоўка»,
дзе ў спісе заўсёдных кліентаў
значыцца пара лебедзяў,
што будуць цярпліва чакаць,
пакуль мы пакінем
яхту нашага ложка,
спусціўшыся на прыстань,
дзе можна карміць белых птушак,
замаўляючы бурштынавае віно,
пакуль Градчаны
не паплывуць па-над местам,
як славянскія думкі
Влтавы.

## МАНСАРДА

Аднойчы прачнецца тэлефон,
што гаварыў некалі
тваім голасам,
прачнецца на мансардзе,
якую,
утульна ўладкаваўшыся
паміж попелкай
і томам «Махабхараты»,
вартуе
масянжовы Буда,
на мансардзе,
якая ў тое лета
была канспіратыўнай кватэраю
матылькоў-крапіўнікаў,
на мансардзе,
якой даўно няма,
на мансардзе, якую адчыняе ў свет
геаграфічная мапа Еўропы
на ўсю сцяну,
і,





валяючыся ў ложку,
мы выбіраем на ёй
краіны і гарады,
да якіх яшчэ ненашмат далей,
чым да маладзіка,
што да замарачэння гушкаецца
на ясені за акном,
над лавачкай, дзе
мы хацелі ператварыцца
ў дрэвы,
каб спыніць
бурштынавае імгненне
таго вечара,
і прыдумалі з гэтай прычыны
ерэтычную малітву,
вартую вясёлага аўтадафэ
на Высокім рынку,
што была запісаная
тваім рок-н-рольным почыркам
і закаркаваная
ў зялёную бутэльку
з-пад вясёлага напою,
якая да смерці перапалохала
сапрана і альты
нашых верных канфідэнтаў
і канфідэнтак
з закінутай паркавай сажалкі,
каб спыніць
бурштынавае імгненне
таго вечара,
калі свет быў неўміручы,
як перад шостым днём
тварэння.
Аднойчы на той мансардзе
прачнецца тэлефон,
што гаварыў некалі
тваім голасам,
і я
здыму трубку.

## ДВОЕ ВАР'ЯТАЎ

У бабулінай прыдняпроўскай вёсцы,
дзе ціха жывуць
мае дзіцячыя радасці
і грахі,
дзе ў палове хатаў
начуе вецер
ды марцуюць здзічэлыя каты
(іх усё-ткі не варта блытаць
з душамі гаспадароў),
сёлета з'явіліся
новыя жыхары.
У нецвярозы нядзельны адвячорак
за тыдзень да яблычнага Спаса
прыйшлі са станцыі

мужчына й жанчына
з адной абшарпанаю валізкай
з жалезнымі набойкамі на кантах.
Яны выбралі
пустую хату
каля Іллюцінай крыніцы,
дзе стаяла некалі лазня,
у якой я ўпершыню саграшыў
з дзяўчынкаю-аднагодкай,
і атабарыліся там,
завесіўшы вокны
заместа фіранак
старымі газетамі
з партрэтамі Гарбачова.
Кажуць,
яны размаўляюць
на нейкай тарабарскай мове.
Кажуць,
яны пішуць нешта
ў вучнёўскіх сшытках,
уладкаваўшыся на сонейку
каля рэчкі.
Кажуць,
яны ўкленчваюць штораніцы
перад Іллюцінай крыніцаю
і моляцца на ваду,
а потым
цалуюцца й ідуць у хату
любіцца:
ён — сівы як лунь,
а яна — маладая.
Кажуць,
яны збеглі
з Магілёўскае вар'ятні.

Кажуць мне ўсё гэта
сваякі і суседзі
і просяць
пазваніць, куды след,
каб прысылалі машыну.

Гляджу я ўранні праз рэчку
на дзве постаці
ля Іллюцінай крыніцы:
стаяць яны на каленях,
а потым
бяруцца за рукі і
ідуць у хату.

Можа і я
прыйду калі-небудзь са станцыі
з пашарпанаю валізкай
перад яблычным Спасам.



Ігар СІДАРУК | У нас

# КРЫК

## Фарс-малітва



**Дзейныя асобы:**

**ШКРЫБУДАБ.**

**ДРЫН,**
**ён жа ДРОБ,**
**ён жа ДРОТ.**

**АБЗЕЛЯ,**
**яна ж ЛЯСКАТУНКА,**
**яна ж ГАРБУХА.**

*Электронны гадзіннік, які адлічвае час назад, чыгуначны семафор, чорна-белы шлагбаум.*
*Падземныя люкі, птушынае пудзіла, дзіцячыя арэлі.*
*Пралітае віно, бохан хлеба з усаджанаю сякераю.*
*Час — няпэўны...*

—Яны яшчэ жывыя?
—Здаецца..
—Як вы сказалі? Здохлі?
—Ну, не зусім... Я паглядзеў — яшчэ варушацца.
—Добра!
—Але не давайце, каб надта. Калі што..
—Што?!.
—Яшчэ чаго! Так — каб паміж: і не там, і не там. . Каштоўны тавар!
—Ах, гэта так рамантычна! Востры нож — тумановым світанкам! У галаву тады лезуць узнёслыя думкі! Вось, вось —маленькія дзеткі! Маленькія дзеткі гушкаюцца на арэлях! І падаюць, падаюць, а арэлі ім зверху — па галаве! І дзеткам — балюча, балюча..
—Садыстка. Нездарма ў цябе вырас горб. Гарбуха няшчасная!!
—Я шчаслівая
—А лічыш толькі да трох!
—Чаму толькі да трох? Раз, два... Раз, тры... Тры, раз. Два, раз, тры. Тры, два, раз...
—Ясна. І да трох не ўмееш. А яшчэ Гарбуха.
—Ці Гарбун .

*Паўза? Ці толькі так падалося?*

—Гаворапь, за іх шмат дадуць?
—За каго?
—Ну, за гэтых..
—А! Дык жывыя ж! А за жывых шмат не даюць.
—Вой, што я вам скажу! Быў са мною адзін выпадак. Такі выпадак, што ўспамінаю, успамінаю..
—Макрэеш?
—Ага. Во, вось тут І вось тут, во. ага. ага... памацай!
—Сціхні! Ляскаеш, як тая Ляскатунка. Ну, які там у цябе выпадак?
—А, ага! Значыць, панове, слухайце. Іду я неяк па полі Іду сабе, іду, вось так, па полі, значыць, іду, іду, ногі перастаўляю, вось так, вось так, па полі тым самым. іду я, іду, а кругом усё поле, поле..
—Ну, далей што?
—Вой, ты ж усё збіў! Усё трэба спачатку!
—Не трэба спачатку! Далей што?! Па полі ты йшла!
—Ага, ішла! Па полі, значыць! Ішла я! І што?
—А нічога! Няёмка стала! Ты, бедная, спужалася і як...
—(Усе разам адначасова.) Крыкнеш! — Шваркнеш! —Бразнеш! — Ляснеш! — Грымнеш! — Пырснеш!
—Плясн еш!
—Не! Я-як пабягу! А ё-о-он — за мною!
—Хто?!
—Як хто? Той — у портках!
—У портках?
—У портках.
—Порткі — адзіны сродак для ўмацавання непарушнасці нашае нязрушнасці! А навошта ты ў поле пёрлася?
—А там бомзлікі растуць — кветачкі такія. Я іх люблю. Нюхаць люблю.

*Нечакана да нечага прыслухоўваюцца. Услухоўваюцца.*
*Слухаюць-слухаюць. І вочы ў іх — шалёныя.*

—Яны! Яны! Яны шчэ жывыя! І есці просяць.
—Ат! Я ж прасіў! Угаворваў! Умольваў нават! Вы што, здзелку захацелі сарваць?!
—Не.
—Не? Дык ідзіце й зрабіце, як трэба. Інакш — на іхняе месца!
—На іхняе месца?
—На іхняе месца?!
—На...
—іх...
—ня
—е..
—ме.
—сца!..
—а.
—а?
—А-а!
—Ха! Ха-ха!
—А-а-а-а-а-а!

*І пачынаюцца скокі, і пачынаецца вэрхал.*

—А памятаеце!.. А памятаеце, як быў вечар! І мама! І пальцы вуліцаў ламала Коўна[1] Бо вечар — забілі. Засталася толькі тэлеграма. .

[1] У Маякоўскі.





—Гэта ж Маякоўскі!
—Фашыст ваш Маякоўскі. Любіў глядзець, як паміраюць дзеці
—Я таксама люблю. Я — што?
—Вы? Не! Вы — наш! Першы! Любімы! Найлюбімейшы! Першапрай. .прайду...прайдзі..
—Першапраходчык!
—Абходчык!
—Заводчык!
—Наводчык!
—Лётчык!
—Здатчык!
—Сталепракатчык!

*Нечакана чуецца адчайны грукат. Быццам грукаюцца ў дзверы, ці ў люк, ці ў нечыя грудзі, а можа, і ў самое неба...*

—Што ж вы, га?! Абзеля, Ляскатунка! Гарбуха! Дрын! Дроб! Дрот! Сходзіце й паглядзіце! Яны павінны крыху варушыцца! Але не болей!
—Не болей за што?
—За мезенец на вашай назе.
—Якой?
—Левай?
—Правай! Валасатай і неадцятай!
—Пакажыце.

*Паўза здзіўлення.*

...Як варушыцца мезенец на правай назе.
—У Шкрыбудаба даўно дзве левых нагі! Вы што — забылі?! Таму варушыць будзеце вы! Ну, варушыцеся!

*(Здаецца, пайшлі...)*

Пайшлі. «И пошли они, солнцем палимы .» Стоп! ..."А хто там ідзе, а хто там ідзе? У агромністай такой грамадзе?"

*І раптам вяртаюцца пайшоўшыя, каб адказаць рашуча на пастаўленае пытанне.*

—Курды, кітайцы, малайцы!
узбекі, таджыкі, нанайцы!
французы, мадзьяры ды грэкі!
Іспанцы, жамойты, ацтэкі!
шведы, цыганы, аукштоты!
японцы, мардва, гугеноты!
бразільцы, расейцы, ангельцы! —
Сядзібы адной аднасельцы!

—Вон! Вон! Дур-рныя.
—Сам спытаў.
—Ідыёты! Я верш чытаю. Купалаўскі.
—А! Калі купалаўскі...

*Зноў сыходзяць.*

—Тавар! Тавар — грошы — тавар! Не! Грошы —тавар — грошы. Жывое — тавар харошы! Асабліва дохлае. Чым болей дохлае — тым болей даюць! Дыялектыка! Гістарычна-утапічны матэрыялізм! Закон адзінства і барацьбы! Дзякуй, дзякуй, дзед Карл Маркс! Ты для нас —

як мёд для мас! Гандаль целам — гэта клас! Толькі вось яшчэ жывыя, гады! Есці просяць! Вы бачылі тавар, які просіць есці? Ненажэрная некандыцыя! Вытворчы брак, як кажуць прамыслоўцы. А мне ж ніхто не даваў гэткага права. То няхай.

*Вяртаюцца пасланыя...*

—Ну што?
—Як і раней
—Варушацца?
—Варушацца. Няма іх там.
—Як няма?
—А так! Навошта было класці ў бочку сухія гуркі? Гуркі ў бочцы — небяспечна! Шпіянаж і падазрэнне!
—Няма. Нікога няма. А так хацелася кахання! Каб шапталі.. Каб гладзілі пяшчотна. Нават скарузла... У прыцішаным пакоі. . У рамонкавым ложку... На шаматкіх прасцінах.. На фартэпіяна! На більярдным стале!
—На більярдным. Няма кахання
—Няма? А што?
—Гуркі ў бочцы! Падазрэнне! Шпіянаж!
—А яны?
—А што яны? Яны пайшлі, пабеглі, паляцелі! Да зораў высокіх, да нябёсаў далёкіх, у вырай-дарогу, да светлага Бога.
—Аблога!!!
—А-а-а-а-а-а-а!
—Ах! І я хачу!
—Хадзі! Глядзі!!
—??!
—На стале. Більярдным.
—Канстытуцыя — дровы! Прэзідэнт — элемент..
—Крымінальны?
—Сумліў — сцвярджальны! Права на рублікі — заваёва рэспублікі! Права на танкі — адмова ад абаранкаў! Адмова —сваячка каровы! Карова рог мае барвовы Наскрозь працінае.
—Асанну Шкрыбудабу спяваем!
—Прынясіце мне бомзлікаў Пакладзіце ля ног.. Выпаўзуць чародкаю нябожчыкі на мурог Пад месяцам чорным пагрэюцца, у вусны мяне пацалуюць, самотай агорнуць сэрца І павабяць, паклічуць у татаву хату ..
—А плата! Ваш пацалунак — пусты рахунак! Чым болей пацалункаў — тым болей рахункаў! (Раптам плача.) Мы —дзеці аднаго таты! А тата не мае хаты! Бо тата спаліў нашу хату! А хата знішчыла тату! Якое свята! Чуеш, гарбаты?
—Чую. Сукі вы ўсе.
—І пахне мята..
—Гады! Здрада!
—Здрада! Здрада! Здрада!
—А ты й рады...
—На рахунку — грошы!
—Вошы?
—Хопіць! Тавар — харошы! Яшчэ быў жывы! . А вы?! Не зберaглі, не ўглядзелі..
—Мы білі!
—А білі?
—У лёхах любілі .
—Любілі ці білі — усё адно будзем у магіле! Дзе тавар?
—Капрал! Скончым жыццё — распачнем карнавал! Я на яго прастытутак з бардэля паклікаў. З таго, што заўчора згарэў...
—Ах, не вер, мілы мой, не вер! У бардэлі палаючым тым мы ляцім, мы дрыжым, мы не спім. Бо таму, хто кладзецца там спаць, шэпчуць ласкава вусны: Ты — курва! А мы ласкі не хочам, не хочам, нам бы толькі — у шэрыя вочы, нам бы толькі — ціхія словы, нам — кліенцік плюгавенькі, плёвы, каб хацяб скрозь труну цалаваў, гараваў, дараваў..
—Я не краў!!!





*Паўза. Доўгая паўза...*

—Паслухайце, вы! Яны былі яшчэ жывыя! І цяпер іх няма! А грошы — пераведзеныя! І мне адказваць па вэксалях!
—Нам усім адказваць па вэксалях.
—Але розніцу аплачваю я!
—Якую?
—Паміж учарашнімі сардэлькамі й заўтрашнімі дэрсрулькамі! Паміж цукровай костачкаю і цыяністай храстачкаю! Паміж сексуальнай сутанаю й манаскай «Мантанаю»! Паміж чорнымі марамі й белымі нарамі! Паміж вірлівымі выгодамі й юрлівымі гадамі! Паміж спісаным ваўчарам і сапсаваным вечарам!
—Вам сапсавалі вечар? Хто гэты нахабнік?
—Гарбаты! Ці гарбатая.. Гарбатыя заўсёды псуюць вечар.
—Гарбаты вечар заўсёды псуецца.
—Вечар заўсёды псуе гарбатых.
—Вечарам заўсёды псуецца гарбатасць.
—А што, калі..
—Калі — што?
—Што — што?
—Калі — калі? І што?
—А!..

*(Нехта раптам рэзка затуляе сам сабе рот. Нехта, як яму здаецца, аб нечым здагадваецца.)*

—Не ляскай!
—А буду! Ляскатунка, трытатунка, кракатунка, сраматунка, цірлітунка, клекатунка, шклякатунка, фыркатунка, хлюпатунка, клекатунка, ляскатунка, трытатунка, кракатунка. .
—Стой! Што цябе так напалохала? Тут нікога ніколі не было!
—Тут былі бомзлікі.. Кветкі такія. Яны пахлі трупамі.
—Кветкі, якія пахнуць трупамі,— ужо не кветкі.
—Трупы, якія пахнуць кветкамі,— ужо не трупы
—Ну добра, добра. Нам трэба сабрацца, аб'яднацца, праспацца, прачухацца!
—А мы не будзем, не будзем. У нас — купкі, мы —кропкі.
—Не кропкі, а попкі! «Попка» — якое смачнае слова! Ружовая попка нованароджанага! Прывабна-жаданая попка спакусніцы! Акадэмічная попка жонкі! Попка — як неабвержны доказ існавання цэнтра Сусвету!
—Ах, пакажы, пакажы! І гэта ты называеш цэнтрам Сусвету?
—Кхм!..
—А цяпер паслухайце мяне! Хопіць попак, кропак і купак! Тут, нядаўна, хвіліну таму, быў тавар! Яшчэ жывы, каштоўны, напаўдохлы тавар! Была падпісаная найвыгодная здзелка, І нішто не магло перашкодзіць яе заключэнню! Ажыццяўленню! Увасабленню! Колькі гадоў я йшоў да яе! Як усё добра пачыналася!. Яшчэ тады, калі я нарадзіўся маленькім... Усе нараджаюцца маленькімі!. І не мараць ні аб якіх здзелках! І думаюць, што жыццё — поле!.. А яно аказалася лесам! Дзікім, непралазным, страшэнна-прывабным лесам! Так, так, прывабным! І я пайшоў у яго, я заблукаў у ім! Думаеце, я плакаў? Не, я ціха сядзеў на палянцы, я ціха прасіўся да мамы... А замест мамы прыйшла чужая цётка, а з ёю дзядзька чужы, а з імі яшчэ й яшчэ — чужыя цёткі і дзядзькі. І яны ўзялі мяне за руку, яны павялі мяне, павялі з чыстай паляны па дзікім, густым, непралазным лесе! Пакутна доўгаю была тая дарога! І калі ім.. (паўза) нам. (паўза) усім. . (паўза) хацелася есці, яны спыняліся, яны адрывалі маю руку ці нагу або вырывалі жыўцом кавалак мяса, выразалі лапатку і елі, елі зусім сырымі! І чмокалі, і чмякалі, і чвякалі! І я еў, бо таксама быў галодны, бо я верыў ім, бо я на іх спадзяваўся! А яны... Яны кінулі мяне аднаго, як толькі ўбачылі ўскраек. Ціхі, самотны ўскраек лесу! Яны пабеглі на прасвет паміж дрэвамі і раптам праваліліся, захраслі ў багне, сталі крычаць, задыхацца і плявацца гразёю, клікаць на дапамогу Ды што я мог, без рук, без ног, мне б самому хто дапамог!.. Я скручваў ім дулі, яны —патанулі Я смяяўся, умываўся слязамі і крывёю, у твані шыпела сэрца нязлое, я з балота яго зубамі дастаў, бы сабака шалёны, на шматкі шкамутаў, гарачым ірваў і глытаў! А потым... Потым я вырас. Мяне ўжо не любілі
—Забылі..

—Забілі...
—А пры чым тут тавар?
—А пры тым, што з таго дня, з таго самага дня, я задумаў сваю адмысловую здзелку!
—З таго дня, як вырас?
—Ці калі ўжо не любілі?
—Забылі..
—Забілі...
—О, не! Я не дам пра сябе забыць! І вярну! Вярну! Мне! Наканаванае! (Цішэй.) Або вернеце вы. Усё. Я пайшоў. Пайшлі, Гарбуха.
—Пайшлі. (Застаецца, аднак, на месцы.)
—Шукайце! (Знікае.)

*Паўза.*

—Кхм, цікава.
—Слава! Слава!
—Праява. Гуркі ў бочцы...
—Хрэн у сарочцы! Ён нешта сказаў пра тавары?
—А ты жадаеш? .
—Жадаю, жадаю! Ад жадання я паміраю! Я нават гатова...
—Словы! Хадзі сюды
—А ты . малады?
—О, я — жарабок! Скулу мне ў бок!
—Ах! Лепей яцвяг!
—Няўжо застаецца адзіны страх?..
—Не, ваша эксцэленцыя! Яшчэ застаецца патэнцыя!
—А хто такія жывыя?

*(У крокавым рытме.)*

—Крывыя, сляпыя, дурныя!
Глухія, п'яныя, любыя —
У парках, у высыпцы, ў трасцы!
І нейкі смярдзюх у калясцы!
Паненка ці бабця з касою,
Касмадзям'янская Зоя!
Дурка, ачмурка, аблуда,
Гадкі татуся Юда,
Чароўная блокава Дама,
І Харэ, і Крышна, і Рама!

*(Пацїху, разгарачаныя, спыняюцца.)*

—Так мы нічога ня знойдзем. Таму камандаваць парадам буду я!
—Ты яму верыш?
—Я веру толькі гукам. Пустым, учарашнім гукам. Так лепш шаткаваць капусту
—Пуста. Мы тут удвох.
—Лепш учацвёра. Добрая выйшла б афёра!
—Правільны націск — «áфера»!
—У мёртвых была яшчэ вера.
—А ў жывых?
—Халодная фінка. На чацвярых.
—Энэ, бэнэ, тэлеграма,
Выйшаў вожык з-за туману,
Дастаў фінку, ўсіх стаў біць,
Каму ў лоб — таму вадзіць!
—Дроб! Табе ў лоб?





—Мне! Бо я — камандзір! Вынішчальнік усіх паразітаў! Дынаміту! Прашу дынаміту!
—. І ляжыць ён у ложку, забіты, а вакол — валошкі і жыта, і просіць хлебца ён трошкі, хоць крошку! Як ж маленькаму ножкі цалую, ты пайшоў, паляцеў, я дарую..
—Зноў выеш? Колькі можна адно й тое ж?
—Можна, можна! Мы нічога! Ніколі!
—А мы — не шукаем.
—За небакраем. А тут?
—Капут! Усім — надыходзіць капут! Зэр гут?
—Падыміцеся, ідзе суд.
—Дзе?
—Дзень?
—Што пнём аб саву, што савою аб пень! Усё роўна будзе няроўна.
—Паехалі ў Коўна. Там пальцы вуліцаў ламаюцца. Там —вечар! . Там — кахаюцца!..
—Пад ліхтарамі
—А што я скажу маме?
—Скажаш! І ўсё ёй пакажаш! Як ірвала ты кніжкі ад розуму лішку, як на Каляды ты абжэрлася мармеладам, як за кожным смаркатым ляцела, бо юначае цела па іх млела, хацела, шалела! Як валялася на сенавале і цябе, нібы куру, таптал і, толькі босыя ножкі .. ў сандалях. . Ты пакажаш ёй чорны сіняк — ад пяшчоты залішняе знак, і схаванага ў тонкай кашулі ненароджанага сынулю!
—Мы з ім побач у жыце заснулі.

*(Быццам аддаляюцца адзін ад аднаго.)*

—Я не ведаю вас..
—Вы нас падманулі. Вы нас абмінулі... Вы пабеглі шукаць жывых. .
—Бо не псіх я, урэшце, не псіх! Так, праходзіў па полі цягнік, ён спыніўся, пачуўшы мой крык, у яго я ўскочыў-ускочыў, ды расплюшчыла коламі вочы! Я не ведаю, куды йшоў гэты цягнік! Але побач, са мною побач сядзела найпрыгажэйшая дзяўчына, мая любая, мая адзіная Абзеля! Нам не трэба было гаманіць, нашыя рукі ды рухі гаварылі за нас і для нас, і толькі хаты, дрэвы й дровы, снягі ды сцягі мільгацелі за вокнамі! Памятаю, як яна нахілілася да мяне, як павеяла ад яе растаўшым гаркава-салодкім дымам, ашаламляльным пахам няспраўджанага шчасця Як крыху зірнула яна з-пад ілба «Ты мяне не пакінеш?» — спытала. А я толькі ўсміхнуўся й нічога не адказаў А ў вагоне было поўна людзей, і поўна прыгожых жанчын было ў ім. А якія ногі, якія там былі ногі! І боль у вушах, і скрыгат зубоў — так хацелася пазнаёміцца з кожнаю, падсесці да кожнай бліжэй, кожнай сказаць нешта прыемнае. Толькі . Толькі я баяўся! Я саромеўся, я так шкадаваў, што мне коламі расплюшчыла вочы і што я магу толькі бачыць, але не магу гаварыць! І як адчайна глядзела на мяне Абзеля! У Абзелі былі глыбокія цёмныя вочы, а я бачыў яшчэ глыбейшыя й цямнейшыя, у маёй мілай Абзелі былі блакітныя мяккія валасы, а манілася да блакітнейшых і мякчэйшых, у маёй роднай, каханай Абзелі было жаданае й вабнае цела, але білі электрычнасцю жаданейшыя й вабнейшыя! Але я, як апошні ідыёт, як несусветны дурны тупіца,— саромеўся! Я не мог крануцца нават з месца! І як адчайна глядзела на мяне Абзеля! І раптам пачаўся доўгі, цёмны, бясконцы тунель. Успыхнула й адразу знікла святло. Далібог; яны самі кінуліся да мяне! Я нават не бачыў іхніх твараў! Толькі вільготныя вусны, толькі дзікі пажадны шэпт, толькі цвёрдыя, механічныя, сінтэтычныя жаночыя грудзі, грудкі, яны прыцiскаліся да маіх рук, твару, рашчаўленых, распляжаных вачэй! Я паміраў, мне было страшна. Страшна й прыемна, я жадаў іх, я прагнуў іх, я ненавідзеў іх! О, гэта самы прыемны момант у маім жыцці!. І гэтак жа нечакана, як пачаўся, тунель раптам скончыўся. Ніякіх жанчын не было побач Усе сядзелі на сваіх месцах, гэткія ж прыгожыя, чапурыстыя, недаступныя. Тады я зірнуў насупраць і здрыгануўся ад жаху· маёй Абзелі, маёй мілай чароўнай Абзелі болей не было! Побач сядзела нейкая Ляскатунка...
—Гэта была я.
—Ты?!
—Я. Я была з табою побач заўсёды
—Мы абсалютна чужыя людзі! Як мы можам быць разам?

—Таму й разам, што чужыя.

*Паўза. Доўгая, бясконцая паўза.*

—Абзеля. Ляскатунка.
—Я не Абзеля І не Ляскатунка!
—А хто?
—Я Гарбуха.
—Рана! Рана табе быць Гарбухаю. Ты — прыгожая.
—Так?
—Так.
—Позна.
—Позна шукаць жывых! Запрашаць на каву — не позна.
—Ты мяне запрашаеш на каву?
—Ага. Жалудовую.
—Чаму жалудовую?
—А іншай няма. Выпіў Шкрыбудаб.
—Шкрыбадуб?
—Дыбушкраб!

*(Смяюцца.)*

—А ты харошы
—І ты
—Хочаш яшчэ кавы?
—Кавы?
—Кавы
—Той, як калісьці?
—А калісьці як?
—Ты не памятаеш? Ты не памятаеш. Ты — не памятаеш! Нічога, нічога! А чорная куча металалому? Разбітыя драўляныя скрыні? Мая галава на тваіх каленях? І пах. гэ-ты пах... зямлі, цыбулі, тваіх рук, шакалады . Дождж, ішоў дождж, дождж прарастаў праз твае далоні Трава, кругом уздымалася трава, і пляжылі яе тралейбусы, і мы сядзелі ў кожным, у кожным на апошнім сядзенні Ты смяяўся, крычаў недарэчна, ты казаў . Чакай, што ты казаў? Але ж ты — не памятаеш! І гадзіннік штоночы, ён біў, ён біў па-сапраўднаму, днём час фальшывы, дзень псуе ўсе гадзіннікі, а мы ляжалі, мы слухалі, мы лічылі хвіліны, хвіліны, хвіліны . І пальцы лічылі, і гонгі, і вусы ў нашае кошкі, і крошкі, і дошкі, іх згружалі п'яныя рабочыя. Ці памятаеш? Як прыцёгся лістапад, таксама п'яны, ты доўга распранаў яго, правёў на кухню, вы пілі й білі посуд, вам было мала, тады вы вынеслі прысуд, вырак адчаю
—Ты паіла нас чаем...
—І зноў: верасовы мёд, Картасар, кот слухае плэер, свечка знямоглася ў крыку, ты выкідваеш мяне з акна, і я падаю ў твае абдымкі. А потым... Потым ты захапіўся птушкамі Птушкі, птушкі, кругом адзіныя птушкі! Навошта ты ім адрываў галовы? Яны й без таго былі дохлыя!
—Мёртвыя
—Дохлыя! Твае птушкі заўсёды былі дохлыя! Шкляныя вочы, смярдзючае пер'е, толькі й маглі, што гадзіць. Добра, няхай,— думала я,— гэта тваё захапленне, твая калекцыя, збірай, калі болей нічога не ўмееш. Я хацела, як лепей, хадзіла ціха, маўчала доўга, лётала мала Усё, усё я рабіла, як ты хацеў! У мяне былі рукі, ты панёс і прамяняў іх на нейкую гожую птушку А ў мяне засталіся толькі сталёвыя палкі. Потым ты птушку выкінуў, а сам прыпоўз ад яе на куксах, на крывавых збітых каленях. Я згадзілася на аперацыю, чыгунныя балванкі ў мяне замест ног. «Я — Праметэй! Я — Моцарт!» — крычаў ты. «Гарачая пячонка! Гарачыя пячонка і ныркі! Арлінае пудзіла замовіла мне шыкоўную музыку!» То быў твой крык, твае словы, і мая пячонка, мае ныркі Чуеш? Цяпер тут рыпяць іржавыя спружыны, мой Праметэй. Кожную дзюбатую асобіну ты хацеў акальцаваць, але толькі адчайваўся, бо блытаў лацінку з кірыліцаю. Чарнапёрая — лацінка, белапёрая — кірыліца.. Нічога ў цябе не атрымлівалася, ты адразу пра іх забываў, даўно разляцеліся твае дохлыя птушкі. А я — так і засталася з іхнімі колцамі, з іхнімі бранзалеткамі ды мянушкамі. Ты сядзеў, ты плакаў, ты цалаваў мае





чыгунныя ногі, а я... Я.. Хацела, спрабавала і не магла.. Бо што можа зрабіць раскурочаная механічная лялька? Нейкая ляскатунка... Ляскатунка, трытатунка, клекатунка ..
—(Прыцішана.) Не трэба.
—Прабач. (Доўгая паўза.) А што трэба?
—Што трэба? Мілая, каб я ведаў! Можа... яшчэ кавы? Мілая.. Можа, сказаць толькі гэта?
—Што — гэта?
—Мілая...
—Мілая?
—Так, мілая!..
—Мілая. .
—Мілая, мілая, мілая!
—Як добра... А ты... так і жывеш без вачэй?
—Навошта мне вочы, калі ты? Навошта мне ўсё, калі ты, мая мілая Абзеля?!. Што зрабіць для цябе, харошая?
—Для мяне?
—Для цябе! (Невялічкая паўза.) А давай, а давай так, каб стужка — назад! Каб зноў той цягнік! Каб зноў у яго ўскочыць! І ўсё лішняе — выразаць, выскрабці, знішчыць! Каб чыстая стужка! Каб святло ў тунелі! І каб усе, каб усё — у суседнім вагоне!
—Не трэба. У добрым кіно не бывае лішняга. А я не люблю дрэннага кіно.
—Я выскрабу!
—Не выскрабеш Нельга забіць мёртвае. Мёртвае, крохкае цельца, што плача.
—(Разам). Бедны наш зайчык!..
—А вечар?
—А што вечар. Вечар міне таксама.
—У нас была мама
—У нас было поле.
—І ролі.
—І воля.
—І каша без солі.
—І соль без кашы.
—А яно — наша? . Ну не плач, не плач.
—Пусці! .
—Я куплю табе калач, пакатаю на кані, ты за вус мяне цягні!
—Які ты смешны!
—І грэшны, Абзеля, і грэшны
—Гэта нічога. Памолімся Богу
—У рамонкавым ложку.
—У пахучым гарошку.
—Сярод лета і мяты .
—Божа праведны, сняты.
—Хто сказаў? Хто сказаў, што не можа быць шчасця? Хто?.

*Нечакана з'яўляецца Шкрыбудаб.*

—Я! Вы знайшлі, што шукалі?
—Знайшлі.
—Дзе?
—У рамонкавым ложку .
—У пахучым гарошку
—Сярод лета і мяты ..
—Захацелі за краты? Вы ёсць салдаты! Або, каб іх брала халера, гэтыя, як іх,— жаўнеры!
—Стрэлам — у веру?
—У ружы...
—У цела..
—Гарбуха, ты ашалела?!
—Я... сказаць вам нешта хацела.
—Дзеўка! Не псуй мне здзелку! Вы знайшлі, што шукалі?

—На тым вакзале нас не чакалі, нас камянямі там сустракалі, мы ж — стаялі, ім на флейце накцюрны ігралі, закаршэліны — даравалі...
—Эх, Гарбуха! Якая цябе джгнула муха? Хіба можна ўсім даравацъ?

*(Заўважае набліжэнне.)*

Стаяць! Ісці! Стаяць! Ісці! Стаяць! Аць! Ножку ўзяць!!
—Шкрыбудаб...
—Чалавек — слаб!
—Слабы, далібог, слабы ..
—А вы — рабы! Вы знайшлі, што шукалі?
—Каралі мне каралі парвалі.. Ах, не бі!
—Зразумей!.
—Разумнае..
—Сей!
—Зразумей!..
—Добрае...
—Сей!
—Зразумей!
—Вечнае..
—Сей!
—Зразумей!!!
—Зразумець? Каму трэба маё разуменне?! Шмат стаяла тут на каленях, і кожнага я разумеў, і кожнаму я дараваў, і кожны, удзячны, у твар мне пляваў! Я пляўкі чужыя крывёю сваёю змываў. Добра, я думаў, так трэба, з крывёю прыходзіць смак хлеба, з чужымі грахамі — смак неба. І вось, надышоў дзень свята, у шлях я сабраўся заўзята, а неба — неба было ўжо занята! Тыя, што прыходзілі, тыя, што плявалі й малілі, да сябе не ўпусцілі, сказалі: «Ляжы ў магіле!»
—Даруй...
—А!. (Прагаворвае аднымі вуснамі яснае й выразнае слова.)
—Што ж нам цяпер рабіць?
—Забыць! І лета, і мяту .
—Крывавую дату ..
—Светлую гадавіну...
—Па ненароджаным Сыне.
—Праўда твая! Дроб!
—За вас разбіваю лоб!
—Дрот!
—Зноў узыходжу на эшафот!
—Дрын!
—У руках — АКМ! У ім — магазін!
—Ану, вашу маць, жывых адшукаць! А ты, Ляскатунка, давай трытатунку!
—А!.. А! . На варце. . За вярсту..
—Памаліся кусту!
—Трытату (Раптам спыняецца.) Я не буду
—Юда!
—Юда — вядомы паскуда. Вы любілі паскуду?
—Я, бы той псіх, любіў тады ўсіх!
—А варта й цяпер, як тады... (Да іншага.) Хадзі сюды. А яго ты не слухай, не слухай..
—Суха. Усё даўно суха.
—А ў вуха?
—Ён не чуе. Ён глухі і сляпы. Ён — даруе.
—Я... Не змагу я...
—Не, ты зможаш, ты зможаш...
—Ну й рожа!
—А ты не глядзі Я чакаю, хадзі... Хадзі, мой харошы, у лён, у валошкі...
—А я? Пра мяне вы забылі?!
Праўда твая — у магіле. Хоць гандлюеш яшчэ ты жывым, у магіле ты сам...





—Памаўчым.
—Як і дваццаць стагоддзяў маўчалі.
—Гэта вы мне ў твар плявалі! Закапалі мяне! Растапталі!
—Мы — не хацелі. Мы незнарок.
—Мы думалі, што ты — Зрок. А ты аказаўся — Тлен.
—Ну й хрэн!.. Эх, вы! Я такі ж, як і вы,— жывы. Як і вы, я смяюся і плачу, і такі ж у мяне хвост сабачы, і гэтак жа перажываю, калі ў краме здачы не дабіраю!..
—Рэшты, напэўна...
—Так, мае мілыя, пэўна! Я вас ненавіджу! Я вас — не пакрыўджу .
—Мы таксама цябе не любілі.
—Забылі.
—Забілі.
—Я забіў сябе сам. Яшчэ там, на тым дзікім балоце, па ўласнай ахвоце, калі з'еў сваё сэрца, без солі ды перцу! Быў — чалавек, стаў — звер.
—І што цяпер?
—Ах, ма шэр! Каб я ведаў! У рэстарацыях лепшых абедаў, начаваў бы ў шыкоўных гатэлях, спаў бы ў мяккіх, пухнатых пасцелях, пляжыў пляжы б у новых «Таётах», прэстыжную меў бы работу, цалаваў бы прыгожых жанчын!..
—Ты — свін?
—Што ж застаецца — напіцца? Забыцца? Задушыцца?
—Маліцца..
—Маліцца!.. Маліцца! Толькі я — не ўмею.
—Ветрыкам вее.. Давайце разам. Збэшчаным Словам...
—Вар'яцкім Часам...
—Малітву складаем.
—Хоць не ведаем як, хоць не знаем...

—Даруй, Усявышні, што жылі, што не ведалі, што рабілі, што агонь уначы распалілі, спалохаліся, патушылі... Даруй нам памылкі нашы, што ішлі па шашы, нібы Саша, і сушку смачна смакталі, і было, нібы Сашы той, мала! Даруй, што былі сляпыя, кірпатыя, злыя, рабыя, што не мылі раніцай шыі, ды затое мыліцы мылі, хоць люстэрка было — ды разбілі! Даруй, што ўчора, заўчора мы хавалі цябе па каморах, па падвалах, кладушках, гарышчах, дзе вятрыскі шалёныя свішчуць, і дзе любяць хавацца дзеці, ах, як вочкі ў цемры іх свецяць! А ці ёсць яшчэ дзеці на свеце? Ты даруй там такія сумненні, што не можам мы стаць на калені, хоць не можам з каленяў падняцца, ды ломім паяцамі пальцы! Даруй, што жывём нешчасліва, што ў кампоце шукаем мы сліву, і за шчасце вялікае лічым, калі сліў у суседзяў пазычым!.. Даруй, што твары хаваем, сярод масак сваю выбіраем, і люляем, і песцім, і носім, як паб'ецца дзе — дык галосім! Даруй, што прайшлі, не заўважылі, як заўважылі — дык абважылі, за крык — абхамілі, за маўчанне — пабілі! Ты даруй нам, даруй, што ніколі ўжо не пройдзе цягнік па тым полі, дзе кожны, хто хоча, у цягнік той ускоча — і ў няволі на волі сваю ролю балбоча! І калі заціхае, не цябе ўспамінае, а клункі, карункі, пярынкі, катрынкі, горкі смак апельсінкі, будуар Кацярынкі, і транты, і шманты, і хрыплыя спевы асіплым бельканта!
Ты даруй нас, дурных, аблавухіх, што плывём у чаўне мы пасуху, а на водах маршоўкаю крочым, і хоць гінем, хоць тонем — не збочым! І даруй, што пытаем, чаго мы ўсе хочам, што кладзёмся мы днём, прачынаемся — ноччу. Ты даруеш, даруеш, даруеш? Ты нас чуеш? Ці чуеш? Ці чуеш?!.

*Ніхто не чуе іх. Ніхто не бачыць. Нікому яны непатрэбныя. Спыняецца на нулях электронны гадзіннік. Марудна апускаецца шлагбаум...*

*КАНЕЦ*

# ЁН | Дантэ АЛІГ'ЕРЫ




(1265 -- 1321)

## Мой ДАНТЭ

У выгнанні, завочна асуджаны да спальвання на кастры «чорнымі» гвельфамі, якія ў 1301 годзе пасля жорсткай барацьбы з «белымі» гвельфамі прыйшлі да ўлады ў Фларэнцыі — родным горадзе Дантэ, пісаў сваю геніяльную «Камедыю» горды і крыўдлівы паэт, які не знёс абвінавачванняў у свой адрас былых аднадумцаў і «сам стаў партыяй». На чужыне Дантэ з болем у сэрцы адчуў, што свет «заблудзіў», а чалавецтва загразла ў грахах. Уладары і пастыры нічога не рабілі, каб скончыліся разлады, войны, каб выгнаннікі хутчэй вярнуліся ў свае родныя дамы. І ў «Камедыі», як ва ўсіх сачыненнях Дантэ, напісаных у выгнанні, выразна праявілася жаданне дапамагчы людзям уратаваць свае душы, стаць больш дасканалымі.

Рэальнаму жыццю Дантэ супрацьпастаўляе свет, у якім паслядоўна і няўхільна праяўляе сябе Вышэйшая Справядлівасць. Нягледзячы на строгую сіметрычнасць і зададзенасць гэтага свету, «Пекла», «Чысцец» і «Рай» Дантэ населены не толькі шматлікімі вобразамі-сімваламі, але і рэальнымі людзьмі. Прычым аўтар шчыра і прама выказвае свае адносіны да іх. Высока і далёка сягаюць думкі паэта, але паэтычныя вобразы, якія ён выкарыстоўвае для выказвання іх, у большасці сваёй «бачныя», «зямныя» і толькі зрэдчас асацыятыўныя. Уражвае яго ўсебаковае веданне гісторыі, літаратуры, філасофіі, астраноміі, матэматыкі, Свяшчэннага пісання.

Сын свайго часу, Дантэ намнога апярэдзіў яго. «Боская камедыя» актуальная заўсёды. З радасцю і захапленнем я перакладаю яе на родную мову, хоць гэта ва ўсіх адносінах сізіфава праца. У наш прагматычны рыначны час яна не прынясе перакладчыку матэрыяльных выгад і наўрад ці знойдзе шматлікіх чытачоў сярод талерантных беларусаў.

Упершыню задума перакласці «Боскую камедыю» ўзнікла ў мяне ў 1976 годзе пасля гутаркі з Язэпам Семяжонам на з'ездзе пісьменнікаў. Як аказалася, наш выдатны перакладчык прапаноўваў перакласці геніяльную паэму Дантэ Сцяпану Гаўрусёву, згаджаючыся пры гэтым забяспечыць яго падрадкоўнікамі. Але, на жаль, Сцяпан Гаўрусёў не прыняў прапановы.

Грэшныя думкі і ўчынкі ў далёкай маладосці, ачышчэнне каханнем і цяжкімі стратамі блізкіх мне людзей і, нарэшце, духоўнае ўзнясенне пасля бязбожнага і несправядлівага цкавання «таварышамі» па партыі набліжалі мяне да разумення «Боскай камедыі» Дантэ.

Я ўдзячны Алесю Разанаву, які паверыў у мае версіфікатарскія здольнасці і натхніў на пераклад бессмяротнага твора вялікага фларэнтыйца. Разам з Дантэ я абляцеў увесь Рай і неўзабаве прайду праз усе кругі «Пекла». Перакладаючы Вялікую паэму, карыстаюся падрадкоўнікамі, зробленымі яшчэ ў мінулым стагоддзі С.Зарудным і В.Чуйко. Часта заглядваю ў паэтычныя пераклады Д.Міна і М.Лазінскага.

Што прымусіла мяне ўзяцца за гэтую цяжкую працу, якія пачуцці валодаюць мною ў час ажыццяўлення запаветнай мары, я пастараўся выказаць у «Песні перакладчыка».

# БОСКАЯ КАМЕДЫЯ

**ПЕКЛА**

**ПЕСНЯ ПЕРШАЯ**

1 У час цяжкі, у момант паваротны
Свайго жыцця, згубіўшы верны шлях,
Я трапіў нечакана ў лес дрымотны.

4 Слоў не знайсці, каб выказаць мой жах,
Бо выклікаюць нават успаміны
Пра гэты лес намнога большы страх,

7 Чым уяўленне ўласнай дамавіны.
Быў сведкам я трох незвычайных з'яў
У жудасныя гэтыя хвіліны,

10 Хоць нізашто б цяпер не расказаў,
Як увайшоў у пушчу, бо дрымотай
Адольвацца ў імгненне тое стаў.

13 Я да пагорка падышоў з самотай,
Зірнуў уверх і ўбачыў, што яго
Вяршыня ўжо заліта пазалотай

16 Свяціла цудадзейнага таго,
Якое ўсім патрэбную дарогу
Паказвае паўсюдна. І з майго

19 Устрывожанага сэрца стаў патроху
Выходзіць страх, і неўзабаве ў ім

## *Пра Яго*

*У той літаратурнай скарбніцы, якую атрымала ў спадчыну чалавецтва, імя Дантэ Аліг'еры стаіць на адным з самых значных месцаў. Чаму ж нас сёння цікавяць яго творы, чаму тое, што было напісана амаль сем стагоддзяў назад, не губляе сваёй значнасці, і не толькі літаратурнай, але і гістарычнай, філасофскай,—гуманістычнай у самым шырокім разуменні гэтага тэрміна? Таму, мусіць, што творчасць італьянскага паэта позняга Сярэднявечча стала адной з першых літаратурных спроб новага тысячагоддзя ўвасобіць, рэалізаваць менавіта ў паэтычнай форме светапогляд чалавека цалкам, з ягонымі канкрэтнымі, матэрыяльнымі праявамі — і з ягоным уяўленнем ідэальнай, духоўнай сутнасці існавання. Таму яшчэ, здаецца, што паэтычная канцэпцыя сусвету Дантэ не столькі звязана з рэлігійнымі дактрынамі свайго часу (варта нагадаць, што за колькі дзесяцігоддзяў да напісання галоўнага твора Дантэ, якраз у Італіі, жылі і тварылі Францыск Асізскі і Фама Аквінскі), колькі спрабуе знайсці цесныя сувязі паміж антычнасцю і сваім часам, паміж хрысціянствам і язычніцтвам, менавіта гэтая спроба стварае гістарычную і філасофскую мнагапланавасць «Боскай камедыі», робіць яе «аб'ёмнай», нараджае некалькі семантычных перспектыў.*

*Дантэ Аліг'еры нарадзіўся ў 1265 годзе.*

*У той час Фларэнцыя станавілася самым магутным горадам Цэнтраль-*

*най Італіі і адным з самых значных ва ўсёй хрысціянскай Заходняй Еўропе. Пачынаючы з 1250 года, камунальны ўрад, падтрыманы аб'яднанымі сіламі буржуазіі і рамеснікаў, паклаў канец уладзе шляхетных сямействаў. Прайшло яшчэ два гады, і пачалі выраблящца першыя залатыя фларыны, якія вельмі хутка стануць «далярам» гандлёвай Еўропы таго часу. Канфлікт паміж гвельфамі, прыхільнікамі аўтарытэту папы рымскага, і гібелінамі, якія абаранялі палітычны прыярытэт імператара, прыводзіць да ўсё больш частых сутычак паміж буржуазіяй і шляхтай і нават да войнаў паміж суседнімі гарадамі.*

*Калі паэт нарадзіўся, Фларэнцыя ўжо на працягу пяці год была ў руках гібелінаў, якія выгналі з яе гвельфаў; у 1266 годзе горад зноў пераходзіць пад уладу гвельфаў, якія выганяюць з яго гібелінаў, на гэты раз назаўсёды. Самі ж гвельфы пазней падзяляюцца на чорных і белых, і паэт аднойчы будзе ўпісаны ў рэестры белых гвельфаў — таксама назаўсёды.*

*Будучы паэт паходзіў з шляхетнай сям'і, якой, аднак, не вельмі шанцавала. У трынаццаць год Дантэ застаўся без маці, а яшчэ праз пяць і без бацькі. Пра ягонае дзяцінства і раннюю маладосць звестак небагата. некалькі рэдкіх архіўных дакументаў ды тое, што ён сам распавядае ў «Новым жыцці». І ўсё ж на падставе знойдзеных дакументаў відаць, што Дантэ, магчыма, нейкі час вучыўся у Баланскім універсітэце і ў самой Фларэнцыі вывучаў натарыяльныя справы.*

*У гады юнацтва паэт прысвячаў свае вершы розным жанчынам, але галоўнай у ягонай творчасці была, безумоўна, Беатрычэ. Гістарычнасць Беатрычэ цяпер ужо не выклікае*

Застаўся толькі след перапалоху.

22 Як той плывец, што валам штармавым
Накрыты быў і ўсё-ткі выплыў з мора
Бяздоннага, застаўшыся жывым,

25 Мая душа, хоць з ног валіла змора,
З палёгкай абярнулася зірнуць
На лес, дзе я загінуць мог учора.

28 Калі я целу даў перадыхнуць,
Дык на гару пайшоў хадой рашучай,
Каб найхутчэй вяршыні дасягнуць.

31 Я на сцяжыне пад высокай кручай
Сустрэў нямала рознага звяр'я.
Была спярша пантэраю бліскучай

34 Дарога загароджана мая.
Не раз ад гэтай жудаснай пантэры
Назад пабегчы парываўся я.

37 Ды сонца разагнала морак шэры
І паднялося за сузор'ем тым,
З якім сумесна аблятала сферы

40 У дзень стварэння, і ягоны ўздым
Пафарбаваў людскія спадзяванні
І поўсць пантэры пэндзлем залатым.

43 Ёсць сіла дзіўная ў вясновым ранні!
Аднак убачыў я на сцежцы льва
І зразумеў, што здзейсніць парыванні

46 Не ўдасца мне. Гайдалася трава
Ад бегу льва, капну даўжэзнай поўсці
Вялізная ўзнімала галава.

49 Увасабленне прагнасці і злосці —

## ПЕСНЯ ПЕРАКЛАДЧЫКА

**1** У час развалу і людскіх трагедый,
«Суровы Дант», я ночы ўсе і дні
Жыў Боскай, найвялікшаю
з камедый,

**4** І болей блізкай не было радні
Ў мяне, чым ты, сярод
паглядаў злосных,
Згрызот і чалавечай таўкатні.

**7** Пад лямант пустабрэхаў
невыносных
Са стромы спадзяванняў і трывог
Нырāў я ў бездань
вобразаў дзівосных

**10** І данырнуць да дна ніяк не мог,
Бо неабсяжным глыбокім творам
Я выштурхоўваўся. І, далібог,

**13** Ён доўга для мяне быў
Мёртвым морам,
Пакуль не абцяжарылі мяне
Святая вера і духоўны скорам.

**16** Шмат жэмчугу я адшукаў
на дне
І скарбамі жадаю падзяліцца
Хоць з некім у радзімай старане.

**19** Я вельмі рады буду памыліцца,
Але — у лепшым выпадку — яму
У куфрах суджана, відаць, пыліцца.

**22** Ты з «Пекла» пачынаў.
Але каму
У «Пекла» з пекла хочацца папасці?
Адразу з «Раю» я пачаў таму.

**25** І ў сне нярэдка мару я аб шчасці
Падняцца, сесці за пісьмовы стол,
З tiretto* ў скрыню перлы перакласці.

**28** Калі ж цямрэча ахінае дол,
Мяне ізноў адольвае патрэба
Ў цэбе на тое атрымаць дазвол,





Ваўчыцу, у якой, хоць на людзей
Палюе звер, павыпіралі косці

52 З-пад скуры,— я сустрэў, пахаладзеў
І адступіў, згубіўшы нечакана
На свой уздым апошнюю з надзей.

55 Як пагарэлец, што расчаравана
Аплаквае багацце і жыццё,
Якое без астатку змарнавана

58 На гэтага багацця набыццё,
Я стаў спускацца ў вотчыну цямрэчы,
Адольваючы страху пачуццё.

61 Ды прада мною твар знаёмы нечы
Узнік неспадзявана ў момант той.
І я, як толькі воблік чалавечы

64 Убачыў у мясцовасці пустой,
Сказаў: «Хоць прывід, хоць зямны жыхар ты,
Дапамажы мне страх адолець свой".

67 І адказаў ён шчыра, без пагарды:
«Лічыў паэтам свет мяне раней.
Я з Мантуі[1], бацькі мае — ламбардцы.

70 Народжаны sub Julio[2] — пазней,
Чым стаць яму вядомым,— у спакоі
Пры Аўгусце[3] я ў Рыме жыў. Эней[4],

73 Анхіса сын, які з'явіўся з Троі
Пасля пажару Іліёна[5], быў
Мной без ваганняў выбраны ў героі.

76 Але чаму ты паварот зрабіў
Да прорвы той, дзе скрухі і заганы,
Хоць на пагорак радасці ступіў?"

*сумнення: як сведчыў адзін з сыноў паэта, гэта была Бічэ Парцінары, сястра аднаго з блізкіх сяброў Дантэ. Упершыню будучы паэт убачыў яе яшчэ хлапчуком, калі яму было дзевяць год, а ёй — восем. Дзіцячы ўспамін застаецца ў памяці і натхняе на напісанне вершаў, прысвечаных дзяўчыне. У 80-я гады Дантэ стварае свой першы значны твор пад назвай «Новае жыццё» (завершаны ў 1291—1293 гг.). Гэта своеасаблівы раман аб каханні: «малая кніжачка», як сам паэт яе называў, складаецца з 31 верша і празаічнай часткі, якая ўяўляе сабой нешта падобнае на каментар да вершаў. У «Новым жыцці» Дантэ распрацоўвае паэтычныя каноны «новага салодкага стылю», уведзеныя ў італьянскую паэзію Гвіда Кавальканці. Асаблівасцю новай школы было паглыбленне псіхалагізму. Каханне — гэта не толькі штосьці ідэальнае, калі аб'ект пачуцця застаецца недасягальным, у вобразе «ідэальнай жанчыны» пачынаюць праяўляцца зямныя, рэальныя рысы.*

*У васемнаццаць год, спаткаўшы зноў Беатрычэ, паэт заўважае яе «надта кволае здароўе». А ва ўзросце 24 гадоў Беатрычэ памірае. Смерць змяняе воблік каханай, з гэтага часу яна становіцца пуцяводнай зоркай паэта.*

*У 90-я гады паэт цікавіцца філасофіяй, наведвае рэлігійныя і філасофскія дыспуты, чытае Баэцыя і Цыцэрона. Прага да ведаў бачная і ва ўсіх творах Дантэ: і ў «Балі», і ў трактатах «Аб народным красамоўі» і «Аб манархіі», і ў лацінскіх эклогах, і, канешне, у «Боскай камедыі».*

*У тыя ж гады Дантэ робіцца актыўным удзельнікам палітычнага жыцця свайго горада. З 1295 па 1301 год, як сведчаць дакументы, Дантэ*

**31** Каб да начнога велічнага неба —
Да Лебедзя, да Ліры, да Блізнят,
Да Вегі, Альтаіра і Дэнеба —

**34** Узняць хутчэй захоплены пагляд.
Прайшлі часы крывавых рэвалюцый,
Парадных і чырванасцяжных свят,

**37** Гусцее змрок чарговых
рэвалюцый,
І лепш намнога свечку запаліць,
Чым цемру бэсціць,
як казаў Канфуцый.

**40** Таму ў душы, якой усё баліць,
Хоць і не верыў аніколі ў цуды,
Паставіў свечку я і пераліць

**43** Нябёс высокіх моц хачу ў сасуды
Святых людзей,
бо надта ж на Зямлі
Нахабнічаюць каіны і юды;

**46** Бо д'ябальскія нунцыі ўзвялі
На троны злых, бязлітасных халіфаў
І заваёўваць душы пачалі

**49** Хлуснёй салодкай
сатанінскіх міфаў.
Хоць камянёў я ўгору не качу,
Ды ў нечым паўтараю
лёс Сізіфаў.

**52** Закончыць працу я хутчэй хачу
І так здзяйсняю ўласныя памкненні,
Што часам цёмна робіцца ўвачку.

**55** Я дбаю пастаянна
аб натхненні.
І каб яго выток не перасох —
Да Бога я скіроўваю маленні,

**58** І мне, здаецца, памагае Бог.

**Уладзімір СКАРЫНКІН**

---

* Tiretto (*італ.*) — шуфляда.

*прымаў удзел у розных камунальных справах, у 1301 годзе ён становіцца адным з прыёраў Фларэнцыі. У 1302 годзе, калі паэт быў амбасадарам горада пры папскім двары ў Рыме, да ўлады прыходзяць чорныя гвельфы і сітуацыя для Дантэ рэзка пагаршаецца: яго завочна абвінавачваюць у тым, што ён «парушаў спакой грамадзян, што выступаў супраць папы і гарадской улады», і асуджаюць спачатку да штрафу (які не быў выплачаны), а потым да спалення на кастры. Для паэта пачынаецца перыяд выгнання: ён жыве ў Вероне, Падуі, Трэвіза, Равене і іншых гарадах. У 1315 годзе смяротны прысуд быў яшчэ раз пацверджаны, і Дантэ застаецца ў Вероне, а пазней перабіраецца ў Равену, дзе працуе над галоўным творам свайго жыцця. Цікава, што ў тым жа 1315 годзе паэт прысутнічаў на свяце каранацыі «караля паэтаў» —цырымоніі з ускладаннем лаўровага вянка, адроджанай упершыню пасля часоў Рымскай імперыі, — ды толькі «каралём паэтаў» быў абраны не ён, які ўжо напісаў «Пекла», а адзін з яго нязначных сучаснікаў-літаратараў. Прыкра было паэту — «прыкры чужы хлеб»,— і менавіта гэта пачуццё не пакідала яго ў апошнія гады жыцця ў старажытнай Равене. Там паэт і памёр 14 верасня 1321 года і быў пахаваны пры адной з цэркваў.*

*Фларэнцыя, нягледзячы на некалькі спроб, так і не змагла, калі не жывым, дык мёртвым, вярнуць яго на бацькаўшчыну.*

*Галоўным творам Дантэ, над якім паэт працаваў амаль чатырнаццаць гадоў, пачынаючы прыблізна з 1307 года, з'яўляецца «Боская камедыя». Пры жыцці аўтара твор называўся «Comedia»: своеасаблівы літаратурны «жанр», у якім ядналіся ўзвышанае, вечнае, і штодзённае, трывіяльнае. У тагачаснай жанравай класіфікацыі «Камедыя» належала таксама да «свяшчэнных паэм» (тут варта прыгадаць «Энеіду» Вергілія, якая пэўным чынам была ўзорам для Дантэ). Уся літаратура Сярэднявечча не стварыла нічога, што магло б наблізіцца да гэтага твора, які не выпадкова быў колькі разоў ужо параўнаны з гатычнай катэдралай. «У паэме Дантэ ўпершыню загаварылі дзесяць маўклівых стагоддзяў»,— напісаў Т.Карлейль. Гэтыя дзесяць стагоддзяў — ад апошняга перыяду Рымскай імперыі і праз усё Сярэднявечча — знаходзяць у творы сваё мастацкае ўвасабленне. Паэма падраздзяляецца на тры часткі — тры кантыкі: «Пекла», «Чысцец» і «Рай», кожная з якіх складаецца з трыццаці трох песень,*

**79 «Дык ты — Вергілій! Бурны, несціханы**
**Выток магутных вобразаў і слоў.—**
**Я адказаў, не тоячы пашаны.—**

**82 Ты ўсіх паэтаў слава і любоў.**
**Уваж мяне за рэдкае цярпенне,**
**З якім я ўнік у сэнс тваіх радкоў.**

**85 Ты мой настаўнік, ты маё натхненне,**
**Я запазычыў стыль высокі твой,**
**Які прынёс душы задавальненне.**

**88 На звера глянь, які перада мной,**
**Абарані мяне ад лютай пашчы**
**І дай, мудрэц славуты, мне спакой".**

**91 «Зваротны шлях — дарога для прапашчых,—**
**Сказаў паэт, але пасля дадаў:**
**Палюе гэты звер заўсёды нашча**

**94 І тым, хто ўгору ўзняцца пажадаў,**
**Перакрывае шлях — худы і злосны,**
**Нібыта век пасціў і галадаў,**

**97 Хоць дзён у звера не бывае посных.**
**Чым болей голад наталяе звер,**
**Тым болей гэты голад невыносны.**

**100 Ён спакушае і цяпер нявер.**
**Людзей, аднак, палохаць перастане**
**Зубоў ваўчыцы жудасны ашчэр.**

**103 Яна ў нябыт у хуткім часе кане**
**Ад пашчы ваўкадава[6], у каго**
**Не золата, а мудрасць у пашане.**

**106 Паўночная Італія яго**
**Між лямцамі сваімі нарадзіла.**
**За росквіт краю роднага свайго**

**109 Смялей чым Ніс, Турн, Эўрыал, Каміла[7]**
**Змагацца будзе мужны ваўкадаў —**
**Ваўчыцу ўрэшце праглыне магіла.**

**112 Прайсці з табой я абяцанне даў**
**Праз месца вечных жудасцей і скрухі,**
**Куды спусціцца ты не пажадаў.**

**115 У царстве безвыходнасці пачуты**
**Табою будзе несціханы крык**
**Асуджаных на вечныя пакуты.**

**118 Ты ўбачыш і людзей, якія ў лік**
**Шчаслівцаў трапіць марацць без спачыну,**
**Бо дух высокі ў душы іх пранік.**



**121 Калі ж узняцца ў светлую краіну**
**Захочаш ты, я ля ўвахода ў Рай**
**Больш праведнай душы цябе пакіну.**

**124 І гэта не капрыз ніякі, знай,**
**Паганства мне Усявышні не даруе —**
**І для мяне закрыты дзіўны край.**

**127 Там — Боскі трон, хоць скрозь Гасподзь цаpуе,**
**Хоць вотчына ягоная — сусвет.**
**Шчаслівы той, хто з Богам пасябруе!"**

**130 І я сказаў Вергілію: «Паэт,**
**Прашу Хрыстом, з кім ты не быў знаёмы,**
**Пазбаў мяне ад звера і ад бед.**

**133 Высокай марай і табой вядомы,**
**Я да варот Пятра праз гэты роў**
**Гатоў ісці, не ведаючы стомы".**

**136 Сказаў і за Вергіліем пайшоў.**

## ПЕСНЯ ТРЭЦЯЯ

**1 «Жахліва мне! Сэнс надпісу суровы!»—**
**Ускрыкнуў я і сцёр халодны пот,**
**На браме ў Пекла прачытаўшы словы:**

**4 «ТУТ У КРАІНУ ЦЕНЯЎ УВАХОД.**
**У ЦАРСТВА ВЕЧНАЙ СКРУХІ І МАРКОТЫ.**
**ДЗЕ СХОЎ ЗНАЙШОЎ ЗАГІНУЎШЫ НАРОД.**

**7 ВЯЛІКІ ДОЙЛІД ЗБУДАВАЎ ВАРОТЫ**
**Ў ПАДЗЕМНЫ ГОРАД І ЯГО МУРЫ**
**УЛАДАЙ ПРАЎДЫ, РОЗУМУ, ПЯШЧОТЫ.**

**10 Я — ВЕЧНЫ! І Ў СВАІМ МАНАСТЫРЫ**
**УСТАЛЯВАЎ ПАРАДАК АДМЫСЛОВЫ.**
**ТАМУ НАДЗЕЙ З САБОЮ НЕ БЯРЫ!"**

**13 Але паэт, спакойны і талковы,**
**Прамовіў: «Страх пакінь каля варот,**
**Бо ў Пекле надта жудасныя ўмовы.**

**16 Ля ўрочышча, дзе існуе народ,**
**Які пазбаўлены святла развагі,**
**Дзе кожны — ці вар'ят, ці ідыёт,**

**19 Мы ўжо прайшлі". Сваім святлом адвагі**
**Ён мне надаў і за руку павёў**
**У спрат, не варты нічыёй увагі.**

**22 Уздыхі, стогны напаўнялі схоў,**

*якія разам з уступнай складаюць лічбу 100. Кожная частка дзеліцца на дзевяць раздзелаў і мае адзін дапаўняльны, дзесяты, уся паэма напісана трохрадковымі строфамі — тэрцынамі, і кожная яе частка заканчваецца словамі «stelle» ("зоркі"). Сімволіка «ідэальных лічбаў» (тры, дзевяць і дзесяць) мае вялікае значэнне для разумення ўсёй структуры твора, таму што яна з'ўлялася адным з важнейшых элементаў светапогляду эпохі. Варта яшчэ зазначыць, што паэма Дантэ будуецца не на хранагічнай, а на лагічнай аснове: персанажы розных эпох займаюць месцы адпаведна з той логіка-матэматычнай схемай, якую вызначыў аўтар. «Боская камедыя» пабудавана па метаду прыгодніцкага рамана: паэт, «дайшоўшы да паловы жыцця зямнога», разам з Вергіліем адпраўляецца ў падарожжа ў Замагілле. На сваім шляху ён сустракае мноства рэальных і міфалагічных істотаў, праміне іх і ідзе ўсё далей і вышэй, каб убачыць Беатрычэ, якая займае цэнтральнае месца ў паэме.*

*Можна адзначыць, што «Боская камедыя» ў пэўным сэнсе ўяўляе сабой асаблівы твор яшчэ і таму, што ў ім зроблена спроба спалучыць Антычнасць і Сярэднявечча,— гэтым самым паэма апярэджвае тую глыбокую зацікаўленасць Антычнасцю, якая характэрна для ўсяго еўрапейскага Адраджэння. Што ж зацікавіла паэта ў далёкім мінулым?*

*Яшчэ падчас напісання «Балю» ў Дантэ з'ўляецца ідэя аб неабходнасці Імперыі, у якой ён бачыць адзіную магчымасць пакласці канец усім войнам паміж каралеўствамі, гарадамі, грамадзянамі. І гэта місія універсальнай Імперыі належыць рымскаму народу. Ідэя «боскага абрання Рымскай Імперыі» і пастаяннага ўмяшання боскіх сіл у рымскую гісторыю адзначыла паварот у палітычна-рэлігійнай ідэалогіі паэта і з'явілася неабходнай перадумовай для «свяшчэннай паэмы». Калі боскія сілы стварылі неабходныя варункі для з'яўлення Месіі сярод габрайскага народа, то ў астатнім свеце пасля стварэння Рымскай Імперыі скалаіся ўмовы, неабходныя для распаўсюджвання Слова, і «абраным» з'яўляўся ўжо не толькі габрайскі, але і рымскі народ. «Падчас навальніцы нарадзіўся Давыд    і нарадзіўся Рым, гэта значыць Эней з Троі прыплыў у Італію, і гэта быў пачатак горада, як тое пацвярджаюць свяшчэнныя пісанні. Боская абранасць Рымскай Імперыі пацвярджаецца і тым, што нараджэнне святога горада супала з жыццём продкаў Марыі»,— так піша*

*Дантэ ў сваім трактаце «Манархія». Бог, які адначасова Бог для ўсіх, не мог гаварыць толькі з адными, а іншых пакінуць у цемры: ён звяртаўся да ўсіх, толькі паганцы не зразумелі ягоных слоў і прыпісалі знакі, пасланыя Богам, фальшывым багам. І ўсё ж праўда выйшла на свет: Сібіла аб'явіла прыход Месіі — і Вергілій, аўтар «Энеіды» ("свяшчэннай паэмы" Імперыі, «Біблії паганцаў»), сам таго не ўсведамляючы, прадказаў з'яўленне Хрыста. Дантэ, як і ўся культура Сярэднявечча, верыць у гістарычнае існаванне Энея і ў тое, што Вергілій у сваёй паэме сабраў менавіта тыя прадказанні Замагілля, якія пачыналіся ад Сібілы, і гэтыя прадказанні павінны быць прааналізаваны і выпраўлены ў святле хрысціянства.*

*Усё гэта падводзіла да неабходнасці новай інтэрпрэтацыі значэння і каштоўнасці язычніцкай міфалогіі гісторыі. Адсюль можна зразумець, чаму міфалогія інтэгравана на працягу ўсяго тэксту «Боскай камедыі» ў біблейска-хрысціянскі свет і чаму персанажы Пекла увасабляюць грахі і дабрачыннасць, узятыя падчас з Бібліі, а падчас з класічнай міфалогіі і антычнай гісторыі.*

*Другая падстава для Дантавай ідэі Імперыі была звязана з глыбокім крызісам хрысціянства: здавалася, што чалавецтва збілася са шляху, які вядзе да спакою і шчасця. Ваўчыца ў лесе ўжо не палюе толькі на слабых і баязлівых, яна нікому не дае прайсці па яе сцежцы; а без зямнога шчасця нельга спадзявацца на выратаванне душы ("Пекла"). Дантэ верыць у неабходнасць боскай дапамогі, якая магла б прынесці людзям згоду і мір, каб падрыхтаваць другое прышэсце Месіі, прадказанае «Апакаліпсісам».*

*Такім чынам, «Боская камедыя» з'явілася на перакрыжаванні розных рэлігійных і паэтычных матываў, што ставіць твор на зусім асобнае месца, якое не адпавядала літаратурнай традыцыі свайго часу. Сам паэт, як здаецца, верыць у тое, што з'яўляецца ўвасабленнем, прыладай боскай волі: ён лічыць сябе трэцім у гэтай ролі пасля Энея, заснавальніка Імперыі, які спускаўся ў Пекла, і пасля Св. Паўла, заснавальніка Царквы, які ўзнёсся жывым на нябёсы; менавіта Св. Павел, па словах самога паэта, загадаў яму данесці да людзей яго словы.*

*Той, хто першы раз уваходзіць у складаны свет гэтага твора, можа і не пагадзіцца са сцвярджэннем Т.С. Эліёта, што «Боская камедыя» з'яўляецца самым яскравым узорам з усіх вялікіх паэм, напісаных у сусветнай літаратуры. Але заўважым, што пачатковы высілак чытача для пераадолення шматлікіх каментарыяў, якія суправаджаюць твор, не большы, чым у адносінах да іншых вялікіх паэм. Вялікая паэма Дантэ — гэта не толькі нейкі palazzo Сярэднявечча, не толькі нейкі кшталт узнёслага касцёла свайго часу,— гэта твор аб лёсах свету, аб магчымасцях чалавека ў гэтым жыцці, а не ў «іншым», аб тым неспакоі, які выклікае ў калектыўнай свядомасці само паняцце «канца ўсіх часоў».*

*Імя італьянскага паэта і яго творы па-рознаму прыходзілі ў славянскі свет. У прыватнасці, у Польшчы пра Дантэ даведаліся яшчэ ў эпоху Адраджэння. Польскія студэнты былі самымі шматлікімі сярод замежных студэнтаў, якія навучаліся ў Падуанскім універсітэце, верагодна, што сярод іх былі і беларусы. Варта згадаць хоць бы Францішка Скарыну. Аднак трэба зазначыць, што рэнесансная культура Польшчы адчувала моцны ўплыў школы Пятраркі і таму пакінула без увагі творчасць Дантэ, як гэта здарылася і ў іншых еўрапейскіх літаратурах. Глыбокая цікавасць да яго творчасці з'явілася ў рамантыкаў, менавіта тады і пачалася праца над перакладамі «Боскай камедыі», а потым ужо і астатніх твораў паэта, на розныя мовы. Існуе некалькі поўных перакладаў паэмы на польскую мову; у 1938—1945 гг. быў выкананы новы яе пераклад на рускую мову, у 1956 г.— на ўкраінскую, яшчэ ў 1933 г. — на грузінскую, у 1947—1959 гг. — на армянскую.*

*На жаль, на беларускай мове «Боская камедыя» пакуль што яшчэ не прагучала. Захаваліся звесткі, што Дантэператлумачваў яшчэ Альгерд Абуховіч-Бандзінэлі, які валодаў некалькімі еўрапейскімі мовамі і добра арыентаваўся ў еўрапейскай літаратуры. Адзін фрагмент з «Пекла» ("Маладосць", 1965, N 5) пераклаў Язэп Семяжон. Апошнім часам некалькі ўрыўкаў з паэмы ў сваім перакладзе надрукаваў Алег Мінкін ("Наша Ніва"). Да гэтага сціплага набытку дадаецца вартая ўвагі і павагі праца Уладзіміра Скарынкіна. Будзем спадзявацца, што яму ўдасца ўвасобіць несмяротны твор вялікага фларэнтыйца ва ўсёй яго шматмернасці і паўнаце.*

**Сяргей ЛОГІШ**

**Адкуль не ўбачыш Рыгеля і Спікі[8],**
**І я таму расхваляваўся зноў.**

**25 Там кпіны гучныя, глухія ўпікі,**
**Гаворкі, воплескі, нямоўчны гам**
**Зліліся ў гул пагрозлівы і дзікі,**

**28 Нібы віхор разбушаваўся там,—**
**І круцяцца нябожчыкі ў цямрэчы,**
**Як той пясок, пад гэты тарарам.**

**31«Чаму,— ад страху я ссутуліў плечы,—**
**Наканавана столькі ім пакут?**
**Хто гэтыя гаротнікі, дарэчы?"**

**34 «Асуджаны жыць векавечна тут —**
**У гэтым змроку жудасным і шэрым —**
**Нікчэмны, подлы і бязвольны люд**

**37 З анёламі, што найвышэйшым сферам**
**Служылі верна, ды не памаглі**
**Ўсявышняму ў змаганні з Люцыферам,**

**40 За што з нябёсаў скінуты былі**
**Уладаю абуранага Бога.**
**Але і ў Пекле іх не прынялі".**

**43 І я спытаў: «Сэнс вэрхалу такога**
**Не зразумелы мне". Ён у адказ:**
**«Каб зразумеў, скажу зусім нямнога.**

**46 Іх лёс жахлівей ад любых абраз:**
**Паўторна ім памерці немагчыма.**
**Тут бедаваць ім суджана ўвесь час.**

**49 Не ўспомняць іх ні дзеці, ні радзіма.**
**І Рай, і Пекла не даступны ім.**
**Ды што казаць пра іх? Зірні — і міма!"**

**52 І ўбачыў я: за сцягам трапяткім,**
**Які ляціць так хутка, што не спыніш,**
**Нясуцца людзі гурмішчам такім,**

**55 Што здзівішся, калі пагляд свой кінеш**
**На іх неспадзявана ты, як шмат**
**Людзей прыйшло на немінучы фініш.**

**58 Пазнаў у гэты міг я акурат**
**Цень чалавека, што па ўласнай волі**
**Адмовіўся ад славы і пасад.**

**61 І я пераканаўся ў тым паволі,**
**Што гэта гурт зламыснікаў, чыёй**
**Ні Бог, ні д'ябал не палепшыць долі.**

**64 Яны бянтэжаць галізной сваёй.**
**Раз'едзеныя восамі, сляпнямі —**
**Іх твары заліваюцца крывёй,**

**67 Перамяшанай з горкімі слязамі,**
**І сумесь гэтая ля іхніх ног**
**Глытаецца таўстымі чарвякамі.**

**70 На беразе ракі шырокай змог**
**Я гурт людзей убачыць неўзабаве,**
**Які, каб пераехаць на той бок,**

**73 Чакаў сваёй чаргі на пераправе,**
**І папрасіў: «Настаўнік дарагі!**
**Дай тлумачэнне гэтай дзіўнай з'яве".**

**76 «Я дам яго, як толькі берагі**
**Ракі пакут,— сказаў ён ціхім тонам,—**
**Убачу не праз навалач смугі".**

**79 Я зразумеў, што гэта забарона**
**Наперад лезці,— і не гаварыў,**
**Пакуль не падышлі да Ахерона.**

**82 Сівы, суровы, грубы старац плыў**
**Да нас на лодцы і крычаў: «О гора**
**Таму, хто пра Ўсявышняга забыў!**

**85 Не ўбачыць вам нябеснага прастора.**
**Я вас перавязу на бераг той,**
**Дзе холад, спёка, вечны змрок і змора".**

**88 А мне сказаў: «Што тут рабіць жывой**
**Душы, якая гэтак прагне славы?**
**Бяжы адсюль! Ля мерцвякоў не стой!"**

**91 «Ідзі,— дадаў,— праз іншыя заставы.**
**Навошта плыць табе праз Ахерон?**
**Ты варты больш дастойнай пераправы".**

**94 Але Вергілій вымавіў: «Харон!**
**Так пажадалі там, дзе воля — сіла,**
**Дзе свеціцца галоўная з карон".**

**97 Тырада гэтая перакасіла**
**І супакоіла касматы лоб,**
**Але агню ў вачах не пагасіла.**

**100 Вясляр бліжэй да берага прыгроб —**
**І стомленыя, голыя істоты,**
**Скрыгочучы зубамі, узахлёб**

**103 Выкрыкваць сталі розныя брыдоты**
**Пра родны край, пра Бога, пра бацькоў,**
**Пра чалавецтва — зборышча басоты.**

**106 Ішоў, галосячы, гурт мерцвякоў**

Да стромы той, што ўноч і ўдзень чакае
Усякага, хто Бога не знайшоў.

109 Калматы д'ябал грэшнікаў склікае,
У лодку звальвае і б'е вяслом,
Калі хто позніцца або ўцякае.

112 Як з дрэў, што развіталіся з цяплом,
Лісцё спадае на пустыя градкі,
І прах вяртаецца зямлі галлём,

115 Так грэшныя Адамавы нашчадкі
Кідаюцца па знаку весляра
І ўніз ляцяць, бы ў пастку курапаткі.

118 Не перапpавіцца адна гурма
На бераг процілеглы Ахерона —
Другую ўжо перапраўляць пара.

121 «Мой сын,— сказаў настаўнік пранікнёна,—
Любы мярцвяк, што Бога абурыў,
На тым баку сваё знаходзіць лона.

124 Без боязі ляціць ён пад абрыў
Высокі, бо прымае пакаранне
Звычайна за душы сваёй парыў.

127 Тут не для душ набожных збудаванне.
І радуйся бязмежна, што Харон
Табе зрабіў у гневе наракання".

130 Калі закончыў тлумачэнне ён,
Так здрыганулася зямля пад намі,
Што калачуся я да гэтых дзён.

133 Была зямля запырскана слязамі,
Маланак стрэлы джгалі навакол,
Грымелі далячыні перунамі —

136 І ўпаў я ў непрытомнасці на дол.

## РАЙ

### ПЕСНЯ ПЕРШАЯ

1 Любоў таго, хто ў рух сусвет прыводзіць,
Прастору працінае усю, але
Не ўвесь абсяг аднолькава лагодзіць.

4 У небе, што купаецца ў святле,
Убачыў я і змог спасцігнуць рэчы,
Чый сэнс ад нас хаваецца ў імгле,





7 Бо пранікае розум чалавечы
Там у такую глыбіню, што зноў
І памяць не наладзіць з ёй сустрэчы.

10 Завоблачнае царства ў царства сноў
Ператварыў я і шукаю словы
Дакладныя для песень і выснoў.

13 О Апалон[9]— і добры, і суровы!
Не надта дакарай, што я не ў сне
Хачу прымераць твой вянок лаўровы.

16 Напоўніш моцай мой сасуд ці не,
Я спеў пачну, бо ўзняцца закарцела
На дзве парнаскія вяршыні[10] мне.

19 Натхні мяне за працу ўзяцца смела,
Зрабі такім, якім ты быў, калі
Дастаў са скуры Марсіева[11] цела.

22 О Бог усемагутны! Усялі
Сябе ў мяне, дапамажы паэту
Узнавіць кругі, што ў памяці жылі.

25 І я дастойна, на здзіўленне свету,
Да дрэва запаветнага прыйду,
Удзячны лёсу і твайму сюжэту.

28 Падвержаныя свецкаму суду,
Паэт і кесар пах забылі лаўра —
Для чалавечай волі на бяду.

31 Таму заззяць ярчэй павінна аўра
Ля бажаства дэльфійскага, калі
Пенейскім дрэвам[12] хтось натхніцца заўтра.

34 Мой спеў! Як іскра, сэрцы запалі
Паэтаў іншых яркімі кастрамі,
Каб вусны Кіры[13] ім адказ далі.

37 Калі свяцільнік свету перад намі
З'яўляецца з дзіры, дзе тры крыжы
Утвораны аж чатырма кругамі[14],

40 Ягоны ўплыў не ведае мяжы
І дорыць з зорамі зямному воску
Адбітак лепшы свой, што ні кажы.

43 Калі дзень новы, каб заззяць па-боску,
У тым паўшар'і выліўся з дзіры,
Тут праз яе ўсе ўбачылі палоску

46 Вячэрняй патухаючай зары.
Арлом глядзела Дама на свяціла,
Улева павярнуўшыся, з гары.

49 Як промень, што свяціла ў шлях пусціла,
Вяртаецца назад, як пілігрым
Туды, дзе сэрцу сонечна і міла,

52 Так Беатрычэ дзеянні між тым,
Праз вочы ў мозг пранікшы, загадалі
Глядзець на сонца і вачам маім.

55 Загадкавыя з'явы раптам сталі
Мне зразумелымі, бо для людзей
Прызначаны завоблачныя далі.

58 А сонца, на якое пaглядзеў,
Іскрылася распаленай падковай,
Што на кавадла гарнавы кладзе.

61 Здавалася, што з раніцай чарговай
Дзень зліўся і азорваць далягляд
Другое сонца стала дадаткова.

64 Да калясніцы вечнай свой пагляд
Ўзнімала Беатрычэ, і за ёю
Сачыць употай быў я вельмі рад.

67 І неўзабаве плоццю і душою
Стаў Глаўкам[15], што ў таварыша багоў
Быў калісь пераproperly травою.

70 Ды перадаць пры дапамозе слоў
Нялёгка ўсё. Хай лепей гэты прыклад
Сабой азорыць душы чытачоў.

73 Любоў, якая і ў мяне пранікла,
У гэты момант падняла ўгару
Мяне з зямлі нязмушана і звыкла.

76 Калі мяне прывабіў зорны рух,
Які яна скіроўвае, патрэба
Узнікла пільна паглядзець наўкруг.

79 Нібы залітая паводкай глеба,
Запаленае сонечным агнём,
Гарэла і свяцілася паўнеба.

82 Бяздонны, неабсяжны вадаём
І гукаў навізна дайсці да ісцін
Мяне натхнілі гэтым светлым днём.

85 А тая, што прывабіла калісьці
Мяне сваёй узнёсласцю, тады
Дапамагла мне з задумення выйсці.

88 «З сябе не строс, калі ўзляцеў сюды,
Рашуча ты ўяўленняў памылковых,
Страсі— і знойдзеш сутнасці сляды.





91 Прывыкнуць трэба да абставін новых,
А ты ляціш у думках да зямлі
Хутчэй за стрэл агністых перуновых".

94 Хоць словы Беатрычэ адмялі
Усе сумненні першыя, затое
Другія непакоіць пачалі.

97 «Мяне цяпер,— сказаў,— здзіўляе тое,
З якою лёгкасцю сюды ўзляцеў
Я, каб убачыць ззянне залатое".

100 Агледзела красуня неўспадзеў
Мяне, як маці сына дарагога,
Які неспадзявана звар'яцеў,

103 І пачала: «На свеце рэчаў многа,
Але ўсе маюць форму — і сусвет,
Ёй дзякуючы, паўтарае Бога.

106 Тут, дзе ні глянеш, Боскай моцы след,
А для яе закон адвечны гэты
Ажыццяўляць — галоўнейшая з мэт.

109 Усе істоты маюць і прадметы
Ў парадку гэтым схільнасці свае,
Якія набліжаюць іх да мэты.

112 К сваім прычалам, покуль сіл стае,
Праводзіць іх жыцця бязмежным морам
Інстынкт, які прырода ім дае.

115 Адзін інстынкт агонь прыносіць зорам,
Прыводзіць сэрцы нашы ў рух — другі,
Яшчэ адзін — зямны збірае хорам.

118 І паражае гэты лук тугі
Бязмозглыя стварэнні і істоты,
Якія маюць сэрцы і мазгі.

121 Бог суцяшае промнямі пяшчоты
І неба, дзе галоўны рухавік
Свае спрадвеку робіць абароты.

124 Туды, дзе можна ўбачыць Боскі лік,
Шпурляемся мы пругкай цецівою,
Каб там пачуўся гучны наш усклік.

127 Але, як з формай лёгкаю, жывою
Змест мёртвы не стасуецца падчас,
Бо зроблена матэрыя глухою,

130 Ад гэтага напрамку іншы раз,
Калі няма ў душы высокай згоды,
Няўхільна штосьці адхіляе нас.

133 І, як страла агню ў час непагоды,
Мы падаем зноў на зямны прастор,
Адхіленыя прагай асалоды.

136 І лжывым уяўленням насупор,
Свайму ўзнясенню перастань здзіўляцца,
Як і рацэ, што ўніз імчыцца з гор.

139 Больш дзіўна, калі б ты не змог узняцца,
Калі б жывога полымя магла
Заўжды нязменнай форма заставацца".

142 І вочы ў неба зноў яна ўзняла.

ПЕСНЯ СЁМАЯ

1 «Osanna, sanctus Deus sabaoth,
Superillustrans claritate tua
Felices ignes horum malacoth!"[16]

4 Бясконца ўдзячная свайму жытлу,
Здалося, гэта праспявала сутнасць[17],
Двайному падуладная святлу.

7 Аднак упэўненасці ў тым адсутнасць
Мне не дала загаварыць з сястрой,
Якую ўзнесла Боская магутнасць,

10 Якая вуснаў мяккаю расой
Маю заўсёды наталяе смагу.
І я схіліўся нізка перад ёй —

13 І «В» і «ІСЕ» выказаў павагу.
Мяне красуня стала азараць
Усмешкай, што ўсяляе раўнавагу:

16 «Ты захацеў даведацца, відаць,
Як помсту справядлівую другою,
Больш справядлівай, помстай пакараць.

19 Я розум твой увагай удастою
І, вызваліўшы ад зямных апек,
Цябе вялікай ісцінай узброю.

22 Як ні стараўся, першы чалавек
Не знёс, на жаль, аброці дабрачыннай
І ледзь свой род не загубіў навек.

25 У гэтым заключаецца прычына
Таго, што доўга чалавечы род
Нібы з заплюшчанымі жыў вачыма.

28 І толькі Слова Боскага прыход
На грэшную зямлю злучыў навечна
Ў яго асобе немачных істот.

31 Ты хутка зразумееш сам, бясспрэчна:
Бог толькі тых мог паяднаць з сабой,
Хто прагне жыць па-боску, чалавечна.

34 Прырода надзяліла дабратой
Людзей, ды з Раю ўсе яны прагнаны,
Калі пайшлі дарогаю другой.

37 За іхнія грахі Прарок рахманы,
Чыйго вучэння сутнасць — дабрата,
Быў справядліва крыжам пакараны.

40 Калі ж лічыць асобаю Хрыста,
Не знойдзеш больш несправядлівай кары,
Пасля якой зямля — як сірата.

43 Хацелі гэтай жудаснай ахвяры
Габраі і Ўсявышні, бо зямля
Затрэслася і разышліся хмары.

46 Цяпер ты, пэўна, скеміш спакваля,
Што помстай справядлівай пакарана
Адплата справядлівая пасля[18].

49 У вузел думкамі спрактыкавана
Твой розум сцягнуты — і развязаць
Табе хутчэй той вузел пажадана.

52 «Няўжо,— ты хочаш сам сабе сказаць,—
У Бога болей не было цярпення,
Каб іншым чынам нас ўратаваць?"

55 Нялёгка ў сутнасць гэтага рашэння
Пранікнуць розуму, які не рос
У арэоле Боскага свячэння.

58 Каб мог у тайну гэтую нябёс
Пранікнуць ты, скажу табе праўдзіва,
Чаму распяты на крыжы Хрыстос.

61 Ад Боскай дабраты, што справядліва
Ўсё вырашаць імкнецца, прамяні
Ў сусвет ідуць — прыгожыя надзіва.

64 Запальваючы новыя агні,
Нясуць удалеч Боскія адбіткі
Яны і не мяняюцца ані,

67 Калі другія рэчы, як падсіткі,
Нічога не адсейваюць ад іх.
Ды ўбачыць гэта цяжка ўвачавідкі.

70 Істот нябесных і істот зямных,
Што Боскай дабраце адпавядаюць,

Яны адорваюць ярчэй за ўсіх.

73 Высакароднасць людзі ўраз губляюць,
Калі людской прыроды катухі
Нераўнамерна промні асвятляюць.

76 Не будзь да іхняй святасці глухі,
Бо падабенства з Дабратой Вярхоўнай,
Як і свабоду, адбяруць грахі.

79 Твая прырода зробіцца няпоўнай.
Калі ты справядліва пакараць
Не зможаш радасці сваёй грахоўнай.

82 Прырода ваша захацела стаць
Пустой і грэшнаю яшчэ ў зародку —
І з Раю Бог рашыў яе прагнаць.

85 І, каб яе зноў пасадзіць у лодку
Высакароднасці, не існуе,
Павер, ніякага другога сродку,

88 Як толькі выкупіць грахі свае
Ці папрасіць у Госпада спагады.
Хай злітуецца ён і не злуе.

91 А зараз ты гарачыя пагляды
У бездань вечнай думкі апусці
І ўважна выслухай мае парады.

94 Каб да Любові Боскай дарасці,
Ніколі чалавек да паслушэнства
Не мог з пагорка гордасці сысці.

97 Ён сам хацеў узвысіцца з маленства
І ў межах натуральнасці не мог
Утаймаваць уласнае шаленства.

100 Двума шляхамі ці адной з дарог
Прывесці мог людзей, як зразумела,
Да паўнаты жыццёвай толькі Бог.

103 Але, каб зробленае майстрам мела
Высокі сэнс і ў цемрадзі грахоў
Ягонай дабрынёй запалымнела,

106 На жаль, недастаткова тых шляхоў
І Бог пайшоў зусім другой сцяжынай,
З істот бязбожных робячы багоў.

109 Між першай і апошняю хвілінай
Сярод высокіх і прыгожых спраў
Распяцце стала справай не адзінай,

112 Калі Гасподзь сабой ахвяраваў.
Больш сціплымі былі б яго здзяйсненні,





Калі б ён проста людзям дараваў.

115 Каб здзейсніліся добрыя імкненні,
Сябе свядома ўнізіў Боскі Сын
І асудзіў на страшныя імгненні.

118 Ну а цяпер, каб не было прычын
Табе ні ў чым, мой браце, сумнявацца,
Я растлумачу парадокс адзін.

121 Ты кажаш, што павінны заставацца
Агонь, вада, паветра і зямля
Нязменнымі павек і не псавацца,

124 Як серп жняі ці молат каваля,
Калі былі істотамі спачатку
Усе стыхіі, як казала я.

127 Нам дапамогуць разгадаць загадку
Анёлы і нябёсы, на якіх
Паставіў Бог уласную пячатку,

130 Бо, што датычыцца стыхій усіх,
На жаль, не Бог, ім створаная сіла
Дакладна вызначае форму іх.

133 І іх яна, існуючы ў свяцілах
І робячы рухомым небасхіл,
Са створанай матэрыі зрабіла.

136 Бяруць святло і рух святых свяціл
Для душ сваіх расліны і жывёлы
Пры дапамозе дадзеных ім сіл.

139 Мы ж Боскай ласкаю, як і анёлы,
Азорваемся непасрэдна ўсе —
І ўспыхвае Любоўю нават кволы.

142 Да вашага ўваскрэсення нясе
Рака разваг — і будзе зразумела
Усё, калі ты ўспомніш пакрысе,

145 Як створана было людское цела".

## ПЕСНЯ ТРЫЦЦАЦЬ ТРЭЦЯЯ

1 «О маці і дачка святога сына,
О дзева цнотная навекі, ты —
Абраная Усявышнім верхавіна.

4 Ты ўвасабленне Боскай дабраты.
Таму і не пагрэбваў стаць, напэўна,
Тваім сапраўдным мужам Дух Святы.

7 Ты з родным сынам паяднала крэўна
Ў сваім улонні мудрага Айца.
Ты — і царыца неба, і царэўна.

10 Любоўю, што не ведае канца,
Ты азараеш нас, і ў свеце дольным
Святлей намнога ад твайго вянца.

13 Не абысціся дужым і бязвольным
Без помачы тваёй, як не ўзляцець
Бяскрылым людзям, на палёт не здольным.

16 Умееш ты без просьбы зразумець
Гаротных і прынесці ўратаванне
Тым, хто грахі не змог яшчэ здалець.

19 Ты — як спрыянне, так і спачуванне,
Ты — велічная шчодрасць, ты адна —
Усіх душэўных скарбаў аб'яднанне.

22 Узняўся гэты чалавек са дна
Сусвету ўбачыць Вечную Лампаду,
Нябёсы ўсе агледзеўшы спаўна.

25 Дай позірку яго такую ўладу,
Каб ён яго спакойна ўзнесці мог
Угору — да Вярхоўнага Пагляду.

28 Я за сябе, як за яго, дальбог,
Так не прасіў яшчэ ніколі зроду.
Пачуй мяне і без перасцярог

31 Развей імглы цялеснай перашкоду
Малітвай перад позіркам зямным
І ўбачыць дай Вышэйшую Лагоду.

34 Зрабі, Царыца, каб ішоў затым
Ён праведнай дарогай паслядоўна
І ўшчэнт развеяў цемрашальства дым.

37 Уціхамір душу яго тактоўна.
Зірні, як з Беатрычэ ўвесь сабор
Узняў далоні ўгору малітоўна!"

40 У позірку Марыі не дакор —
Пяшчота бліснула, і стала ясна,
Што міласцівы будзе прыгавор.

43 Зірнула ўвысь Царыца, дзе нязгасна
Палае Вечны Светач, на які
Зірнуць дарма я спрабаваў дачасна,—

46 І ўспыхнуў у грудзях маіх такі
Агонь жадання глянуць неадкладна
Туды, дзе ўсе сыходзяцца вякі,





49 Што свой пагляд узняў я самаўладна,
Не дачакаўшыся, калі манах[19]
З усмешкай гляне на мяне загадна.

52 Смуга растала — і ў маіх вачах
У велічнасці ўсёй адлюстраваўся
Святла і вечнай ісціны ачаг.

55 У памяці маёй не захаваўся,
На жаль, ён цалкам, і патрэбных слоў
Ланцуг неспадзявана абарваўся.

58 Як чалавека, што ў палоне сноў
Знаходзіцца, ды прыгадаць не ў стане
Ўсё ўбачанае падрабязна зноў,

61 Ніколі хваляваць не перастане
Мяне той дзіўны, непаўторны сон,
Хоць неўзабаве, быццам снег, растане

64 Ад цёплых згадак і ўспамінаў ён
Або развеецца лісцём Сібілы[20]
У цемры сумных, аднастайных дзён.

67 О Вечнае Святло, о Светач мілы,
Які душу ператварае ў храм,
Дай памяці смяротнай болей сілы

70 І моц бязмежную маім радкам,
Каб здолеў іскру славы запаведнай
Падараваць я будучым вякам!

73 У розуме маім зарніцай бледнай
Успыхнуўшы, стань думкаю маёй,
Тваёй высокай праўдзе адпаведнай.

76 Святла крыніца болей вастрынёй
Зрок не калола; стаў бы невідучым
Я, перастаўшы любавацца ёй.

79 Таму, акрылены святлом гаючым,
Я ўвысь глядзеў, пакуль не стала ззяць
Святла крыніца бляскам неўміручым.

82 О шчодры дар, які нялёгка ўзяць,
Які Нявыказанае Свячэнне
Мне даў смяротным позіркам абняць!

85 Я зразумеў у гэтае імгненне:
Яно — лістоў, раскіданых па ўсім
Сусвеце, непарыўнае спляценне.

88 І выпадковасці, і сэнс у ім
Для разумення зліты гэтак дзіўна,
Што лепш, здаецца, стаў бы я нямым.

91 Яны пры мне зліліся непарыўна.
І радасць ад відовішча таго
Мне грудзі напаўняе непазбыўна.

94 Кароткі міг для позірку майго
Даўжэйшы быў, чым дваццаць пяць стагоддзяў
З тых дзён, калі Нептун спрыяў «Арго».

97 Мой розум, што дарэшты не знаходзіў
Здаволення і ледзьве не патух,
Ён запаліў адразу і ўлагодзіў.

100 Святлом тым апраменьваецца дух,
Які імкнецца да святла нязменна
І не глядзіць, што робіцца наўкруг,

103 Бо ўсё, што дасканала і бясцэнна,—
У ім адным; па-за святлом яно
Недасканалым робіцца імгненна.

106 Як ні стараюся, усё адно
Мне памяць здраджвае і я нязвязна,
Як той малеча, лепячу даўно.

109 Усё згадаць нялёгка падрабязна,
Але, што не мяняўся лік Святла
У імгненне тое, я кажу адказна.

112 Таму што іншы выгляд набыла
Душа мая, змянілася выява
У маёй свядомасці Яго чала.

115 І там, дзе плешчацца святло, як лава,
Тры featured розная каляровыя кругі
Убачыў я выразна і яскрава.

118 Нібы блізняты, першы і другі
Нагадвалі дзве яркія Ірыды,
А трэці ззяў, як персцень дарагі.

121 Пранікнуць змог я думкай у кругі, ды
Язык, на жаль, недасканалы мой —
І мне ніякавата ад агіды.

124 О Вечнае Святло, што воблік свой
Сабою спасцігае, спапяляе
І раскрывае, пёсцячы сабой!

127 У яркай крутаверці, што палае,
Нібы адлюстраванае святло,
І круг другі прыгожа акаляе,

130 Мне бачыцца нарэшце пачало —
І гэта Вечнага Святла заслуга,—
Як прывід, чалавечае чало.





**133 Як быццам геаметр, што кеміць туга**
**І сам, як ні круціў і ні вярцеў,**
**Не здолеў змераць квадратуру круга,**

**136 Дарма тады я вылічыць хацеў,**
**Як суадносіцца аблічча з колам.**
**Да ісціны мой розум не ўзляцеў.**

**139 Затое ў ім, знясіленым і кволым,**
**Паходню запаліў кругаварот,**
**Што палымнее лікам ясначолым.**

**142 Мой дух знямог і перарваў узлёт.**
**Ды надала маім жаданням сілы,**
**Як быццам колам раўнамерны ход,**

**145 Любоў, якая рухае свяцілы.**

## ТЛУМАЧЭННІ

[1] Мантуя — горад на поўначы Італіі, у Ламбардыі.
[2] Sub Julio (лац.) — пры Юліі Цэзары, які быў забіты ў 44 г. да н.э.
[3] Аўгуст (27 да н.э. — 14 н.э.) — рымскі імператар.
[4] Эней — траянскі герой, сын пастуха Анхіса і багіні Венеры, заснавальнік Рымскай дзяржавы.
[5] Іліён — другая назва Троі, старажытнага горада на паўночным захадзе Малой Азіі.
[6] Ваўкадаў — алегарычны вобраз, які трактуецца даследчыкамі творчасці Дантэ па-рознаму Большасць з іх лічыць, што гэта Канградэ дэла Скала — правіцель Вероны (1312 —1329), якая знаходзіцца «між лямцамі» (tra feltro e feltro), г.зн. між г. Фельтра і замкам Монтэ-Фельтра.
[7] Эўрыал і Ніс — траянскія юнакі, якія загінулі ў барацьбе з рутуламі дзеля заваявання зямлі, на якой Энею суджана было стаць заснавальнікам Рымскай дзяржавы. Турн, правадыр рутулаў, і Каміла, правадырка вольскаў, загінулі, абараняючы Італію ад траянцаў
[8] Рыгель — блакітна-белая зорка ў сузор'і Арыёна са свяцімасцю ў 23 тыс. разоў большай за сонечную; Спіка —блакітны гігант у сузор'і Дзевы са свяцімасцю ў 740 разоў большай за сонечную.
[9] Апалон — у грэчаскай міфалогіі алімпійскі бог, апякун спевакоў і музыкантаў
[10] Парнас — гара ў Грэцыі, на адной вяршыні якой жылі музы, а на другой — Апалон. Ля падножжа Парнаса знаходзіўся горад Дэльфы са знакамітым храмам Апалона, а таксама Кастальская крыніца — выток паэтычнага натхнення.
[11] Марсій — міфічны флейтыст, які асмеліўся выклікаць на спаборніцтва Апалона, і той пасля перамогі здзёр з яго скуру.
[12] Пенейскае дрэва — так Дантэ называе лаўр; німфа Дафна, ператвораная багамі ў лаўр, калі за ёю гнаўся Апалон, была дачкой бога рэк Пенея.
[13] Кіра — адна з вяршыняў Парнаса, на якой жыў Апалон.
[14] Калі наступае вясна — найлепшая пара года, на думку Дантэ,— сонца ("свяцільнік свету") знаходзіцца ў сузор'і Авена і ўзыходзіць там, дзе перасякаюцца чатыры кругі нябеснай сферы — гарызонт, экватар, экліптыка і калюр раўнадзенстваў
[15] Глаўк — рыбак, які выпадкова з'еў чарадзейную траву і стаў марскім бажаством.
[16] Гімн на лацінскай мове з ужываннем габрайскіх слоў: «Слава табе, святы Бог воінства, які азарае сваёю яснасцю гэтае царства».
[17] «Сутнасць» — душа візантыйскага імператара Юсцініяна (з 527 па 565), з якой Дантэ вёў размову ў папярэдняй песні.
[18] Распяццем Хрыста пры рымскім імператары Тыберыі Бог адплаціў людзям за грэх Адама, а ў 70 г. пры Ціту адпомсціў ім за распяцце Хрыста зруйнаваннем Іерусаліма.
[19] «Манах» — святы Бернард, які з'яўляецца настаўнікам Дантэ ў Эмпірэі.
[20] Сібіла — кумская прарочыца, якая пісала свае прароцтвы на лісці дрэў і раскладвала яго на падлозе сваёй пячоры. Калі ўваход адчыняўся, вецер развейваў лісцё, і нельга было ўзнавіць сэнс Сібіліных прароцтваў.

# НАШ | Вітаўт ТУМАШ



*20 снежня 1910 г.*

## Пра Вітаўта ТУМАША (Сымона БРАГУ)

Як шмат можа сказаць пра навукоўца адна толькі стандартная картка бібліяграфічнага каталога... «Тумаш Вітаўт. Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Ню-Ёрк» і назва публікацыі — «Знайшлася Скарынава «Паскалія». Не ведаю, як прачытаецца гэты назоў іншымі, а мне тут чуецца непадробленая ўзрушанасць даследчыка, які, апублікаваўшы дзесяткі прысвечаных усходнеславянскаму першадрукару працаў, ані не страціў шчаслівага юначага імпэту першаадкрывальніка.

Тумаш належыць да ліку найбольш дасведчаных спецыялістаў у галіне скарыназнаўства, тым не менш ягонага імя вы не знойдзеце ні ў Скарынаўскай энцыклапедыі (з цяжкасцю ўдалося ўдакладніць дату яго нараджэння — 20 снежня 1910 г.), ні ў прымеркаваных да 500-годдзя выдатнага палачаніна акадэмічных выданнях.

Эміграцыя і бескампрамісная антысавецкая і антыкамуністычная пазіцыя — гэтых «грахоў» было дастаткова, каб на Беларусі навуковыя працы В.Тумаша (псеўданім — Сымон Брага) дзесяцігоддзямі вывучалі пераважна «скарыназнаўцы» ў цывільным. Нават улаўраныя служкі Клю, не кажучы ўжо пра іх маладзейшых калегаў, толькі рызыкоўным неафіцыйным шляхам маглі атрымаць такія найцікавейшыя яго публікацыі, як «Скарына ў Падуі» ці «Кнігі Скарыны на захадзе Еўропы ў пару ягоную і сяньня» або пазнаёміцца з прачытаным у 1979 годзе ў Ейльскім універсітэце дакладам «Віленская alma mater у гісторыі беларускага друку».

Вянцом саракагадовай працы стала выдадзеная ў 1989 годзе ў ЗША, дзе жыве Вітаўт Тумаш, яго кніга «Пяць Стагодзьдзяў Скарыніяны» — найгрунтоўнейшы даведнік, што налічвае больш за 2500 пазіцыяў. Прэзентацыя «Скарыніяны» адбылася ў Ню-Ёрку ўжо ў той час, калі аўтар змог атрымаць віншаванні і з Беларусі. (Цяпер у паветры носіцца ідэя надання яму годнасці доктара honoris causa Полацкага універсітэта.) А неўзабаве на стол Вітаўту Тумашу легла яго перавыдадзеная ў Менску праца «Доктар Скарына ў Маскве», якая прысвячаецца драматычным падзеям падарожжа першадрукара ў Масковію, краіну з кардынальна іншай ментальнасцю і «духовай ды культурнай існасцю», красамоўным сведчаннем чаго сталася і паленне Скарынавых кніг.

**Уладзімір АРЛОЎ**





# ПАЛЕНЬНЕ КНІГАЎ СКАРЫНЫ Ў МАСКВЕ

Пісаны палацінску дыпляматычны дакумэнт 1553 году, у якім ёсьць ведамка пра публічнае спаленьне ў Маскве, на загад вялікага князя, «рускаю» моваю друкаваных кнігаў «Сьвятога пісьма», апублікаваны быў у 1862 яшчэ годзе ў Вене Ё Фідлерам. Хоць імя выдаўца спаленых кнігаў, што да Масквы іх сам прывёз, у дакумэньце й не названае, ды з асобай доктара Франьцішка Скарыны ўсю падзею ўжо ў 1888 годзе зьвязваў чэскі гісторык Язэп Пэрвольф.

І ўсё-ж, не зважаючы на публікацыі Фідлера й Пэрвольфа, факт спаленьня ў Маскве кнігаў Скарынавае Біблії на працягу далейшых 50-ці гадоў заставаўся паза сьведамасьцяй біёграфаў доктара Скарыны. Толькі ад году 1939 на яскравы маскоўскі эпізод у сваіх публікацыях нанава пачаў зьвяртаць увагу ведамы скарыністы А.В Флароўскі. Ды й пасьля гэтага маскоўскую прыгоду жыцьця доктара Скарыны блізу ніхто зь ягоных біёграфаў не ўспамінаў.

У 1963 годзе была надрукаваная, гэтаму пытаньню адмыслова прысьвечаная, праца мая «Доктар Скарына ў Маскве», у якой праведзены аналіз зьместу знойдзенага Фідлерам архіўнага дакумэнту ды дадзенае шырэйшае асэнсаваньне маскоўскае драматычнае падзеі на фоне біяграфіі доктара Скарыны ды гістарычных абставінаў пары[1].

У 1969 годзе, у выданьні Акадэміі навук СССР, зьявіўся разгляд А.В Флароўскага вышэй названае працы надрукаваны пад назовам «Скарына й Масква»[2]. Флароўскі ацаніў пазытыўна «асабліва цікавае навейшае дасьледваньне беларускага дасьледніка Сымона Брагі», адцеміў спробу ў ім «выдабыць з дакумэнту максімум канкрэтных дадзеных», ды ўважаў, што ў паасобных пытаньнях патрэбныя й «некаторыя агаворкі»

Зацемка гэтая пісаная ня ў пляне нейкае палемікі з выказанымі выдатным скарыністам —

нажаль ужо нябошчыкам —сумлевамі ды засьцярогамі. Яе мэта — удакладненьне думак і паглядаў згаданае вышэй працы. Эпізод з спаленьнем у Маскве Бібліі доктара Скарыны падзея вялікае цікавасьці й таму асабліва важна шырэй раскрыць яе дэталі, глыбей асэнсаваць гістарычнае яе значаньне.

А.В. Флароўскі згадзіўся з тым, што дадзеная ў дакумэнце ведамка пра спаленьне ў Маскве друкаваных кнігаў Сьвятога Пісьма датычыць можа толькі да кнігаў Бібліі Скарынавага друку. Ён пацьвярджае, што факт іх спаленьня, гэта яскравы прыклад панаваўшага тады ў Маскве дагматызму, рэлігійнае неталеранцыі ды варажыні да ўсякіх культурных павеваў з Захаду. За правільнае Флароўскі прызнаў і зьвязваньне факту спаленьня Скарынавых кнігаў з рэакцыйнай дзейнасьцяй маскоўскага мітрапаліты Данілы

А.В. Флароўскі выказаў аднак-жа сумлевы «ці можна згадзіцца з С. Брагай, які прадстаўляе сабе паездку Скарыны як вельмі грамоздкую экспэдыцыю з значным запасам выдадзеных ім кнігаў, з наборам шрыфтоў, ледзь ня ўсім тэхнічным аснашчэньнем друкарні... Зайшоўшай у Маскве катастрофай С. Брага гатовы выясьняць страту ўсяго тыража кнігаў Скарыны ды іхнюю даволі вялікую рэдкасьць, долю ягоных шрыфтоў, і г.д.» (б. 156-157).

Пра колькасьць спаленых у Маскве Скарынавых кнігаў у працы маёй кажацца: «Калі Скарына наважыўся ехаць да далёкае Масквы, дык хіба-ж браў ён з сабой не адну-дзьве кнігі, а большы іх лік. Зьнішчэньне іх у Маскве й ёсць адною з прычынаў вялікае цяпер іх рэдкасьці» (б. 22). Дык ход тут не пра «страту ўсяго тыражу», а толькі пра «большы лік» прывезеных кнігаў Пагляд гэткі ня толькі правільны, але ён у дадзеных абставінах бадай адзіны магчымы пастулят лёгікі. хто будзе ехаць ў гэткае далёкае падарожжа для прадажы кнігаў ды браць з сабой ўсяго колькі іх экзэмпляраў?

Што-ж да ўзятых, магчыма, да Масквы Скарынам і шрыфтоў ды некаторае мо й друкарскае снасьці, у працы маёй выразна сказана, што гэта толькі дапушчэньне, і як гэткае, зь ім, пэўнаж можна згаджацца, можна яго й аспрэчваць. Пра гэта ў мяне напісана: «Можна было-б дапушчаць, што едучы да далёкае Масквы Скарына мог узяць з сабою й шрыфты ды патрэбныя друкарскія прылады, на выпадак, калі-б там знайшліся адпаведныя ўмовы для разгарненьня друкарскае справы» (б. 21). Стаўляньне гэткага дапушчэньня ў дадзеным выпадку ня толькі абгрунтаванае, але й мэтазгоднае, хоць-бы для таго, каб выясьніць яго спробвалі іншыя аўтары. Адмаўляць права на гэта аб'ектыўных падставаў няма.

Паколькі падарожжа доктара Скарыны да Масквы, паводле Флароўскага, «выходзіла далёка за рамкі гандлёвых справаў ды вельмі востра закранала галіны веры й ідэялёгіі» (б. 157), ён сумляваецца ў тым, каб ад асабістай жорсткай княжэвай распраўы доктара Скарыну мог захаваць пункт мірнае ўгоды Літвы з Масквой 1523 году пра ўзаемную гваранцыю свабоднага прыезду ды ад'езду купцоў.

Разглядаючы гэтае пытаньне ня трэба выпускаць зь віду, што да Масквы Скарына прыехаў усё-ж з канкрэтным дарагім, і напэўна ў большым ліку, таварам,— з кнігамі Дзеля гэтага ён напэўна падпадаў пад ахоўную моц пункту дамовы пра свабоду прыезду й ад'езду купцоў І што да нейкае паважнейшае «распраўы» над выдаўцом спаленых кнігаў не дайшло, у гэтым няма падставаў сумлявацца. Накш пра гэта напэўна было-б успомнена ў дакумэнце венскага архіву. У Маскве забралі й спалілі тавар — кнігі. Сам выдавец меў усё-ж магчымасьць Маскву пакінуць ды вярнуцца да Вільні.

Найпаважнейшая засьцярога А.В. Флароўскага — дзеля яе гэтае зацемка галоўна й напісаная — гэта пагляд, што ўсё-ж няма яшчэ пэўнасьці ці кнігі Бібліі да Масквы прывёз сам доктар Скарына, паколькі імя выдаўца ў дакумэнце не названае. Флароўскі высоўвае думку, што да Масквы надрукаваныя кнігі мог прывезьці з Скарынавага даручэньня й хто-небудзь зь ягоных «супрацоўнікаў ды супольнікаў» па выдавецкай справе. Канкрэтна Флароўскі называе ведамага фінансіера Скарынавага праскага выдавецтва, купца й райцу места Вільні, Багдана Онкава (у Флароўскага памылкова ён названы Барысом).

Калі трымацца дакладна тэксту ведамкі адпаведнга дакумэнту — падставаў на сумляваньні ці сам доктар Скарына павёз свае кнігі да Масквы няма ніякіх. У венскім дакумэнце ясна сказана, што з кнігамі да Масквы ехаў той выдавец, які іх у розных «мясцох» друкаваў. Хоць фінансава ў выдавецкай працы доктару Скарыну ў Празе дапамагаў Багдан Онкаў, ды толькі доктар Скарына быў тым выдаўцом, што выдаваў кнігі й у Празе, і ў Вільні — у розных





«мясцох». Дык ужыты ў дакумэнце множны лік пра месца друку кнігаў — in locis — можа датычыцца толькі да аднаго Скарыны й не да каго іншага. І выдаўцом, і гаспадаром выдавецтва й у Празе, і ў Вільні быў толькі ён.

Ведамая ў гістарычнай літаратуры спроба Багдана Онкава паехаць да Масквы з таварамі (але ня з кнігамі) для спагону там вялікіх яму даўгавых належнасьцяў. Эпізод гэты шырэй разгледжаны й у маёй працы Але ведама, што да Масквы Багдан Онкаў тады не даехаў. Яго пераранялі нейдзе каля Вялікіх Лукаў, ужо ў Маскоўшчыне, разбойнікі ды абрабавалі й з тавараў, і з грошаў. Свае зрабаванае маемасьці Онкаў пазьней пробаваў ад Масквы даходзіць праз караля й вялікага князя Жыгімонта Казіміравача.

Пададзеныя ў дакумэнце факты пра спаленьне ў Маскве кнігаў Бібліі падыходзяць, і вельмі дакладна, да адной толькі асобы ды да аднаго толькі выдаўца — доктара Франьцішка Скарыны. Каб дапушчаць, што мо гэта быў ня ён, а нехта зь ягоных «супрацоўнікаў», на гэта няма ніякіх паказаньняў у ведамцы. Вось дзеля гэтага й празьмерная паўстрымлівасьць аўтара ў прызнаньні факту, што ў Маскве быў сам Скарына, неапраўданая Да Масквы з кнігамі як кажацца ў дакумэнце, паехаў сам той выдавец, які «кнігі Бібліі выдаваў», значыцца сам доктар Скарына. Ён сам у Маскве й пеpажыў усю горыч свайго няўдалага падарожжа.

Пры ўсіх вышэй выказаных засьцярогах, артыкул А.В Флароўскага важны тым, што ў ім нанава, ды гэткім выдатным скарыністым, узьняты факт публічнага спаленьня кнігаў Скарыны ў Маскве на загад маскоўскага князя Васіля Іванавіча. Артыкул бясспрэчна прычыніцца да таго, каб біяграфічна важны эпізод дасьледнікі бралі ўрэшце на ўвагу пры разглядзе Скарынавае выдавецкае дзейнасьці, пры азначэньні шырыні пастаўленага ёй засягу ды напатыканых перашкодаў

А гэта й сяньня патрэбна, бо даўно дакумэнтальна ўстаноўленаму факту — паленьня ў Маскве кнігаў выдатнага беларускага вучонага-гуманісты — і дагэтуль нейк усё яшчэ цяжка трапіць у Скарынавы біяграфічныя нарысы выданьняў БССР Сьвежым прыкладам гэтага служыць можа выдадзены ў 1973 годзе 9-ты том Беларускае Савецкае Энцыкляпэдыі. Хоць Франьцішку Скарыну адведзена там каля 4-х бачынаў[3], ды зь іх чытач нічога не даведаецца пра гэты яскравы жыцьцяпісны эпізод выдатнага Палачаніна, эпізод бясспрэчна вялікае й біяграфічнае, і культурна-гістарычнае цікавасьці.

Калі ўсьведаміць тое, што архіўны дакумэнт зь ведамкай пра спаленьне Скарынавых кнігаў у Маскве быў апублікаваны ўжо ў 1862 годзе, дзівіцца даводзіцца, што яшчэ й сяньня, ці бо больш як сто гадоў пасьля, гэтаму яскраваму гістарычнаму факту ўсё яшчэ цяжка прабіцца на бачыны скарынаведнае літаратуры. І гэта тады, калі гэтым самым часам ствараюцца, друкуюцца, ды й літаратурна «распрацоўваюцца» выдумкі пра спаленьне ў Вільні ня толькі кнігаў, але й друкарні доктара Скарыны.

**Сымон БРАГА**
**Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.**
**Нью-Ёрк. 1974, N 12.**

[1] Сымон Брага. Доктар Скарына ў Маскве ("Запісы", кн. 2. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1963, б. 9 – 36). Таксама адбітка: Нью Ёрк – Мюнхен, 1963, 32 б.

[2] А.В. Флоровский. Скорина и Москва (Литература и общественная мысль древней Руси. Академия наук СССР. Труды Отдела древней русской литературы т. XXIV. Ленинград, 1969, б. 155 –158).

[3] У. А. Калесьнік, Г.Я. Галенчанка. Скарына Францыск (Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Мінск, т.9, 1973, б. 548 – 552).

ЯНЫ | Патрык ЗЮСКІНД

# ПАРФУМА

## ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЗАБОЙЦЫ

*Раман*

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### 35

Калі на першы этап падарожжа па Францыі ў Грануя пайшло сем гадоў, дык другі ён адолеў за сем дзён, нават за менш Ён больш не пазбягаў людных гасцінцаў і гарадоў, нікуды не збочваў. У яго быў пах, былі грошы, ён верыў у сябе, і ён спяшаўся.

Ужо пад вечар таго дня, як ён пакінуў Манпелье, ён прыйшоў у Гро-дзю-Руа, партовы гарадок на паўднёвы захад ад Эг-Морта, адкуль на грузавым парусніку адплыў у Марсэль. У марсэльскім порце ён адразу пашукаў карабель, які плыў далей уздоўж узбярэжжа, на ўсход. Праз два дні быў ужо ў Тулоне, а яшчэ праз тры дні —у Кане. Рэшту дарогі ён ішоў пеша. Ён ішоў па сцежцы, якая вяла ўглыбіню краіны, на поўнач, да гор.

Праз дзве гадзіны ён стаяў наверсе пласкагор'я, а перад ім на шмат міляў наўсцяж прасціраўся басейн ракі, нешта накшталт велізарнай ландшафтнай місы, берагі якое складаліся з пагоркаў і крутых горных хрыбтоў, а далёкае вусце пакрывалі ўзараныя палеткі, урobленыя, дагледжаныя сады і аліўкавыя гайкі. Нейкая адметна адмысловая, інтымная атмасфера запаўняла гэтую місу Хоць мора было так блізка, што яго можна было бачыць з вяршынь пагоркаў, у ім не было нічога марскога, нічога саланавата-пясчанага, нічога адкрытага —адно ціхая ад'яднанасць, быццам узбярэжжа было за некалькі дзён дарогі. І хоць на поўначы падымаліся вялікія горы, на якіх яшчэ ляжаў і яшчэ доўга ляжацьме снег, тут не адчувалася ніякай дзікасці ці ўбогасці, ніякага халоднага ветру Вясна тут прабілася далей, чым у Манпелье. Мяккае мроіва слалася над палямі, было як шкляны звон. Абрыкосавыя і апельсінавыя дрэвы стаялі ў квецені, і цёплае паветра было прыдухмянена нарцысамі.

На другім беразе гэтай вялізнай місы, прыкладна праз дзве мілі, ляжаў ці, лепей сказаць, ляпіўся да ўрвішчаў гор нейкі горад. З адлегласці ён не рабіў надта раскошнага ўражання. Там не было магутнага, каб над усімі дамамі, сабора, а толькі пупышка званіцы, не было дамінанты — крэпасці-фартэцыі, не было ніякага асабліва выбітнога будынка. Сцены зусім не здаваліся непрыступнымі, сюд-туд дамы перліся з-за агароджы як бы каб дастацца на роўную паверхню, і дадавалі гэтай мяккай акварэлі крыху пашкуматанасці Здавалася, гэты горад дужа часта бралі захопнікі, потым зноў пакідалі, ён як бы стаміўся сур'ёзна супраціўляцца будучым уварванням —не ад слабасці, а як бы з нядбальства ці, лепей, нават ад адчування сваёй сілы Ён як бы не хацеў выстаўляцца, што-та я Ён валодаў вялікай пахучай місай, якая раскашавала каля ягоных ног, і, здавалася, гэтага яму годзе.

Гэты адначасова заняхаены і самаўпэўнены гарадок называўся Грас і вось ужо каторае дзесяцігоддзе лічыўся сталіцай гандлю і вытворчасці духмянасцяў, парфумных тавараў, туалетнага мыла і алеяў Джузэпэ Бальдзіні заўсёды вымаўляў яго назву з замроеным захапленнем. Ён казаў, што гэты горад — Рым пахошчаў, зямля абяцаная парфумнікаў, і хто не прайшоў тутэйшай школы, той — не парфумнік.

Грануй глядзеў на горад Грас даволі цвярозымі вачыма. Ён не шукаў абяцанага краю парфумы, і сэрца ягонае не застукатала, калі ён угледзеў гняздо, якое прыляпілася да высокіх спадаў гор.Ён прыйшоў, ведаючы, што тут лепш, чым дзе б тое ні было, можна навучыцца тэхнічным спосабам здабывання пахаў Якраз іх ён і маніўся засвоіць, маючы ў тым патрэбу дзеля сваіх мэтаў Ён дастаў з кішэні флакон са сваёй парфумай, ашчадліва ёю пакарыстаўся і — у дарогу Праз паўтары гадзіны, нападполудзень, ён быў у Грасе.

Ён перакусіў на пастойным двары ў верхнім горадзе на пляцы Оз-Эр Пляц па ўсёй даўжыні перасякаў ручай, у якім дубільшчыкі мачылі скуры, каб потым разапнуць іх на прасушку Смярдзела тут так апраметна, што многія пастойнікі есці не маглі Але не Грануй. Яму гэты пах быў знаёмы, ён яму толькі дадаваў рызыкі Ва ўсіх гарадах ён найперш ішоў у кварталы гарбароў Потым, выходзячы са смуроду і выведваючы іншыя мясціны ў горадзе, ён ужо не чуўся там чужым.

Увесь дзень, ад полудня да вечара, ён нышкарыў па горадзе. Горад быў неверагодна брудны, нягледзячы на, а, можа нават, дзякуючы вадзе, якое тут было пропадзь, яна струменілася з тузіна крыніц і фантанаў, булькатала ў недагледжаных ручаях і канавах і падмывала, і заглейвала завулкі. Дамы ў некаторых кварталах так скупіліся, так стаўкліся, што на праходы і лесвічкі заставалася шырыні па тры пядзі, і прахожыя, якія прадзіраліся па гэтым балоце, шчыльна цісnуліся адзін да аднаго, калі каму трэба было каго абагнаць. І нават на пляцах і на нямногіх шырэйшых вуліцах карэты ледзьве маглі раз'ехацца. І вось жа яно, пры ўсёй гразі, пры ўсёй сталочанасці і цеснаце горад распірала прадпрымальнасць рамеснікаў. Робячы абыход, Грануй налічыў не менш за сем мылаварняў, тузін парфумных і пальчатніцкіх майстэрняў, безліч дробных катухоў, дзе рабілі дыстыляты, шмінкі і спецыі і, нарэшце, нешта з сем оптавых лавак, дзе ўжо гэтымі ўсімі пахошчамі гандлявалі

У кожным разе тут былі гандляры з сапраўднымі буйнымі канторамі парфумных вырабаў Па дамах не заўсёды можна было пазнаць. Бо фасады глядзеліся па-буржуазнаму някідка. Затое, што ляжала за фасадамі — на складах, у кладоўках і ў велізарных сутарэннях — барылы з алеем, штабелі духмянага лавандавага мыла, балоны з кветкавымі эсэнцыямі, віны, настоі, рулоны пахучых скур, мяхі, і куфры, і скрынкі, набатаваныя спецыямі. — Грануй улоўліваў іх пахі ва ўсіх дэталях праз самыя тоўстыя сцены — было багацце, якога і князі не мелі А калі ён унюхваўся мацней, праз празаічныя гандлёвыя і складскія памяшканні, ён з вуліцы пазнаваў, што за гэтымі нехлямяжымі буржуазнымі дамамі стаялі будынкі самага раскошнага кшталту. Вакол маленькіх, але чароўных садкоў, дзе раслі алеандры і пальмы і дзе плёскаталі фантаны сярод клумбаў, мясціліся збудаваныя «спакоем», расхінутыя на паўднёвую палавіну жылыя прыбудовы сядзібаў залітыя сонцам, абабітыя шаўковымі шпалерамі спальні ў верхніх пакоях, раскошныя гасцёўні з панелямі з экзатычнай драўніны ў ніжнім паверсе і сталовыя, часам прыбудаваныя ў форме тэрасаў, якія выходзяць у сад; тут і сапраўды, як казаў Бальдзіні, елі з парцалянавых талерак залатымі відэльцамі, і нажамі, і лыжкамі Панства, якое жыло за гэтымі сціплымі кулісамі, пахла золатам і ўладаю, цяжкім

*Заканчэнне. Пачатак у № № 7, 8 (1 — 2, 3, 1995)*

надзейным багаццем, і яно пахла ўсім гэтым мацней, чым усё, што толькі нюхаў Грануй за час свайй вандроўкі па правінцыі.

Перад адным такім закамуфляваным палацца ён прастаяў даволі доўга. Дом стаяў на пачатку вуліцы Друат —галоўнай вуліцы, якая перасякала горад па ўсёй яго даўжыні з захаду на ўсход. З выгляду ў ім не было нічога адметнага, хіба што з фасада ён здаваўся шырэйшым і саліднейшым за суседнія будынкі, але зусім не імпазантнейшым. Перад брамаю стаяў воз з бочкамі, з яго разгружалі бочкі, скочвалі іх па шырокай дошцы. Другі воз ужо стаяў на чарзе. Нейкі чалавек з паперамі ўвайшоў у кантору, потым выйшаў з другім чалавекам, і абодва зніклі ў браме. Грануй стаяў на другім баку вуліцы і сачыў за гэтай мітуснёй. Тое, што там адбывалася, яго не цікавіла. І ўсё-такі ён не сыходзіў. Нешта трымала яго на месцы.

Ён заплюшчыў вочы і засяродзіўся на пахах, якія ішлі ад будынка. Тут былі пахі бочак воцату і віна, сотні цяжкіх пахаў складу, потым пахі багацця, якія пранікалі сюды праз сцены, як залаты пот, і, нарэшце, пахі саду, мабыць, па той бок дома. Было нялёгка ўлавіць гэтыя далікатныя пахі саду, бо яны толькі тонкімі смужкамі сцякалі з даху ўніз на вуліцу Грануй унюхаў магнолію, гіяцынты, шаўкоўніцу і рададэндран . — але, здавалася, там было яшчэ нешта, нейкая забойча цудоўная духмянасць. Ён ніколі ў жыцці — ды не, усяго толькі адзін раз у жыцці чуў нюхам такі вытанчаны водар. Яго павабіла наблізіцца.

Ён падумаў, ці нельга паспрабаваць перабрацца ў сядзібу проста праз арку брамы Але там столькі людзей займалася разгрузкай і праверкай бочак, што ён напэўна прыцягнуў бы да сябе ўвагу Ён рашыў вярнуцца назад на вуліцы, каб знайсці завулак ці праход да гэтага дома папярок галоўнай вуліцы. Праз некалькі метраў ён спыніўся каля гарадское брамы на пачатку вуліцы Друат. Ён прайшоў яе, забраў крута ўлева і ўздоўж гарадскога мура пачаў спускацца ўніз. Яшчэ крыху — і ён пачуў пах саду, спачатку слабенькі, змяшаны з паветрам палёў, потым усё мацнейшы Нарэшце ён зразумеў: сад каля гарадскога мура быў зусім блізка, проста перад ім. Крышку адступіўшы назад, ён мог бачыць верхняе голле дрэў за мурам.

Ён зноў заплюшчыў вочы. На яго абваліліся пахі гэтага саду, пракрэсленыя выразна і ясна, як каляровыя стужкі вясёлкі І той каштоўны, той, да якога яго надзіла, быў сярод іх. Грануй адчуў гарач шчасця і схаладзеў ад жаху. Кроў лінула яму ў галаву, як злоўленаму махляру, і адхлынула ўсярэдзіну цела, і зноў паднялася, і зноў адхлынула, і ён не мог нічога з гэтым зрабіць. Надта раптоўная была атака паху. На імгненне — на імгненне ўдыху, на цэлую вечнасць — яму здалося, што час падвоіўся або, наадварот, знік, бо ён перастаў разумець, ці цяпер — гэта цяпер і ці тут — гэта тут, або, можа, цяпер — было тады, а тут — было там, на вуліцы Марэ, у Парыжы, у верасні 1753 года. водар з саду быў водарам рыжай дзяўчыны, якую ён тады забіў Тое, што ён спачатку знайшоў у свеце гэты водар, напоўніла яго вочы слязьмі радаснага шчасця,— а тое, што гэтага магло і не быць, напалохала яго да смерці

У яго круцілася ў галаве, яго крыху вадзіла, і яму давялося абаперціся на сцяну і павольна апусціцца ў роў Там, збіраючы ў сябе сілу і таймуючы свой дух, ён пачаў удыхаць фатальны водар кароткімі, менш рызыкоўнымі зацяжкамі І выявіў, што пах за сцяной, хоць і неверагодна падобны на пах рыжай дзяўчыны, але не зусім такі самы. Зразумела, ён таксама ішоў ад рыжай дзяўчыны, у тым не было сумнення. Уяўленнем свайго нюху Грануй бачыў гэтую дзяўчыну перад сабою, як на карціне. Яна не сядзела спакойна, а бегала, падскоквала, ёй было горача, потым яна зноў астывала, яна яўна гуляла ў нейкую гульню, падчас якое трэба было жвава рухацца і заміраць на месцы — з нейкім іншым чалавекам, чый пах, зрэшты, зусім не меў значэння. У яе была сляпуча белая скура. У яе былі зялёныя вочы. У яе былі канапацінкі на твары, на шыі і на грудзях, ну, на... — Грануй на момант задыхнуўся, потым энергічней шмыгануў носам і паспрабаваў адціснуць успаміны пра пах дзяўчыны з вуліцы Марэ — ну, праўда, у тутэйшай дзяўчыны наогул яшчэ не было грудзей у поўным сэнсе слова! Яны ў яе яшчэ толькі-толькі пазначаліся. Яны ў яе былі бясконца далікатныя і ледзь-ледзь духмяныя, абсыпаныя канапацінкамі, магчыма, усяго некалькі дзён, магчыма, усяго некалькі гадзін... толькі-толькі на пачатку набухання грудочкі. Адным словам, гэтая дзяўчына была яшчэ дзіця. Але якое дзіця!

У Грануя выступіў пот на лобе. Ён ведаў, што дзеці пахнуць не вельмі моцна— гэтак як зялёныя, яшчэ не прапокнутыя бутоны кветак. Але гэтая кветка, гэты яшчэ амаль закрыты бутон за сцяной, яшчэ нікім апроч Грануя не заўважаны, яшчэ толькі выпускаў першыя пахучыя стрэлачкі пялёсткаў, ужо цяпер духмяніўся так нябесна, што валасы ўставалі. А калі распусціцца ва ўсёй свайй раскошы яна будзе разліваць такія пахошчы, якіх яшчэ ніколі свет не нюхаў Яна ўжо цяпер пахне лепей, падумаў Грануй, чым колішняя дзяўчына з вуліцы Марэ, не так, бадай, моцна, не так раскошна, а танчэй, шматгранней і разам з тым больш натуральна. А за два-тры гады гэты пах выспеліцца і набудзе такую ўладу, што ніводзін чалавек —хай мужчына, хай жанчына — не здолее не падупасці ёй. І людзі будуць упакораныя, урахманеныя, утаймаваныя, абяззброеныя, бездапаможныя перад чароўнасцю гэтай дзяўчыны, і яны не будуць ведаць — чаму І таму, што яны дурныя і могуць карыстаць свае насы толькі на чыханне і думаюць, што могуць спазнаваць усё дарэшты вачамі, яны скажуць, што захопленыя характвом, і грацыяй, і абаяльнасцю гэтай дзяўчыны У свайй абмежаванасці яны ўслаўляць яе самыя пасрэдныя рысы — статную постаць, бездакорны авал твару У яе вочы, скажуць, як смарагды, а зубы, скажуць,— як жамчужыны, а скура, скажуць,— гладкая, як слановая косць, якіх толькі няма ідыёцкіх параўнанняў. І яны абвесцяць яе Язмінавай Каралевай, і ёлуп-мастак намалюе яе партрэт, і ўсе скажуць, што яна — самая прыгожая жанчына Францыі. І зелепаны будуць трынькаць на мандаліне і праседжваць ночы пад яе акном.. тоўстыя багатыя мужчыны будуць поўзаць на каленях, просячы ў бацькі рукі ягонай дачкі... а жанчыны любога ўзросту, убачыўшы яе, будуць уздыхаць і сніць пра тое, каб хоць адзін дзень быць такой панаднай, як яна. І ўсе яны не даведаюцца, што на самай справе яны зачараваныя не яе знешнасцю, не нейкай там беспахібнай прыгажосцю, а толькі адзіна яе непараўнальнай, царскай духмянасцю! Толькі ён будзе ведаць гэта, ён, Грануй, ён адзін А ён і цяпер ужо ведаў гэта.

Ах! Ён хацеў завалодаць гэтым пахам! Завалодаць не так неразважліва, як тады, на вуліцы Марэ. Пах той дзяўчыны ён проста выпіў, пераліў у сябе і тым самым разбурыў Не, водар дзяўчыны за сцяной ён хацеў прысвоіць па-сапраўднаму: зняць з яе, як скуру, і зрабіць свайй уласнасцю. Як гэта зрабіць, ён не ведаў Але ў яго было два гады запасу, каб навучыцца. У сутнасці, гэта не павінна было быць цяжэй, чым абабраць рэдкую кветку, зняць з яе пах. Ён устаў Амаль багавейна, нібы пакідаючы святую, якая спала, ён пайшоў, прыгорблены, ацішэлы, каб ніхто яго не згледзеў, каб ніхто яго не пачуў, ніхто не здагадаўся пра яго каштоўную знаходку Так ён дабег уздоўж гарадскога мура ў другі канец горада, дзе духмяны пах дзяўчыны нарэшце згубіўся Яго ўпусцілі назад праз браму Фензан. Ён спыніўся ў цяні дамоў Смярдзючы пах завулкаў дадаваў яму пэўнасці і дапамог ацугляць шалы Праз паўгадзіны ён ужо быў спакойны. Па-першае, думаў, ён больш не падыдзе да саду за мурам. Не след рабіць гэтага. Гэта занадта вярэдзіць яго. Кветка распусціцца там і без яго, а ўжо як яна будзе распускацца, яму і так вядома. Ён не дасць сабе раней часу ўпівацца. Ён павінен дапасці да працы. Ён павінен пашырыць свае веды і ўдасканаліць сваю рамесніцкую ўмеласць, каб быць пры поўнай зброі, калі настане жніва. У яго было яшчэ два гады запасу





**36**

Непадалёк ад заставы Фензан, на вуліцы дэ-ля-Луў, Грануй знайшоў маленькае парфумнае атэлье і спытаўся, ці няма яму працы.

Гаспадар, майстар парфумніцтва Анарэ Арнульфі, яшчэ летась узімку памёр, і ягоная ўдава, увішная чорнавалосая кабеціна гадоў пад трыццаць, вяла інтэрас адна з дапамогаю чаляднiка.

Мадам Арнульфі доўга скардзілася на цяжкія часіны і сваё гаротнае матэрыяльнае становішча, але потым заявіла, што хоць яна і не можа дазволіць сабе наняць другога чаляднiка, але мае ў ім вялікую патрэбу, бо на яе навалілася гара працы, апрача таго яна ніяк не можа пусціць другога чаляднiка да сябе ў дом, але ж, з іншага боку, у яе ёсць невялікі хляўчук у алiўкавым садзе за францысканскім кляштарам — усяго дзесяць хвілін хады адгэтуль, дзе непераборлівы малады чалавек мог бы, калі спатрэбіцца, начаваць; вядома, казала мадам, яна сумленная гаспадыня і гатовая несці адказнасць за цялеснае здароўе сваіх чаляднікаў, але, з іншага боку, яна не можа забяспечыць ім два разы на дзень гарачы стол, адным словам, мадам Арнульфі — і гэта Грануй адразу скеміў — была жанчына надзейная, мысліла здарова і дзельна. І як што яго самога грошы не цікавілі і ён задаволіўся двума франкамі на тыдзень і іншымі жабрацкімі выгодамі, яны хутка згаварыліся. Паклікалі першага чаляднiка,

камлюкаватага дзецюка Друо, і Грануй адразу здагадаўся, што мадам прывыкла дзяліць з ім пасцель і не прымае без яго дзелавых рашэнняў. Той стаў перад Грануем (ён глядзеўся проста да смеху малюпасенькім каля гэтага гуна), расставіўшы ногі і распырскваючы вакол сябе пах спермы, акінуў яго прыдзірлівым позіркам, быццам хацеў такім спосабам выявіць нейкія цёмныя намеры альбо магчымага суперніка, нарэшце, паблажліва выскаліўся і кіўком даў згоду.

Такім чынам, усё было ўладжана. Грануй атрымаў поціск рукі, халодную вячэру, радно і ключ да халабуды — гэта быў хляўчук без вокан,—дзе прыемна пахла авечымі бэбахамі і сенам і дзе ён згоршага-злепшага ўладкаваўся. На другі дзень прыступіў да працы ў мадам Арнульфі

Стаяла нарцысавая пара. Мадам Арнульфі разводзіла кветкі на сваіх маленькіх дзялянках у горадзе альбо купляла іх у сялян, з якімі шалёна тузалася за кожны кошык. Кветкі дастаўлялі ў атэльe рана раніцай, іх высыпалі з кашоў дзесяткамі тысяч, зграбалі ў велізарныя, але лёгкія, як парушынкі, духмяныя купы. Тым часам Друо распускаў у вялікім катле свіное і валовінае сала, у гэтае падобнае на смятану варыва, якое Грануй павінен быў увесь час памешваць доўгім, як памяло, шпаталем, Друо шуфляваў свежыя кветкі. Як да смерці напалоханыя вочы, яны нейкае імгненне ляжалі на паверхні і адразу бляклі, калі іх падхопліваў шпаталь і ўмінаў у гарачы тлушч. І амаль у тую ж самую хвіліну яны ўжо размякалі і вялі, і, відавочна, смерць іх заставала так неспадзявана, што ім не заставалася іншага выбару, як перадаць свой апошні пахучы ўздых якраз той самай стыхіі, у якой яны каналі, бо — Грануй зразумеў гэта і аж падскочыў ад радасці,— чым больш кветак ён перамешваў у сваім катле, тым мацней пахнуў тлушч. І гэта ж не мёртвыя кветкі заходзіліся пахам у тлушчы, не, гэта быў сам тлушч, які прысвоіў сабе водар кветак.

Тым часам варыва загусала, і яны барждждэй-барждждэй вылівалі яго на вялізнае рэшата, каб вызваліць ад вільготных трупаў і падрыхтаваць пад свежыя кветкі. Так яны засыпалі, мяшалі і фільтравалі цалюткі божы дзень без перапынку, бо працэс не дапускаў запавольвання, так што да вечара ўся груда кветак прапускалася праз кацёл з тлушчам. Адходы — каб нішто не прападала — залівалі варам і да апошняй кроплі выціскалі на шпіндальным прэсе, што да таго ж давала яшчэ алей з далікатным пахам. На аснове водару душа цэлага мора кветак, застаючыся ў катле, замкнутая ў шэра-белым тлушчы, цяпер павольна застывала.

На другі дзень мацарацыя, як называлася гэтая працэдура, працягвалася, кацёл зноў падагравалі, тлушч распускалі і закладвалі новымі кветкамі. Так яно ішло некалькі дзён з раніцы да вечара. Праца была не дай бог якая У Грануя свінцом наліваліся рукі, на далонях выхапіліся пухіры і балела спіна. Увечары ногі не трымалі, ён ледзьве дабіраўся да свайго хлява. Друо быў, мабыць, разы ў тры дужэйшы за яго, але каб хоць раз падмяніў яго на размесе, а толькі падкідваў у кацёл лёгкіх, як пух, кветак, сачыў за агнём і пры кожным зручным выпадку, спасылаючыся на гарачыню, выходзіў прамачыць горла. Але Грануй не наракаў Ён маўкліва з раніцы да вечара перамешваў кветкі ў тлушчы і амаль не адчуваў ніякай натугі, бо не пераставаў захапляцца працэсам, які адбываўся ў яго на вачах і пад яго носам імгненным вяннем кветак і паглынаннем іх паху

Праз нейкі час Друо рашаў, што тлушч дастаткова насыціўся і не можа больш абсарбаваць пах. Ён тушыў агонь, апошні раз цадзіў ацяжэлае варыва і напаўняў ім каменны тыгель, дзе яно адразу застывала ў выдатную пахучую пamaду

Гэта была гадзіна мадам Арнульфі, якая прыходзіла праверыць працу, надпісаць каштоўны прадукт і дакладна занесці ў свае кнігі яго якасць і колькасць. Яна асабіста перакрывала тыгель, запячатвала і выносіла ў халодныя глыбіні падвала, потым надзявала чорную сукенку і ўдоўскі шаль і абыходзіла купцоў і парфумныя фірмы горада Націскаючы на мілажальнасць, яна апісвала гэтым негацыянтам сваё становішча адзінокай жанчыны, выслухвала прапановы, супастаўляла цэны, уздыхала і, нарэшце, прадавала альбо не прадавала свой тавар. Парфумная пamaда доўга залежваецца ў холадзе. І калі цяпер цэны не тое каб, хто ведае, магчыма, зімою ці навесну яны падскочаць. І трэба падумаць, а ці ж варта збываць свой тавар гэтым прахвостам амаль за так альбо, як гэта робяць іншыя дробныя вытворцы, адпраўляць груз пamaды караблём у Геную альбо, напрыклад, можа, яно такі лепш узяць удзел у восеньскім кірмашы ў Бокеры — рызыкоўныя заскокі, вядома, але ў разе поспеху шалёна прыбытковыя. Мадам най-най-най узважвала гэтыя розныя магчымасці, прыкідвала так і гэтак, часам спалучала адну з адной альбо праварочвала іх усе, частку сваіх скарбаў прадавала, другую прыхоўвала, а трэцяй гандлявала на сваю рызыку. І калі пасля пэўных роспытаў і выв׳іжовак у яе складвалася ўражанне, што рынак перанабатаваны пamaдамі і незабаўным часам попыт на яе тавар не вырасце, яна, у сваім удоўскім шалі ды не ў жалі спяшалася дамоў і загадвала Друо перарабіць усю партыю ў essence absolue.





І тады паступова зноў выносілі з сутарэння, асцярожненечка падагравалі ў накрытых горшчыках, дадавалі чыстага віннага спірту і прыладжанай усярэдзіну мяшалкай, якою шураваў Грануй, грунтоўна перамешвалі і вымывалі Вярнуўшыся ў склеп, гэтая сумесь хутка халадзела, спірт аддзяляўся ад застылага тлушчу пamaды, і яго можна было пераліць у бутлю. Цяпер гэта ўжо было нешта накшталт духоў, але страшэнна высокай інтэнсіўнасці, тым часам як пазасталая пamaда траціла большую частку свайго водару. Такім чынам водар кветак яшчэ раз пераходзіў у іншую субстанцыю. Але на гэтам аперацыя не канчалася. Пасля грунтоўнай фільтрацыі праз марлю, на якой асядалі самыя найдрабнюткія тлушчынкі, Друо заліваў пахучы спірт у маленькі перагонны куб і павольна дыстыляваў яго на самым слабым агні. Пасля выпарэння спірту ў ёмістасці заставалася маленькае каліўца бледна-афарбаванай вадкасці, добра вядомай Грануй; аднак у такой колькасці і чысціні ён не нюхаў яе ні ў Бальдзіні, ні, скажам, у Рунэля: гэта быў суцэльны, самы чысты, празрысты і бліскучы алей з кветак, голая пахучасць, тысячакроць сканцэнтраваная ў лужынцы essence absolue. Гэтая эсэнцыя ўжо не мела прыемнага паху. Яна пахла амаль з балючай інтэнсіўнасцю, востра і едка. І ўсё ж было б даволі адной яе кроплі, разведзенай у літры алкаголю, каб зноў уваскрэсіць нюхам цэлае поле кветак.

Вядома, прадукту было вельмі мала. Вадкасці з дыстылятара хапала роўна на тры маленькія флаконы. Усяго толькі тры флаконы паху заставалася ад сотняў тысяч кветак. Але яны каштавалі як на цэлы маёнтак нават тут у Грасе. І ў колькі ж разоў яшчэ даражэй, калі іх адпраўлялі ў Ліён, у Гранобль, у Генію ці ў Марсэль! І калі мадам Арнульфі глядзела на гэтыя флакончыкі, вочы ў яе замгляліся прыгожай павалокай, яна лашчыла іх позіркам і, беручы іх у рукі і закаркоўваючы спраўна прыцёртым гранёным шкляным каранцом, затойвала дыханне, каб не прапала ні кропелькі каштоўнага змесціва. І каб пасля закаркоўкі не вымкнулася, не выпарылася ніводная атамулька, яна запячатвала коркі тлустым воскам і загортвала ў рыбны пузыр, які моцна перавязвала на гарлячку флакона. Потым ставіла флаконы ў скрыначкі з пракладкай, выносіла ў склеп і замыкала на ключ і засаўку

## 37

У красавіку яны мацаравалі чаромху і апельсінавы цвет, у траўні — мора ружаў, духмянасць якіх на цэлы месяц завалакла горад нябачным салодкім, як крэм, туманам Грануй працаваў, як конь. Сціпла, амаль з рабскай гатоўнасцю ён выконваў усе падсобныя аперацыі, якія даручаў яму Друо. Але пакуль ён, здавалася б, тупа размешваў і зграбаў кветкі, мыў бутэлькі, падмятаў майстэрню ці насіў дровы, ад яго ўвагі не ўтоілася ніводная істотная дэталь рамяства, ніводзін метамарфоз пахаў Спраўней, чым калі-небудзь мог зрабіць гэта Друо, дзякуючы свайму носу, Грануй вёў і ахоўваў рух пахаў ад пялёсткаў праз тлушч і спірт у каштоўныя маленькія флаконы Ён нашмат раней, чым заўважаў Друо, адчуваў, калі тлушч пачынаў пераграваццa, адчуваў, калі маса кветак выдыхалася, калі варыва насычалася пахам, ён адчуваў, што адбывалася ў змяшальніках і ў які дакладна момант працэс дыстыляцыі павінен быў спыніцца. І кожнага разу даваў гэта зразумець, ясна, як бы ненарочна, не здымаючы маскі дагодлівасці. Яму падалося, казаў ён, што цяпер вось тлушч, мусіць, стаў занадта гарачы; ён амаль упэўнены, што пара быццам бы зліваць у сіты, у яго такое пачуццё, нібыта спірт у перагонным кубе вось-вось пачне выпарацца.. Друо хоць і не быў сямілобы, але і поўным ёлупам таксама не быў і з часам спетрыў, што прымаў самыя лепшыя рашэнні якраз тады, калі рабіў альбо загадваў зрабіць так, як «здавалася» Грануй, у якога «было такое адчуванне». І як што Грануй ніколі не строіў з сябе важніка і не задаваўся тым, што ў яго «было такое адчуванне», і ніколі — тым болей пры мадам Арнульфі!— нават жартам не ставіў пад сумненне аўтарытэт Друо і прывілеяванасць яго становішча, Друо не бачыў прычыны, чаму б яму не следаваць парадам Грануя; больш таго: з часам ён ужо адкрыта пачаў перакладваць на яго прыняцце рашэнняў.

Усё часцей здаралася так, што Грануй не толькі мяшаў у катле, але яшчэ і закладваў масу, паліў у печы і працэджваў памаду, а тым часам Друо выпраўляўся прапусціць шклянку віна ў «Чатыры Дафіны» або падымаўся наверх да мадам паглядзець, што там і як. Ён ведаў, што на Грануя можна было пакласціся. А Грануй хоць і выконваў двайную працу, цешыўся з адзіноты, удасканальваўся ў новым мастацтве і пры выпадку крыху эксперыментаваў. І са зладзюжнай радасцю ён выявіў, што зробленая ім памада непараўнана танчэйшая, а яго essence absolue на парадак вышэй, чым прыгатаваная разам з Друо.

У канцы чэрвеня пачаўся час язміну, у жніўні — начных гіяцынтаў Абедзве расліны мелі такі далікатны і крохкі, высакародны пах, што трэба было не толькі зрываць іх кветкі да ўзыходу сонца, але і апрацоўваць іх адмыслова, вельмі асцярожна. Цяпло памяншала іх водар, раптоўнае апусканне ў гарачы мацарацыйны тлушч цалкам разбурыла б яго. Гэтыя самыя высакародныя кветкі не даваліся, каб ім так проста вырывалі душу, і яе даводзілася вынаджваць хітрасцю. У асобным памяшканні іх рассыпалі на змазаныя тлушчам гладкія дошкі альбо не спрасоўваючы загортвалі ў прамасленыя палотны, дзе іх павольна ўсыплялі да смерці. Толькі праз тры-чатыры дні яны вялі, выдыхаючы свой водар на суседні тлушч ці алей. Потым іх асцярожненька выбіралі і рассыпалі свежыя кветкі. Працэс паўтараўся дзесяць — дваццаць разоў, і да таго часу, калі памада насычалася і можна было выціскаць з палатна пахучы алей, настаўаў верасень. Тут здабытку было яшчэ меней, чым пры мацарацыі. Аднак якасць атрыманай халодным анфлеражам язмінавай пасты або прыгатаванага па старадаўнім рэцэпце туберозавага мыла па сваёй адмысловасці і адпаведнасці арыгіналу была вышэйшая, чым у любога іншага прадукту парфумнага мастацтва. Здавалася, што на тлустых пласцінах, як у люстры, быў адбіты саладкастойкі эратычны пах язміну і адбіваўся вельмі нават натуральна —cum grano salis*, вядома. Бо Грануеў нюх яшчэ адрозніваў пах кветак і іх кансерваваны водар: быццам тонкае покрыва ляжаў на ім пах тлушчу (колькі хочаце чысты), згладжваючы араматычны вобраз арыгіналу, яго пранозлівасць, можа, нават наогул робячы яго прыгажосць прымальнай звычайным людзям. У кожным разе, халодны анфлераж быў самы мудрагелісты і дзейсны сродак улоўлівання пяшчотных пахаў Лепшага не было. І хоць нават гэты метад не мог цалкам падмануць нос Грануя, ён ведаў, што, каб абдурыць свет ёлупаў без нюху, яго тысяча разоў досыць.

Вельмі хутка ён пераўзышоў свайго настаўніка Друо як у мацараванні, так і ў майстэрстве халоднай араматызацыі і даў яму гэта адчуць праверaным дагодліва-тактычным чынам. Друо ахвотна даручаў яму выйсці ў горад, на бойню, купляць там самыя патрэбныя тлушчы, ачышчаць іх, распускаць, фільтраваць і вызначаць прапорцыі сумесяў Сам Друо заўсёды баяўся гэтай працы і выконваў яе з вялікай намогай, бо нячысты, прагорклы або занадта пратхнёны свінінай, валовінай або баранінай тлушч мог разбурыць каштоўную памаду Ён перадаверыў Гранную вызначаць прамежкі паміж прасаленымі пласцінамі ў памяшканні араматызавання, час замены кветак, ступень насычэння памады, неўзабаве ён перадаверыў яму ўсе самыя рызыкоўныя рашэнні, якія ён, Друо, гэтаксама, як калісь Бальдзіні, мог прымаць толькі наўздагад, па вывучаных правілах, а Грануй — з веданнем справы, чым ён быў абавязаны свайму носу, пра што Друо, вядома, нават не здагадваўся.

«У яго лёгкая рука,— казаў Друо.— Ён нутробаю адчувае, што да чаго» А часам ён думаў: «Ды ён проста намнога здольнейшы за мяне, з яго выйдзе парфумец у сто разоў лепшы за мяне». І пры гэтым ён лічыў яго прапашчым галганам, бо Грануй, на яго думку, не выдабываў аніякага прафіту са свайго таленту, а ён, Друо, з меншымі здольнасцямі тым часам ужо паспеў зрабіцца майстрам. А Грануй уцвердзіў яго ў гэтым перакананні, старанна прыкідваўся дурнем, не паказваў аніякусенькіх знакаў любові да славы, рабіў выгляд, што не здагадваецца пра сваю геніяльнасць і выконвае ўсё толькі па загаду шматспрактыкаванага і вопытнага Друо, без якога ён, Грануй, нішто.

Потым прыйшлі восень і зіма. У майстэрні паспакайнела. Кветкавыя пахі, замкнутыя ў тыглі і флаконы, адлежваліся ў падвале. Час ад часу мадам загадвала праверыць тую ці іншую памаду альбо дыстыляваць мех-другі сухіх зёлак, а ўвогуле працы было не тое каб залішне. Паступалі яшчэ алівы, тыдзень у тыдзень, поўнымі кашамі (з іх чавілі дзявочы алеец, а рэшту здавалі на млячарню), і віно, частку якога Грануй пераганяў у ачышчаны спірт

* З крупінкай солі (*лац.*).





Друо ўсё радзей заглядваў у майстэрню. Ён спраўляў свае абавязкі ў пасцелі мадам, а калі і аказваўся, прасмердлы потам і спермай, дык толькі дзеля таго, каб зікнуць у «Чатырох Дафінах». Мадам таксама рэдка спускалася ўніз. Яна займалася сваімі маёмаснымі справамі і пераробкай гардэроба пад той момант, калі закончыцца год жалобы Часта Грануй цэлымі днямі не бачыў нікога акрамя служанкі, якая прыносіла яму кулеш папалуднаваць, а на вячэру — хлеб і масліны. Ён амаль не выбіраўся ў горад. У карпаратыўным жыцці, а менавіта ў зборнях чаляднікаў і шэсцях ён удзельнічаў роўна настолькі, каб не кідалася ў вочы ні яго адсутнасць, ані яго прысутнасць. Ні дружбакоў, ні знаёмых ён не заводзіў, але раўніва сачыў, каб яго не палічылі ні набрыдам, ні адвальнем Ат, хай сабе чаляднікі лічаць, што кампанія з ім прэсная і нудная Ён быў майстар у майстэрстве разводзіць нуд і выдаваць сябе за неабструганага галгана —разумела, не перабіраючы аж настолькі, каб з яго можна было злосліва кпіць або рабіць ахвяру грубых цэхавых жартаў. Яму ўдалося паказаць сябе абсалютна нецікавым На яго махнулі рукой. А яму больш нічога і не трэба было.

## 38

Свой час ён праводзіў у майстэрні. Друо ён патлумачыў гэта тым, што нібыта прыдумвае новы рэцэпт адэкалону. А насамрэч ён эксперыментаваў зусім з іншымі пахамі Ягоная парфума, якую ён зрабіў у Манпелье, хоць ён і карыстаўся ёю вельмі ашчадна, ужо скончылася. Ён прыдумаў новую. Але гэтым разам не задаволіўся толькі імітацыяй на скорую руку з матэрыялаў асноўнага чалавечага паху, якія падвярнуліся выпадкова, а ўклаў усю сваю фанабэрыю ў стварэнне асабістага водару і нават мноства асабістых пахаў

Спачатку ён зрабіў сабе пах непрыкметнасці, мышына-шэрую будную вопратку, у якой кіславата-сырны чалавечы пах хоць і быў, але толькі злёгку прабіваўся быццам праз тоўсты пласт шарсцяной вопраткі, нацягнуты на сухую старэчую скуру З такім пахам яму было зручна быць сярод людзей. Духі былі дастаткова моцныя, каб на нюх абгрунтаваць існаванне нейкай асобы, і адначасова настолькі сціплыя, што ніхто іх не заўважаў З іх дапамогаю Грануй нюхальна як бы не прысутнічаў і ўсё-такі самым сціплым чынам заўсёды апраўдваў сваю наяўнасць. Гэта было яму вельмі дарэчы як у доме мадам Арнульфі, так і ў час яго выпадковых вылазак у горад.

Праўда, пры некаторых акалічнасцях гэты сціплы пах быў перашкодаю. Калі яму па заданні Друо даводзілася рабіць пакупкі або калі ён хацеў у якога-небудзь гандляра купіць крыху цыбетыну або некалькі зярнятак мускусу, магло здарыцца так, што пры ягонай абсалютнай непрыкметнасці яго або зусім не заўважалі і не абслугоўвалі, або хоць і заўважалі, але давалі не тое або забываліся абслужыць. На такія выпадкі ён стварыў сабе больш пародзістыя, крыху патлівыя духі з некаторымі нюхальнымі вугламі і кантамі, якія надавалі яму больш грубую знешнасць і прымушалі людзей думаць, што яму спех, што яму мусова кудысьці трэба. Апрача таго, з дапамогаю імітацыі ўласцівай Друо aura seminalis, якую ён здолеў узнавіць араматызаваннем пратлушчанай палатнянай хусцінкі пастай з свежых качыных яец і падпражанай пшанічнай мукі, ён дабіваўся добрых вынікаў, калі трэба было ў нейкай меры прыцягнуць да сябе ўвагу.

Наступнымі духамі з ягонага арсеналу быў пах, які абуджаў спагаду, спачуванне, ён акурат уздзейнічаў на жанчын сярэдняга і сталага веку Гэта быў пах вадкага малака і чыстага мяккага дрэва. У ім Грануй — нават калі ён уваходзіў нягolены, з кіслым тварам, не здымаў плашча — рабіў уражанне беднага бледнага хлапца ў падранай куртачцы, якому трэба было дапамагчы. Рыначныя гандляркі, пачуўшы гэты пах, совалі яму арэхі і сушаныя грушы — такім галодным і бездапаможным ён ім здаваўся. А мяснікова жонка, вядомая сваёй няўмольнасцю і скупасцю, дазволіла яму выбраць і ўзяць задарам старыя смярдзючыя рэшткі мяса і касцей, бо ягоны пах нявіннасці расчуліў яе мацярынскае сэрца. З гэтых рэштак ён, у сваю чаргу, прамой прапіткай алкаголем выдабыў галоўныя кампаненты паху, якім карыстаўся, калі мусова хацеў застацца сам-насам Гэты пах ствараў вакол яго атмасферу ціхай агіды, павеў гнілі, які патыхае раніцаю са старых недагледжаных ратоў Эфект быў такі моцны, што нават не вельмі грэблівы Друо міжволі адварочваўся і выходзіў на свежае паветра, дакладна не разумеючы, што на самай справе вытурыла яго з дому А некалькі кро-

пель гэтага рэпеленту, пралітых на парог хаціны, бывала дастаткова, каб трымаць на адлегласці любога няпрошанага госця, хай то чалавек, хай звер.

Цяпер, пад абаронаю розных пахаў, якія ён у залежнасці ад знешніх абставінаў мяняў, як адзенне, і якія дазвалялі яму не выдзяляцца ў свеце людзей і ўтойваць сваю сутнасць, Грануй аддаўся свайму сапраўднаму захапленню — самаму вытанчанаму паляванню на пахі. І як што перад ім была вялікая мэта, а наперадзе было яшчэ больш году часу, ён не толькі з ліхаманкавай рупнасцю, але і незвычайна планамерна і сістэматычна пачаў мянціць зброю, выпрацоўваць самыя вытанчаныя прыёмы, упарта даводзіць да дасканаласці метады. Ён пачаў з таго, на чым спыніўся ў Бальдзіні,— з выдабывання водару з нежывых прадметаў: з каменю, металу, дрэва, солі, вады, паветра...

Тое, што тады ад ужывання грубага метаду дыстыляцыі закончылася поўнай няўдачай, цяпер удалося дзякуючы абсарбіяльнай сіле тлушчу. Яму спадабаўся халодны зацвілы пах латуннай засаўкі да дзвярэй, і ён на некалькі дзён абмазаў яе валовым салам. І трэба ж — пасля таго як ён саскроб сала і праверыў вынік, яно хоць і слаба, але ўсё-такі адназначна пахла менавіта латунню. І нават пасля адмывання алкаголем пах яшчэ заставаўся, бясконца слабы, далёкі, прыцэнены выпарэннем віннага спірту і даступны, мабыць, ва ўсім свеце толькі тонкаму нюху Грануя, але ўсё-такі ён быў, і гэта азначала, што хоць бы ў прынцыпе ён быў яму да паслуг. Калі б у яго было дзесяць тысяч засавак, якія ён мог бы тысячу дзён падрад абмазваць салам, ён змог бы атрымаць малюпасенькую кропельку essence absolue, паху такой сілы, што ў любога і кожнага ўзнікла б ілюзія, што ў яго проста пад носам — латунны арыгінал засаўкі.

Тое ж самае ўдалося яму з водарам порыстага вапняку, кавалак якога ён знайшоў на аліўкавай плантацыі перад хацінкай. Ён яго мацараваў і атрымаў маленькі шарык каменнай памады, невымоўны пах якое захапляў яго неапісальна. Ён скамбінаваў яго з іншымі пахамі, здабытымі з усіх магчымых прадметаў, падабраных вакол ягонага хлеўчука, і спакваля змайстраваў мініяцюрную мадэль аліўкавай плантацыі за францысканскім кляштарам, якую, замкнуўшы ў малюсенькім флакончыку, мог насіць пры сабе і, калі захочацца, ажыўляць з мёртвых. Вядома, віртуозныя кунштукі, цудоўныя забаўкі, якія ён рабіў з пахамі цешылі яго аднаго і былі вядомыя толькі яму. Але сам ён быў у захапленні ад гэтых бязглуздых штук, і ў ягоным жыцці ні раней, ні потым не было момантаў такога сапраўды нязноснага шчасця, якое ён перажываў, ствараючы ў азарце гульні пахучыя ландшафты, нацюрморты і партрэты асобных прадметаў. А неўзабаве ён перайшоў на жывыя аб'екты

Ён пачаў лавіць зімовых мух, лічынак, пацукоў, дробных кошак і тапіць іх у гарачым тлушчы. Начамі ён залазіў у хлявы да кароў, козаў і парасят, каб на некалькі гадзін загарнуць іх у абмазаныя тлушчам палатніны або абматаць прасаленымі бінтамі. Альбо пракрадваўся ў авечую кашару, каб абстрыгчы ягня, пахучую поўсць якога ён мыў у вінным спірце. Спачатку вынікі не вельмі натхнялі Бо ў адрозненне ад такіх цярплівых прадметаў, як латунная засаўка або камень, жывёлы не хацелі аддаваць свой пах. Свінні церліся бакамі аб карыты, здзіралі з сябе бінты. Авечкі бляялі, калі ён уначы набліжаўся да іх з нажом. Каровы ўпарта атрасалі з вымя тлустыя анучы. Некаторыя злоўленыя ім жукі, калі ён спрабаваў іх перапрацаваць, выкідвалі гідотна смярдзючыя сакрэцыі, а пацукі, мабыць, ад страху, гадзілі ў яго высокаадчувальныя памады. Жывёлы, якіх ён хацеў мацараваць, у адрозненне ад кветак, не хацелі аддаваць свой пах пакорліва, з маўклівым уздыхам, а зацята супраціўляліся смерці, нізавошта не давалі сябе ўтапіць, вырываліся, драпаліся, кусаліся і змагаліся, і ад страху выдзялялі непрапарцыянальна вялікія колькасці смяротнага поту, так што гарачы тлушч псаваўся ад перанасычанасці кіслотамі. Гэта, вядома, перашкаджала разумнай працы. Аб'екты трэба было папярэдне супакоіць і так раптоўна, каб яны яшчэ не паспелі спалохацца або пачаць супраціўляцца, забіваць. Давялося забіваць.

Спачатку ён паспрабаваў гэта на нейкім шчаняці. З буды каля бойні ён павабіў яго ад маці кавалкам мяса і прывёў у майстэрню, і, калі жывёла з радасным яўканнем заскакала, спрабуючы выхапіць мяса з левай рукі Грануя, ён паленам, якое трымаў у правай, коратка і рэзка ўдарыў яго па патыліцы. Смерць шчанюка настала так нечакана, што выраз шчасця яшчэ доўга захоўваўся ў яго вачах і лапах, калі Грануй у памяшканні для араматызавання асцярожна клаў яго на рашотку паміж тлустымі пласцінамі, дзе ён цяпер выпускаў свой чысты, не затуманены потам страху водар. Зразумела, трэба было ўвесь час быць напагатове! Трупы, як і сарваныя кветкі, хутка псаваліся. І таму Грануй сцярог сваю ахвяру прыкладна





дванаццаць гадзін, пакуль не заўважыў, што з цела сабакі пацяклі струменьчыкі хоць і прыемнага, але тут недарэчнага трупнага паху. Ён адразу прыпыніў анфлераж, прыняў труп і схаваў кавалачак араматызаванага тлушчу ў кацёл, дзе яго старанна прамыў. Ён дыстыляваў алкаголь, пакуль яго не засталося з напарстак, і гэтую рэшту выліў у малюсенькую шкляную прабірку. Парфума выразна пахла вільготнай, свежай, бліскучай сабачай скурай, пах быў рэзкі, нават надзіва рэзкі. І калі Грануй даў яго панюхаць старой суцы з бойні, тая забрахала, і заскавытала, і не хацела адрываць ноздры ад шкляной прабіркі Але Грануй шчыльна зачыніў яе, паклаў у кішэню і яшчэ доўга насіў пры сабе як успамін пра той дзень трыумфу, калі яму ўпершыню ўдалося адабраць духмяную душу ў жывое істоты.

Потым, вельмі паступова і з найвялікшай асцярожнасцю, ён прыступіў да людзей. Пад прыкрыццём свайго лёгкага паху някідкасці ён вечарамі ашываўся сярод заўсёднікаў «Чатырох Дафінаў» і пад сталамі, і лавамі, і ў зацішных закутках прычапляў абрыўкі прапітанай алеем або тлушчам матэры Праз некалькі дзён ён збіраў іх і даследаваў. Сапраўды, яны разам з усімі магчымымі кухоннымі выпарэннямі і пахамі тытунёвага дыму і віна выдыхалі крыху чалавечага паху. Але ён заставаўся даволі расплывістым і завуаляваным— хутчэй агульным адчуваннем смуроду, чым асабістым пахам. Тую ж самую аўру чалавечай масы, але больш чыстую і сублімаваную ва ўзнёсла-патлівую якасць, можна было атрымаць у саборы, дзе Грануй 24 снежня развесіў пад лаўкамі свае пробныя сцяжкі і адкуль забраў іх 26 снежня, пасля таго як над імі было адседжана не меней сямі абедняў. На гэтых шматках тканіны, якія ўвабралі атмасферу сабора, адбіўся жахлівы кангламерат пахаў прагорклага поту, менструальнай крыві, вільготных упадзін пад каленямі і звездзеных сутаргаю рук, змяшаных з адпрацаваным паветрам дыхання тысяч глотак, што спяваюць хорам і шэпчуць малітвы, і з цяжкімі гразкімі парамі ладану і міры, жудасны ў сваёй воблачнай бясформнасці, якая выклікае млосць згушчанасці і ўсё-такі ўжо пазнавальна чалавечы Першы індывідуальны пах Грануй раздабыў у багадзельні Яму ўдалося ўкрасці прызначаныя да спалення прасціны аднаго толькі што памерлага ад сухотаў чалядніка-гарбара, у якіх ён праляжаў загорнуты два месяцы Палатно так моцна прасяклася сальнымі выдзяленнямі гарбара, што ўвабрала яго выпарэнні, як паста для анфлеражу, і яго можна было проста прамыць. Вынік быў кашмарны пад носам у Грануя з раствору віннага спірту гарбар паўстаў з мёртвых, і яго індывідуальны нюхальны партрэт, хай схематычны, скажоны своеасаблівым метадам рэпрадуктавання і шматлікімі міязмамі хваробы, але ўсё-такі цалкам пазнавальны, праступіў у паветры памяшкання. маленькі чалавек гадоў трыццаці, бландзін з шырокім тупым носам, з кароткімі рукамі, плоскімі сырнымі ступакамі, набухлым членам, жоўцевым тэмпераментам і гідкім пахам з рота, гэты гарбар не вызначаўся прыгажосцю, не варта было захоўваць яго, як таго маленькага шчанюка. Але ўсё-такі Грануй цэлую ноч дазволіў прывіду насіцца па сваёй хаціне і раз-пораз падчапляў яго нюхам, шчаслівы і глыбока задаволены пачуццём улады, якую ён здабыў над аўрай іншага чалавека. На другі дзень ён вытрас яго вон.

У гэтыя зімовыя дні ён паставіў яшчэ адзін вопыт Адной нямой жабрачцы, якая бадзялася па горадзе, ён плаціў франк, каб яна цэлы дзень насіла на голым целе анучкі, апрацаваныя рознымі сумесямі тлушчу і алею. Высветлілася, што камбінацыя тлушчу ягнячых нырак і бясприымеснага каровінага сала ў адносінах два-пяць да трох пры дабаўцы невялікай колькасці дзявочага алею лепей за ўсё падыходзіць для засваення чалавечага паху. На гэтым Грануй спыніўся. Ён адмовіўся ад таго, каб авалодаць цалкам нейкім жывым чалавекам і перапрацаваць яго па правілах парфумеры Гэта было б заўсёды звязана з рызыкай і не дало б новых вынікаў. Ён ведаў, што цяпер валодае тэхнічнымі прыёмамі, якія дазваляюць сілком адабраць у чалавека ягоны пах, і на гэта не трэба было новых доказаў

Пах чалавека сам па сабе быў яму абыякавы Пах чалавека ён мог дастаткова хораша імітаваць сурагатамі. Тое, чаго ён прагна жадаў, быў пах пэўных людзей: а менавіта тых надзвычай рэдкіх людзей, якіх любяць. Вось яны і зрабіліся ягонымі ахвярамі.

## 39

У студзені ўдава Арнульфі законна пашлюбілася са сваім першым чаляднікам Дамінікам Друо, які, такім чынам, зрабіўся мэтрам Друо, майстрам пальчатачных і парфумных спраў

Была дадзена вялікая гасціна майстрам гільдыі, больш сціплы абед чаляднікам, мадам купіла новы матрац на ложак, які яна з гэтага часу афіцыйна дзяліла з Друо, і дастала з шафы свае яркія сукенкі У астатнім усё засталося, як і было. Яна пакінула сабе добрае старое імя Арнульфі, захавала непадзеленую маёмасць, фінансавае кіраўніцтва справамі і ключы да падвала; Друо дзень у дзень выконваў сваю сексуальную павіннасць, а потым асвяжаўся вінам; а Грануй хоць і аказаўся першым і адзіным чаляднікам, нёс на сабе асноўную частку працы, якая раптам навалілася на яго, за ўсё той самы стары пансіён, сціплы харч і гаротнае жытло.

Год пачаўся жоўтым патокам касій, гіяцынтамі, фіялкамі і наркатычнымі нарцысамі Аднаго разу ў сакавіцкую нядзелю, удзень — прайшло прыкладна з год, як ён прыйшоў у Грас,— Грануй выправіўся на другі канец горада падзівіцца, як там у тым садзе за мурам. Гэтым разам ён быў падрыхтаваны да паху і даволі дакладна ўявіў сабе, што яго чакае. . і ўсе ж, калі ён яе ўнюхаў, ужо каля Новага моста, на паўдарозе да таго месца за сцяной, сэрца яго забілася спарней, і ён адчуў, як кроў у ягоных жылах закіпела ад шчасця Яна была яшчэ там — неверагодна прыгожая расліна выдатна перазімавала, налілася сокам, падрасла, расправілася, выпусціла раскошныя парасткі! Яе водар, як ён і чакаў, памацнеў, але не страціў сваёй вытанчанасці. Тое, што яшчэ год таму назад іскрылася пырскамі і кропелькамі, цяпер струменілася плаўным, крыху пастозным патокам паху, узяла тысячай фарбаў, і кожная фарба была цэльная і моцная і больш не рвалася. І гэты паток, мілашчасна канстатаваў Грануй, сілкаваўся з усё большай крыніцы. Яшчэ год, яшчэ толькі год, яшчэ толькі дванаццаць месяцаў, і крыніца зафантаніць на поўную сілу, і ён зможа прыйсці, захапіць яго і прыручыць дзікае вывяржэнне яго водару.

Ён прабег уздоўж сцяны да знаёмага месца, за якім быў сад. Хоць дзяўчына яўна была не ў садзе, а ў доме, у свяцёлцы за зачыненымі вокнамі, яе пах веяў, як роўны мяккі брыз. Грануй стаяў зусім ціха. Ён не быў аглушаны або ап'янёны, як першага разу Ён быў перапоўнены шчаслівым пачуццём каханка, які здалёк падпільноўвае або сочыць за сваёй багатворнай каханай і ведае, што праз год забярэ яе да сябе. Сапраўды, Грануй, гэты самотны клешч, гэтая пачварына, гэты нелюдзь Грануй, які ніколі не адчуваў кахання і ніколі не мог заказаць у сябе, стаяў таго сакавіцкага дня каля гарадскога мура Граса, і кахаў, і быў бязмерна шчаслівы ад свайго кахання Праўда, ён кахаў не чалавека, не дзяўчыну ў доме, там, за сцяною, ён кахаў водар. Толькі яго, і нічога іншага, і кахаў яго як будучы ўласны водар. Праз год ён завалодае ім, і ў гэтым ён прысягнуў сабе сваім жыццём. І даўшы сабе гэта своеасаблівае абяцанне ці зрабіўшы гэтыя заручыны, прысягнуўшы быць верным свайму будучаму паху, ён у радасным настроі пакінуў месца прысягі і праз браму Дэ-Кур вярнуўся ў горад.

Лежачы ўначы ў сваім хляве, ён яшчэ раз дастаў яе пах з успаміну —не змог усупрацівіцца спакусе — і апусціўся ў яго, ён песціў яго і дазваляў яму лашчыць сябе, ён адчуваў яго зусім побач, так блізка, быццам у сне, быццам ён ужо сапраўды валодаў ім, сваім водарам, сваім уласным водарам, і, пакуль доўжылася гэтае дзівосна-п'янкое імгненне, ён любіў яго ў сабе і сябе дзякуючы яму. Ён хацеў заснуць з гэтым пачуццём закаханасці ў сябе. Але якраз у той момант, калі заплюшчыў вочы і яму засталося зрабіць усяго адзін удых, каб аддацца крозам, водар пакінуў яго, раптоўна знік, і яго месца заполніў халодны пах казлінага хлява.

Грануй жахнуўся «А калі,— падумаў ён,— а калі гэты водар, якім я авалодаю, скончыцца? Гэта ж не так, як ва ўспамінах, дзе ўсе пахі не прападаюць, не мінаюць. Рэальны пах зношваецца, сутыкаючыся з светам. Ён лятучы І калі зносіцца, не будзе больш крыніцы, адкуль я яго ўзяў І я застануся голы, як раней, і мне давядзецца зноў дапамагаць сабе рознымі сурагатамі Не, не, будзе горш, чым раней! Бо я ўжо пазнаю яго і авалодаю ім, маім уласным нябесным пахам, і я не змагу яго забыць, бо ніколі не забываю пахаў І значыцца, я ўсё жыццё буду мучыцца ўспамінам пра яго, як мучуся ўжо цяпер, у момант майго смакавання Тады навошта я наогул хачу авалодаць ім, навошта ён мне?»

Гэта думка была незвычайна непрыемная. Грануй страшэнна спалохаўся, што, авалодаўшы водарам, якім ён яшчэ не валодаў, непазбежна зноў яго страціць. Як доўга ён утрымае яго? Некалькі дзён? Некалькі тыдняў? Можа, цэлы месяц, калі будзеш душыцца вельмі ашчадна? А потым? Ён ужо бачыў, як вытрасае з флакона апошнюю кроплю, апалосквае флакон вінным спіртам, каб не прапала ані каліўца, і бачыць, адчувае, як яго любімы пах назаўсёды і





беззваротна вытыхаецца. Гэта будзе павольным паміраннем, ён як бы задыхнецца, наадварот, паступова, у муках выпарыць сябе вонкі, у мярзотны, жудасны свет

Яго калаціла, яго агарнула жаданне адмовіцца ад сваіх планаў, выйсці ў ноч і ісці куды вочы глядзяць. Яму захацелася перайсці горы, і не спыняцца сто міляў да Аверні, і там залаўзці ў сваю старую пячору, і заснуць, і памерці ў сне. Але ён не зрабіў гэтага. Ён застаўся на месцы і не паддаўся спакусе, хоць жаданне было моцнае. Ён не паддаўся, бо гэта было старое жаданне сысці куды вочы вядуць і запаўзці ў пячору. Ён ужо зведаў гэта. А тое, чаго ён яшчэ не зведаў, было валоданне чалавечым водарам, водарам, такім самым нябесным, як водар дзяўчыны за мурам. І хоць ён разумеў, што за валоданне і потым за страту водару яму давядзецца заплаціць жудасную цану, усё-такі валоданне і страта здаваліся яму больш жаданымі, чым простае адмаўленне ад таго і іншага. Бо ён адмаўляецца ўсё сваё жыццё. І яшчэ ніколі не валодаў і не траціў.

Паступова сумненні адступіліся, перастала трэсці Ён адчуваў, як яго зноў ажывіла цёплая кроў і воля ажыццявіць задуманае авалодала ім. І авалодала ім мацней, чым раней, бо цяпер гэтая воля дыктавалася не чыста пажадай, а яшчэ і ўзважаным рашэннем Клешч Грануй, пастаўлены перад выбарам — ці засохнуць у самім сабе ці даць сабе ўпасці, рашыўся на другое, добра ўсведамляючы, што гэта падзенне будзе апошняе. Ён зноў лёг на нары, закапаўся ў салому, накрыўся коўдрай і адчуў сябе героем.

Але Грануй не быў бы Гранулем, калі б надоўга задаволіўся фаталістычна-гераічным пачуццём. Да гэтага ягоная воля да самасцвярджэння была занадта ж непахісная, цела яго занадта загартаванае, розум — занадта вытанчаны І вось, ён рашыўся завалодаць водарам дзяўчыны з саду за мурам Хай праз некалькі тыдняў ён яго страціць і памрэ ад гэтай страты, хай так. Але было б лепей не паміраць і ўсё-такі завалодаць яе пахам альбо, прынамсі, адцягнуць на як мага даўжэйшы час гэтую страту Водар трэба зрабіць устойлівым Трэба спыніць лятучасць водару, не парушыўшы яго характару,— праблема з вобласці парфумеры

Ёсць пахі, якія трымаюцца дзесяцігоддзі Сундук, нашараваны мускусам, кавалак скуры, насычаны карынкавым алеем, камячок амбры, шкатулка з кедравага дрэва ў нюхальным сэнсе жывуць амаль вечна. А іншыя — лімерынавы алей, бергамот, экстракты нарцыса і туберозы і многія кветкавыя пахі — выдыхаюцца ўжо праз некалькі гадзін, калі выставіць іх на паветра ў чыстым выглядзе. Парфумнік змагаецца з гэтай фатальнасцю, звязваючы лішнія лятучыя пахі —устойлівымі, як бы накладваючы на іх кайданы не шчыльна, а як бы даючы пэўную свабоду звязанаму паху, але ўсё-такі трымаючы яго дастаткова блізка, каб ён не мог уцячы Гэты выкрунтас двойчы выдатна ўдаваўся Гранулю з туберозавым алеем, эфемерны пах якога ён скаваў малюсенькай долькаю цыбетыну, ванілі, лабдануму і кіпарысу і менавіта тым выявіў яго чароўнасць. Ці нельга зрабіць нешта падобнае і з пахам дзяўчыны? Хіба абавязкова трэба марнаваць каштоўны пах, самы крохкі пах, ужываючы яго ў чыстым выглядзе? Недарэчна! Жахліва бяздарна! Хіба алмазы пакідаюць без агранкі? Хіба золата носяць на шыі самародкамі? Няўжо ён, Грануй,— усяго толькі прымітыўны рабаўнік пахаў накшталт Друо і іншых мацаратараў, дыстылятараў і выціскальнікаў кветак? Ці не ён — самы вялікі парфумнік у свеце?

Ён стукнуў сябе па лобе ад прыкрасці, што не даўмеўся да гэтага раней. Канечне, гэты адзіны ў сваім родзе пах нельга ўжываць у натуральным выглядзе. Яму, як каштоўнаму каменю, патрэбна аправа. Ён вычаканіць араматычную дыядэму, і *ягоны* водар будзе ззяць у ім на самым версе, адначасова і ўплецены ў іншыя пахі, і ўзнесены над імі. Ён зробіць парфуму паводле ўсіх правілаў мастацтва, і пах дзяўчыны з па-за мура будзе яе сэрцам. Зразумела, дзеля аранжыроўкі, дзеля апорнай сярэдняй ноты, дзеля завастрэння і фіксацыі гучання не падыходзіць ні мускус, ні цыбетын, ні ружовы алей, ні амбра, гэта ясна. На такую парфуму, на такую чалавечую духмянасць яму патрэбныя іншыя інгрэдыенты

## 40

У траўні таго ж самага года на ружавым палетку, на паўдарозе ад мястэчка Апіё, што на ўсход ад Граса, быў знойдзены голы труп пятнаццацігадовай дзяўчыны Яна была забітая ўдарам дубінкі па патыліцы Селянін, які напароўся на труп, быў так уражаны жахлівай зна-

ходкай, што ледзь не навёў падазрэнняў на самога сябе, калі дрыготкім голасам расказаў лейтэнанту паліцыі, што ніколі яшчэ не бачыў такой прыгажосці — хоць, у сутнасці, ён хацеў сказаць, што ніколі яшчэ не бачыў нічога страшнейшага.

Дзяўчына й праўда была чароўна прыгожая. Яна была з таго раскошнага тыпу жанчын, якія нагадваюць цёмны мёд, густы і салодкі і незвычайна цягучы, якія адным плаўным рухам, адным паваротам галавы, адным павольным, як узмах біча, позіркам завалодваюць прасторяю і пры гэтым спакойна стаяць у цэнтры віру, быццам не ўсведамляючы сілы прыцягнення, з якою яны вабяць пачуцці і душы як мужчын, так і жанчын А яна была маладая, у пары сталення, чароўнасць яе тыпу яшчэ не дасягнула дасканаласці Яе раскошныя формы былі яшчэ тугія і гладкія, грудзі пругкія, а пласкаваты твар, акаймаваны чорнымі валасамі, яшчэ захоўваў далікатныя абрысы і таямнічую няпэўнасць рысаў. Зрэшты, самых валасоў не было. Забойца абстрыг іх і забраў, гэтаксама і вопратку

Падазрэнне ўпала на цыганоў. Ад цыганоў можна было чакаць чаго хоч. Цыганы, як вядома, ткалі кілімы са старое вопраткі і набівалі падушкі чалавечымі валасамі, і рабілі маленькія лялькі са скуры і зубоў шыбенікаў. Такое вычварнае злачынства магло быць толькі цыганскім, бо чыё ж яшчэ. Але, як ні дзіўна, ніякіх цыганоў паблізу не было і заваду, не вадзілася нідзе ў наваколлі, апошні раз яны качавалі тут у снежні.

Як што ніякіх цыганоў не было, пачалі думаць на італьянскіх парабкоў-сезоннікаў. Італьянцаў, праўда, не было таксама, так рана яны не наязджалі, яны будуць наймацца на збор язміну толькі ў чэрвені, значыцца, якія ж гэта вам італьянцы. Нарэшце пад падазрэнне трапілі цырульнікі, якіх абшукалі, каб знайсці валасы забітай дзяўчыны. Пустое. Потым западозрылі яўрэяў, потым нібыта пажадлівых братоў бенедыктынскага кляштара — хоць усім манахам было ўжо далёка за семдзесят, потым цыстарыянцаў, потым франкмасонаў, потым вар'ятаў з лякарні, потым вугальшчыкаў, потым жабракоў і нават амаральных арыстакратаў, асабліва маркіза дэ Кабры, бо той ужо трэці раз ажаніўся, ладзіў, як казалі, у сваіх сутарэннях аргіястычныя дзействы і пры гэтым жлукціў кроў нявінніц, каб падвысіць сваю мужчынскую дастойнасць. Праўда, нічога канкрэтнага давесці не ўдалося. Ніхто не быў сведкам забойства, ні вопраткі, ні валасоў мёртвай не знайшлі. Праз некалькі тыдняў лейтэнант паліцыі спыніў следства.

У сярэдзіне чэрвеня наехалі, нарэшце, італьянцы, шмат якія з сем'ямі, наймацца на язмін. Сяляне, праўда, бралі іх на працу, але, памятаючы пра забойства, забаранялі сваім жонкам і дочкам вадзіцца з імі Беражонага Бог беражэ. Хай гэтыя сезоннікі можа й праўда не дачыніліся да злачынства, але ж маглі, а таму лепш ад іх трымацца далей.

Неўзабаве, як пачаўся збор язміну, грымнулі яшчэ два забойствы Зноў ахвярамі былі дзяўчаткі — пісаныя красуні таго ж самага чарнакосага тыпу, зноў знайшлі іх на палетку голых і паголеных з тупой ранай на патыліцы. Зноў — ані следу злачынцы Навіна шуганула з хуткасцю агню, і пагроза ўжо навісла над прыйшлым людам, як тут стала вядома, што абедзве ахвяры самыя былі італьянкі, дочкі аднаго парабка з-пад Генуі

Людзі даліся ў паніку. Яны цяпер не ведалі, супраць каго ім скіраваць свой бяссілы шал Праўда, сёй-той яшчэ ківаў на вар'ятаў ці на апантанага маркіза, але ў гэта не вельмі верылі, бо вар'яты ўдзень і ўначы былі пад наглядам, а маркіз даўно з'ехаў у Парыж. І людзі пачалі ціснуцца адзін да аднога. Сяляне адчынілі свае хлявы сезоннікам, якія раней начавалі ў чыстым полі. Гараджане ў кожным квартале выставілі начныя дазоры Лейтэнант паліцыі павялічыў каравулы каля гарадскіх брамаў. Але ўсе перасцярогі пайшлі на марна Праз некалькі дзён пасля двайнога забойства зноў знайшлі труп дзяўчыны, таксама знявечаны, як і ўсе ранейшыя. Гэтым разам дзяўчына была з Сардыніі — прачка з біскупавага палаца, забітая непадалёк ад Фантэн-дэ-ля-Фу, проста ледзь не каля гарадское брамы. І хоць пад націскам узбуджаных гараджанаў Рада консулаў пайшла на далейшыя захады —найстражэйшыя праверкі каля брамаў, узмацненне начных дазораў, забарона выходзіць на вуліцу поцемкамі ўсім асобам жаночага полу,— гэтым летам не праходзіла і тыдня, каб дзе-небудзь не знаходзілі труп маладой дзяўчыны. І кожны раз таго ўзросту, калі дзяўчына толькі-толькі пачынае брацца на маладую жанчыну, і кожнага разу гэта была самая прыгожая смуглянка таго ж самага чароўнага тыпу Зрэшты, неўзабаве забойца ўважыў і, пераважна сярод мясцовага насельніцтва, тып мяккай беласкурай і крыху таўсманай дзяўчыны Нават яркія брунеткі, нават шатэнкі — калі яны былі не надта худыя — апошнім часам рабіліся ягонымі ахвярамі. Ён высочваў іх усюды, ужо не толькі ў наваколлі Граса, але і ў горадзе, нават у дамах. Дачка аднаго сталяра была знойдзена забітай у сваёй свяцёлцы на пятым паверсе, і ніхто ў





доме не пачуў аніякага шуму, і ніводзін сабака, якія звычайна здалёк унюхвалі і аббрэхвалі кожнага чужога, нават не яўкнуў. Забойца здаваўся няўлоўным, бясцелым духам.

Людзі абураліся і клялі ўладу. Любая чутка прыводзіла да сутычак. Адзін валацуга — гандляр, які прамышляў любоўнымі трункамі і рознымі іншымі шарлатанскімі спецыямі і панацэямі, ледзь не быў разарваны натоўпам за тое, што ў ягоных парашочках нібыта быў тоўчаны дзявочы волас. Нехта спрабаваў падпаліць асабняк маркіза дэ Кабры і лякарню. Суконшчык Аляксандр Мінар застрэліў свайго слугу, які позна вяртаўся дамоў, прыняўшы яго за славутага Забойцу Дзяўчат. Усе, хто мог гэта сабе дазволіць, адсылалі сваіх падлеткаў-дачок да далёкіх сваякоў або ў пансіёны ў Ніцу, Экс ці Марсэль. Лейтэнанту паліцыі гарадская рада дала рады зняўшы яго такі з пасады Яго пераемца склікаў калегію дактароў, каб тыя абследавалі трупы абстрыжаных красунь на прадмет іх віргінальнага стану Высветлілася, што з віргінальнасцю ў іх было ўсё ў поўным парадку — непачатыя

Дзіўна, але гэтая вестка не паменшыла, а павялічыла панічны жах, бо потайкам кожны лічыў, што дзяўчат згвалцілі. Так, прынамсі, быў бы яснейшы матыў забойстваў Але цяпер ужо ніхто нічога больш не разумеў, цяпер усе былі разгубленыя. І той, хто верыў у Бога, шукаў ратунку ў малітве, спадзеючыся, што сатанінскае насланнё абміне хай хоць ягоны дом

Гарадская рада, шаноўная зборня трыццаці самых багатых і паважаных буржуа і арыстакратаў Граса, у большасці адукаваныя і антыклерыкальнага змыслу паны, якія дагэтуль ніколі ні ў чым не лічыліся з біскупам і з вялікай радасцю перафундавалі б кляштары і абацтвы пад таварныя склады і фабрыкі, — гэтыя ганарыстыя ўплывоўцы з гарадское рады былі такія прыгнечаныя, што настрачылі біскупу халуйскую петыцыю з просьбаю накласці анафему на пачвару, якая забівае дзяўчат, перад якою свецкая ўлада бяссільная, анафему і адлучэнне, так, як гэта зрабіў у 1708 годзе яго свяцейшы папярэднік, калі на горад звалілася вялікае бедства — нашэсце саранчы, якая пагражала тады ўсёй краіне. І праўда, у канцы верасня Граскі Забойца Дзяўчат, які ўжо загубіў дваццаць чатыры самыя прыгожыя дзяўчыны з усіх саслоўяў, быў урачыста анафемаваны і адлучаны; тэкст адлучэння быў вывешаны на дзвярах усіх гарадскіх храмаў і абвешчаны з усіх амбонаў, у тым ліку з амбона Нотр-Дам-дзю-Пюі, дзе яго прачытаў асабіста сам біскуп

І памагло-такі Поспех ашаламіў Забойствы спыніліся на другі ж дзень. Кастрычнік і лістапад абышліся без трупаў. На пачатку снежня дайшлі чуткі з Гранобля, што там апошнім часам лютуе нейкі Забойца Дзяўчат, які душыць свае ахвяры, рве на іх вопратку і вырывае з галавы валасы. І хоць гэтыя суконныя злачынствы ніяк не супадалі з вытанчана выкананымі graскімі забойствамі, усе адразу ж уверыліся, што гаворка тут пра аднаго і таго самага злачынцу. Жыхары Граса тройчы з палёгкаю перахрысціліся цяпер ужо вылюдак лютаваў не ў іх, а ў Гранобі, да якога сем дзён дарогі. Яны зладзілі шэсце з паходнямі ў гонар біскупа, а 24 снежня адседзелі вялікую падзякавальную мшу З 1 студзеня 1766 года ўзмоцненыя дазоры былі знятыя, і жанчыны атрымалі дазвол начамі выходзіць з дому. З неверагоднай хуткасцю грамадскае і прыватнае жыццё зноў уехала ў свае нармальныя каляіны Страх як усё роўна ветрам змяло, ніхто больш не гаварыў пра той жах, які ўсяго некалькі месяцаў таму назад панаваў у горадзе і наваколлі. Нават у сем'ях ахвяр пра гэта не гаварылі. Здавалася, анафема, абвешчаная біскупам, выгнала не толькі забойцу, але і ўсякі ўспамін пра яго. А людзям таго толькі і трэба было.

Толькі той, у каго была дачка на парозе цудоўнай маладосці, стараўся не пакідаць яе без прыгляду, адчуваў страх з наступленнем поцемкаў, а раніцай, калі знаходзіў яе жывой і здаровай, быў шчаслівы — хоць, вядома, сам сабе не прызнаваўся, чаму.

## 41

Аднак у Грасе быў чалавек, які не давяраў міру, што нарэшце настаў. Яго звалі Антуан Рышы, ён выконваў абавязкі Другога консула і жыў у гарадской сядзібе на пачатку вуліцы Друат.

Рышы быў удавец і меў дачку Лаўру. Хоць яму не было і сарака і ён быў надзіва здаровы, але не ўступаў у новы шлюб. Спачатку хацеў выдаць дачку. І не за абы-каго першага лепшага, а за чалавека высакароднага паходжання У яго быў на прыкмеце адзін такі, барон дэ Баён,

які меў сына і маёнтак пад Вансам; барон быў у добрай рэпутацыі, але маёмасныя справы яго крыху разладзіліся, і Рышы атрымаў ягоную згоду на будучы шлюб дзяцей. А калі Лаўра будзе надзейна прыстроена, тады ён запусціць свае жаніхоўскія мацкі ў якое-небудзь высакароднае сямейства — Друэ, Мабераў або Фонмішэль,— не таму што ён быў славалюбны і яму прыспічыла мець у пасцелі жонку-арыстакратку, а таму, што хацеў заснаваць дынастыю і паставіць сваё патомства на шлях, які вядзе да высокага грамадскага становішча і палітычнага ўплыву На гэта яму патрабавалася па меншай меры яшчэ два сыны, з якіх адзін прадоўжыў бы яго справу, а другі дасягнуў бы поспехаў на юрыдычным прыпірышчы і ў парламенце Экса і такім спосабам прабіўся б угору, у дваранскі стан. Аднак такія амбіцыі мелі шанцы на поспех толькі пры ўмове, што ён цесна звяжа сваю асобу і сваю фамільнасць з правансальскімі магнатамі.

Такія далёкасяжныя планы апраўдваліся тым, што ён быў казачна багаты Антуан Рышы быў намнога багацейшы за любога буржуа ў акрузе. Ён валодаў латыфундыямі не толькі ў ваколіцах Граса, дзе разводзіў апельсіны, сланечнік, пшаніцу і авёс, але і пад Вансам, і пад Антыбам, дзе трымаў арэнду. Ён меў дамы ў Эксе, дамы па ўсёй правінцыі, меў сваю долю даходу ад караблёў, якія хадзілі ў Індыю, пастаянную кантору ў Генуі і самы буйны гандлёвы склад араматычных тавараў, спецый, алеяў і скуры ў Францыі

Аднак сапраўднай каштоўнасцю Рышы была яго дачка. Яна была яго адзіным дзіцем, роўна шаснаццаці гадоў ад роду, з цёмна-рыжымі валасамі і зялёнымі вачамі. Твар у яе быў такі чароўны, што наведнікі любога полу і ўзросту слупянелі і больш не маглі адвесці ад яе вачэй, яны проста злізвалі сваімі позіркамі яе твар, як злізваюць языком марожанае, і пры тым у іх паяўляўся тыповы для такога занятку выраз дурнаватай засяроджанасці. Сам Рышы, гледзячы на сваю дачку, лавіў сябе на тым, што на нейкі час — на чвэрць гадзіны, на паўгадзіны, магчыма,— забываў увесь свет і ўсе свае справы, чаго ўвогуле з ім не бывала нават у сне, цалкам раствараўся ў сузіранні каралеўны-дзяўчыны і потым не мог успомніць, чым ён, шчыра кажучы, быў так заняты А з нейкага часу — ён з прыкрасцю ўсведамляў гэта — кладучы яе вечарамі ў пасцель або часам раніцай, калі прыходзіў яе будзіць, а яна яшчэ ляжала, спала, быццам закалыханая Госпадам Богам, і пад покрывам яе начнога ўбору ўгадваліся формы яе клубоў і грудзей, а з выраза кашулі ад шыі, выгіну падпашак, упадзін пад локцямі і гладкай рукі, на якой месціўся яе твар, струменілася яе спакойнае і гарачае дыханне. .— нешта жаласна сціскалася ў яго ўсярэдзіне, перахоплівала горла і прымушала глытаць сліну, і — Божа мілажальны!—ён праклінаў сябе, што прыходзіцца гэтай жанчыне бацькам, што ён не чужы, не які там староннi мужчына, перад якім яна ляжала б так, як цяпер ляжыць перад ім, а ён мог бы легчы да яе, на яе, у яе з усёй сваёй прагай валодання І ў яго выступаў пот, і ён дрыжаў усім целам, душачы ў сабе гэтую пачварную думку, і схіляўся над ёю, каб разбудзіць яе цнатлівым бацькоўскім пацалункам.

Летась, у часы забойства, ён яшчэ не адчуваў у сабе такога фатальнага змагання Чарадзейская ўлада, якую тады мела над ім ягоная дачка,— так яму, прынамсі, здавалася, — была яшчэ чароўнай уладаю дзяцінства. І таму ён ніколі сур'ёзна не апасаўся, што Лаўра стане ахвярай забойцы, які, як было вядома, не нападаў ні на дзяцей, ні на жанчын, а выключна на дарослых дзяўчат, якія яшчэ не страцілі нявіннасці Усе ж ён павялічыў ахову свайго дома, загадаў паставіць новыя краткі на вокнах верхняга паверха і загадаў пакаёўцы начаваць у спальні Лаўры Але думка пра тое, каб выслаць яе з горада, як гэта зрабілі з сваімі дочкамі, і нават з цэлымі сем'ямі, яго таварышы па саслоўі, была яму нязносная. Ён лічыў такія паводзіны ганебнымі і нягоднымі члена Рады і Другога консула, які, на яго думку, абавязаны даваць грамадзянам прыклад стрыманасці, мужнасці і непахіснасці Апрача таго ён быў чалавек, якому ніхто не мае права навязваць свае рашэнні — ні ахоплены панікай натоўп, ні тым болей адзін-адзіны ананімны падонак-злачынец. І ўвесь гэты жудасны час ён быў адзін з нямногіх у горадзе, хто не паддаўся ліхаманцы страху і меў ясную галаву. Але на дзіва ўсё гэта цяпер перамянілася. У той час, як людзі на вуліцах, быццам яны ўжо павесілі забойцу, святкавалі канец ягоных зладзействаў і амаль забылі той нядобры час, у сэрца Антуана Рышы, як нейкі гідотны яд, пранік страх. Спачатку ён не хацеў дапускаць, што менавіта страх прымушаў яго адкладваць даўно наспелыя паездкі, радзей выходзіць у горад, скарачаць візіты і нарады, толькі каб хутчэй вярнуцца. Ён доўга апраўдваўся перад самім сабой спасылкамі на занятасць і стомленасць, але нарэшце рашыў, што крыху заклапочаны, як быў бы заклапочаны на ягоным месцы кожны бацька, які мае дачку-нявесту, бо такая заклапочанасць — справа жыцейская.. Хіба не разнеслася ўжо па свеце слава пра яе прыгажосць? Хіба не выцягваюцца ўсе шыі, калі ў нядзелю ўваходзіш з ёю ў царкву? Хіба некаторыя паны ў Радзе ўжо не намякалі на магчымае сватанне ад свайго імя або ад імя сваіх сыноў?.





## 42

Але аднаго разу ў сакавіку Рышы сядзеў у гасцёўні і бачыў, як Лаўра выйшла ў сад. На ёй была сіняя сукенка, па якой рассыпаліся яе рыжыя валасы, яны іскрыліся на сонцы, ніколі ён не бачыў яе такою прыгожаю. Яна знікла за жывой агароджаю і паявілася з-за яе, можа, на два стукі сэрца пазней, чым ён чакаў,— і ён смяротна спалохаўся, бо падчас гэтых двух стукаў сэрца думаў, што страціў яе назаўсёды

Тае ж самае ночы ён прачнуўся ад страшнага сну, якога ўжо не памятаў, але сон быў звязаны з Лаўрай, і ён кінуўся ў яе пакой, пэўны, што знойдзе яе ў ложку мёртвай, забітай, апаганенай і астрыжанай,— але знайшоў яе цэлую і жывенькую.

Ён вярнуўся ў сваю спальню, увесь мокры ад поту, дрыжаў ад узбуджэння, не, не ад узбуджэння, а ад страху, цяпер ён нарэшце прызнаўся сабе ў гэтым, ён супакоіўся, і ў галаве ў яго прасвятлілася. Калі гаварыць шчыра, дык ён з самага пачатку не верыў у дзейснасць біскупскай анафемы; не верыў і ў тое, што цяпер забойца закручвае ў Гранаблі, і ў тое, што ён наогул пакінуў горад. Не, ён яшчэ жыў тут, сярод жыхароў Граса, і калі-небудзь зноў ударыць. У жніўні і верасні Рышы агледзеў некаторых забітых дзяўчат. Відовішча гэтае жахнула яго і, трэба прызнацца, разам з тым і захапіла, бо ўсе яны, і кожная на свой лад, былі неверагодна прыгожыя. Ніколі б ён не падумаў, што ў Грасе столькі неацэненай красы. Забойца адкрыў яму вочы. У забойцы быў вытанчаны густ І дзейнічаў ён па сістэме. Мала таго, што ўсе забойствы былі ўчынены аднолькава акуратна, сам выбар ахвяр выдаваў амаль матэматычны разлік. Праўда, Рышы не ведаў, чаго, уласна кажучы, забойца хацеў ад сваіх ахвяр, бо галоўнае іх багацце — прыгажосць і чары маладосці — ён не крануў. . ці, то бок, усё-такі? . У кожным разе, як ні абсурдна гэта гучыць, здавалася, што мэта забойства не разбурэнне, а ашчадлівае калекцыянаванне. Калі, напрыклад, разважаў Рышы, уявіць сабе ўсе ахвяры не як асобныя індывіды, а як частку нейкага вышэйшага прынцыпу і ідэалістычна змысліць іх такія розныя ўласцівасці злітымі ў адно цэлае, дык малюнак, складзены з такой мазаікі, быў бы ўвогуле малюнкам прыгажосці, і чарадзейства яго мела б не чалавечую, а боскую ўладу. (Як мы бачым, Рышы быў адукаваны і мазгавіты чалавек, які ў страху не цураўся нават блюзнерчых высноваў, хоць ён мысліў не ў нюхальных, а ў аптычных катэгорыях, ён усё-такі быў даволі блізкі да праўды.)

Дапусцім, разважаў далей Рышы, забойца такі калекцыянер прыгажосці і працуе над партрэтам Дасканальства, хай нават гэта толькі фантазія яго хворага мозгу; дапусцім далей, што ён чалавек найвышэйшага густу і скрупулёзна метадычны, што на самай справе даволі верагодна, тады нельга думаць, што ён адмовіцца ад найкаштоўнейшага будаўнічага каменя для гэтага партрэта, які толькі можна знайсці на зямлі,— ад прыгажосці Лаўры Уся піраміда забойстваў нічога не вартая без яе. Яна была каменем, які ўвенчвае ўвесь будынак.

Робячы гэтую жахлівую выснову, Рышы сядзеў на сваім ложку ў начной кашулі і дзіву даваўся, які ён быў спакойны Ён больш не дрыжаў Няпэўны страх, які калаціў яго некалькі тыдняў, прапаў, саступіў месца ўсведамленню канкрэтнай небяспекі. Задума забойцы была яўна скіраваная на Лаўру — з самага пачатку. А ўсе астатнія забойствы — антураж гэтага апошняга заключнага забойства Праўда, было няясна, якую матэрыяльную мэту маюць гэтыя забойствы і наогул ці ёсць у іх мэта. Але асноўнае, менавіта сістэматычны метад забойцы і ягонае імкненне да ідэалу, Рышы адгадаў правільна. І чым больш ён пра гэта думаў, тым больш падабалася яму і тое і другое і тым большую павагу ён адчуваў да забойцы —зрэшты, такая павага як у гладкім люстэрку паказвала ягоныя адносіны да самога сябе, бо не хто там які, а менавіта ён, Рышы, сваім тонкім, аналітычным розумам пранік у намыслы праціўніка.

Калі б ён, Рышы, быў забойца, апантаны тымі самымі палкімі ідэямі, ён не мог бы дзейнічаць інакш, чым да гэтага часу дзейнічаў той, і ён паставіў бы на карту ўсё, каб

завяршыць сваю вар'яцкую задуму забойствам царыцы красы, Лаўры, роўнай якой не было.

Гэтая апошняя думка яму асабліва спадабалася. Тое, што ён мог у думках стаць на месца будучага забойцы ягонай дачкі, давала яму, у сутнасці, велізарную перавагу перад забойцам. Бо забойца, зразумела, пры ўсёй сваёй кемлівасці, вядома ж, не мог паставіць сябе на месца Рышы — хоць бы ўжо таму, што ён, вядома, не мог загадзя здагадацца, што Рышы даўно паставіў сябе на яго месца — на месца забойцы Па сутнасці, тут усё было гэтаксама, як і ў дзелавым жыцці —mutatis mutandis*, а як жа. Калі ты разгадаў задуму канкурэнта, перавага на тваім баку; ён ужо не пакладзе цябе на лапаткі, не пакладзе, калі тваё імя — Антуан Рышы і ты прайшоў агонь, ваду і медныя трубы і не прывык саступаць у барацьбе. Урэшце ж, Антуану Рышы належыць самы буйны ў Францыі гандаль парфумнымі таварамі, ні багацце, ні пасада Другога консула не зваліліся на яго з неба, ён заваяваў іх упартасцю і хітрасцю, своечасова распазнаючы небяспеку, празорліва разглядаючы планы канкурэнтаў і змятаючы з дарогі праціўнікаў І сваіх будучых мэтаў — улады і дваранскага тытула нашчадкам — ён дасягне гэтаксама І гэтаксама ён перакрэсліць план забойцы — свайго канкурэнта ў барацьбе за валоданне Лаўрай,— хоць бы ўжо таму, што Лаўра — вянок у будынку і яго, Рышы, планаў. Вядома, ён любіў яе, але ён і меў патрэбу ў ёй. А таго, у чым ён меў патрэбу дзеля здзяйснення сваіх найвышэйшых амбіцый, ён не саступаў нікому, за гэта ён чапляўся пазурамі і зубамі.

Цяпер яму палегчала. Пасля таго як яму ўдалося свае начныя роздумы пра барацьбу з дэманам апусціць на ўзровень дзелавога канфлікту, ён адчуў, што зноў поўны адвагі і нават азарту. Растаў апошні астатак страху, знікла адчуванне прыгнечанасці і цяготлівага клопату, што мучыла яго як маразматычнага старца, развеяўся туман змрочных прадчуванняў, у якім ён некалькі тыдняў шукаў дарогі навобмацак. Ён быў на знаёмай тэрыторыі і быў гатовы прыняць любы выклік.

## 43

Адчуўшы палёгку, амаль задавальненне, ён саскочыў з ложка, тузануў за шнурок званка і загадаў слузе, які спрасонку ледзь трымаўся на нагах, складваць вопратку і правізію, бо ён рашыў на світанні са сваёй дачкою ехаць у Гранобль. Потым ён апрануўся і падняў з пасцеляў усю астатнюю чэлядзь.

Сярод ночы дом на вуліцы Друат прачнуўся, і ў ім забурліла жыццё. На кухні палалі агмені, па калідорах шмыгалі ўвішныя служанкі, угору-ўніз па лесвіцах насіўся асабісты слуга гаспадара, у скляпах звінелі ключы кладаўшчыка, у двары гарэлі паходні, фурманы выводзілі коней, другія выцягвалі з канюшняў мулаў, кілзалі, сядлалі, бегалі, грузілі — можна было падумаць, што на горад наступаюць, як у 1746 годзе, аўстра-сардзінскія орды грабежнікаў, якія змяталі ўсё на сваёй дарозе, і гаспадар дома ў паніцы рыхтуецца да ўцёкаў. Але нічога такога! Гаспадар дома спакойна і ганарыста, як маршал Францыі, сядзеў за пісьмовым сталом у сваёй канторы, піў каву з малаком і аддаваў загады чэлядзі, якая проста з ног ужо збілася Разам з гэтым ён пісаў пісьмы мэру і Першаму консулу, свайму натарыусу, свайму адвакату, свайму банкіру ў Марсэлі, барону дэ Баёну і розным дзелавым партнёрам.

Да шасці гадзін раніцы ён адправіў карэспандэнцыю і аддаў усе неабходныя для яго планаў распараджэнні Ён паклаў за пазуху два дарожныя пісталеты, зашчоўкнуў пражку на поясе з грашыма і замкнуў пісьмовы стол. Потым пайшоў будзіць дачку.

У восем раніцы маленькі караван выправіўся ў дарогу. Наперадзе вярхом ехаў Рышы, ён выдатна глядзеўся ў сваёй камізэльцы колеру чырвонага віна, з залатымі пазументамі, у чорным англійскім плашчы і чорным капелюшы з дзёрзкім султанам з пёраў За ім следам ішла ягоная дачка, апранутая сціплей, але такая сляпуча прыгожая, што народ на вуліцы і каля вокан не мог адвесці ад яе вачэй, у натоўпе чуліся багавейныя ахі і вохі, і мужчыны здымалі капелюшы —нібыта перад Другім консулам, а на самай справе перад гэтай дзяўчынай з паставай каралевы. За ёю сціпла ішлі следам яе пакаёўка, далей слуга Рышы з двума нагружанымі конямі — выкарыстанне карэты выключалася з прычыны дрэннага стану гранобльскага тракту,— замыкаў картэж дзесятак мулаў, гружаных усемагчымым таварам, пад наглядам двух грумаў. Каля брамы Дзю-Кур варта ўзяла на каравул і апусціла вінтоўкі толькі тады, калі апошні мул прайшоў праз браму. Дзеці яшчэ доўга беглі за працэсіяй, махалі ўслед каравану, які павольна ад'язджаў па крутой, звівістай дарозе.

На людзей ад'езд Антуана Рышы з дачкою зрабіў дзіўна глыбокае ўражанне. Ім здавалася, што яны прысутнічалі пры нейкай архаічнай цырымоніі прынясення ахвяры. Вакол толькі і гаворкі, што Рышы ад'язджае ў Гранобль, у горад, дзе з нядаўняга часу гаспадарыць монстр, які забівае дзяўчат Людзі не ведалі, што тут і падумаць. Чым вытлумачыць учынак Рышы? Вартай асуды легкадумнасцю — ці вартай захаплення мужнасцю? Ці быў гэта выклік або спроба ўмілажаліць багоў? Але іх маркоціла няяснае прадчуванне, што прыгожую дзяўчыну з рыжымі валасамі яны толькі што бачылі апошні раз. Яны прадчувалі пагібель Лаўры Рышы.

Гэта прадчуванне збылося, хоць яно і грунтавалася на абсалютна іншых прычынах. Усё было ў тым, што Рышы выправіўся зусім не ў Гранобль. Пампезны выезд быў толькі трукам. За паўтары мілі на паўночны ўсход ад Граса, непадалёк ад вёскі Сэн-Валье, ён загадаў спыніцца, уручыў свайму слузе паўнамоцтвы і дарожны ліст і загадаў даставіць караван мулаў у Гранобль; грумаў ён таксама адаслаў з караванам.

А сам ён з Лаўрай і яе пакаёўкай павярнуў на Кабры, дзе зрабіў прыпынак на абед, і потым рушыў праз горны перавал Танэрона на поўдзень. Гэтая дарога была надзвычай цяжкая, але яна дазваляла абагнуць Грас і граскую даліну шырокім паўколам з захаду і пад вечар непрыкметна дабрацца да ўзбярэжжа. Рышы планаваў на другі дзень перабрацца з Лаўрай на Лярэнскія астравы, на самым маленькім з якіх стаяў добра ўмацаваны кляштар Сэнт-Анарэ Кляштарную гаспадарку вяла жменька манахаў, якія, нягледзячы на старасць, яшчэ маглі пастаяць за сябе Рышы добра іх ведаў, бо шмат гадоў купляў і перапрадаваў кляштарную прадукцыю: эўкаліптавы лікёр, насенне піній і кіпарысавы алей. І менавіта там, у кляштары Сэнт-Анарэ, які разам з замкам Іў і дзяржаўнай турмой на востраве Сэнт-Маргерыт лічыўся самым надзейным месцам Правансa, ён збіраўся на першым часе схаваць сваю дачку А сам неадкладна вернецца на ўзбярэжжа і абагне Грас гэтым разам з усходу праз Антыб і Кан, каб пад вечар таго ж дня быць ужо ў Вансе. Ён ужо запрасіў туды свайго натарыуса, каб падпісаць пагадненне з баронам дэ Баёнам пра шлюб іх дзяцей — Лаўры і Альфонса. Ён хацеў зрабіць Баёну прапанову, якую той не змог бы адхіліць: выплата баронавых пазык у памеры 40 000 ліўраў, пасаг менавіта на гэтую суму, некалькі зямельных дзялянак і млячарня пад Маганоскам, штогодняя рэнта ў памеры 3000 ліўраў маладой пары Адзіная ўмова Рышы была ў тым, каб кантракт уступіў у сілу праз дзесяць дзён і каб маладыя адразу ж пасля вяселля пераехалі ў Ванс.

Рышы разумеў, што такая паспешлівасць падыме памер платы за паяднанне ягонай сям'і з сям'ёю гэтых Баёнаў. Ён заплаціў бы намнога меней, калі б у яго быў час чакаць. Давялося б тады барону, як жабраку, вымольваць у багатага купца згоду на гэты гешэфт, бо слава пра прыгажосць Лаўры будзе расці, як і багацце Рышы, а Баёны, глядзі, як бач і спляжацца Ну, але дарма! Яго ж праціўнікам быў не барон, а невядомы забойца. Вось каму трэба было напаскудзіць у кашу. Замужняя жанчына, якая страціла дзявоцкасць і, магчыма, цяжарная, ужо не ўпішацца ў яго адборную галерэю. Апошняя клетачка гэтай мазаікі застанецца пустая, Лаўра страціць для забойцы ўсякую каштоўнасць, яго задума праваліцца. І трэба даць яму адчуць горыч плягі! Рышы хацеў згуляць вяселле ў Грасе, з вялікай раскошай прылюдна. І хай ён не ведае і ніколі не ведацьме свайго праціўніка, усё-такі будзе вялікаю асалодаю ўсведамляць, што той прысутнічае пры падзеі і сваімі вачыма бачыць, як жаданую здабычу умыкаюць у яго з-пад носа.

План быў разлічаны тонка. І мы зноў павінны дзіву дацца з чуцця Рышы —як блізка ён падышоў да разгадкі праўды. Бо на самай справе шлюб Лаўры Рышы з сынам барона дэ Баёна азначаў бы поўную паразу Граскага Забойцы Дзяўчат Але план яшчэ не здзейсніўся. Рышы яшчэ не схаваў Лаўру, яшчэ не даставіў яе пад выратавальны дах кляштара Сэнт-Анарэ. Тры вершнікі яшчэ прабіваюцца праз негасцінны перавал Танэрона. Часам дарога робіцца такою цяжкаю, што вершаўцы спешваюцца. Усё ідзе вельмі марудна. Пад вечар яны спадзяюцца дабрацца да ўзбярэжжа каля Ля Напулі — маленькага селішча непадалёк ад Кана.

* З адпаведнымі зменамі (*лац.*).

## 44

У той момант, калі Лаўра Рышы са сваім бацькам пакідала Грас, Грануй быў у другім канцы горада ў майстэрні Арнульфі і мацараваў жанкіліі. Ён быў адзін і ў добрым настроі Яго час у Грасе скончыўся. Наперадзе быў дзень трыумфу У яго ў хлеўчуку, у скрыначках, пракладзеных ватай, ляжалі дваццаць чатыры мініяцюрныя флаконы з кроплямі пралітай аўры дваццаці чатырох нявінных дзяўчат —каштоўныя эсэнцыі, здабытыя Грануем летась метадам халоднага анфлеражу целаў, дыгеравання валасоў і вопраткі, лаважу і дыстыляцыі А дваццаць пятую — самую раскошную, самую важную эсэнцыю — ён атрымае сёння. У яго ўжо падрыхтаваны тыгельчык са шматкроць ачышчаным тлушчам, кавалак найтанчэйшага палатна і балон чысцюткага спірту на гэтую апошнюю здабычу Мясцовасць была разведана. Стаяла поўня

Ён ведаў, што сядзіба на вуліцы Друат добра ахоўваецца і пранікнуць у яе з дапамогаю ўзлому не ўдасца. Таму ён хацеў прабрацца туды яшчэ ўпоцемках, да таго, як зачыняць браму, і, прыкрываючыся тым, што ў яго няма свайго паху, што як шапка-невідзімка рабіла яго непрыкметным для людзей і жывёл, схавацца ў які-небудзь закутку дома. Пазней, калі ўсе паснуць, ён, ідучы ў цемры па компасу свайго нюху, падымецца ўгору, да свайго скарбу. Ён апрацуе яго там жа, на месцы, загарнуўшы ў прасаленую прасціну Толькі валасы і вопратку, як заўсёды, возьме з сабою, бо гэтыя часткі могуць быць прамытыя ў вінным спірце, што больш зручна рабіць у майстэрні Для канчатковай перапрацоўкі памады і яе дыстыляцыі ў канцэнтрат яму спатрэбіцца яшчэ адна ноч. І калі ўсё пойдзе добра — а ў яго не было ніякіх падставаў сумнявацца, што ўсё пойдзе як след,—тады паслязаўтра ён будзе ўладаром усіх эсэнцый, патрэбных на выраб найлепшае ў свеце парфумы, і ён пакіне Грас як чалавек, які пахне лепш за ўсіх на зямлі.

Да палудня ён пакончыў з жанкіліямі Ён патушыў агонь, зачыніў кацёл з тлушчам і выйшаў з майстэрні праветрыцца. Вецер быў заходні

Ужо з першага ўдыху ён насцярожыўся. У атмасферы было нешта не так, нешта не ў парадку У паху горада, у гэтай яго вопратцы, у яго нябачным шлейфе, сатканым з тысячаў нітак, не хапала залатой. За апошнія некалькі тыдняў гэта духмяная нітка стала такою моцнаю, што Грануй адчуваў яе нават за горадам, каля свайго хлеўчука. Цяпер яна прапала, знікла, яе нельга было выявіць нюхам. Грануй быццам скамянеў ад страху

Яна мёртвая, падумаў ён. Потым яшчэ страшнейшае: мяне выперадзіў нехта іншы. Іншы сарваў маю кветку і прысвоіў сабе водар! Ён не закрычаў, для гэтага ягонае ўзрушэнне было занадта вялікае, але слёзы набеглі ў куточкі яго вачэй і раптам паліліся ракою.

І тут прыйшоў абедаць Друо з «Чатырох Дафінаў» і між іншым расказаў, што сёння раніцай Другі консул з дванаццаццю муламі і са сваёю дачкою адбыў у Гранобль. Грануй глытнуў слёзы і кінуўся бегчы праз увесь горад да брамы Дзю-Кур. На плошчы каля брамы ён спыніўся і прынюхаўся. І ў чыстым, не кранутым гарадскімі пахамі заходнім ветры ён злавіў сваю залатую нітку, хай тоненькую і слабенькую, але ні з чым не параўнальную. Зрэшты, любасны пах даносіўся не з паўночнага захаду, куды вяла дарога на Гранобль, а хутчэй з паўднёвага захаду, у напрамку на Кабры.

Грануй спытаўся ў варты, па якой дарозе паехаў Другі консул Адзін вартаўнік паказаў на поўнач. А не на Кабры? Можа, ён выправіўся на поўдзень, на Арыбо або Ля Напуль? Не, вядома, сказаў вартавы, ён бачыў гэта на свае вочы.

Грануй кінуўся назад, праз горад, да свайго хлеўчука, запхнуў у юрзачок кавалак палатна, горшчычак на памаду, шпатэль, нажніцы і маленькую гладкую дубінку з аліўкавага дрэва і не марудзячы выправіўся—не па дарозе ў Гранобль, а па дарозе, якую паказаў яму ягоны нюх: на поўдзень.

Гэтая дарога, дарога наўпрасткі на Ля Напуль, вяла ўздоўж схілаў Танэрона праз рачныя рукавы Фраеры і Сіані. Ісці было лёгка. Грануй шпарка ішоў наперад. Калі справа ўзнік пейзаж Прыбо, які быццам павіс на схілах гор, ён учуў, што амаль дагнаў уцекачоў Неўзабаве ён ужо быў на адной вышыні з імі. Цяпер ён чуў кожнага з іх паасобку, ён нават адрозніваў на нюх іх коней. Яны, мабыць, былі самае большае за мілю ад яго, дзесьці ў лясах Танэрона. Яны кіраваліся на поўдзень, да мора. Гэтаксама, як і ён

Каля пяці гадзін папалудні Грануй прыйшоў на заезны двор, паеў і папытаўся таннага начлегу. Ён, бачце,— чаляднік дубільшчыка з Ніцы і ідзе ў Марсэль. Можна пераначаваць у канюшні, адказалі. Там ён залез у кут і выспаўся Набліжэнне трох верхаўцоў ён адчуў здалёк. Цяпер заставалася толькі чакаць.





Праз дзве гадзіны — ужо добра-такі сцямнела — яны пад'ехалі Каб захаваць сваё інкогніта, усе трое пераапрануліся. Абедзве жанчыны былі ў цёмным і вуалях, Рышы — у чорнай камізэлі. Ён выдаваў сябе за двараніна з Кастэланы, заўтра ён хоча перабрацца на Лярынскія астравы, хай гаспадар прыгатуе сняданак да світанку. Ці ёсць у доме іншыя пастаяльцы? Няма, сказаў гаспадар, толькі чаляднік дубільшчыка з Ніцы, але ён начуе на канюшні.

Рышы адправіў жанчын у пакоі. А сам заглянуў на канюшню ўзяць сёе-тое з паклажы, як ён сказаў Спачатку ён не змог знайсці чалядніка і папрасіў конюха прынесці яму лятарню, тады заўважыў яго ў куце: чаляднік дубільшчыка ляжаў на саломе і старой гуньцы і моцна спаў, паклаўшы пад галаву юрзак. Ён выглядаў такім непрыкметным і нявідным з сябе, што Рышы на момант здалося, што яго ўвогуле няма, што гэта хімера, вычварны цень у мігатлівым святле свечкі з лятарні. У кожным разе, Рышы адразу стала ясна, што ад гэтай проста кранальна бяскрыўднай істоты няма аніякусенькай небяспекі, і ён ціха адышоў, каб не парушыць ягонага сну, і вярнуўся ў дом.

Ён павячэраў разам з дачкою ў яе пакоі Пры ад'ездзе ён не тлумачыў ёй мэты іх падарожжа, не зрабіў гэтага і цяпер, хоць яна і прасіла. Заўтра ўсё ёй раскажа, сказаў ён, і яна можа не сумнявацца, што усё, што ён плануе і робіць, ёй толькі на карысць і выгоду, а ў будучым прынясе шчасце. Пасля вячэры яны згулялі некалькі партый у ломбер, і ён усе прайграў, бо не глядзеў у свае карты, а любаваўся прыгажосцю яе твару Каля дзевяці ён правёў яе ў яе пакой насупраць ягонага пакоя і замкнуў дзверы. Потым і сам лёг спаць.

Ён раптам адчуў страшэнную стому — гэта ад напружання цяжкага дня і папярэдняй ночы, але ў той жа час ён быў задаволены сабою і ходам падзей. Без аніякай заклапочанасці, без змрочных прадчуванняў, якія мучылі яго бессанню аж да ўчарашняга дня кожнага разу, як тушыў лямпу, ён адразу заснуў і спаў без сноў, без стогнаў, без сутаргавых здрыгаў і нервовага пераварочвання з боку на бок. Упершыню за доўгі час Рышы здабыў глыбокі, спакойны сон.

У той жа самы час Грануй падняўся са сваёй посцілкі на канюшні Ён таксама быў задаволены сабою і ходам падзей і адчуваў, што добра адпачыў, хоць не спаў ні секунды Калі Рышы заходзіў у канюшню, ён толькі прыкінуўся, што спіць, каб яшчэ больш падкрэсліць і падмацаваць тое ўражанне бясшкоднасці, якое ўжо сам па сабе рабіў яго «някідкі» пах. Вось якраз ён успрыняў Рышы вельмі і вельмі востра, нюхам, і ад яго зусім не ўтаілася палёгка, якую адчуў Рышы, убачыўшы яго.

Такім чынам, у момант іх кароткай сустрэчы абодва яны пераканаліся ў бяскрыўднасці адзін аднаго, і, на думку Грануя, гэта было добра, бо ягоная ўяўная бяскрыўднасць і сапраўдная бяскрыўднасць Рышы толькі пасаблялі ягонай, Грануевай, справе. Зрэшты, Рышы быў той самай думкі пра стан сваіх спраў.

## 45

Грануй прыступіўся з прафесійнай абачлівасцю. Ён развязаў мех, дастаў адтуль кавалак палатна, памаду і шпатэль, разаслаў палатно на гуньцы, на якой ляжаў, пачаў абмазваць яго тлустай пастай Гэтая праца патрабавала часу, бо тлушч трэба бяло наносіць нераўнамерна— дзе больш тоўста, дзе больш тонка, у залежнасці ад таго, на якое месца цела прыпадзе тая ці іншая частка палатна. Рот і падпахі, грудзі, палавы орган і ступакі выдзяляюць болей паху, чым, напрыклад, галёнкі, спіна або локці; унутраныя бакі далоні — больш, чым тыльныя; бровы — больш, чым вейкі, і г.д. — і адпаведна на іх трэба было болей тлушчу. Так што Грануй адначасова мадэляваў на палатне пахавую дыяграму цела, якое падлягала апрацоўцы, і гэтая частка працы давала яму, уласна кажучы, найбольшае задавальненне, бо гаворка ішла пра нейкую артыстычную тэхніку, якая займала ў аднолькавай меры і органы пачуццяў, і фантазію, і рукі і, апрача таго, дазваляла наперад смакаваць асалоду ад выніку, які меўся быць напаследак.

Патраціўшы ўвесь горшчычак памады, ён зрабіў некалькі завяршальных штрыхоў —дзе паклаў тлушчу крыху гусцей, дзе зняў лішак, падрэтушаваў і яшчэ раз праверыў змадэляваны

тлушчам ландшафт—зрэшты, карыстаючыся носам, а не вачыма, бо ўсё адбывалася ў апраметнай цемры, што было, магчыма, дадатковай прычынай роўнага і радаснага настрою Грануя. У гэтую ноч поўні нішто не заважала яму У свеце не было нічога, апрача паху ды, бадай што, шуму прыбою, які даносіўся з мора. Ён быў у сваёй стыхіі. Потым ён склаў палатно, як складваюць кавалак шпалераў, каб памазаныя тлушчам паверхні накладваліся адна на адну. У яго гэта была балючая аперацыя, бо ён добра ведаў, што пры ўсёй асцярожнасці часткі змадэляваных контураў ад гэтага змажуцца і зрушацца. Але ў яго не было іншай магчымасці перанесці палатно. Склаўшы яго так, каб можна было без лішняга клопату ўзяць яго падпаху, ён паклаў у кішэню шпатэль і нажніцы, узяў аліўкавую дубінку і пракраўся на двор.

Неба завалакло хмарамі, дом стаяў у цемры Адзіная іскрынка ў гэтай непраглядзі мігатала на ўсходзе: маяк форта на востраве Сэнт-Маргерыт, што за мілю ад Ля Напулі, нагадваў бліскучую галоўку шпількі на чорным, бы крумкачынае крыло, покрыве. З бухты дыхаў лёгкі ветрык, даносіў пах рыбы. Сабакі спалі

Грануй падышоў да свірна, да сцяны якога была прыхілена драбіна. Ён захапіў вольнай правай рукой тры папярэчныя-шчабліны, падняў драбіну; трымаючы яе вертыкальна і абапершы яе на правае плечка, перанёс яе цераз двор да яе акна. Акно было прачынена. Падымаючыся ўгору па шчаблінах, як па прыступках, ён павіншаваў сябе, бо вось такая нагода надарылася сабраць ураджай паху гэтай дзяўчыны тут, у Ля Напулі. У Грасе, дзе вокны былі з рашоткамі, а сам дом строга ахоўвалі, усё было б намнога цяжэй. А тут яна нават спала адна. Нават не давядзецца прыбіраць служанку Ён адхіліў аканіцу, шмыгнуў у пакой і паклаў на падлогу складзеную прасціну. Потым павярнуўся да ложка. Водар яе валасоў дамінаваў, бо яна ляжала на жываце, уткнуўшы ў падушку акаймаваны згінам рукі твар, і яе патыліца проста-такі сама прасілася пад удар.

Гук удару быў глухі і рыпучы. Ён ненавідзеў яго. Ненавідзеў яго ўжо таму, што гэта быў шум, шум у ягонай бясшумнай справе. Толькі сцяўшы зубы, ён мог вынесці гэты гідотны гук, і калі гук заціх, ён яшчэ нейкі час стаяў у застылай і горкай позе, сутаргава сціскаючы рукою дубінку, быццам баючыся, што гук можа вярнуцца аднекуль, як рэха. Але гук не вярнуўся, а ў пакоі зноў усталявалася цішыня, нават больш глыбокая цішыня, бо яе ўжо не парушала перарывістае дыханне дзяўчыны. І толькі тады Грануй змяніў позу, якую можна было б апісаць як пачціва-шаноблівую альбо як нешта накшталт сутаргавай хвіліны маўчання, і ягонае цела абмякла і расслабілася

Ён адставіў убок дубінку і рупліва прыступіў да справы Спачатку ён расправіў прынесенае палатно і паслаў яго чыстым бокам на стале і крэслах, сочачы, каб не дакрануцца да тлустага боку. Раскошны водар дзяўчыны, які раптам паліўся з яе густой хваляй, гэтым разам не расчуліў яго. Ён жа быў яму знаёмы, а ап'яняцца асалодаю ён будзе пазней, пасля таго, як па-сапраўднаму завалодае ім. Цяпер трэба было сабраць яго як мага болей, упусціць яго як мага меней, цяпер ад яго патрабавалася засяроджанасць і ўвішнасць.

Спрытнымі рухамі нажніц ён разрэзаў начную кашулю, дастаў з яе дзяўчыну, схапіў прасціну і накінуў яе на голае цела. Потым падняў цела, прапусціў пад ім абвіслую частку палатна і загарнуў у тканіну —так пекар згортвае руляду,— склаў канцы і забінтаваў яе як мумію — з галавы да пят Незабінтаванымі засталіся толькі валасы Ён абрэзаў іх як мага бліжэй да скуры і запакаваў у начную кашулю, завязаўшы яе ў хатуль. Потым ён прыкрыў стрыжаны чэрап свабодным кавалкам палатна і разгладзіў перакінуты канец, асцярожна націскаючы пальцамі Ён праверыў увесь пакунак. У ім не было ні шчылінкі, ні дзірачкі, ніводнай нераспраўленай складачкі, адкуль мог бы прасачыцца водар Дзяўчына была ўпакавана выдатна.

Больш рабіць не было чаго. Толькі чакаць, чакаць шэсць гадзін — да світання.

Ён узяў маленькае крэсла, на якім ляжала яе вопратка, паставіў яго каля пасцелі і сеў. У шырокай чорнай адзежы яшчэ трымаліся пяшчотныя павевы яе водару, змяшанага з пахам анісавых ляпёшак, якія яна сунула ў кішэню перад дарогай. Ён паклаў ногі на край яе пасцелі каля яе ног, прыкрыўся яе адзеннем і з'еў анісавыя ляпёшкі Ён стаміўся. Але спаць не хацелася, бо спаць на працы не след было, нават калі ўсяе тае працы — чаканне. Ён успомніў ночы, калі займаўся адгонкай у майстэрні Бальдзіні, пакрыты сажай перагонны куб, агонь, лёгкі, прывідны капеж дыстыляту на дно флярэнцыйскай біклагі Час ад часу даводзілася прыглядваць за агнём, даліваць ваду, падстаўляць новыя флярэнцыйскія біклагі, замяняць масу матэрыялу, што выдыхалася ў дыстыляцыі. І ўсё-такі яму заўсёды здавалася, што спаць





нельга. Не таму, што трэба было выконваць тыя ці іншыя чарговыя аперацыі, а таму, што чуванне мае свой адмысловы сэнс. Нават тут, у пакоі заезнага двара, дзе працэс анфлеражу адбываўся сам па сабе, нават больш таго — дзе несвоечасовая праверка, пераварочванне і корпанне каля духмянага пакунка маглі быць толькі перашкодай,— нават тут, як здавалася Грануюю, яго неадлучная прысутнасць грала важную ролю. Ён мог бы ўспалошыць духа ўдачы.

Зрэшты, нягледзячы на стомленасць, яму не было цяжка чуваць і чакаць. Гэта чаканне ён любіў І ўсе дваццаць чатыры разы з тымі іншымі дзяўчатамі яму падабалася такое чаканне —не тупая туга па мінулым і не палкая нецярплівасць — а асэнсаванае, клапатлівае, у пэўнай ступені дзейснае чаканне. Пад час такога чакання нешта адбывалася. Адбывалася самае істотнае. І нават калі ён не рабіў гэтага сам, яно тварылася дзякуючы яму. Ён зрабіў усё, што ад яго залежала. Ён паказаў усё сваё майстэрства. Не дапусціў ніводнай памаркі. Яго дзея была адзіная і непаўторная. Яна завершыцца поспехам. . Яму заставалася толькі некалькі гадзін пачакаць. Яно давала яму самае глыбокае задавальненне, гэтае чаканне. Ніколі ў жыцці ён не адчуваў сябе так хораша, так спакойна і так ураўнаважана, не адчуваў такой лучнасці з самім сабой — нават тады, у сваёй гары,— як у гэтыя гадзіны патрэбнага перапынку, калі ён сядзеў глыбокай ноччу каля сваіх ахвяр, не змыкаў вачэй і чакаў Толькі ў такія моманты ў яго змрочным мозгу ўзнікалі амаль вясёлыя думкі.

Дзіўна, што гэтыя думкі не былі скіраваныя ў будучыню. Ён думаў не пра водар, які здабудзе праз некалькі гадзін, не пра парфуму з дваццаці пяці дзявочых аўраў, не пра планы на будучыню, не пра шчасце і не пра поспех. Не, ён згадваў мінулае... Ён выклікаў у памяці прыпынкі на сваім жыццёвым шляху — ад дома мадам Гаяр і вільготнага прагрэтага сонцам кастра дроў перад гэтым домам да яго сённяшняга падарожжа ў маленькі прапахлы рыбай пасёлак Ля Напуль. Ён успамінаў дубільшчыка Грымаля, Джузэпэ Бальдзіні, маркіза дэ ля Таяд-Эспінаса. Ён успамінаў горад Парыж, яго пачварныя, на тысячы адценняў смуродныя выпарэнні, рыжую дзяўчыну з вуліцы Марэ, вольныя прасторы зямлі, слабы вецер, лясы. Ён успамінаў і гару ў Аверні — ён зусім не пазбягаў гэтага ўспаміну,—сваю пячору, паветра без чалавечага паху Ён успамінаў і свае сны Успамінаў усе гэтыя рэчы з вялікай прыемнасцю. Так, азіраючыся назад, ён думаў, што шчасце асабліва спрыяла яму і што лёс вёў яго хай пакручастаю, але ўрэшце правільнай дарогаю,— а інакш хіба мог ён апынуцца тут, у гэтым цёмным пакоі, каля мэты сваіх імкненняў? Ён, калі добра ўсё прыкінуць,— сапраўды добраславёная асоба!

Ён зусім расчуліўся ў прыліве ўпакоранасці і ўдзячнасці. «Я дзякую табе,— ціха сказаў ён,— я дзякую табе, Жан-Баціст Грануй, што ты такі, які ёсць!» Аж настолькі ён быў у захапленні ад самога сябе.

Потым ён расплюшчыў вочы — не каб заснуць, а каб цалкам аддацца заміранасці гэтай Святой Начы. Мір напаўняў ягонае сэрца. Але яму здавалася, што і вакол яго пануе мір. Ён чуў нюхам мірны сон служанкі ў суседнім пакоі, глыбокі, зміраны сон Антуана Рышы ў пакоі насупраць, ён нюхаў мірную дрымоту гаспадара і слуг, сабак, жывёл у стойлах, усяго мястэчка і мора. Вецер улёгся. Усё было ціха. Нішто не парушала міру.

Адзін раз ён адсунуў нагу ўбок і вельмі мякка дакрануўся да нагі Лаўры. Слушней кажучы, не да нагі, а якраз да палатна, якое яе ўкрывала, з тонкім пластам тлушчу на вывараце, які ўбіраў у сябе яе пах, яе —яго!—царскі водар.

## 46

Калі заспявалі птушкі — задоўга да світання— ён устаў і закончыў працу. Ён разгарнуў палатно, як пластыр, з мёртвай. Тлушч добра сыходзіў са скуры. Толькі ў паглыбленых месцах яшчэ заставаліся невялікія згусткі, якія ён сабраў шпатэлем. Астатнія пацёкі памады ён выцер ніжняй кашуляй Лаўры, якою напаследак выцер усё цела з галавы да ног так старанна, што забраў самыя малыя кроплі тлушчу нават з пораў яе скуры і разам з імі апошнія нітачкі і абрывачкі яе паху. Цяпер яна была для яго сапраўды мёртвая, завялая, бляклая і азызлая, як жамерыны кветак.

Ён кінуў ніжнюю кашулю ў вялікае араматызаванае палатно, у якім толькі яна цяпер і жыла, паклаў туды ж начную кашулю з яе валасамі і загарнуў усё ў маленькі тугі пакунак, які ўмясціўся ў яго падпахай. Ён не даў сабе клопату прыкрыць труп на пасцелі. І хоць чэрнядзь

ночы ужоператварылася ў шэрую сінь світання і рэчы ў пакоі пачалі набываць абрысы, ён больш не зірнуў на яе пасцель, каб хоць раз у жыцці ўбачыць яе вачыма Яе постаць не цікавіла яго. Яна больш не існавала для яго як цела, а толькі як водар, што не мае цела. А яго ён трымаў падпахай і забіраў з сабою.

Ён ціха ўскочыў на падаконнік і спусціўся па драбіне ўніз. На двары зноў падняўся вецер, неба прасвятлілася і разлівала над зямлёй халоднае цёмна-сіняе святло. Праз паўгадзіны адна служанка запаліла агонь на кухні Выйшаўшы на двор па дровы, яна заўважыла прыстаўленую драбіну, але не зрабіла ніякіх высноваў, бо была яшчэ дужа заспаная. Неўзабаве пасля шостай узышло сонца. Велізарнае, колеру чырвонага золата, яно паднялося з мора паміж абодвума Лярынскімі астравамі. На небе не было ні аблачынкі Пачынаўся зіхоткі вясновы дзень.

Рышы, чый пакой выходзіў на захад, прачнуўся а сёмай. Упершыню за шмат месяцаў ён выдатна выспаўся і, адышоўшы ад звычкі, яшчэ чвэрць гадзіны кволіўся ў ложку, потым шчасна пацягнуўся, і ўздыхнуў, і прыслухаўся да прыемных гукаў з кухні Тады ён устаў, разнасцежыў акно, і ўбачыў, што на двары цудоўнае надвор'е, і ўдыхнуў свежага ранішняга паветра, і пачуў шум прыбою, і ягоны добры настрой стаў зусім-такі нястрымны, і ён, склаўшы губы ў трубачку, засвістаў нейкі вясёленькі матыўчык.

Адзяваючыся, ён усё яшчэ насвістваў і насвістваў, выходзячы з пакоя і шпарка падыходзячы да дзвярэй даччынога пакоя. Ён пастукаўся. І зноў пастукаўся, зусім ціха, каб не спалохаць яе. Адказу не было. Ён усміхнуўся Падумаў, што яна яшчэ спіць.

Ён асцярожна ўставіў ключ і павярнуў ручку, ціха, зусім ціха, каб не спалохаць яе, амаль хочучы нават застаць яе ў сне, каб разбудзіць пацалункам, яшчэ раз, апошні раз, перш чым аддасць яе іншаму мужчыну

Дзверы адчыніліся, ён увайшоў, і сонечнае святло ўдарыла яму ў твар. Пакой быў як усё роўна заліты расплаўленым срэбрам, усё ззяла, і ад болю яму прыйшлося на імгненне заплюшчыць вочы

Расплюшчыўшы іх зноў, ён убачыў на пасцелі Лаўру — голую і мёртвую, астрыжаную нагала і сляпуча белую. Гэта было як у кашмарным сне, які ён бачыў на тым тыдні ў Грасе — і забыўся, а цяпер гэты кашмар, быццам удар маланкі, узнік у яго памяці. Усё раптам стала дакладна, як у тым сне, толькі намнога ярчэй.

## 47

Навіна пра забойства Лаўры Рышы так імкліва разнеслася па наваколлях Граса, нібыта нехта абвясціў· «Кароль памёр!», або «Вайна!», або «Піраты высадзіліся на бераг!» — і выклікала амаль такі самы, як бы ад гэтых абвестак, панічны страх, а можа, і большы У сплюск вока вярнуўся дбайна забыты жах, такі самы прыліплівы, як і летась увосені, з усімі яго пабочнымі праяўкамі: панікай, абурэннем, шалам, істэрычнай падазронасцю, роспачч. Начамі людзі не вылазілі з дамоў, замыкалі дачок, барыкадаваліся, не давяралі адно аднаму, не спалі. Кожны думаў, што цяпер усё паўторыцца, як і тады. кожнага тыдня будзе забойства. Здавалася, час адсунуўся на паўгода назад. Страх паралізаваў яшчэ больш, чым паўгода назад, бо раптоўнае вяртанне небяспекі, якую лічылі даўно адоленай, пашырала сярод людзей пачуццё бездапаможнасці. Бо ж не пасобіла нават біскупава анафема! Калі Антуан Рышы, усемагутны Рышы, гарадскі багатыр, Другі консул, уплывовец, разважнік, які меў усе сродкі абароны, не змог упільнаваць сваё дзіця! Калі забойчая рука не сцепанулася перад нябеснай прыгажосцю Лаўры, бо яна і праўда здавалася святою кожнаму, хто яе ведаў, асабліва цяпер, калі яна больш не жыла. Як жа пасля ўсяго гэтага мець надзею на ратунак ад забойцы? Ён быў чумнейшы за чуму, бо ад самой чумы можна было ўцячы, а ад гэтага забойцы — нельга, як яно й відаць з прыкладу Рышы У яго яўна былі здольнасці звышнатуральныя, надпрыродныя Ён, якое тут сумненне, схаўрусаваўся з д'яблам, калі толькі сам не быў д'яблам. І многім людзям, асабліва калі хто папрасцей, недалёкага розуму, заставалася адно — ісці ў храм і маліцца, кожны рамесніцкі стан маліўся свайму патрону: слесары — святому Алаізу, ткачы — святому Крыспіну, садоўнікі — святому Антонію, парфумнікі — святому Язэпу Яны бралі з сабою жанок і дачок, разам з імі маліліся, елі і спалі ў царкве, не выходзілі з яе нават удзень, упэўненыя, што ўнебяспечыцца ад пачварыны (калі толькі тая бяспека была яшчэ ўвогуле!) яны здолеюць толькі пад абаронай парафіяльнай абшчыны і перад аблічам Дзевы.

Другія, больш кемлівыя галовы, гуртаваліся, бо аднаго разу царква ўжо схібіла і сталася бяссільная, у акультныя групы, за вялікія грошы наймалі ведзьму з Гурдона, якая ўжо сябе выдатна зарэкамендавала, зашываліся ў які-небудзь лёх графскага падзямелля, якіх тут была пропадзь, і там служылі чорныя мшы, каб ўвачавідніць нячыстаму ванцаку, што згодныя пакланяцца і яму Некаторыя шаноўныя буржуа і адукаваная блакітная косць рабілі стаўку на навуку — магнетызавалі свае дамы, гіпнатызавалі сваіх дачок, стваралі флюідальныя тайныя гурткі ў салонах і спрабавалі шляхам супольнай перадачы думак на адлегласць тэлепатычна прагнаць дух забойцы.

Царкоўныя калегіі ладзілі пакайныя працэсіі з Граса ў Ля Напуль, так бы мовіць —тэнды і з паўротэм. Манахі пяці кляштараў горада дзень у дзень і ноч у ноч служылі набажэнствы з пяяннем святых псэльмаў і кантаў, так што то ў адным то ў другім канцы горада чуліся няспынныя енкі— дзень у дзень, ноч у ноч. Амаль ніхто не працаваў — усе ратаваліся

Такім чынам усё насельніцтва Граса трывала ў ліхаманкавым бяздзеянні, амаль унясцерп чакаючы, калі ж там каго зноў.. А што забойства будзе, ніхто не сумняваўся І ўпотай кожны хацеў хутчэй пачуць вусцішную навіну з адзіным спадзяваннем, што яна зачэпіць не яго, а кагосьці, дай Бог, іншага.

Аднак улады ў горадзе, акрузе і правінцыі гэтым разам не заразіліся істэрыкай народа. Упершыню з таго часу, як Забойца Дзяўчат заявіў пра сябе, пачалося планамернае і разгалінаванае супрацоўніцтва гарадскіх уладаў Граса, Драгіньяна і Тулона на ўзроўні магістратаў, паліцыі, інтэнданта, парламента і марскога флоту

Прычынай такой салідарнасці мацакоў свету гэтага было, з аднаго боку, апасенне перад агульным народным паўстаннем, а з другога, той факт, што з моманту забойства Лаўры Рышы паявіліся адпраўныя пункты, якія дазвалялі нарэшце пачаць сістэматычнае ганенне на забойцу. Забойцу бачылі Гаворка несумненна ішла пра таго падазронага чаляднiка дубільшчыка, які ў тую фатальную ноч быў на канюшні пастойнага двара ў Ля Напулі, а раніцай знік без следу. Гаспадар, конюх і Рышы ў адзін голас пасведчылі, што гэта быў непрыкметны недаростак у карычневай курце з палатняным заплечнікам. Хоць у астатнім паказанні гэтых трох сведкаў былі надзіва расплывістыя і яны не змаглі апісаць, напрыклад, рысы твару, колер валасоў або вымаўку гэтага чалавека, гаспадар пастойнага двара ўсё-такі ўзгадаў, што, калі ён не памыляецца, з похапкаў і паходкі незнаёмага кідалася ў вочы нешта нягеглае, быццам у яго калісьці была зламаная галёнка ці знявечаны ступак.

Маючы гэтыя прыкметы, два берагавыя атрады берагавой аховы прыкладна апалудні таго дня, калі адбылося забойства, пачалі пагоню ў напрамку на Марсэль, адзін уздоўж берага, другі — па дарозе ўглыбіню правінцыі. Бліжэйшыя ваколіцы Ля Напулі было загадана прачасаць добраахвотнікамі Два ўпаўнаважаныя граскага суда выбраліся ў Ніцу, каб там, у Ніцы, навесці даведкі пра чаляднiка дубільшчыка. У Фрэжу, у Кане і Антыбе былі агледжаны ўсе судны, што выпраўляліся ў мора, усе дарогі ў Савой былі перакрытыя, у падарожнікаў пыталіся дакументаў, якія пасведчвалі асобу. Гончы ліст з апісаннем злачынца ўручаўся ўсім, хто ўмеў чытаць, каля ўсіх гарадскіх брамаў Граса, Ванса, Гурдона і каля царкоўных брамаў у вёсках. Тройчы на дзень яго зачытвалі на пляцах біручы Праўда, упамінанне пра кульгавасць узмацняла падазрэнне, што злачынцам быў сам д'ябал, і хутчэй сеяла паніку, чым памагала збору праўдзівых звестак.

Толькі пасля таго, як старшыня граскага суда ад імя Рышы паабяцаў за звесткі пра злачынцу не меней двух сотняў ліўраў узнагароды, у Грасе, Апіё і Гурдоне было затрымана па даносах некалькі чаляднiкаў, з якіх адзін на самай справе меў няшчасце быць кульгавым. Яго ўжо збіраліся, нягледзячы на пацверджанае многімі сведкамі алібі, аддаць на дапытку, але тут, на дзесяты дзень пасля забойства, у мэрыю звярнуўся адзін чалавек з гарадской варты і зрабіў суддзям наступную заяву: апоўдні таго самага дня, калі ён, Габрыэль Тальяска, капітан варты, як звычайна нёс службу каля заставы Дзю-Кур, да яго звярнуўся нейкі суб'ект, які, як яму цяпер здаецца, нібыта адпавядае апісанню прыкметаў у гончым лісце; суб'ект гэты некалькі разоў настойліва дапытваўся, якой дарогаю з'ехаў раніцай Другі консул са сваім караванам. Капітан не надаў гэтаму выпадку ніякага значэння ні тады, ні пазней і напэўна ж не згадаў бы гэтага суб'екта — надта ж бо ён такі нявідны з сябе,— калі б выпадкова не суст-

рэў яго, прычым тут, у Грасе, на вуліцы дэ-ля-Луў, перад атэлье мэтра Друо і мадам Арнульфі; і гэтым разам яму кінулася ў вочы, што гэты чалавек, заходзячы ў майстэрню, прыкметна накульгваў.

Праз гадзіну Грануй быў арыштаваны. Гаспадар пастойнага двара ў Ля Напулі і ягоны конюх, яшчэ раней выкліканыя ў Грас на апазнанне іншых затрыманых, адразу ж пазналі чаляднiка, які начаваў у іх: гэта ён, і ніхто іншы, заявілі яны, гэта і ёсць шуканы забойца.

Абшукалі майстэрню, абшукалі хляўчук у аліўкавым гайку за францысканскім кляштарам. У кутку, амаль навідавоку, ляжалі разрэзаная начная кашуля, ніжняя кашуля і рыжыя валасы Лаўры Рышы А калі раскапалі земляную падлогу, адно за адным выявіліся сукенкі і валасы астатніх дваццаці чатырох ахвяр. Знайшлася дубінка — прылада забойства і палатняны заплечны юрзак. Улікі ашаламлялі. Было загадана біць у званы. Старшыня суда загадаў расклеіць аб'явы і агаласіць народу праз біручоў, што славуты Забойца Дзяўчат, якога лавілі амаль год, нарэшце схоплены і пасаджаны ў турму пад строгі нагляд.

## 48

Спачатку людзі проста не паверылі Яны лічылі, што абвяшчэнне — гэта штукарства, якім улады спрабуюць прыкрыць сваю бяздарнасць, каб суняць ужо амаль наспелае ў народзе хваляванне. Усе вельмі добра памяталі той час, калі казалі, што забойца даўно перабраўся ў Гранобль. Гэтым разам страх надта глыбока ўеўся ў людскія душы.

Толькі на другі дзень, калі на саборным пляцы перад судовым будынкам былі выстаўлены ўсім на паказ доказы —жах было глядзець на гэтыя дваццаць пяць адзенняў і дваццаць пяць пучкоў валасоў, насаджаных, як пудзілы, на жэрдкі і пастаўленых у рад,— тады толькі грамадская думка ўскалыхнулася.

Сотні і сотні людзей павольна прадэфілявалі па гэтай пачварнай галерэі. Сваякі ахвяр, пазнаючы адзенне, з крыкамі млелі на месцы. Астатнія, хто з любові да сенсацый, хто каб пазбыцца сумненняў, патрабавалі паказаць забойцу. Неўзабаве крыкі так нараслі, хваляванне на пляцы, залітым натоўпам людзей, зрабілася такім пагрозлівым, што старшыня суда рашыўся· ён загадаў вывесці Грануя з камеры і паказаць яго натоўпу з акна другога паверха.

Калі Грануй падышоў да акна, натоўп суняўся. Раптам запала поўная моўча, як гэта бывае ў гарачы полудзень, калі ўсе працуюць у полі або хаваюцца ў зацені дамоў. Ані нага не шаркне, ні шалахнецца нічога, ні ўздыху Хвіліну натоўп стаяў, як дурны, вырачыўшы вочы, разявіўшы рот. Ніхто не мог паверыць, што гэты здыхляк, гэты кволенькі, унураны чалавечак, які стаяў там, у акне, што якраз гэты чарвяк, гэтая шчэпця пылу, гэты гаўняк учыніў два тузіны забойстваў. Ну які з яго забойца? Праўда, ніхто не мог бы сказаць, якім ён, зрэшты, бачыць забойцу — гэтага д'ябла,— але ў адным усе сыходзіліся: не такім! І ўсё ж — хоць забойца ніяк не адпавядаў людскім уяўленням і таму яго наглядная дэманстрацыя, здавалася б, павінна была быць мала пераканаўчая — ужо само з'яўленне гэтага чалавека ў акне і тая акалічнасць, што менавіта ён, і ніхто іншы, быў паказаны як забойца, парадаксальным чынам пераканала. Усе падумалі: не можа быць, гэта няпраўда!— і ў той самы момант зразумелі, што гэта павінна быць праўдай.

Вядома, як толькі варта адцягнула чалавечка назад, у цемру пакоя, як толькі ён перастаў быць прысутны і бачны, але яшчэ, хай на самы кароткі час, заставаўся ўспамінам, ледзь не сімвалам мярзотнага забойцы ў мазгах людзей — натоўп скінуў з сябе ашаламленне, і настала рэакцыя, якая і павінна быць у такім выпадку: залапаталі языкі, тысячы вачэй зноў ажывіліся. І тады ўсе крыкі зліліся ў адзін грамавы раскат гневу і помсты: «Аддайце яго нам!» І яны кінуліся штурмаваць суд, каб сваімі рукамі задушыць яго, парваць, падраць на дробныя кавалкі. Варце з вялікай цяжкасцю ўдалося забарыкадавацца і адцiснуць ашалелы натоўп. Грануя без адкладу вывелі ў ягоны засценак. Старшыня падышоў да акна і паабяцаў, што суд будзе скоры і бязлітасны. Тым не меней спатрэбілася яшчэ некалькі гадзін, перш чым натоўп разышоўся, і яшчэ некалькі дзён, каб хоць трошкі супакоіўся горад.

Сапраўды, працэс супраць Грануя ішоў надзвычай хутка, бо ў справе меліся неабвержныя ўлікі, ды і сам абскаржанец на допытах без ухілак прызнаўся ў забойствах, у якіх яго вінавацілі.





Толькі на пытанне пра матывы злачынстваў ён не здолеў даць здавальняючага адказу. Ён толькі паўтараў, што дзяўчаты былі яму патрэбныя, і што гэта наогул азначала, што яны «былі яму патрэбныя»,— пра гэта ён ні слова.

Тады яго аддалі на тартуры, на некалькі гадзін падвесілі за ногі, улілі ў яго сем пінтаў вады, абулі ў гішпанскія боты — таму хоць бы хоць. Здавалася, гэты чалавек не адчуваў цялеснага болю, ён не аказаўся ані гукам і на паўторнае запытанне адказваў, як і раней: «Яны мне былі патрэбныя». Суддзі палічылі яго за вар'ята. Яны спынілі тартуру і рашылі як мага хутчэй, без далейшых дапытак, закончыць працэс.

Адзіная невялікая зацяжка спрычынілася юрыдычнай перапалкай з мэрыяй Драгіньяна, у падпарадкаванні якое была Ля Напуль, і парламентам у Эксе, бо і Драгіньян і Экс прагнулі перахапіць працэс сабе. Але граскія суддзі не даліся. Яны і ніхто іншы схапілі злачынца, у сферы іх юрысдыкцыі была ўчынена пераважная бальшыня забойстваў, і ім пагражаў выбух народнага гневу, калі б яны перадалі забойцу іншаму суду Яго кроў павінна была праліцца ў Грасе.

15 красавіка 1766 года вырак быў вынесены і зачытаны абвінавачанаму ў ягонай камеры. «Чаляднік парфумніка Жан-Бацiст Грануй, павінен быць на працягу сарака васьмі гадзін выведзены за заставу Дзю-Кур і там, тварам да неба, прывязаны да драўлянага крыжа і яму будзе нанесена дванаццаць удараў жалезным дручком па жывым целе, аж удары гэтыя раздробяць яму суглобы рук, ног, клубоў і плячэй, пасля чаго ён застанецца прыкручаны да крыжа да яго смерці». Гэтым разам кату было катэгарычна забаронена рабіць злачынцу звычайны акт літасці — задушэнне ніткай пасля раздраблення суглобаў,— нават калі перадсмяротныя пакуты зацягнуцца на некалькі дзён. Потым труп належала закапаць на гіцлёўні, а месца не пазначаць.

Грануй ніяк не зрэагаваў на вырак. Судовец спытаўся, ці ёсць у яго апошняе жаданне. «Няма»,— сказаў Грануй; у яго было ўсё, што трэба.

У камеру ўвайшоў святар паспавядаць Грануя, але ўжо праз чвэрць гадзіны выйшаў, не выканаўшы сваёй місіі Засуджаны пры ўпаміне імя Госпада зірнуў на яго абсалютна адсутна, нібы толькі што пачуў гэтае імя першы раз, а потым выцягнуўся на нарах, каб тут жа і заснуць. Далейшыя ўмаўленні, сказаў святар, не мелі б ніякага сэнсу.

Усе два наступныя дні прыходзіла шмат людзей паглядзець на славутага забойцу зблізку. Варта дазволіла ім зазірнуць у камеру праз вочка і за кожны загляд брала па шэсць сольдзі Адзін гравёр па медзі, які хацеў зрабіць накід, заплаціў аж шэсць франкаў. Але рысунак, бадай, расчараваў. Вязень, прыкаваны ланцугамі за запясці і шчыкалаткі, увесь час ляжаў на нарах і спаў. Ён адвярнуўся тварам да сцяны і не рэагаваў ні на стук, ні на воклічы. Заходзіць у камеру наведнікам строга забаранілі, і вартавыя, нягледзячы на спакуслівыя прапановы, не адважваліся парушыць забарону Баяліся, што вязня можа раней часу забіць хто-небудзь з блізкіх ягоных ахвяр. З гэтай самай прычыны яму не перадавалі ад наведнікаў і ежы. Яна магла быць атручаная.

Увесь час, пакуль Грануй быў у турме, ежу яму падавалі з кухні для чэлядзі з біскупскага палаца, і галоўны наглядчык абавязаны быў здымаць з яе пробу Зрэшты апошнія два дні ён наогул не еў. Ён ляжаў і спаў Час ад часу ланцугі ягоныя падзынквалі, і калі вартавы кідаўся да вочка, ён пасняваў убачыць, што Грануй рабіў глыток з пляшкі з вадой, зноў валіўся на нары і засынаў Здавалася, што чалавек гэты аж так стаміўся ад свайго жыцця, што не хоча пачуваць нават апошнія яе гадзіны.

Тым часам лобнае месца каля заставы Дзю-Кур падрыхтвалі да экзекуцыі Цеслі збілі эшафот двухметровай вышыні, з трохметровымі бакамі памоста, з парэнчамі і трымкай лесвіцай — такога выдатнага ў Грасе яшчэ ніколі не было Апрача таго яны зрабілі драўляную трыбуну ганаровым гасцям і агароджу, каб трымаць на адлегласці просты люд. Месцы каля вокан у дамах злева і справа ад заставы Дзю-Кур і ў будынку гарадской варты даўно былі здадзены ў найм па шалёных цэнах. Нават у багадзельні, што крыху наўскасяк, падручны ката зняў на час у хворых іх пакоі і з вялікай выгодай пераздаў іх цікаўнікам кары. Прадаўцы ліманаду збанкамі запасаліся лакрычнай вадой, гравёр адціснуў некалькі сотняў экземпляраў партрэта забойцы, зробленага ў турме і даволі прыхарошанага палётам фантазіі, вандроўныя гандляры тузінамі сцякаліся ў горад, кухары пяклі памятныя пернікі

Кат, мсье Папон, якому ўжо шмат гадоў не даводзілася адпраўляць рытуал раздраблення суглобаў, заказаў у каваля цяжкі жалезны прэнт і хадзіў з ім на бойню папрактыкавацца на

тушах жывёлы. Ён меў права даць толькі дванаццаць удараў, і гэтымі дванаццаццю ўдарамі павінны былі быць напэўна раздробленыя дванаццаць суглобаў, але пры гэтым не пашкоджаны каштоўныя часткі цела, напрыклад, грудзі альбо галава — складаная задача, якая патрабавала вялікай чуйнасці ў пальцах.

Жыхары горада рыхтаваліся да гэтай падзеі як да ўрачыстага свята. Тое, што дзень будзе выхадны, разумелася само сабою. Жанчыны нагладжвалі свае нядзельныя строі, мужчыны выпыльвалі сурдуты і курткі і да бляску ваксавалі боты Хто меў ваенны чын альбо займаў пасаду, быў цэхавым майстрам, адвакатам, натарыусам, галавой брацтва ці яшчэ чымсьці значным, надзяваў мундзір альбо мантыю, ордэны, шалікі, ланцугі і белы як вапна пудраны парык. Вернікі спадзяваліся post festum* сабрацца ў царкве на набажэнства, паклоннікі сатаны — наладзіць пышную падзякавальную мшу Люцыпару, адукаванае магнацтва — выправіцца на магнетычныя сеансы ў гатэлі Кабры, Вільнева і Фонтмішэля А на кухнях нагіроладзь пяклі, смажылі і пражылі, са склепоў зносілі віно, з рынкаў — кветкі на акрасу сталоў, у саборы праходзілі папярэднія экзерсісы арганіст і царкоўны хор.

У доме Рышы на вуліцы Фуат было ціха. Рышы забараніў сабе любую падрыхтоўку да Дня вызвалення, як назвалі ў народзе дзень кары Яму ўсё было агідна Агідны раптоўна ўваскрэслы жах людзей, агіднае іх ліхаманкавае смакаванне скорай радасці І самыя яны, гэтыя людзі, усе разам, былі яму агідныя Ён не ўдзельнічаў ні ў прадстаўленні злачынца і ягоных ахвяр на саборным пляцы, ні ў працэсе, ні ў гідка мярзотным праменадзе разяваў перад камерай асуджанага На апазнанне валасоў і адзення сваёй дачкі ён запрасіў членаў суда да сябе дамоў, коратка і стрымана даў свае паказанні і папрасіў пакінуць яму гэтыя рэчы ў якасці рэліквій, што і было зроблена. Ён занёс іх у свяцёлку Лаўры, паклаў разрэзаную начную кашулю і споднюю кашулю на яе ложак, распусціў па падушцы яе рыжыя валасы, сеў перад ложкам і больш не адыходзіў ад яго, быццам гэтая бяззменная вахта магла замяніць тое, чаго ён не зрабіў тае ночы ў Ля Напулі Ён быў так поўны агіды, агіды да свету і да самога сябе, што не мог нават плакаць.

І да забойцы ен адчуваў агіду. Ён не хацеў больш бачыць у ім чалавека, не толькі ахвяру, асуджаную на закол Ён убачыць яе толькі ў момант кары, калі той будзе ляжаць на крыжы і на яго абрушацца дванаццаць удараў, вось калі ён яго ўбачыць, убачыць яго зусім блізка, ён пакінуў за сабою месца ў самым першым радзе. І калі народ разыдзецца, праз некалькі гадзін, тады ён падымецца да яго на акрываўлены эшафот, і сядзе побач, і будзе несці вахту цэлымі днямі і начамі, калі спатрэбіцца, і глядзець яму ў вочы, гэтаму забойцу дачкі, і па кроплі будзе ўліваць яму ў вочы, уліваць у яго агонію сваю агіду як раз'едлівую кіслату, пакуль гэтая гадзіна не здохне.

А потым? Што ён зробіць потым? Ён не ведаў гэтага. Магчыма, вернецца да прывычнага жыцця, магчыма, ажэніцца, магчыма, зачне сына, магчыма, не зробіць нічога, магчыма памрэ. Яму гэта было ўсё адно. Думаць пра гэта здавалася яму гэтак жа бязглузда, як думаць пра тое, што рабіць пасля смерці зразумела, нічога, пра што ён мог бы ведаць ужо цяпер.

## 49

Пакаранне было назначана на пяць гадзін папалудні Ужо з раніцы прыйшлі першыя аматары відовішчаў і забяспечылі сабе месцы. Яны прынеслі з сабою крэслы і лавачкі, падушачкі, правізію, віно і прывялі дзяцей. Калі бліжэй пад полудзень з усіх бакоў да горада пачалі сцякацца тлумы вясковага люду, на пляцы каля заставы Дзю-Кур ужо было так цесна, што новым давялося шукаць месца на палях і ў садах, размешчаных тэрасамі на схілах плато, і ўздоўж дарогі на Гранобль. Вандроўныя гандляры ўжо разгарнулія на ўсю сцежу, людзі елі, пілі, вакол стаяў гармідар і смурод, як на кірмашы Неўзабаве набралася ўжо тысяч пад дзесяць народу, больш чым на свята Каралевы Язміну, больш чым на самы вялікі крыжовы ход, больш чым калі-небудзь наогул збіралася ў Грасе. Людзі абсыпалі ўсе схілы. Яны залазілі на дрэвы, яны караскаліся на сцены і дахі, яны дзесяткамі тузінамі панатоўкваліся ў вокны. Толькі пасярэдзіне пляца, за бар'ерам, быццам выразанае нажом з цеста чалавечай

* Пасля свята (*лац.*).





гурмы, яшчэ заставалася свабоднае месца пад трыбуну і эшафот, які раптам стаў зусім маленькі, як цацка альбо сцэна ў батлейцы. І яшчэ быў вольны вузкі праход ад месца пакарання да заставы Дзю-Кур і на вуліцы Друат.

Прыкладна каля трэцяй гадзіны з'явіліся мсье Папон і яго падручнікі Іх сустрэлі ўхвальным гулам. Яны падцягнулі да эшафота збіты з бярвенняў крыж і ўстанавілі яго на чатырох цяжкіх цяслярскіх козлах, падабраўшы патрэбную для працы вышыню. Чаляднік цесляра прыбіў яго да козлаў. Кожнае дзеянне падручных ката і цесляра публіка вітала воплескамі. А калі пасля гэтага да эшафота наблізіўся Папон з жалезным прэнтам, абышоў крыж з усіх бакоў, адмераў свае крокі і пачаў то з аднаго боку, то з другога рабіць уяўныя ўдары, пачалася сапраўдная авацыя.

Каля чацвёртай пачала запаўняцца трыбуна. Прыйшло шмат высакароднага панства, багацеяў з лёкаямі і прыстойнымі манерамі, прыгожых дам, вялікіх капелюшоў, раскошных туалетаў — было на што падзівіцца. Сабралася ўся эліта з горада і правінцыі. Прайшлі на свае месцы члены гарадскога рады, трымаючыся самкнутым строем, на чале з абодвума консуламі. Рышы быў у чорным, у чорных панчохах, у чорным капелюшы За Радай выступаў магістрат на чале са старшынёю суда. Апошні паявіўся біскуп у адкрытых насілках, у ззянні фіялетавага адзення і ў зялёнай камілаўцы. Тыя, хто яшчэ не зняў капелюша, пасляшаліся хоць бы ўжо цяпер агаліць галаву. Урачысты момант набліжаўся

Потым хвілін дзесяць не адбывалася нічога Паны занялі месцы, народ замёр, ніхто больш не еў, усе чакалі. Папон і ягоныя падручнікі стаялі як укапаныя на сцэне эшафота. Сонца, вялікае і жоўтае, вісела над Эстэрэлью. З граскай даліны веяла цёплым ветрам і пахам расцвілых апельсінавых дрэў Было горача і проста неверагодна ціха

Нарэшце, калі ўжо, здавалася, напружанне дасягнула мяжы і цішыню вось-вось разарве тысячагорлы лямант, пачнецца звалка, бойка альбо яшчэ якая-небудзь прыгода ў натоўпе, пачуўся тупат капытоў і рыпенне калёсаў

На вуліцы Друат паказалася запрэжаная парай карэта, карэта лейтэнанта паліцыі Яна праехала праз гарадскую браму і, цяпер ужо бачная ўсім, уехала ў вузкі завулак, які вёў да месца пакарання. Лейтэнант паліцыі настаяў на такім спосабе дастаўкі, бо думаў, што інакш не зможа гарантаваць бяспеку злачынцы А ўвогуле такое не было прынята. Турма была ўсяго за пяць хвілін ад месца кары, і калі асуджаны з якой-небудзь прычыны не мог адолець гэтую адлегласць пеша, дык яго прывозілі туды на адкрытай падводзе, запрэжанай аслом. Каб кагосьці везлі на кару ў багатым экіпажы, з фурманам, ліўрэйнымі лёкаямі і конным эскортам — такога яшчэ ніколі не было.

Нягледзячы на гэта, у натоўпе не ўзнікла ні неспакою, ні незадаволенасці, наадварот, усе былі задаволеныя, што наогул нешта-такі адбываецца, і ўспрынялі экіпаж як удалую ідэю, як гэта бывае ў тэатры, калі вядомую п'есу прымаюць прыхільна за нечаканую новую пастаноўку. Многія нават палічылі дарэчным такі выхад галоўнага героя. Такому выключна мярзотнаму злачынцу належаў і выключны абрад. Нельга ж яго як звычайнага бандзюжку цягнуць на пляц у ланцугах і батаваць ражнамі У гэтым не было б нічога сенсацыйнага. Іншая рэч падняць яго з мяккага сядзення ў багатым экіпажы і падвесці да крыжа — у гэтым было куды больш вынаходлівай жорсткасці.

Карэта спынілася паміж эшафотам і трыбунай. Лёкаі саскочылі з запятак, адчынілі дзверцы і спусцілі маленькую адкідную прыступку. Выйшаў лейтэнант паліцыі, за ім афіцэр аховы і нарэшце Грануй. Ён быў у блакітнай куртцы, белай кашулі, белых шаўковых панчохах і ў чорных туфлях з пражкамі Ніякіх аковаў на ім не было. Ніхто не вёў яго пад рукі. Ён выйшаў з карэты як вольны чалавек.

І тады стаўся цуд. Ці нешта накшталт дзіва, а менавіта настолькі ж неспасцігальнае, нечуванае і неверагоднае, што ўсе сведкі назвалі б гэта потым цудам, калі б яны наогул наважыліся калі-небудзь пасля загаварыць пра гэта, а яны ніколі не гаварылі, бо ўсе яны пазней саромеліся прызнацца, што наогул прычыніліся да такое справы.

А ўсё было ў тым, што дзесяць тысяч чалавек на пляцы каля брамы і на навакольных схілах раптам, у адзін момант, прасякнуліся непахіснай верай, што маленькі чалавек у блакітнай курце, які толькі што выйшаў з карэты, ***ніяк не мог быць забойцам.*** Не тое каб яны засумняваліся ў ягонай ідэнтычнасці! Перад імі стаяў той самы чалавек, якога яны некалькі дзён таму назад бачылі на саборнай плошчы ў акне суда і якога яны, калі б даўся ім у рукі, лінчавалі б з шалёнай нянавісцю. Той самы, якога два дні таму назад па закону прыгаварылі да смерці на

падставе неабвержных доказаў і ўласнага прызнання. Той самы, чыёй смерці ад рукі ката яны так палка чакалі ўсяго мінуту таму назад. Гэта быў ён, несумненна ён!

І ўсе-такі не ён, не мог ён ім быць, не мог ён быць забойцам. Чалавек, што стаяў на лобным месцы, быў увасобленая нявіннасць. У той момант гэта ведалі ўсе — ад біскупа да прадаўца ліманаду, ад маркіза да маленькай прачкі, ад старшыні суда да вулічнага падшыванца

І Папон гэта ведаў І яго кулакі, якія сціскалі жалезны прэнт, задрыжалі Яго моцныя рукі раптам сталі такія слабыя, калені такія мяккія, сэрца такое палахлівае, як у дзіцяці Ён не змог бы падняць гэты прэнт, не знайшлося б сілы падняць гэты прэнт на маленькага нявіннага чалавека, ах, ён баяўся таго моманту, калі яго прывядуць сюды, наверх, ён заплакаў, ён быў вымушаны абаперціся на свой забойчы прэнт, каб не ўпасці ад слабасці на калені,— вялікі, дужы Папон!

І дзесяць тысяч мужчын, і жанчын, і дзяцей, і старых адчувалі тое самае. яны зрабіліся слабыя, як малыя дзяўчаткі, няздольныя ўстояць перад прывабнасцю спакушальніка. Іх захліснула магутнае пачуццё цягі, пяшчоты, бяздумнай дзіцячай улюбёнасці, так, бачыць Бог, любові да маленькага злодзея, і яны не маглі, не хацелі яму супраціўляцца. Гэта было як плач, ад якога няма абароны, які падымаецца з нутра з жывата і дзівосным чынам разрэджвае, выносіць прэч усё, што яму супраціўляецца. Людзі як бы расплавіліся, іх розум і душа раставарыліся, ператварыліся ў аморфную, вадкую стыхію і адчувалі яшчэ толькі камяк сэрца, які нястрымна б'ецца ўсярэдзіне, і яны — кожны, кожная з іх — уклалі яго на векі вечныя ў рукі маленькаму чалавеку ў блакітнай курце: яны любілі яго.

Грануй вось ужо некалькі хвілін стаяў каля адчыненых дзверцаў карэты і не рухаўся Лёкай, які быў каля яго, укленчыў побач і апускаўся далей, пакуль не прыняў той распластанай позы, якую на ўсходзе прымаюць перад султанам або Алахам. І нават у гэтай паставе ён яшчэ дрыжаў, і пагойдваўся, і стараўся апусціцца яшчэ ніжэй, расцячыся па зямлі, пад зямлёй. Яму хацелася пад зямлю, прасачыцца ў яе да самага канца свету, з чыстай адданасці Афіцэр аховы і лейтэнант паліцыі, два здаравенныя мужчыны, задача якіх была адвесці асуджанага на эшафот і перадаць у рукі ката, страцілі каардынацыю рухаў Яны заплакалі і знялі капелюшы, зноў іх надзелі, шпурнулі іх на зямлю, кінуліся адзін аднаму на шыю, пацалаваліся, бяссэнсава замахалі рукамі, пачалі заломваць рукі сабе, сутаргава тузацца і грымаснічаць, як апантаныя танцам святога Віта.

Ганаровыя грамадзяне, якія былі тут жа блізка, аддаваліся сваёй замілаванасці яшчэ больш нясціпла. Кожны даў волю свайму сэрцу. Былі дамы, якія, убачыўшы Грануя, стагналі ад шчасця, засунуўшы рукі паміж каленяў; і іншыя, якія ад палкага захаплення нябесным юнаком — бо такім ён ім здаваўся,— моўчкі памлелі на месцы.

Былі паны, якія раптам падхапіліся з месцаў, і зноў апусціліся, і зноў паўскоквалі, аглушальна саплі і сціскалі ў кулаках тронкі шпаг, быццам хацелі выцягнуць іх з похваў і, ужо дастаючы, зноў совалі іх у похвы, так што стаяў толькі ляскат і трэск; былі іншыя, якія моўчкі паднялі вочы да неба і сутаргава сціскалі рукі ў малітве, і мансеньёр біскуп, быццам яму стала нядобра, нахіліўся ўсім целам наперад, утуліўся галавою ў калені, і зялёная камілаўка пакацілася з галавы, пры гэтым яму зусім не было кепска, а ўпершыню ў жыцці яго ахапіў рэлігійны экстаз, бо на вачах у яго адбыўся цуд: Гасподзь Бог сам утрымаў руку ката, паказаўшы анёльскую сутнасць таго, каго свет прымаў за забойцу,— давялося ж такому адбыцца ў васемнаццатым стагоддзі. Сапраўды, Гасподзь вялікі! А сам ты малы і мізэрны, бо аддаў анёла анафеме, не верачы ў гэта, а толькі дзеля супакаення народу! О, якое вялікае прыніжэнне, якое салодкае прыніжэнне, якая мілата пасланы Госпадам біскупу дзеля ўпакорвання гардыні

Тым часам народ па той бок бар'ера аддаваўся пачуццёваму ап'яненню, якое ахапіла ўсіх пры з'яўленні Грануя Тыя, хто, убачыўшы яго, адчулі толькі спагаду і замілаванне, цяпер былі поўныя юру, той, хто адчуваў здзіўленне і пацягу, дайшоў да экстазу. Чалавек у блакітнай курце паўстаў перад усімі самай прыгожай, самай прывабнай і самай дасканалай істотай, якую яны маглі толькі сабе ўявіць; манашкам ён здаўся Збаўцам у плоці, прыхільнікам сатаны — прамяністым князем цемры, людзям адукаваным —Найвышэйшай Істотай, дзяўчатам — казачным прынцам, мужчынам—ідэальным вобразам іх саміх. Усе адчувалі сябе так, быццам ён адгадаў і намацаў у іх самае адчувальнае месца, пацэліў проста ў эратычны цэнтр. Быццам у гэтага чалавека было сто тысяч нябачных рук і быццам кожнаму з





дзесяці тысяч людзей, што тоўпіліся навокал, ён паклаў руку на палавы орган і лашчыў яго так, як гэтага прагнула інтымная фантазія кожнага, будзь то мужчына ці жанчына.

У выніку запланаваная смерць мярзотнага злачынцы свайго часу ператварылася ў самую вялікую вакханалію, якую бачыў свет з другога стагоддзя ад Нараджэння Хрыстовага: добрапрыстойныя жанчыны раздзіралі на сабе блузкі, з істэрычнымі крыкамі агалялі грудзі, высока задраўшы спадніцы, кідаліся на зямлю. Мужчыны з вар'яцкімі вачыма, спатыкаючыся, блукалі па гэтым полі пажадліва раскінутай плоці, дрыготкімі пальцамі вымалі з штаноў ацвярдзелыя як ад невыносных дрыжыкаў члены, падалі з хрыпам куды прыйдзецца, сукупляліся ў самых непамысных позах і спалуках: стары з нявіннай дзяўчынай, падзёншчык з жонкай адваката, хлопчык-чаляднік з манашкай, езуіт з франкмасонкай — усе ўперамешку, каму з кім перападзе. Паветра ацяжэла ад салодкага потнага паху жарсці і напоўнілася крыкамі, рохканнем і стогнамі дзесяці тысяч жывёлін Гэта было пекла.

Грануй стаяў і ўсміхаўся. Больш таго, людзям, якія яго бачылі, здавалася, што ён усміхаецца самай нявіннай, самай ласкавай, самай чароўнай і адначасова самай панаднай усмешкай у свеце. А на самай справе не ўсмешка, а гадкая, цынічная ўхмылка змялася на яго губах, як бы паказваючы ўвесь ягоны трыумф і ўсю ягоную пагарду. Ён, Жан-Баціст Грануй, які нарадзіўся без паху ў самым смярдзючым месцы свету, выйшаў з адкідаў, бруду і гнілізны, вырас без любові, выжыў без чалавечага цяпла з адной упартасці і з прычыны агіды, маленькі, гарбаты, кульгавы, выродлівы, адкінуты, фізічны і маральны калека — ён дасягнуў таго, што спадабаўся свету! Мала таго! Яго любяць! Шануюць! Абагаўляюць! Ён учыніў праметэеў подзвіг Божую іскру, якая ад калыскі даецца людзям ні за што і якое ён, адзіны ў свеце, быў пазбаўлены, гэтую іскру ён здабыў бясконца вытанчанай упартасцю. Больш таго! Ён, у сутнасці, выкрасаў яе сам, у сваім «я», ён быў больш вялікі, чым Праметэй. Ён стварыў сабе аўру, такую зіхоткую і неадпрэчную, якою не валодаў да яго ніводзін чалавек. І ён не абавязаны ёю нікому — ніякаму бацьку, ніякай маці і менш за ўсё нейкаму мілажальнаму Богу,— а выключна самому сабе Ён на самай справе быў сваім уласным богам і богам больш цудоўным, чым той Бог, што смярдзіць ладанам, які туляўся па цэрквах. Жывы біскуп валяўся перад ім на каленях і вішчаў ад асалоды. Багатыя і валадарныя, ганарыстыя паны і дамы паміралі ад захаплення, а народ, які акружаў яго шырокім колам, у тым ліку бацькі, маці, браты, сёстры ягоных ахвяр, святкавалі оргію ў яго гонар і ў імя яго. Яму дастаткова кіўнуць, і ўсе адмовяцца ад Бога і будуць маліцца на яго, Вялікага Грануя

Так, ён быў Вялікі Грануй! Менавіта цяпер гэта стала ясна. Ён быў ім, як калісьці ў самазакахальных фантазіях, так і цяпер — у жывой рэальнасці. У гэты момант ён перажыў найбольшы трыумф свайго жыцця. І жахнуўся

Ён жахнуўся, бо ні секунды не змог ім нацешыцца У гэты момант, калі ён выйшаў з камеры на заліты сонцам пляц, надухмянены парфумамі, якія ўнушаюць людзям любоў, парфумамі, над якімі ён працаваў два гады, парфумамі, якіх ён прагнуў усё жыццё. . у гэты момант, калі ён бачыў і чуў носам, што людзі не могуць яму супрацьстаяць і што водар, захліставаючыся, як пятля аркана, прыцягвае да яго людзей,— у гэты момант у ім зноў паднялася ўся агіда да людзей і атруціла яго трыумф настолькі, што ён не адчуваў не толькі ніякай радасці, але нават ніякай задаволенасці. Тое, чаго ён заўсёды так палка хацеў, а менавіта, каб яго любілі іншыя людзі, у момант поспеху стала яму невыносна, бо сам ён не любіў іх, ён іх ненавідзеў. І раптам ён зразумеў, што ніколі не знойдзе задавальнення ў любові, але толькі ў нянавісці сваёй да людзей і людзей— да сябе.

Але ягоная нянавісць да людзей не атрымала водгуку. Чым больш ён ненавідзеў іх у гэтае імгненне, тым больш яго абагаўлялі, бо нішто ў ім не ўспрымалася імі як ісціна, акрамя прысвоенай аўры, акрамя араматычнай маскі, крадзенай духмянасці, а яна і на самай справе была вартая абагаўлення.

Цяпер ён быў рады ўсіх іх сцерці з улоння зямлі, гэтых тупых, смярдзючых, эратызаваных смердзюхоў гэтаксама, як тады, у краіне ягонай душы, чорнай, як варонінае крыло, яму хацелася сцерці ўсе чужыя пахі. І ён хацеў, каб яны заўважылі, як ён іх ненавідзіць, і каб яны адказалі ўзаемнай нянавісцю на гэта адзінае сапраўднае пачуццё, якое яму калі-небудзь выпадала, і, са свайго боку, былі б радыя сцерці яго з улоння зямлі, што яны спачатку і мерыліся зрабіць. Ён хацеў раз у жыцці распранууцца. Раз у жыцці яму захацелася стаць такім, як іншыя людзі, і вывернуць сваю нутрыну: як яны агалялі сваю любоў і сваё дурное шанаванне, так ён хацеў агаліць сваю нянавісць. Ён хацеў адзін раз, усяго адзін толькі раз, быць успры-

нятым у сваёй сапраўднай сутнасці і атрымаць ад людзей водгук на сваё адзінае сапраўднае пачуццё — нянавісць.

Але нічога з гэтага не атрымалася З гэтага і не магло нічога атрымацца. Ён жа быў замаскаваны найлепшымі ў свеце парфумамі, а пад гэтай маскай у яго не было твару, не было нічога, апрача татальнай адсутнасці паху. І тут яму раптам зрабілася нядобра, бо ён адчуў, як зноў падымаюцца туманы

Калі тады ў пячоры, у сне, у сэрцы, у яго фантазіі раптам падняліся туманы, жахлівыя туманы яго ўласнага паху, які нельга было ўспрыняць нюхам, бо ён меў іншую прыроду. І як тады, ён адчуваў бясконцы жах і страх і падумаў, што вось-вось задыхнецца.

Але цяпер гэта было не сном, не мрояй, а голай рэальнасцю. І ён не ляжаў адзін у пячоры, а стаяў на пляцы на вачах у дзесяці тысяч чалавек. І цяпер тут не дапамог бы крык, які разбудзіў бы і вызваліў яго, і не было дарогі назад у добры, цёплы, выратавальны свет. Бо гэта тут і цяпер было светам, і гэта, тут і цяпер, было яго спраўджаным сном. І ён сам гэтага так хацеў.

Жахлівыя смярдзючыя туманы ўсё падымаліся з бяздоннай багны ягонай душы пакуль народ вакол яго стагнаў, знемагаючы ў нястрымных юрлівых сутаргах. Да яго бег нейкі чалавек. Ён ускочыў з самага пярэдняга рада трыбуны для ганаровых гледачоў так імкліва, што яго чорны капялюш зваліўся з галавы і ў чорным сурдуце праляцеў праз эшафот як воран альбо анёл помсты. Гэта быў Рышы.

Ён заб'е мяне, падумаў Грануй Ён — каго не ўвяла ў зман мая маска. Ён не дасць сябе ашукаць. На мне — пахі яго дачкі, гэты доказ неабвержны, як кроў. Ён павінен пазнаць мяне і забіць. Ён павінен гэта зрабіць.

І ён працягнуў рукі, каб прыняць у абдымкі анёла, які зваліўся на яго. Яму ўжо здавалася, што ён адчувае ўдар мяча або кінжала, гэты добрасны ўдар у грудзі, адчувае, як лязо рассякае ўсе араматычныя кальчугі і смярдзючыя туманнасці і пранікае ўсярэдзіну яго халоднага сэрца — нарэшце, нарэшце ў яго сэрца нешта, нешта іншае, чым ён сам. Ён амаль ужо адчуваў збавенне.

І што ж? Рышы ляжаў у яго на грудзях, як анёл помсты, але ўражаны, жаласны, хліпкі Рышы, і абдымаў яго рукамі, проста-такі чапляўся за яго, быццам не знайшоў іншага прыстанку ў моры дабрадайнасці. Ніякага вызваленчага ўдару мяча, ніякага ўколу ў сэрца, нават ніякага праклёну або хоць бы крыку нянавісці. Замест гэтага мокрая ад слёз шчака Рышы прыліпла да яго шчакі, а дрыготкія губы цягнуліся да яго з віскам· «Даруй мне, сыне мой, мой дарагі сыне, даруй мне!»

І тут усё пабялела ў яго ў вачах, а знешні свет стаў чарней чорнага. Туманы, якія не знайшлі выйсця, зліліся ў бурлівую вадкасць, як закіпелае малако, калі падымаецца з-пад пены. Яны захліснулі яго, з нязноснай сілай націснулі на ўнутраную абалонку ягонага цела, але ім не было куды прасачыцца. Яму хацелася бегчы, дзеля Бога бегчы, але куды.... Яму хацелася лопнуць, выбухнуць, каб не захліснуцца самім сабою. Нарэшце ён упаў на зямлю і самлеў.

## 50

Зноў ачомаўшыся, ён убачыў, што ляжыць у ложку Лаўры Рышы Яе рэліквіі, вопратка і валасы, былі прыбраныя. На начным століку гарэла свечка. З прычыненага акна чуўся далёкі шум радаснага горада. Антуан Рышы сядзеў на ўслончыку каля яго ложка і чуваў. Ён трымаў руку Грануя ў сваёй і грэў яе.

Перш чым расплюшчыць вочы, Грануй празандзіраваў атмасферу. Унутры ў яго было ціха. Нічога больш не бурліла і не ціснула. Зноў у ягонай душы панавала халодная ноч, якая была патрэбна яму, каб зрабіць ягоную свядомасць ледзяною існасцю і скіраваць яе вонкі там ён пачуў пах сваёй парфумы. Яна змянілася Пікі крыху згладзіліся, так што сэрца водару — пах Лаўры Рышы — заззяла яшчэ больш пышна—мяккім, цёмным, мігатлівым агнём. Ён адчуваў сябе ўпэўнена. Ён ведаў, што яшчэ некалькі гадзін будзе недатыкальны, і расплюшчыў вочы.

Рышы не зводзіў з яго вачэй. У яго поглядзе была бясконцая дабрыня, пяшчота, замілаванасць і дурнаватая глыбіня закаханага.





Ён усміхнуўся, мацней сціснуў руку Грануя і сказаў: «Цяпер усё будзе добра. Магістрат адмяніў вырак. Усе сведкі адмовіліся ад паказанняў. Ты вольны Ты можаш рабіць што хочаш. Але я хачу, каб ты застаўся ў мяне. Я страціў дачку, я хачу ўсынавіць цябе. Ты такі падобны на яе. Ты такі ж прыгожы, як і яна, твае валасы, твае губы, твая рука. . Я ўвесь час трымаў цябе за руку, у цябе такая самая рука, як у яе. А калі я гляджу табе ў вочы, мне здаецца, што яна глядзіць на мяне. Ты яе брат, і я хачу, каб ты стаў маім сынам, маёй радасцю, маім гонарам, маім спадкаемцам. Ці жывыя яшчэ твае бацькі?»

Грануй пахітаў галавой, і твар Рышы стаў пурпурова-чырвоны ад шчасця «Значыцца, ты згодзен стаць мне за сына? —выдыхнуў ён і ўскочыў са свайго ўслончыка, каб перасесці на край ложка і сціснуць другую руку Грануя — Згодзен? Згодзен? Ты хочаш, каб я стаў тваім бацькам? Не кажы нічога! Не гавары! Ты яшчэ надта слабы, каб гаварыць. Толькі кіўні!»

Грануй кіўнуў. І тут шчасце як чырвоны пот выступіла з усіх пораў Рышы, і ён схіліўся да Гранула і пацалаваў яго ў губы

«Цяпер спі, дарагі мой сынку,— сказаў ён, устаючы — Я прыгледжу за табою, пакуль ты не заснеш.— Ён яшчэ доўга глядзеў на яго з маўклівым захапленнем.— Ты робіш мяне вельмі, вельмі шчаслівым».

Грануй крыху расцягнуў губы, пераймаючы людзей, якія ўсміхаюцца Потым заплюшчыў вочы. Нейкі час ён пачакаў, супакойваючы і паглыбляючы сваё дыханне, як гэта робяць людзі ў сне. Ён адчуваў на сабе любоўны пагляд Рышы Адзін раз ён адчуў, што Рышы нахіліўся над ім, каб яшчэ раз пацалаваць, але не адважыўся, баючыся разбудзіць яго. Нарэшце, дзьмухнуўшы на свечку, Рышы на пальчыках выйшаў з пакоя

Грануй ляжаў, пакуль у доме і ў горадзе не аціхла. Калі ён падняўся, ужо развіднела. Ён апрануўся, ціха прайшоў праз прыхожую, ціха спусціўся з лесвіцы і праз гасцёўню выйшаў на тэрасу

Адсюль можна было заглянуць за гарадскі мур і ўбачыць чашу граскай даліны, у яснае надвор'е — да самага мора. Цяпер над палямі вісеў лёгкі туман, нават марыва, і пахі знізу травы, жаўтазелю і ружаў здаваліся адмытымі дачыста, простымі, проста суцешлівымі. Грануй перасек сад і пералез цераз сцяну.

На пляцы каля брамы Дзю-Кур яму яшчэ раз давялося прабівацца праз чалавечыя выпарэнні, перш чым ён вырваўся на волю. Увесь пляц і схілы пагоркаў нагадвалі велізарны бівак войска. Тысячамі ляжалі ап'янелыя, знясіленыя ад лішніцы начной оргіі целы, некаторыя былі голыя, некаторыя паўголыя, ледзь прыкрытыя вопраткай, пад якую яны залезлі, як пад кавалак коўдры Смярдзела кіслым вінам, шнапсам, потам і мачой, дзіцячым паносам і прыгарэлым мясам. Тут і там яшчэ чадзілі рэшткі вогнішчаў, вакол якіх яшчэ нядаўна жэрлі, пілі і скакалі людзі Сям-там з тысячагорлага храпу раптам вырывалася чыё-небудзь мармытанне або рогат Магчыма, сёй-той яшчэ не спаў і заглушаў апошнія ўспышкі свядомасці. Але ніхто не заўважыў Грануя, які пераступаў праз распластаныя целы, асцярожна і разам з тым паспешліва, быццам ішоў па балоце. А той, хто заўважаў, не пазнаваў яго. У ім больш не было паху. Цуд мінуўся

Дайшоўшы да краю пляца, ён не павярнуў ні ў бок Гранобля, ні ў бок Кабры, а пайшоў напрасткі праз палі на захад, ні разу не азірнуўся назад. Калі ўстала сонца — тлустае, і жоўтае, і палка гарачае, яго даўно ўжо і след астыў

Жыхары Граса прачнуліся ў жахлівым пахмеле. Нават тыя, хто не піў, адчувалі свінцовы цяжар у галаве, рэзь у жываце, мляўкасць і млосць. На пляцы сярод белага дня, пры ўсім народзе сціплыя сяляне шукалі вопратку, садраную з сябе падчас оргіі, добрапрыстойныя жанчыны шукалі мужоў і дзяцей, зусім чужыя адно аднаму людзі з жахам вызваляліся з інтымных абдымкаў, знаёмыя, суседзі, сямейнікі раптам апынуліся адзін перад адным у самай пракудлівай галізне.

Многім гэтая падзея здалася такою жудаснаю, такою невытлумачальнаю і несумяшчальнаю з іх маральнымі ўяўленнямі, што яны літаральна ў той момант, калі яна адбылася, выключылі яе з памяці, а потым і пазней на самай справе не маглі пра яе ўспомніць. Іншыя якія не так суверэнна валодалі сваім апаратам успыняцца, спрабавалі не бачыць, не чуць і не думаць, што было зусім не проста, бо ганьба была надта відавочная і публічная. Тыя, хто знайшоў свае прычындалы і блізкіх, пастараліся як мага хутчэй знікнуць з месца. Пад полудзень пляц апусцеў, быццам яго вымелі памялом.

Толькі пад вечар людзі ў горадзе, і тое далёка не ўсе, выйшлі з дамоў па самых неадклад-

ных справах. Сустракаючыся, яны ледзь віталіся, гаварылі толькі дробязнае. Пра ўчарашнія падзеі і мінулую ноч не згадвалі ні словам. Калі ўчора ўсе яшчэ адчувалі сябе нязмушана і разумнымі, дык сёння ўсіх ахапіў сорам. Здавалася, ніколі паміж жыхарамі Граса не было лепшага ўзаемаразумення. Настала поўная ціша і мілата.

Праўда, некаторыя былі вымушаны па абавязку службы больш непасрэдна заняцца тым, што адбылося. Традыцыя публічнага жыцця, непахіснасць права і парадку запатрабавалі прыняцця энергічных мераў. Ужо папалудні сабралася гарадская рада. Паны і ў тым ліку Другі консул, моўчкі абняліся, нібыта гэты змоўніцкі жэст быў заклікаы нанава заснаваць ганаровы сход. Пасля без ніякага ўпаміну пра падзеі, а тым болей пра імя Гануя, было аднадушна вырашана «неадкладна знесці трыбуну і эшафот на пляцы каля заставы Дзю-Кур і прывесці ў пачатковы ахайны выгляд пляц і вакол яго вытаптаныя палі». На гэта было адпушчана сто шэсцьдзесят ліўраў.

Адначасова прайшло пасяджэнне суда Магістрат без абмеркавання згадзіўся лічыць «інцыдэнт Г.» вычарпаным, акты закрыць і без рэгістрацыі здаць у архіў і пачаць новую справу супроць невядомага Забойцы Дваццаці Пяці Дзяўчат у граскай акрузе. Лейтэнанту паліцыі быў дадзены загад неадкладна пачаць следства.

Ужо на другі дзень ён дабіўся поспеху. На падставе яўна падазроных момантаў быў арыштаваны Дамінік Друо, майстар-парфумнік з вуліцы дэ-ля-Луў,— бо, зрэшты, хляўчук, дзе былі знойдзены валасы і сукенкі ўсіх ахвяр, належаў яму. Спачатку ён адпіраўся, але суддзі не даліся на ашуканства. Пасля чатырнаццацігадзіннай допыткі ён ва ўсім прызнаўся і нават прасіў па магчымасці паскорыць пакаранне, якое яму назначылі на наступны дзень. На світанні яго зашмаргнулі — без вялікай помпы, без эшафота і трыбун, проста ў прысутнасці ката, некалькіх членаў магістрата, урача і святара. Пасля таго як наступіла, была канстатавана і запратакаліравана смерць, труп загадалі неадкладна аддаць зямлі. Такім чынам са справай было пакончана.

Горад і так ужо забыўся пра ўсё — настолькі, што прыязджане, якія трапілі ў горад наступнымі днямі і між іншым дапытваліся пра славутага граскага Забойцу Дзяўчат, не знаходзілі ніводнага разумнага чалавека, які мог бы расказаць што-небудзь пра гэта. Толькі некалькі дурненькіх з багадзельні, усім вядомыя вар'яты, малолі нейкую лухту пра вялікае свята на пляцы Дзю-Кур, праз якое ім давялося выслабаніць свае пакоі.

І неўзабаве жыццё зноў увайшло ў сваю каляіну Людзі рупліва працавалі, і хораша спалі, і кожны рабіў сваё, і паводзіліся прыстойна. Вада па-ранейшаму струменілася з мноства крыніц і калодзежаў і разносіла па завулках глей і гразь. Горад зноў горда высіўся на схілах пагоркаў над урадлівай далінай. Сонца прыгравала. А там і травень прыйшоў. Пачаўся збор ружаў.

# ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

## 51

Грануй ішоў пеша. Як і на пачатку сваёй вандроўкі, ён абмінаў гарады, пазбягаў дарог, на світанні клаўся спаць, уставаў увечары і ішоў далей. Еў усё, што перападала па дарозе траву, грыбы, кветкі, мёртвых птушак, чарвякоў. Ён прайшоў Праванс, пераплыў у крадзеным чоўне Рону на поўдзень ад Аранжа, уздоўж цячэння Ардэшы заглыбіўся ў Сэвэны і потым рушыў да Алье на поўнач.

У Аверні ён наблізіўся да Плён-дзю-Канталь. Вяршыня ляжала з захаду, высокая, серабрыста-шэрая ў месячным святле, і ён чуў пах халоднага ветру з яе. Але яго туды не цягнула. У яго больш не было палкай тугі па пячорнай самоце. Гэты дослед ужо быў пастаўлены, але не прыдаўся ў жыцці. Гэтаксама, як і іншы дослед, вопыт і досвед жыцця сярод людзей. Задыхаешся і тут і там. Яму ўвогуле збрыдзела жыць. Яму карцела хутчэй вярнуцца ў Парыж і памерці. Гэтага ён хацеў і прагнуў.

Час ад часу ён лез у кішэню і сціскаў шкляны флакон са сваёй парфумай. Флакончык быў яшчэ амаль поўны. На выступленне ў Грасе ён заўжыў толькі адну кроплю. Астатняга хопіць, каб зачараваць увесь астатні свет Калі б ён схацеў, ён мог бы ў Парыжы прымусіць не дзесяткі, а сотні тысяч людзей захапляцца ім, або выправіцца на шпацыр у Версаль, каб сам кароль цалаваў яму ногі, або паслаць папу надухмянены ліст і явіцца перад усімі новым Месіем, або змусіць каралёў і імператараў памазаць яго ў Нотр-Дам на каралеўства як архіімператара, нават зрабіць з яго Бога на зямлі — калі толькі можна Бога памазаць на валадарства...

Усё гэта ён мог бы, была б толькі ахвота. Ён меў на тое ўладу Ён трымаў яе ў руцэ. Гэтая ўлада была мацнейшая за ўладу грошай, або за ўладу тэрору, або за ўладу смерці непахісная ўлада ўсяляць у людзей любоў Толькі аднаго не магла даць гэтая ўлада: яна не магла даць яму ягонага паху, уласнага. І хай сабе перад усім светам праз свае парфумы ён паўстане хоць Богам — раз ён сам не можа пахнуць і таму ніколі так і не даведаецца, які ж ён ёсць сам, дык плюваць яму на гэта: на ўвесь свет, на самога сябе, на свае парфумы, пахошчы і пахнідлы. Рука, якая нядаўна трымала флакон, ледзь чутна духмянілася, і калі ён яе падымаў да носа і прынюхваўся, яму рабілася маркотна, і ён на хвіліну-другую прыпыняўся, і стаяў, і нюхаў, нюхаў. Ніхто не ведае, якая яна напраўду выдатная, гэтая парфума, думаў ён. Усе толькі ўпакорваюцца яе ўладзе, а таго не ведаюць, што гэта парфума, што ў ёй вядзьмарскія чары Адзіны, хто спрамогся ацаніць яе сапраўдную прыгажосць,— гэта я, бо я сам яе стварыў І тым часам я — адзіны, каго яна не можа зачараваць. Я адзіны, на каго яна не мае сілы.

Яшчэ неяк аднаго разу (ён тады быў у Бургундыі) яму падумалася· калі я стаяў за мурам каля саду, дзе гуляла рыжая дзяўчынка і да мяне даплываў яе водар. бадай што нават, абяцанне яе водару, прадчуванне яго, яе пазнейшага водару яшчэ ж не было — магчыма, тое, што я тады адчуў, падобна на тое, што адчувалі людзі на пляцы, калі я затапіў іх сваёй парфумай?.. Але ён адразу адкінуў гэтую подумку Не, тут было нешта іншае. Я ж ведаў, што хачу мець пах, а не дзяўчынку А людзі гэтыя думалі, што іх горне да мяне, а да чаго іх насамрэч гарнула, засталося ім таямніцай.

Потым ён ні пра што больш не думаў, бо наогул не любіў закідацца думкамі, а там ужо вось —і Арлеан.

Ён пераправіўся цераз Луару каля Сюлі Праз дзень яго нос ухапіў пах Парыжа. 25 чэрвеня 1767 года ён уступіў у горад праз вуліцу Сэн-Жак рана раніцай, у шэсць.

Дзень уграваўся, такое гарачы, як таголета, яшчэ не было. Тысячы розных пахаў і смярдзючых выпарын цяклі вонкі як з тысячы лопнутых пухіроў Каб хоць вятрынка ў паветры Зяленіва на рынычных сталах павяла яшчэ перад полуднем. Мяса і рыба прасмердлі У завулках не прадыхнуць. Нават рака, здавалася, больш не плыла, а стаяла і курэла смярдлінай Гэта было якраз у дзень нараджэння Грануя.

Ён прайшоў Новым мастом на правы бераг і далей пад рынак і да Магільніка нявінных. У аркадах божых дамоў уздоўж вуліцы О'Фэр ён прысеў на зямлю. Тэрыторыя магільніка слалася перад ім, як разварочанае поле бітвы, пакапанае, пааранае, пасечанае магіламі, засеянае чарапамі і шкілетамі, без дрэў, без кустоў, без травінкі — сметнік смерці.

Вакол — каб хоць якая жывая душа. Трупны смурод быў такі цяжкі, што прагнаў нават далакопаў Яны вярнуліся толькі, як села сонца, каб да глыбокае ночы ўжо пры лятарнях і паходнях капаць магілы пад мерцвякоў наступнага дня.

Толькі папоўначы — далакопы ўжо спалі— сюды пачало звалакацца ўсякае зброддзе: зладзеі, забойцы, бандыты, прастытуткі, дэзерціры, падлеткі-злачынцы. Расклалі невялікае вогнішча, каб згатаваць ежу і крыху разагнаць смурод.

Калі Грануй выйшаў з-пад аркадаў і змяшаўся з тлумам гэтых людзей, яны спачатку не зважалі на яго. Ён змог проста падысці да іхняга агню, быццам быў тут свой. Пазней гэта ўмацавала іхняе перакананне, што іх спадобіў сваёй асобаю дух альбо анёл. Бо ж звычайна яны вельмі рэзка рэагуюць на блізкасць чужога.

Але гэты чалавек у блакітнай курце раптам апынуўся сярод іх, як з зямлі вырас, з маленькім флаконам-пуздэркам у руцэ, з якога ён вымаў каранец. Гэта было першае, што яны ўсе маглі пазней згадаць. І потым ён увесь, з галавы да ног, апырскаўся вадкасцю з гэтага флакончыка і раптам заззяў прыгажосцю, як ад прамяністага агню.

На момант яны аж адхіснуліся ад багавейнага і найглыбейшага падзівавання. Але тут жа адчулі, што адхіснуліся так, быццам кінуліся да яго натоўпам, і багавейнасць перарасла ў пажадлівасць, іх здзіўленне — у захапленне. Гэты чалавек-анёл прыцягваў іх. Ад яго ішоў шалёны кільватэрны струмень, супроць якога не мог устояць ніводзін чалавек, тым болей

што ніводзін чалавек не хацеў устояць, бо тое, што падымала гэты струмень, што вяло іх, гнала іх да яго, было воляй, воляй у чыстым выглядзе.

Яны абступілі яго, дваццаць — трыццаць чалавек, і сцягвалі гэтае кола ўсё шчыльней і шчыльней Неўзабаве кола ўжо не ўмяшчала іх усіх, яны пачалі напіраць адзін на аднаго, адпіхваць і выштурхваць, кожны хацеў быць як мага бліжэй да цэнтра

А потым іх апошнія рэфлексы, якія іх раней стрымлівалі, здалі, і кола разамкнулася. Яны кінуліся да гэтага анёла, навалiлiся на яго, паракулілі на зямлю. Кожны хацеў дакрануцца да яго, кожны хацеў урваць ад яго кавалачак, пёрка, крыльца, іскрынку яго чарадзейскага агню. Яны садралі з яго вопратку, валасы, скуру з цела, яны абскублі, разадралі яго, яны ўпіліся пазурамі і зубамі ў ягоную плоць, накінуўшыся на яго, як гіены.

Але ж чалавечая плоць вельмі моцная, і яе не так проста разадраць; калі чацвяртуюць злачынца, нават коням даводзіцца цягнуць яго на ўсю сілу. І вось заблiскалі нажы, крамсаючы мышцы, і сякеры, і мячы са свістам апусціліся на суставы, з хрустам раздрабляючы косці. У самы кароткі час анёл быў разадраны на трыццаць частак, і кожны член гэтай дзікай зграі ўхапіў сабе кавалак, адбегся ўбок, гнаны пажадлівай прагай, і зжэр яго. Праз паўгадзіны Жан-Баціст Грануй да апошняй костачкі знік з улоння зямлі.

Калі, закончыўшы трапезу, гэтыя канібалы зноў сабраліся каля агню, ніхто з іх не сказаў ні слова Нехта рыгнуў, нехта выплюнуў костачку, злёгку шчоўкнуўшы языком, падкінуў у полымя абрывак блакітнай курткі. Ім усім было крыху няёмка і не хацелася глядзець адзін на аднаго. Забойства ці якое іншае нізкае злачынства ўжо ўчыняў кожны з іх, хай тое мужчына, хай жанчына. Але каб зжэрці чалавека? На такую жахлівую справу, думалі, яны б не пайшлі ніколі, нізавошта. І здзіўляліся, як лёгка яно ім усё-такі далося, і яшчэ, што пры ўсёй няёмкасці яны не адчувалі аніякіх дакораў сумлення. Наадварот! Хоць у жываце яны і адчувалі цяжкасць, на сэрцы ў іх яўна палегчала У іх змрочных душах раптам закалыхалася нешта прыемнае. І на іх тварах праступіў дзявоцкі, пяшчотны водбліск шчасця. Можа, таму яны і нясмеліліся падняць вочы і паглядзець адзін аднаму ў вочы

Калі ж яны ўсе-такі рашыліся зрабіць гэта, спачатку потайкам, а потым ужо зусім адкрыта, яны не маглі стрымацца ад ухмылкі. Яны былі вельмі гордыя. Яны ўпершыню здзяйснялі нешта ў любові

**Пераклаў з нямецкай**
**Васіль СЁМУХА.**



*Патрык ЗЮСКІНД нарадзіўся 26 сакавіка 1949 года ў Заходняй Германіі.*

*Раман «Парфума» з моманту выхаду ў свет у 1985 г. і дагэтуль займае месца сярод дзесяці лепшых бестселераў свету.*





# ФЛАКОН ЖАНА-БАЦІСТА ГРАНУЯ, або ЗАКОН ЗАХАВАННЯ ГВАЛТУ

Беларускі чытач атрымаў мажлівасць пазнаёміцца з унікальным творам. Але перадусім — пра яго аўтара. У мае рукі раман «Парфума» трапіў упершыню некалькі гадоў таму, і тады ж з'явілася зразумелае жаданне даведацца нешта пра пісьменніка. Аднак дарэмна шукала я больш ці менш падрабязных біяграфічных звестак у розных нямецкамоўных выданнях — не было амаль нічога. Аднойчы трапілася на вочы выдавецкая рэмарка, якая ў пэўным сэнсе ўсё расставіла па сваіх месцах: Патрык Зюскінд, гаварылася ў ёй, вядзе замкнёны лад жыцця, адмаўляецца ад літаратурных прэмій, ад якіх бы то ні было публічных выступаў; яшчэ не было выпадку, каб ён згадзіўся хаця б на кароткае інтэрв'ю. Распавяду аб тым нямногім, што ўсё ж вядома.

Нарадзіўся П.Зюскінд 26 сакавіка 1949 г у сям'і прафесійнага публіцыста ў невялікім заходнегерманскім гарадку Амбаху. Тут ён закончыў пачатковую школу і гімназію, атрымаў музычную адукацыю, пачаў спрабаваць сябе ў літаратуры. Пазней, у 1968—1974 гг., П.Зюскінд вывучае ва універсітэтах Мюнхена і Экс-ан-Праванса гісторыю сярэднявечча і новага часу. Жыве ў Мюнхене і Парыжы, друкуецца выключна ў Швейцарыі. Вось і ўсё. Сусветная вядомасць, што прыйшла да аўтара «Парфумы», не змусіла яго прыадчыніць заслону над сваім жыццём. Што ж, некалі Поль Верлен у нарысе пра аднаго французскага сімваліста прапанаваў: «Пройдзем міма чалавека, такога гучнагалосага; пагаворым пра паэта». Пройдзем і мы міма чалавека, калі ён не жадае прыцягваць да сябе ўвагу,— пагаворым пра пісьменніка.

Пачынаў П.Зюскінд у жанры мініяцюры. Сапраўдным жа дэбютам яго можна лічыць манап'есу «Кантрабас», завершаную ўлетку 1980 г. Выдадзеная ў 1984 г., яна значна раней была ўвасоблена на сцэнах шматлікіх тэатраў свету, а ў Германіі на нейкі час увогуле стала найбольш папулярнай п'есай. Пастаўлены быў «Кантрабас» і ў Мінску ў студыі Рыда Таліпава. Апошнія дзесяць гадоў П.Зюскінд піша кінасцэнарыі для тэлебачання, у тым ліку сцэнарыі мастацкіх серыялаў, некаторыя — у сааўтарстве з Хельмутам Дзітлем. Вялікую цікавасць заходняга чытача выклікалі яго навела «Галубка» (1986), а таксама кніга «Гісторыя пра пана Зомэра» (1991), якая хоць і не разбурыла рэнаме знаёмага незнаёмца, а ўсё ж нейкае ўяўленне аб жыццёвых вытоках творчасці П.Зюскінда дае: гэты аповед аб свеце дзяцінства і юнацтва змяшчае і элемент аўтабіяграфічнага. П.Зюскінд — член пен-клуба.

Раман «Парфума» з моманту выхаду ў свет у 1985 г і да апошняга часу займае месца ў сусветнай дзесятцы бестселераў, ён перакладзены прыкладна на трыццаць моў. Наўрад ці знойдзецца, за невялікім выключэннем, іншы твор, у дачыненні да якога можна было б гаварыць пра паэтыку і сімволіку паху, яго эстэтыку і нават філасофію. Пад выключэннем я маю на ўвазе, у прыватнасці, славутага Шарля Бадлера, пра схільнасць якога да спасціжэння сябе і свету менавіта праз пахі сведчыць яго суайчыннік і сучаснік паэт Тэафіль Гацье: «Адносна паху ў Бадлера была такая дзіўна-вытанчаная ўражлівасць, якая сустракаецца толькі ў жыхароў Усходу. Ён з асалодай праходзіў усю гаму пахаў...» І яшчэ: «Шмат разоў зноў з'яўляецца гэтая цікавасць да пахаў, нібы тонкае воблачка акаляючых істоты і прадметы. У вельмі нямногіх паэтаў знойдзем мы гэтую заклапочанасць; яны звычайна задавальняюцца тым, што ўводзяць у свае вершы колеры, музыку; але рэдка здараецца, каб яны ўлілі ў іх гэтую кроплю тонкай эсенцыі, якой муза Бадлера ніколі не праміне намачыць губку са свайго флакона ці батыст хусцінкі». Пацвярджэнні мы знойдзем у мностве твораў аўтара «Кветак зла».

У пэўным сэнсе П.Зюскінд — паслядоўнік Бадлера: яго мастацкі космас — свет пахаў, яго раман — сапраўдная «бібліятэка пахаў», найбагацейшы «слоўнік пахаў»; метафара паху канцэнтруе вакол сябе раманнае дзеянне, сінтэзуе шматлікія падтэксты, трансфармуючы прыватную, нават умоўна-выключную калізію ў сэнсава маштабную сітуацыю. Максімальна абагульненая, гэтая метафара выклікае адчуванне амаль што рэчыўнасці, амаль матэрыяльнасці. У «лятучым царстве пахаў», створаным П.Зюскіндам, магчыма ўсё: падзенні і ўзлёты, саперніцтва і плагіят, бездапаможнасць і геніяльнасць, маніякальная страсць і нават забойствы.

Наконт асобы галоўнага героя апавядальнік выказваецца недвухсэнсава: ён быў «ці не адзін з самых геніяльных мярзотнікаў той эпохі, такой багатай на геніяў і мярзотнікаў. Пра яго і будзе наша гаворка. Звалі яго Жан-Баціст Грануй, і калі імя ягонае, не раўнуючы з імёнамі іншых геніяльных пачварын, як дэ Сад, Сэн-Жуст, Фушэ, Банапарт ды інш., сёння цалкам забылася, дык зусім не таму, што Грануй нечым недабраў да славутых пацяробкаў цемры ў фанабэрыі, пагардзе да людзей, амаральнасці, ці, каб карацей, у бязбожнасці, а таму, што ягоная геніяльнасць феноменальная цяга да славы абмежаваліся тою сфераю, якая звычайна не пакідае следу ў гісторыі — эфірнай сфераю пахаў». І месца (самае смярдзючае ў Парыжы XVIII ст.—рынак, узведзены на месцы

Могільніка нявінных, куды 800 гадоў запар звозілі трупы), і абставіны нараджэння Грануя (маці яго, гандлярка рыбай, раджала пяты раз, і чацвёра яе папярэдніх дзяцей, мёртвых ці напаўмёртвых, разам з рыбнымі вантробамі іншым смеццем траплялі наўпрост на звалку; гэткі ж лёс павінен быў напаткаць і пятае дзіця) непазбежна скіроўваюць чытача на ўсведамленне таго, што гэтая істота не можа не стаць знакам, сімвалам, эмблемай тагачаснай рэчаіснасці ў самых жудасных яе праявах. Менавіта гэткага сімвала яна і заслугоўвала: «Смярдзелі рэкі, смярдзелі плошчы, смярдзелі цэрквы... Смярдзелі сяляне і святары, чаляднікі і бабы майстроў, смярдзела ўсё дваранскае саслоўе, смярдзеў нават сам кароль...» З'яўленне героя на свет пацягне за сабой першую смерць, з гэтага часу не аднаму чалавеку давядзецца развітацца з жыццём, калі ён так ці інакш судакранецца з трагічна-жудаснай асобай Грануя, не кажучы ўжо пра тых няшчасных, каго Грануй наўмысна пазбавіць жыцця, імкнучыся аднаму яму вядомым спосабам завалодаць іх пахамі...

Як вядома, адна з прапісных ісцін Хасэ Артэгі-і-Гасэта гучыць: «Я ёсць Я плюс мае варункі». У выпадку з героем П.Зюскінда ёсць падставы разглядаць першы складанік гэтай формулы як — прынамсі, у значнай ступені — наступства другога, усё тых жа варункаў: што яшчэ магло стацца з тым «Я», калі шлях ягоны пралёг праз цэлы шэраг пеклаў — ад вулічнага сметніка праз прытулкі для падкідышаў з іх гнілой ежай, жорсткімі пабоямі, воспай і халерай да дубільнай майстэрні Грымаля, дзе Грануя чакалі ўсе жахі апраметнай і дзе выжыць маленькаму дзіцяці па чалавечых мерках не было ніякага шанцу... Тут самы раз звярнуць увагу на адну выключна важную акалічнасць. Раз-пораз сустракаем мы прыпадабненне галоўнага персанажа да «параджэння пекла», і прыпадабненне гэтае пераходзіць са старонкі на старонку. Ды з кожным новым эпізодам мацнее адчуванне, што само пекла — найперш стварэнне чалавека.

З аднаго боку, інфернальная прырода незвычайнай здольнасці Грануя не выклікае сумневу. Сапраўды, фабульныя перыпетыі рамана могуць быць прачытаныя ці не на эсхаталагічным узроўні. Перад намі яшчэ адзін д'ябал са створаных пісьменніцкай фантазіяй Ф.Дастаеўскага і Б.Шоў, Т.Мана і А.Камю, Ж.П.Сартра і інш. Д'ябальскае прысутнічае ў абставінах, што суправаджаюць — і адначасова спараджаюць — Грануя; як жудасныя пародыі на апраметную ўспрымаюцца і пансіён мадам Гаяр, і дубільная майстэрня, і, урэшце, увесь Парыж — велізарная клаака, смуродная трупярня, і асабліва каменны склеп-труна ўнутры самай глыбокай гары Францыі, куды загналі Грануя бязмежная нянавісць да людзей і невымерная прага адзіноты. Нешта адчувальна д'ябальскае ёсць у загадкавай паўтаральнасці адной і той жа акалічнасці смерці многіх персанажаў і самога Грануя; па сутнасці, мы маем справу з варыяцыямі адной смерці, адной пагібелі. Усе, хто так ці інакш Грануя скарыстоўваў, бясследна знікаюць з твару зямлі: «пад тоўсты пласт нягашанай вапны» паклалі нябожчыцу мадам Гаяр; ні трупаў, ні дома, ні грошай не засталося ад «лепшага парфумера Еўропы» Джузэпэ Бальдзіні і яго жонкі; «не знайшлося ані следу, ані звання — ні шматка адзення, ні кавалачка цела, ні костачкі» пасля смерці «вучонага» авантурыста маркіза дэ ля Таяд-Эспінаса; свядома ператварыўшы сябе ў жудасную трапезу для канібалаў, «да апошняй костачкі знік з улоння зямлі» і сам Грануй. Сумненне наконт зямнога паходжання няўлоўнага забойцы аваладвае насельнікамі Граса: «Ён, якое тут сумненне, схаўрусаваўся з д'яблам, калі толькі сам не быў д'яблам... Упамінанне пра кульгавасць узмацняла падазрэнне, што злачынцам быў сам д'ябал».

У своеасаблівай прытчы, якой, безумоўна, з'яўляецца «Парфума», інфернальна-д'ябальская каардыната мае вялікае значэнне, яна традыцыйна шмат што тлумачыць. Але, з другога боку, не ўсё. Бо як бы далёка ні заходзілі нашыя асацыяцыі з ірацыянальна-цёмным, мы ні на імгненне не пакідаем свет рэалій, сферу прагматычна-рацыянальную, якую яшчэ Дастаеўскі лічыў апірышчам разбуральна-знішчальных тэндэнцый. «Пекла — гэта іншыя людзі»,— пачулі мы неяк з вуснаў персанажа Сартра. І паводзіны героя П.Зюскінда ў значнай ступені — вынік паводзін акаляючай яго «чалавечыны». Пекла-зямля-пекла — вось сімвалічная траекторыя лёсу героя, толькі межы паміж зямлёй і пеклам начыста сцёртыя. Па сутнасці, створаны ў «Парфуме» злавесны панаптыкум мае прыроду менавіта сацыяльную, і першае, імпульсіўнае ўспрыманне яго як безумоўна ўмоўнага тут жа абвяргаецца іншым — ужо як безумоўна рэальнага.

Адна цытата міжволі напрошваецца пры асэнсаванні «Парфумы»— з рамана У.Годзвіна «Калеб Уільямс» (1794): «Але дзеля чаго таленты і пачуцці ў распуснай пустыні чалавечага грамадства?.. Усё, што на больш здаровым полі і ў больш чыстым паветры распусцілася б дабрачыннасцю і расквітнела карысцю, тут ператвараецца ў атрутныя воўчыя ягады і блёкат». Вядома, Грануй далёка не «высакародны парастак» ("Для цела яму была неабходная мінімальная колькасць ежы і адзення. Для душы яму не трэба было анічога... Ён быў з самага пачатку пачварай"). Ды толькі побач з цытаваным будзе, нібы іранічна-мімаходзь, заўважана: «Хаця... ён мог... выбраць шлях ад нараджэння да смерці без абходнай дарогі праз жыццё, тым самым пазбавіўшы свет і сябе ад велізарнага зла». І сябе. Як бачым, зло містыфікуецца і тут жа дэмістыфікуецца; яно забівае ў Грануі, няхай сабе толькі як гіпотэзу, чалавека, і яно ж праклятым геніем Грануя рэпрадуктуецца.

Што паказальна, антыпода ў Грануя няма. Ахвяры ёсць, але не антыподы. Свет, дзе злу ніхто не супрацьстаіць, дзе ўсе —толькі забойцы ці ахвяры, непазбежна ператвараецца ў суцэльную атрутную багну. У сцэне вакханаліі падчас маючага адбыцца пакарання распавядальнік, ужо не пакідаючы ні ценю сумнення наконт этымалогіі зла, скажа пра натоўп людзей, ці, хутчэй, нейкіх замбіраваных мутантаў: «Гэта было пекла». Сцэна з вакханаліяй адсылае нас да славутага рамана Р.Музіля «Чалавек без уласцівасцяў», персанаж якога, прадстаўнік ваеннага ведамства Каканіі генерал Штум, упэўнены ў неабходнасці дыктату: «Маса не мае логікі... Чым ёю сапраўды можна кіраваць, дык гэта адзіна ўнушэннем! Даверце мне газеты, радыё, кіно і, можа, яшчэ некаторыя культурныя сродкі, і я абавязуюся за некалькі год... зрабіць з людзей людаедаў!» Вакханалія ў дзень «пакарання», а затым оргія канібалізму на Могільніку нявінных выглядаюць як увасобленая ў рэчаіснасць жудасная мара генерала Штума, як узор поўнага «ачужэння» асобы ад уласнай волі, масавага шаленства, якое прымаецца з гатоўнасцю, вось у чым сутнасць! Бо і на тое ж пакаранне натоўп валіць у чаканні не столькі справядлівай помсты, колькі — сенсацыйнага гледзішча, «свята», «вядомай п'есы... у нечаканай новай пастаноўцы», дзеля поўнай асалоды ад якой трэба замовіць зручнае месца і прыхапіць з сабою дзяцей.

Алюзій і рэмінісцэнцый у рамане мноства. Аднак на адной праяве літаратурнай традыцыі ў «Парфуме» не спыніцца нельга —традыцыі Гофмана. Заўважу, не толькі Гофман, а і ўвогуле эстэтыка рамантызму ў пэўнай ступені абумовіла мастацкую спецыфіку «Парфумы»: апеляцыя да чалавечай прыроды, у тым ліку да ірацыянальнага ў ёй; выключнасць героя (геній-злодзей), яго гіпертрафаваная адрынутасць; асаблівая ўвага да «начных» аспектаў свядомасці, пры тым што нямецкія рамантыкі ніколі не парывалі з рэчаіснасцю. «Часта раман змяшчае падзеі маскараду, замаскаваныя падзеі сярод замаскаваных асоб,— сведчыў рамантык Наваліс.— Зніміце маскі: знаёмыя падзеі, знаёмыя асобы». Як вядома, рамантыкі прапаноўвалі дзве формы мастацкага пераўтварэння рэчаіснасці: выхад за яе межы і гратэскная яе дэфармацыя. Менавіта апошняя знайшла прадуктыўны працяг у рамане П.Зюскінда.

Больш таго, мастацкай структурай «Парфумы» асімілююцца вобразы, матывы, сюжэтныя калізіі канкрэтных твораў рамантызму, напрыклад — гофманаўскіх. Як і Крошку Цахеса, Грануя ўжо пры выхадзе з мацярынскага чэрава не чакае нічыя спагада; як і «маленькі альраун» Цахес, Грануй ад прыроды надзелены брыдкай знешнасцю і нагадвае «велізарнага павука, якога... гідка душыць». Дзякуючы тром магічным валаскам Цахес здольны прысвойваць чужыя вартасці; Грануй дасягае таго ж праз магічную ўласцівасць камбінаваць адабраныя ў забітых пахі: «Чалавек у блакітнай курце паўстаў перад усімі самай прыгожай, самай прывабнай і самай дасканалай істотай... манашкам ён здаўся Збаўцам у плоці, прыхільнікам сатаны —прамяністым князем цемры... дзяўчатам — казачным прынцам, мужчынам — ідэальным вобразам іх саміх».

Безумоўнай уяўляецца і арыентацыя П.Зюскінда на навелу Гофмана «Мадэмуазель дэ Скюдэры», якая лічыцца першым творам дэтэктыўнага жанру (улічваючы дэтэктыўную інтрыгу «Парфумы», гэта немалаважна). Герой яе таксама ўчыніў не адно злачынства, і ўчыніў іх таксама ва ўладзе маніякальнай страсці. Пэўным чынам адпавядаюць адзін аднаму і хранатопы навелы і рамана: месца дзеяння ў Гофмана — той жа Парыж, час дзеяння, як і ў П.Зюскінда, аднесены ў мінулае, ды і сам горад у Гофмана выглядае ("Якраз тады Парыж стаў месцам найгнюснейшых злачынстваў...") прататыпам Парыжа П.Зюскінда.

Істотнае месца ў рамане займаюць парафразы біблейскіх сітуацый; усе яны, аднак, набываюць характар парадыйна-травесційны. Ужо эпізод з'яўлення Грануя на свет выклікае асацыяцыю з уваскрэсеннем біблейскага Лазара. Свае пахі Грануй мроіць імперыяй, а сябе — усясільным імператарам, звышчалавекам, вялікім, адзіным Творцам Свету: «І Вялікі Грануй бачыў, што гэта добра, вельмі, вельмі добра». Успомнім біблейскае апісанне Стварэння свету, лейтматывам праз якое праходзіць: «І ўбачыў Бог, што гэта добра». Напрыканцы Стварэння: «І стала гэтак. І ўбачыў Бог усё, што Ён стварыў, і вось, добра вельмі». Парадыйнае абыгранне вядомай біблейскай сітуацыі мае месца ў эпізодзе зачытання вынесенага Граную прысуду: «Жан-Баціст Грануй павінен быць на працягу сарака васьмі гадзін выведзены за заставу Дзю-Кур і там, тварам да неба, прывязаны да драўлянага крыжа і яму будзе нанесена дванаццаць удараў жалезным дручком па жывым целе, аж удары гэтыя раздробяць яму суглобы рук, ног, клубоў і плячэй, пасля чаго ён застанецца прыкручаны да крыжа да яго смерці». Зноўку ўспомнім біблейскае, хаця б месца з Евангелля ад Матфея: «Пілат казаў ім, што ж я зраблю Ісусу, які называе сябе Хрыстом? Кажуць яму ўсе: няхай будзе ўкрыжаваны». Такім чынам, знешняя атрыбутыка смерці пакутуючага за людзей Хрыста павінна суправаджаць адыход з жыцця істоты, у якой персаніфікавана чалавеканенавісніцтва.

Перагорнута апошняя старонка рамана. Хтосьці прачытаў яго як дэтэктыў што ж, каноны дэтэктыўнага аповеду аўтарам сапраўды строга захаваныя. Але ёсць у творы і элемент умоўнага; хоць і падкрэслена лакалізаваны, ён вымагае росшуку асобных кропак судакранання з раманам філасофска-сімвалічным і нават фантастычным. Ювелірная псіхатэхніка П.Зюскінда дазваляе інтэрпрэтаваць твор як раман псіхалагічны. З другога боку, ці ж сацыяльная паталогія не крычыць аб сабе з кожнай старонкі? Як бачым, ніводная дэфініцыя не вычэрпвае твор ва ўсёй яго сэнсавай глыбіні.

Ёсць, аднак, жанравая форма, якая ўбірае ў сябе ўсе памянёныя вышэй адзнакі і, на мой погляд, у найбольшай ступені адпавядае як зместу рамана, так і яго прагнастычна-папераджальнай функцыі; гэта форма антыўтопіі. Відавочна, вызначальнай канстантай антыўтапічнага мастацкага мыслення было і ёсць раскрыццё тэхналогіі таталітарызму. Аб пагрозе прагрэсуючага маніпулявання чалавечай свядомасцю, «неадольнага абаяння таталітарызму» (словы аўтара вядомай кнігі «Паходжанне таталітарызму» Ханны Арэнт) перасцерагалі Дж.Оруэл і Ст.Лем, К.Вонегут і Р.Мерль, К.Кізі і А.Бёрджэс, А.Адамовіч са сваёй «Апошняй пастараллю» і інш. Перасцерагалі кожны па-свойму: грануеўскі флакон з жудасна-цудадзейнымі духамі можа саступіць сваю ролю маніпулятара атамнай бомбе, грашам, той жа «мазгабойцы» ў руках сястры Гнусен з рамана К.Кізі «Над зязюльчыным гняздом»,— не гэта галоўнае. У кожным выпадку дзейнічае адзін і той жа, кажучы словамі В.Гросмана, просты закон — «закон захавання гвалту». Найперш аб гэтай небяспецы распавёў і П.Зюскінд у сваёй антыўтопіі.

**Ева ЛЯВОНАВА**

